

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ

11

1937








# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР





*Янка Купала*

## АБ СТАЛІНЕ СЕЙБІТУ

Аб Сталіне сейбіту песня мая,
А песня ад сэрца і звонка, як медзь,—
Якую ў жніво пяе ў полі жняя,
Якую ў касьбу пяе ў лузе касец.

Багата ўраджаем
Зямля расквітнела,
У будучнасць людзі
Узіраюцца смела.

Аб Сталіне сейбіту песня мая,
А песня з душы і гартоўна, як сталь,—
Якую пяе арлоў горных сям'я,
Якую пяе пры кавадле каваль.

Арлы самалёты
Усё неба ўзялі.
І волю здабылі
Сабе кавалі.

Аб Сталіне сейбіту песня мая,
А песня ад сонца, ад зор залатых,
Якую пяе уся наша зямля,
Аб сейбіту светлы разносячы слых.

Ён даў для народаў
Асноўны закон,
І дружбу народаў
Навек стварыў ён.

Аб Сталіне сейбіту песня мая,
А песня ад казак, чароўных тых сноў,
Што сталіся яваю нашага дня,
Што збавілі долю ад пут, ланцугоў.

Заглянула сонца
Да хат, сутарэнь,
Праклятых дзён прошлых
Развеяўся цень.

Аб Сталіне сейбіту песня мая,
А песня ад шчасця, ад радасных дзён,
Якая на крыллях ляціць салаўя.
За межы—граніцы ды будзіць там сон.
І рухнуць апоры
Фашысцкіх цямніц,
Нявольнікі выйдуць
Да ясных зарніц.

Менск, кастрычнік, 1937 г.

*Якуб Колас*

# МЫ СЛАВІМ ПРАВАДЫРА

Мы славім у песнях, у думах сваіх
Таго, чыё імя на вуснах у ўсіх,

Таго, хто правёў нас праз гром навальніц,
Хто шлях пракладае да ясных дзяніц,

Насустрач світанню і новаму дню
І гордасць дае нам адчуць вышыню

Таго, чыёй воляй растуць гарады,
Таго, хто мяняе рэк бурных хады,

Хто сцяг перамогі нясе ў вышыні,
Дзе новым сузор'ем гараць нашы дні.

Мы славім у песнях prасторных дарог
Таго, чыё імя,—штандар перамог,

Таго, чые мыслі—арліны палёт,
Таго, хто нас кліча нямоўчна—ўпярод;

Хто творчую волю гартуе, як сталь,
Хто мудрых законаў дае нам крышталь.

Няхай-жа квітнее Совецкая шыр!
Няхай-жа красуе наш друг—правадыр!

20/X—37 г.

*Якуб Колас*

## ДА ДНЯ 20 ГАДАВІНЫ

Сцягоў агністых мора
Струменіцца ў прасторы,
Як сонечны прамень.
Над радаснай краінай
Расквечанай пуцінай
Ідзе наш ясны дзень.
Раскатам многаструнным,
Узнімным, дружным, юным
Грыміць з ім песень хор.
Выходзь, народ працоўны,
Вітай свой дзень цудоўны,
Што даў табе прастор.
Успомні час бурлівы,
Як геній празарлівы
Склікаў цябе на бой...
Разбіты ўсе аковы,
Як золак, шлях ружовы
Разгорнут прад табой.
Вялікаму з вялікіх
На мовах многалікіх
Нясём мы песень дар.
І тым хто ў дні паўстання
За праўду на змаганне
Нёс Ленінскі штандар.
Сцягі, агні, як зоры,
Струменяцца ў прасторы,
Іграюць, як прамень.
Над вольнаю краінай
Прасторнаю пуцінай
Ідзе наш ясны дзень.

16/X 1937 г.

*Мікола Хведаровіч*

## СТАЛІН

Шмат імён вялікіх не забудзе
Наш народ—жывуць яны ў вяках.
Ясным сонцам над сусветам будзе
Імя ленінца большэвіка.

Ты прышоў развеяўшы туманы
І народ, што ў путах векаваў,
У кастрычніку паклікаў на змаганне—
І ён вольным і шчаслівым стаў.

Свет раскрыўся, сонца яму свеціць,
На зямлі, дзе ліў ён кроў і пот.
Ад калыскі не забудуць дзеці
Цёплых ласкавых тваіх пяшчот.

Гэта іх сады, палацы, школы—
Сталінская рыса у вачах,
У абліччы сонечным вясёлым,
У дзіцячых звонкіх галасах.

Выміралі, гінулі пляменні
Кроў лілася, біўся з родам род.
Ты з'яднаў іх у адным імкненні
У магутнае братэрскае—народ.

Мара светлая яго збылася,
Не памеркла ў турмах і вяках.
Ураджаямі шуміць яна ў калгасе,
Славаю—на ўсіх мацерыках.

Край шырокі: ад пустынь бязводных,
Праз палі, мары—да гор крутых,
Ты вялікі бацька—самы родны,
Добра ведаеш дачок, сыноў сваіх.

Уздымае заўжды тваё слова—
Невыказнай, шчырай прастаты,
Ворагам—ты страшны і суровы,
Самы блізкі нам і родны—ты.

І мары, лясы і акіяны—
Цэлы свет яднае вобраз твой.
Мчаць праз полюсы аэрапланы,
І ідуць байцы Мадрыда ў бой.

Ворага яны перамагаюць
У няроўнай страшнай барацьбе.
Дзеці, пакідаючы Біскайю,
Як да сонца мкнуцца да цябе.

Маці смутак лёгка пераносіць,
Гора не аплаквае сваё.
Леванеўскага сярод ільдоў-таросаў
Грэе сэрца бацькава тваё.

Не загіне ён у цёмнай ночы,
Ні ў сырых туманах, ні ў вятрах.
Пэўны курс. І Сталінскія вочы
Асвятляюць цераз поўнач шлях.

У народных сэрцах тваё імя,
Ім яны натхнёныя гараць.
Наша гордасць—сокалы радзімы
З воблікам тваім—правадыра.

З ім вартуюць нашыя граніцы,
З ім вырошчваюць багатыя сады,
Раскрываюць нетраў таямніцы,
Адбудоўваюць у пустках гарады.

Сілу, розум, волю міліёнаў
Усенародным сэрцам ты з'яднаў.
І Васіль Баранаў у палоне .
Сталінцам у муках паміраў.

Наш народ вялікі ганарыцца
Сталіным—сваім правадыром.
На заводах, у калгасах і сталіцах—
Ён усюды стаў гаспадаром.

Ад тайгі суровай і халоднай,
Ад палескіх пушчаў і лясоў,
Пра цябе у песні ўсенароднай,
Нашая адданасць і любоў.

1937 СНЕЖАНЬ 1937

12

ШОСТЫ ДЗЕНЬ ШАСЦІДЗЁНКІ

*Дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР*

УСЕ НА ВЫБАРЫ

У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ С.С.С.Р.!

*К. Крапіва*

## ЖАЛЕЗНЫ МАРШАЛ

Агнём ён волю гартаваў,
Грудзьмі свабоду прыкрываў
Ад зграі чорных груганоў,
Граміў і будзе біць іх зноў
Ён, любы нам і страшны ім
Жалезны маршал родны Клім.

Спакойна сей, спакойна жні,
Даследуй ведаў глыбіні,
Працуй спакойна за станком:
На варце працы друг-нарком—
Ён, любы нам і страшны ім
Жалезны маршал родны Клім.

Пад спевы матчыны ў цішы
Спакойна спіце, малышы,
Салодкі ваш чароўны сон,
Ад ворагаў вартуе ён—
Ён, любы нам і страшны ім
Жалезны маршал родны Клім.

Хай толькі вораг нападзе,
Яму ні ў небе, ні ў вадзе
Не будзе літасці нідзе:
У люты бой нас павядзе
Ён, любы нам і страшны ім
Жалезны маршал родны Клім.

Саратнік Сталіна і друг,
Граза фашысцкіх псоў і слуг,
Нязломны ў працы і ў баю,—
Яму я голас аддаю:
Ён—любы нам і страшны ім
Жалезны маршал родны Клім.

*Міх. Клімковіч*

# КАЦЯРЫНА ЖАРНАСЕК

*Драматычная паэма*

*ВЯЛІКАЙ ПАРТЫІ ЛЕНІНА—СТАЛІНА*

*—здзейсніўшай прадвечныя мары працоўных аб вызваленні ад эксплаататараў;*
*—даўшае шчаслівае жыццё ўсім народам Совецкага Саюза;*
*—ажыццявіўшай, упершыню ў гісторыі, беларускую дзяржаўнасць, стварыўшы БССР;*
*—адстаяўшай БССР ад інтэрвентаў і нацдэмаўскай контррэволюцыі;*
*к дваццатай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай Пролетарскай рэволюцыі з сыноўняй любоўю і адданасцю прыносіць гэты скромны дар* *аўтар.*

## ЧАС ДЗЕІ

Дзея адбываецца ў сярэдзіне 16 стагоддзя. Гэта быў час, калі пры каралю Жыгмонце-Аўгусце II, апошнім з роду Ягелло, узмацніўся прыток на Беларусь польскага панства,—абшарнікаў і чыноўнікаў,—які закончыўся Люблінскай уніяй, аддаўшай Беларусь на канчатковае разграбленне польскім магнатам і шляхце. У гэты-ж час адбыўся перамер сялянскіх зямель памешчыкамі як для таго, каб больш поўна абкласці іх падаткамі, так і для таго, каб лепшыя землі адрэзаць ад сялян і арганізаваць уласныя запашкі памешчыка. Гэты памер суправаджаўся масавым запрыгоненнем сялян, пазбаўленнем іх і той куртатай асабістай незалежнасці, якой многія з іх дагэтуль карысталіся. Зямля, на якой жыў селянін, была ўжо дагэтуль захоплена беларускай, літоўскай і польскай шляхтай, ці раздадзена гэтай шляхце каралём. Аднак асабістую незалежнасць згубіла толькі чэлядзь, халопы—(галоўным чынам з палонных), або „закупы“—так зваліся сяляне стаўшыя прыгоннымі за пазыку. „Пахожыя“ людзі мелі права пераходу ад пана к пану пасля выплаты адыходнага. Часта селянін не меў гэтага „адыходнага“ і тады адыходнае плаціў за яго пан, да якога ён перабіраўся (залічваючы гэта ў кабальную пазыку за „звоз“), а яшчэ часцей селянін проста ўцякаў на новае месца. Шляхта, якая набыла ў той час выключна ўладу ў Польшчы (Польшча па сутнасці стала шляхоцкай рэспублікай з выбарным каралём на чале)—не толькі атрымоўвала ад караля закон за законам, які дазваляў ёй адшукваць збеглых сялян і варочаць іх назад, але ў сярэдзіне 16 стагоддзя дабілася канчатковага і амаль пагалоўнага запрыгонення сялян на Беларусі. На гэта сяляне адказвалі або тым, што ўцякалі на Украіну к запарожцам, або падымалі паўстанні супроць „павін“, якія ўводзілі абшарнікі. Выключную нянавісць народу ў гэты час здабылі польскія памешчыкі і ксяндзы, якія накінуліся на край, як заваявальнікі і драпежнікі, простаму народу стала жыць яшчэ горш чым было. Мясцовая беларуская і літоў-

-ская шляхта і магнаты, якім польскія парадкі прыходзіліся ўсе больш і больш да спадобы, так сама пасілялі свой ўціск сялянства, аднак у мэтах захавання ў сваіх руках большых кускоў зямлі, большых магчымасцяй эксплаатаваць беларускага селяніна—мясцовыя магнаты і шляхта былі не супроць таго, каб пайграць на пытаннях рэлігіі, адзінства праваслаўнага народу і г. д. Палякі-ж, сутыкнуўшыся з першымі спробамі цароў тагочаснай Русі (Васілія III, а потым Івана IV Грознага) адабраць назад ад Літвы Беларусь, ад Лівоніі—бераг Балтыцкага мора—усімі мерамі імкнуліся апалячыць, ці хоць прынамсі акаталічыць Беларусь і Украіну. Народ цягацеў да адзінавернай Масквы, ненавідзеў панскую Польшчу, аднак унутры краіны выступаў супроць адзінаверных паноў таксама, як і супроць паноў католікаў, бо розніца паміж імі ў жыцці была малая. Аб адным такім паўстанні і прычынах яго і расказвае гэта п'еса. Сюжэт п'есы, фамілія князя—узяты з гістарычных дакументаў. Захован рад тэрмінаў таго часу: „дзяржаўца"—(чалавек, які атрымліваў ад караля ў пажыццёвае ці часовае „дзяржанне" замак, або воласць), „дзецкі" (пасада якой была падобна на пасаду судовага выканаўцы), „дым" (сялянскі двор—адзінка абкладання падаткам), „асочны" (вартаўнік), прыведзеныя вышэй словы „закуп", „звоз", „пахожыя людзі", „дымоўшчына"—абавязак сялян 8 раз у год выходзіць на панскую работу па аднаму ад „дыма", „почты", гайдукі, якія ехалі з панам для „пачоту" і др.

---

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

КАЦЯРЫНА ЖАРНАСЕК—маладая дзяўчына, з сям'і вызваленага з прыгону.
РЫГОР КАВАЛЬ— вольны, працуючы па найму ў князя каваль.
Князь ІВАН КАПУСТА—дзяржаўца каралеўскага замка на р. Бярозе.
ЯДВІСЯ—яго жонка, з паноў Заенчкоўскіх.
Пан ЮЗЕФ ЗАЕНЧКОЎСКІ—бацька Ядвісі, цесць Капусты, шляхціц з каронай Польшчы.
МАРЫНА—старая мамка князя.
ЯСЬ—гайдук пані Ядвісі.
АДАМ—старшы гайдук, бацька Яся.
КСЕНДЗ АНТОНІ.
Пан БОБАЕЦКІ—суддзя, паляк.
Поп ГАЎРЫЛА.
ПРУЗЫНА—маці Кацярыны.
АГАТА—маці Рыгора.
Дзед АХРЭМ—лірнік, які прыехаў з казакамі.
КАЗАКІ—сярод іх:
а) Атаман—МІКОЛА ЖАРНАСЕК.
б) Падатаман—ІВАШКА.
в) Стары казак—ЮХЫМ.
г) Першы і другі казакі.
СЯЛЯНЕ І СЯЛЯНКІ—сярод іх:
а) Дзед КСАВЕРЫЙ.
б) ВОЙТ.
в) Пажылы СЕЛЯНІН.
г) ХЛАПЕЦ АНТОН.
д) Першы і другі селянін.
е) ВЯСЁЛАЯ ДЗЯЎЧЫНА.
ж) СТАРЫ СЕЛЯНІН.
з) СТАРАЯ.
ДВОРНЫЯ СЛУГІ і гайдукі, сярод іх:
а) УЛАДЗІК—гайдук пана Заенчкоўскага.
Пан ДУЛЯ—прапіўшыйся шляхціц.
ПІСАР суддзі БОБАЕЦКАГА.
ДЗЕЦКІ.
Украінскі і беларускі хор.

---

# АКТ ПЕРШЫ

Прыгожая мясціна на беразе ракі Бярозы. Луг. На лугу—тысячагадовы дуб, пад якім, мабыць, спрадвеку мясцовыя жыхары ладзілі свае ігрышчы. Таму царква прытуліла да дубу капліцу. Далёка за згібамі рэчкі маячыць феадальны замак. Бліжэй—апошняя хатка вёскі Падбярэззя—хатка ўдавы Жарнасека Прузыны і яе дачкі Кацярыны.

Заслона адчыняецца ў часе музычнага ўступу, які спалучае ў сабе гукі летняга працоўнага вечара: песні жней, клёп кос, меладычную жалейку пастушка, падагнаўшага статак да вёскі—і спакойна-прывабныя гукі прыроды, гатовай ісці на адпачынак. Пры разгортванні мелоды прарываюцца бадзёрыя ноты, як заклік—ісці насустрач сонцу, насустрач новай працы, насустрач новаму жыццю і каханню, хаця налёт нейкага смутку ляжыць на ўсім уступе, як плён прыгоннага ладу.

З'ЯВА I

З хаты выходзіць з вёдрамі **Кацярына** і ідзе да Бярозы, да таго мейсца, дзе пад гарой б'е крыніца і збягае сярэбраным поясам у Бярозу. Па дарозе **Кацярына** пяе:

— Прыляцелі гусі з далёкага краю.
Селі яны—палі на ціхім Дунаю.
Пачакайце, гусі, я вас запытаю,
Ці з таго вы краю, дзе мілога маю?
А ці ён запіўся, а ці загуляўся,
Ці з другой у краю у чужым пабраўся?

З'ЯВА II

Рыгор (*ідзе з-за капліцы і, жартаўліва перадразніваючы яе, спявае*).

— Ой ляцелі гусі ды з-пад Белай Русі
Селі яны, палі на ціхім Дунаю,
Пачакайце гусі, я вас запытаю,
Чаму мяне люба за п'яніцу мае?
Чаму бэсціць песняй перад цэлым светам,
Здраднікам, прапойцам, лайдаком адпетым?
Ой, і ў праўду трэба, бачу, зазлавацца,
Хоць на смех у сваты да другой падацца.

Кацярына.

Ты занадта пруткі—зараз ды у сваты!
А чаго-ж, мой любы, бродзіш каля хаты,
Ловіш вухам чуткім ціхі спеў дзявочы?
Сам ты знаеш—з песні не выкінеш слова,
Дык не будзь на подслух гэтакім ахвочым,
Каб не чуць, Рыгорка, пра сябе благога.

Рыгор.

Каб хацеў не слухаць, каб заклала вушы,—
Сэрцайка пачуе—і на спеў твой рушыць.

Кацярына.

Значыць—любіш?

Рыгор.

Моцна!

Кацярына (*жартуючы*).

А як моцна?

Рыгор (*падаецца да яе, хапае і цалуе*).

Гэтак!

Кацярына (*адбіваецца*).

Ціха, касалапы! На ваччу у суседак!
Лепш ідзі па справе.

Рыгор.

Я ішоў на поле
Да касцоў, бо песню склаў аб нашай долі.
За работай ў кузні песню склаў я тую,
І ў народ, як птушку ў звонкі бор, пушчу я.
Хай ляціць, не блудзіць, і дзе толькі будзе,
Хай у кожным сэрцы смагу волі будзіць.

Кацярына (*тулячыся да яго*).

Не загінь, Рыгорка, па сваёй адвазе—
Гіцляў ёсць ці мала у дзяржаўцы—князя.
Падаткне каторы—і прапаў без веку.

Рыгор.

Эх, ваўкоў баяцца—не бываць у лесе,
Страх нам вораг, гне ён крукам чалавека,
Не дае падняцца. Біць па страху песняй,
Добрай песняй, Каця! Ну бывай! Да зоркі
Пасумуем розна.

Кацярына.

Ты-ж прыходзь, Рыгорка.

(Рыгор выходзіць).

З'ЯВА III

Кацярына (*адна, правяла вачыма Рыгора, змахнула рукой задум з твару, запела*).

Пайду я ў садочак,
Там жоўты пясочак,
А на тым пясочку
Ўбачу два слядочкі.

А й адзін слядочак
Каня варанога,
А другі слядочак—
То майго мілога.
Пайду я ў садочак,
Вышчыкну лісточак.
Адшчыкну лісточак,
Прыкрыю слядочак,
Каб па тым слядочку
Людзі не хадзілі,
Каб мне маладзенькай
Шчасця не разбілі.
— А во і сапраўды ля вады
Сляды яго—майго Рыгора.
Ён на руках сваіх сюды
У човен нёс мяне учора,
Казаў—„ты лёгкая, як пух“,
А след глыбокі. Мілы, дужы,
Харошы мой, калі мы ўдвух,
Здаецца, цэлы свет мы здужым!
Бяда з табою—поўбяды,
І гора горкае—не горка.
Каханы, любы мой Рыгорка,
Твае сляды...

(Бярэ лопух і, жартуючы, закрывае іх).

Каб па тым слядочку
Людзі не хадзілі,
Каб нам маладзенькім
Шчасця не разбілі.
— А могуць... могуць, злыя людзі
Не маюць бога у грудзях.
Дзяржаўца—князь тут часта блудзіць,
Яго ўспомніць проста жах.
— Што ты сэрца маё баязлівае
Ўсё трымціш, як лісток на вярбе,
Што прарочыш сабе нешчаслівае,
Злую долю ў нямой варажбе.
Князю-ж мы і Рыгор не падданыя,
І над намі-ж не волен прыгон—
Не баюся ні чорта, ні пана я
Чорт і пан...
Вось і ён!
Чур мяне, вось і ён!

З'ЯВА IV

Уваходзіць дзяржаўца, князь **Капуста**.

Капуста.

Добры вечар, Кацярынка
Прыгажуні прывітание!

Кацярына.

Добры вечар, ясны пане!

Капуста.

Што-ж ты змоўкла, журавінка,
Песні мне твае па густу,
Мне па густу, прыгажуня,—
Так кажу я—князь Капуста,
Ваш дзяржаўца, так кажу я.

Кацярына.

Дзякуй, лiтасцiвы пане,
Князь, на добрым слове дзякуй,
Нашы песнi не ў пашане,
Хто да iх не мае смаку,
Бо пяе iх i нядоля,
I туга, i роспач злая;
Гора з чорнаю няволяй
Песнi жалем абвiвае.
Не пяецца птушцы ў клетцы...

Капуста.

Чуў я гэта часта-густа,
Часта-густа, прыгажуня,
Калi трэба—запяецца.
Так кажу я, князь Капуста,
Пан дзяржаўца, так кажу я.

Кацярына.

Каб на волi,—ў паднябессе
Паляцелi-б нашы песнi.

Капуста.

Што з той волi? Каб да волi
Срэбра-золата даволi,
Ды заморскiя каралi!
Каб дзявочы стан прыгожы
Аксамiты увабралi!
Каб былi, як словы панi,
Слугi выканаць гатовы
Тваё кожнае жаданне...

Кацярына.

Дзякуй, князь, за прапановы.
Хай княгiня маладая,
Што ўзрасла ў дабры, ў пяшчотах,

Панства з князем спажывае,
На здароўечка, ў ахвоту.
Мне, сялянцы, лепш не знаці
Панскай пані лёсу-долі.
Хай сабе у курнай хаце
І ў бядоце, ды на волі!

Капуста.

Слухай, дзеўчына-нябога,
Чуў я сказ адзін старынны.
Жыў бяздзетны князь. У бога
Аднаго маліў ён—сына.
Даў аброк: хто сына родзіць
Ад яго—халопка, пані,—
Век у золаце праходзіць,
Сын-жа родным сынам стане...

Кацярына.

Чула байку я: дзяўчына
Там была у чараўніцы,
Нарадзіла яму сына
І загінула ў цямніцы...

Капуста.

Сын затое ўзяў багацце...

Кацярына.

І пракляцце сваёй маці.

Капуста.

Лепш гукні ка мне старую,
З ёй я справу абмяркую...
У галаве дзяўчаці пуста,
Жыве сэрцам прыгажуня,
Так кажу я, князь Капуста,
Пан дзяржаўца так кажу я.

Кацярына (*адыходзячы*).

Сэрца закована сцюжай каляднаю,
Чула яно, што няшчасце наваліцца,
Стой бесталанная, стой беспарадная,
Выйдзі на бераг Бярозе пажаліцца...
Можа яна узбунтуецца хвалямі,
Вецер падхопіць прычыты хаўтурныя,
Неба заплача слязамі-каралямі,
Градам халодным, над хаткамі курнымі.
Толькі да панскага сэрца гадзючага
Не прасачыцца слязінка пякучая. (*Вышла*).

З'ЯВА V

Князь **Капуста** адзін.

Капуста.

Ну зараз слёзы да адчаю
І просьбы з грозьбай, як заўжды,
Ці мне не ведаць іх звычаю,
Іх паратунку ад бяды!
Нічога... Вычхаецца гора,
Абсохнуць слёзы ў добры час,
То бачу я не ў першы раз.
Дзе не памогуць угаворы,
Там купіць золата і час.

З'ЯВА VI

**Капуста** і **Прузына**, маці Кацярыны.

Прузына.

Паклон да зямелькі, да матухны пану!
Даруе хай пан, што у хату не клічу—
І цесна, і брудна звычаем мужычым,
Нікога не ждалі, таму не прыбрана.

Капуста.

Нічога, старая. Як дужа, нябога?

Прузына.

А дзякаваць пану і богу. Праз сілу,
Праз сілу цягаю старэчыя ногі,
Пакуль на пакой дацягнуся ў магілу.

Капуста.

Як плаціш у скарб каралеўскі падаткі,
Бабровы, мядовы, грашовы? З паўдыма
Цягло як споўняеш? Ці ёсць недаплаткі,
Ці разам з людзьмі?

Прузына.

Мой паночак, куды нам!
Дзе бабе старой за людзямі угнацца?
І пчолка адмерла і звера не сочым,
І вол захварэў ды у час у рабочы.
Іх міласць кароль хай прабачыць жабрачцы,
Пасеяла жыта без гною паўбочкі,
Вясной ярыны паўтары паўтарачкі,

Дзе-ж грош той узяць мне, ласкавы паночку?
Паўдыма-ж пустуе: нябожчыка мужа
Пляменнікі сплылі наніз чумакамі.
Ці-ж з бабскаю сілай зямельку падужаць?
Судзіце, ласкавы, як знаеце самі!

Капуста.

Дачка прыгажуння магла бы, нябога,
І грош і закрасу прыдбаці у хату.
І грош і закрасу... Ці-ж мала у бога
Душ добрых, кажу я, паважных, багатых?

Прузына.

Дачка Кацярынка адна мне надзея,
Як вочка у лобе—і свеціць і грэе.

Капуста.

Дзяўчына у хаце—і клопат, і слёзы,
Усё роўна ж у людзі як пойдзе—пакіне...
А быць-бы магла, я кажу, гаспадыняй,
Каб больш паслухмянства і розум цвярозы.

Прузына.

Наконт паслухмянства дачка, як авечка,
Ды дзе-ж нам узбіцца на тую гасподу?
У прымы бяру аднаго чалавечка,
А ён, як і мы, з бедалацкага роду.

Капуста.

Што-ж слугі мае мне, дзяржаўцу, ні слова?
Ці ўласныя ім надаелі галовы?
Дзе-ж поп быў і войт мой, два рылы паганых?
Я іх пажаню з ланцугом, невянчаных.

Прузына.

Дарэмна, паночку, на іх зазлавалі:
Надоечы войт твой і бірыч прыходзіў,
З царквы той указ каралеўскі дасталі,
З папом прачыталі,—было пры народзе,
А там яго міласць—кароль наш і княжа—
З прыгону навекі нас вызваліць кажа,
Бо выбавіў муж мой у часе паходу
З няволі і казні яго ваяводу.

Капуста.

Указ каралеўскі нязрушны, нябога,
Ды прыказка здаўна—„да бога высока,
Да князя далёка“.—Ад князя і бога
Пастаўлены мы—іх нядрэмнае вока.

І слова маё—каралеўскае слова.—
— Адкласці вяселле дачкі Кацярыны
На лета.

Прузына.

Паночак...

Капуста.

Ніякай размовы!
Патрэбны дзяўчаты ў святліцу княгіні.
За год дзве капы даю грошы, убранне,
Каб добра служыла і пану і панне.

Прузына (*не зразумеўшы*).

Княгіні служыць, светлы княжа, мы рады,
За службу ніколі не будзе ў нас звады.
Ды толькі, хай пан наш ласкавы даруе,
І возьме мяне да княгіні, старую.
Старая не менш маладзейшых дакажа,
І меншую плату палажыш мне, княжа.

Капуста.

Бабулька, ачхніся, ты з'ехала з глузду—
Яна захацела на ложак Капусты!
А ў гроб ты не хочаш, калода гнілая?
Яшчэ дзве капы папрасіла старая.

Прузына.

На ложак? А вой мне, дурніца-дурная!
Забыцца, што замак—то пекла распусты,
Што пан-недаварак да чорнага люду.
Паночку, пакуль я жывой яшчэ буду,
Не будзе у замку нага маёй Каці,
І пана праклёнам кляну я, як маці.

Капуста (*устаў*).

Ну, годзе, карга, не хацела па ласцы,
Сілком прыняволім!

Прузына.

Бог дасць, не удасца.

Капуста.

Даваў табе ў рукі я тлустую лусту,
Паплачаш пазней, што ўзяць не змагла ты,
А быць Кацярыне у замку Капусты
І заўтра чакай майго войта... у сваты.

(Далёка-далёка па рацэ пачулася украінская песня:

„Ой, у полі жито
Копитами збіто
Пад білою бэрэзою
Казачэнька вбито,
Зацягнено в жито,
Чэрвоною китайкаю
Личенько накрито.
Ой, як вийшла мила
Голубонька сива,
Як підняла китаєчку
Тай заголосила.
Ой, як вийшла друга,
Та вже нэ такая.
Як підняла китаєчку
Тай поцілувала.
Ой, як вийшла трэця
Спод білої хати:
„Було ж тобі, вражий сину,
Нас трьох нэ кохати".

З'ЯВА VII

Капуста (*кліча*).

Адам!

Адам (*выходзячы з-за капліцы*).

Ясны пане.

Капуста.

Хто едзе Бярозай?

Адам (*узіраецца*).

Спазніліся відна вярховыя госці.

Капуста.

І многа?

Адам.

Тры чоўны.

Капуста.

Гукні к перавозу
І разам паедзеш да замка. У госці
Прасі іх. Тым часам прашчупаць дарогай,
Адкуль і куды і багацця ці многа,
Ці ўзброена варта. А ўзяць іх ці мытам,
Ці быць ім у пушчы ў калодах разбітым,
Ты сам вырашаеш рукою набітай.
Спытае княгіня—скажы, што прыеду
З суддзем і падсудкам у замак к абеду,
Ды войта з папом ты паклічаш на ганак:
Я іх навучу, як блюсці дабро пана.
Дзе коні?







Адам.

Стаяць, ясны пан, за капліцай
Ї почты два хлопа: Мікола і Грыцак.

(Выходзяць).

З'ЯВА VIII

Прузына (*адна ў роздуме*).

З суддзем і падсудкам... Я кінуся ў ногі...
Няўжо нідзе праўды не знойдзе убогі?

(Пайшла ў хату).

З'ЯВА IX

Гайдук Адам (*адзін, правеў пана, падышоў і сеў на беразе ракі. Задумаўся, запеў упоўголаса*):

„Прыехаў ён к сіняму мору,—
Праз сіняе мора няма пераезду,
Няма пераезду, няма пераходу,
Махнуў ён праваю ручкай,
Зраніў ён залаты персцень.
„Рыбалоўшчыкі мае мілыя,
Закіньце шаўковы невад,
Злавіце мой залаты персцень“.
Закінулі яны шаўковы невад,
Злавілі яны тры рыбіны,
Тры рыбіны, тры акуні.
А першы окунь на сто рублёў,
Другі акунь на тысячу,
А трэцяму акуню і цаны няма“.
— А вось і мае акуні прыплылі.

(*Гукае*):

Гэй, госці ў чаўнах! Прывітанне й пашана!
Загад вам ад яснага нашага пана,
Дзяржаўцы, чыёй вы зямлі даплылі:
Наведаць яго, расказаць пра дарогу—
Ї, мыт заплаціўшы, плыць з госпадам богам.

З'ЯВА Х

Да берага Бярозы падплывае караван. На ім 15 гасцей-купцоў. Сярод іх атаман і падатаман вылучаюцца больш багатай адзежай. Яны-ж узброены шашкамі і пістолямі. Аднак, калі ў каго з гасцей заварочваецца крысо (каб, скажам, дастаць люльку), відаць шырокія штаны і часамі таксама канец пістолі. Сярод гасцей дзед Ахрэм-лірнік.

Атаман (*малады, рухавы хлапец з тварам абветраным усімі чатырма вятрамі*).

Ї зноў навіна! Колькі езджу Бярозай
Апроч каралю—яго міласці—мыта
Не бралі ні просьбай з мяне ні пагрозай.

Адам.

Нібыта было, але зараз забыта.
Іх міласць кароль яго мосці Капусце
Аддаў пазалетась і замак і людзі
За добрыя грошы, дык грошыкі-ж вудзіць
Павінен з купцоў князь, свае-ж не упусціць!

Стары казак Юхым.

Начуем, атаман—сяло недалёка,
А раніцай едзем да пана у госці.
Навошта-ж турбацыю княжаскай мосці
Рабіць перад сном?

Адам.

Як жадаеце, госці.
Ды толькі... сказаць ў добры час і няўрокам,
Начлег гэты вылезці можа вам бокам.
Народ тут ліхі, а ноч—маці ліхога.
Баюся, каб вы не гукалі падмогі,
У князя Капусты цалуючы ногі,
Бо вас не так шмат, зброі бачу нямнога.

Стары казак Юхым.

Бог ласкаў! Не знішчыла ў моры навала,
Хаця нас да неба вадой падкідала,
Парогі глыталі і не праглынулі,
Дык тут, каля дому, нам гулюшкі-гулі.

Дзед Ахрэм.

У хаце сваёй качарга, кажуць, маці.

Адам.

Дык то-ж, мой дзядуля, сапраўды у хаце,
Дзе кожны набытак пад моцным запорам,
І сам абгароджан не небам і борам.
А тут кожны куст сваю цягне галінку,
Чапляе, нягоднік, ці торбу, ці скрынку,
Дзе тыя дукаты прыціхлі ў трывозе.

Атаман.

А даўна разбой стаў у вас на Бярозе?

Адам.

А даўна—не даўна, з таго часу, браце,
Як смак разабраў чалавек у дукаце.
А ведаеш смак які маюць дукаты?

Дзед Ахрэм.

Салёны, гайдук, і крыху гаркаваты,
Бо потам і кроўю набраклі па хатах,
Пакуль прыблукалі у замкі багатых.
Панюхай дукаты...

Адам.

Яны без смуроду,
А хто іх трымаў—ім якая прыгода,
Хай поп, хай закуп ці хай сам ваявода.

(*Пяе*).

У забойцы і ў ахвяры,
У карчомцы і ў алтары,
Аднолькава звоняць грошыкі,
Чыстыя, харошыя.
Злодзей кляштар абакраў,
Чверць пакражы ў кляштар даў,—
Моляць бога цэлы год
І манахі і народ.
А ўсё тыя грошыкі,
Звонкія, харошыя.
Дзеўка смагла—грош блюла,
Рана хлопцу аддала,
За пасаг той пілі-елі
На суседчыным вяселлі,
А ўсё тыя грошыкі,
Звонкія, харошыя.
Быў разбойнік, быў нягода,
Падавіў ён шмат народа,
Зараз выбіўся у людзі,
І людзей сумленных судзіць.
А ўсё тыя грошыкі,
Звонкія, харошыя!

Дзед Ахрэм.

Слухай, пане атамане,
Каб не скочыў проста з моста.
Прыстае ён, як кароста,
Нездарма:—у ліха цягне.
Гайдука асцеражыся—
Ты глядзі, як,—панскі высеў,—
Песню грошыкам спявае,
А крывёю зрок наліты.
Відаць з панам вычварае
Нешта горшае, чым мыты.

Атаман.

Праўду кажаш—раіш, дзедку,
Сам паеду на разведку.

Дзед Ахрэм.

Служка пана, як без пана
Свайго пана твар пакажа.

Атаман.

Хлопцы! стаць да ранку станам,
Я-ж паеду ў замак княжы,
Разлічуся з мытам можа,
А пад'едзе чоўнаў болей—
Заўтра ўранку—з ласкі божай,
Паплывем далей паволі.
Ты, Івашка, сам стаў варту,
Ды пільнуйся як патрэбна,
Пуць праехалі мы ўпарта—
Што-ж канчаць яго ганебна!
Няўжо наша сіла
Сплыла за вадою
І нас адружыла
З ліхою бядою?
Няхай-жа наш вораг
Ды не дачакае,
Калі нас гадзіна
Ліхая спаткае.

Госці.

Благога не думай,
Плыві, атамане,
А вораг паткнецца,
Па рылу дастане.

(Атаман і гайдук паплылі ў замак).

Івашка-Падатаман.

Ну, хлопцы, атабарыць стан наш засекай,
Дастаць гакаўніцы, дубіны й сякеры.
Гайдук папужаць нас хацеў небяспекай,
Ды чорт яму вера, ды чорт яму вера.

(Усе дружна ўзяліся рабіць засекі: сеч калы, насыпаць пясок—і відаць па спрактыкаванасці ў гэтай рабоце, па чубах, калі скінулі шапкі, па вышыўках наадзежы, што госці—не зусім госці. Паступова госці адыходзяць у лес па матэрыялы. Застаўся толькі дзед Ахрэм-лірнік).

З'ЯВА XI

(Ідзе грамада касцоў. Наперадзе **Рыгор**. Ён запявае, касцы пяюць рэфрэн).

Рыгор.

Выйдзем мы, доля, ў чыстае поле,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Будзем шукаць сваю вольную волю,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Рогам турыным, трубой берасцянай,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Клікнем мы кліч між народам загнаным,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Рукі ў каго мазалямі багаты,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Гора ў каго не выводзіцца з хаты,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Клікнем шукаць сваю вольную волю,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Ці замяло яе снегам у полі,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Ці ў барах у густых заблудзілася,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Ці ў вірах у мутных утапілася,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Ці ў ланцугі ды панамі закутая,
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Рыгор.

Разам з народам і воля пакутуе.
Цяжкая доля мая!

Касцы.

Цяжкая доля мая!

Дзед Ксаверый.

А добрая песня: за сэрца хватае,
Бо чыстая праўда, бо праўда святая:
„Ці ў ланцугі ды панамі закутая
Разам з народам і воля пакутуе,
Цяжкая доля мая!“

Рыгор.

Мне дзед казаў, калісь, яшчэ малому,
На прызьбе седзячы, што ў нейкай старане
Жылі, відаць, яшчэ ў пачатку свету,
У народзе тры сястры.
Іх звалі: Воля, Праўда, Праца.
Радзіла іх—зямля-матуля
Ад сонца—першую, ад месяца—другую,
А трэцюю ад зорак ясных.
І службу верную народу
Служылі тры сястры:
Ад ворагаў ліхіх заставай на мяжы
Яго аберагала Воля—
сястра старэйшая.
Сярэдняя сястра суды судзіла і паноў
З падпанкамі, як тое пустазелле,
Штогод палола і агнём паліла,
А бедных да сябе гукала і туліла.
Ішлі ў той край з другіх краёў народы
І ўсім давала мейсца і работу
Сястрыца трэцяя, якую звалі Працай.

Пажылы селянін.

А можа гэтага і не было ніколі?

Рыгор.

Мо' й не было—тады палічым байкай,
Ды толькі дзед казаў,
Што наляцеў з заходу сонца злы крылаты змей
У бойцы на мяжы запаланіў ён Волю,
Абманам Праўду ўзяў. Завёс іх на край свету:
Там на гары высокай між прадонняў
Стаяў яго магутны замак.

Дзед Ксаверый.

Ну, а Праца?

Рыгор.

Ушылася ў народ,—
Не мог знайсці праклятты чарадзей.
Узяў дань вялікую і, каб яму штогод
Давалі дань—паставіў ён паноў
Збіраць даніну і сабе і ім.
А мейсца вакол замка
Ён кіпцюром укруг абвёў,
Закляўшы на сон вечны.
І з тых часоў бліз замка не ступала
Нага людская, звер кругом абходзіў,

Заклятьі круг і птушка аблятала
Ї толькі крот адзін сваю нару мог рыць
Пад круг закляцця, бо зямля святая
Закляццяў чарадзея не прымала.
Ды навальніца вольная з грымамі
Праходзіла над замкам паднябессем,
Муры крышыла бліскавіц мячамі,
Віхрамі трэсла—не магла адолець
Ї вызваліць сясцёр.

Пажылы селянін.

А хто-б то мог зрабіць?

Рыгор.

Казаў дзед—трэцяя сястрыца, Праца—
Дачка зямлі—бо ёй адной не страшны
Смяротныя закляцці чарадзея,
Але, калі і дзе, і як—не ведаю, браты,
Бо дзед памёр не даказаўшы казкі.

Пажылы селянін.

Магло так быць, ці гэта толькі сон?

Рыгор.

Дзяды і прадзеды стварылі
Пра Волю гэты светлы сон
Ї нам—унукам падарылі.
Хай тлее ён—
у кожным сэрцы
Ї грэе—
слабенькім цяпельцам,
А мо' з'яднаюцца калі,
Агонь вялікі зашугае
Ї спаліць панства на зямлі.
Шкада, што мы не дачакаем.

*(Запявае)*

Загарэлася каліначка
Перад зоркаю стоячы,
А тушыў яе буйны вецер, не ўтушыў,
Залатыя іскаркі разнасіў.
— Я-ж цябе каліначка не ўтушу,
Больш іскаркі разнашу,
А ўтушыць цябе чорная хмара,
Што насупроць зоркі стане,
Цёмная ночка ды нявідная,
Лютая зімка ды халодная.
— Хмару чорную разняслі віхры
Ночку цёмную прагнала зара,

Зіму лютую растапіла вясна,
А стаяць мне, каліне, пад сонечкам,
А стаяць мне, чырвонай, у золаце.

(У песню паступова ўцягваюцца хлопцы і яна з задумлівага соло пераходзіць у харавы спеў, які выводзіць з цяжкага настрою хлапцоў).

ЗЯВА XII

**Дзед Ахрэм**-лірнік выходзіць з-за дрэва, дзе ён слухаў песню касцоў.

Дзед Ахрэм.

А добра спелі, казакі,
Прыбаў вам бог здароўя й веку.

Касцы.

Здароў і вам.

Дзед Ахрэм.

Ну, што-ж, сынкі,
У круг прымайце чалавека
Дарожнага. Стары, сівы,
Аднак не хіліць галавы
А ні ў журбе, а ні ў пакоры
І чарку ўзяць яшчэ не хворы,
Калі-б паднеслі дзецюкі,
І граць магу.

(У часе яго слоў госці выносяць з лесу бярвенне, калы і зноў запаўняюць тыл сцэны).

Пажылы селянін.

То хто-ж такі?

Рыгор.

І хто ў чаўнах?

Дзед Ахрэм.

Хто я, сынкі,
То чулі вы, а гэта—людзі
І не благія, ставяць стан,
Бо ноччу мала хто заблудзіць,
Не ў гнеў будзь сказана, ваш пан
Нам вестку даў, што тут няціха,
І можа стрэнуць караван
Не толькі добрае, а й ліха.

Сяляне.

Пан папярэдзіў? За гарой
Апрогся воўк,—няйначай, братцы?
А ці-ж не пан увёў разбой,
Што міма замка ні вадой,
Ні пешкі ноччу не прабрацца.
З ліхой гадзіны той, калі
Прыехаў наш—дзяржаўца новы,—
Закон людскі, закон хрыстовы
Ён сцёр, як пыл.

Дзед Ксаверый.

Жылі—гнілі
І да яго, а зараз—гінем.
Што дзень, то чыніць навіну,
Не адкараскаеш адну,
А ўжо рабіць другую вінен.

Пажылы селянін.

Заціснуў пан—не прадыхнуць
І сталі ўсе мы, як закупы,
Шмат зачынілася халупаў,
А зловяць—ў стайні засякуць.

Рыгор.

Зямлю абмерыў на валокі,
Падаткам выклаў кожны крок.

Сяляне.

Ну словам, ссець з жывых нас сокі,
Як ваўкалак тойаднавокі.
— Такія справы, наш дзядок!

Дзед Ахрэм.

Паслалі-б ліст да караля,
Ці хадакоў.

Дзед Ксаверый.

Ды пасылалі.

Дзед Ахрэм.

І што-ж?

Дзед Ксаверый.

Бяссудная зямля!
І галавой паслы наклалі.

У Кракаў ехаў пан тады
Да Заенчкоўскіх панны ў сваты
І поезд ехаў з ім багаты.
Сын мамкі князя—малады
Гайдук Васіль (няхай зямля
Лягчэй пушынкі табе стане!)
Даставіць ў рукі караля
Ўзяў чалабітнае пасланне.
Мы склалі грошы восем коп—
І на паклон і на дарогу—
Як пан дачуўся і загроб
Пасланне наша—ведаць богу!
Ды толькі наш Васіль сканаў
У цяжкіх муках ў падзямеллі,
Калі у замку на вяселлі
Натоўп раз'юшаны скакаў.

Пажылы селянін.

Дзядзуля! ты-ж па свеце ходзіш,
Ці ўсюды гэтак цяжка жыць,
Ці трэба жыць, як набяжыць,
Ці лепей смерць няхай прыходзіць?

Дзед Ахрэм.

Бываў, сынкі, я за Літвой,—
У бок Масквы і за Дзвіной.—
Ў Маскве лягчэй, там Юр'еў дзень
Яшчэ старынны лад вядзе
І, як аброць, трымае ён
Баяр, што ласы на прыгон.
Цяжэй за ўсё, дзе польскі пан;
Пустой пыхлівасцю напхан,
Ён, што не бачыць, то й грабе,
Душу карожыць і скубе.
Ты перад ім не чалавек—
Хай будзе проклят з века ў век.
На свеце ёсць адзін куток,
Дзе пан баіцца носа ткнуць
І людзі вольна дзе жывуць.

Усе.

Дзе-ж край шчаслівы той, дзядок?

Пажылы селянін.

Рыгор!.. Ты чуеш: ёсць краіна,
Дзед байку баіў аб якой.

Дзед Ахрэм.

Яна, браты, за Украінай
Ў прасторах волі стэпавой.
Ды й то, у апошні час і там
Панкі расці пачалі з пня,
— Не знаць бы светлага ім дня!
На карак селі казакам
І хоць ізноў у свет бяжы,
Шукай для волі рубяжы.

Рыгор.

Куды-ж народ ўвесь уцячэ?
Сам ад сябе, ці што? Цячэ
Рака, а з рэчкай і ўюны,
Куды вада, туды й яны,
Куды народ—туды й паны.

Дзед Ксаверый.

Куды кажух, туды і блыха.
З-за блох не кінеш кажуха.

Рыгор.

Блох добра пражыць над агнём...

Дзед Ахрэм.

Мо' й ваша праўда, малайцы,
Што лепей так...

(*Гукае гасцей*).

Гэй, гэй, купцы!
Кідай платы, кідай калы,
Кладзі агонь, бяры катлы!
Вары вячэру грамадзе:
Яна нас выручыць ў бядзе!

(Госці кідаюць рабіць умацаванне стана і паступова падыходзяць да касцоў
З іх натоўпу галасы:

— Здароў булы, панове казакы!"
— Прымай у суседзі нас, шаноўная грамада!"

Касцы.

Здароў і вам, браточкі і бацькі,
Суседству добраму заўсёды будзем рады!

Рыгор.

Куды-ж плывеце вы?

Падатаман Івашка.

Шукаем між людзей
Куточка ціхага ад ліха і нягоды,
Дзе кожны сам сабе і пан і дабрадзей.

Рыгор.

У мора хмарнага прасветлае пагоды?
Няўжо не страцілі бязглуздых тых надзей?

Івашка.

Не страцілі мы іх, бо мы іх і не мелі,
І вас і нас, браты, паны адны заелі.
Прышлі яны, паны, з Кракова ды з Варшавы,
Няма на іх, паноў, ні зводу, ні ўправы!
Пасыпалі на нас, як з порванага меха
І вые па барах і стэпах плач наш рэхам,
Бо нудзіцца душа у шляхты у няволі.
І сталі бегчы мы насустрач вольнай волі,
Пабеглі ў стэп, куды сваццілі вочы,
Аселі на Дняпры, на выспах, дзе хто хоча.
Ваюем ў два бакі, з татарамі і ляхам
І сталі казакі ў Кракове вечным страхам.
Адно відно, так доўга быць не можа,
І што-небудзь адно другое пераможа.

Дзед Ахрэм.

Ратунак тут адзін: ў мяху залапіць дзірку,
Паноў назад у мех.

Пажылы селянін.

А з мехам проста у вір-бы!

Івашка.

Ну ў вір, не ў вір, а пахадзіўшы з кіем
Адбіць ахвоту знаць шлях — просты і кружны —
На Тураў і Смаленск, на Хорціцу і Кіеў.
Адным такой не вынесці вайны.
Татар узяць — дык, нехрысці, яны
Заўжды паплечнікі да першай перамогі...
Вось і паехалі блукаць, шукаць падмогі.

Рыгор.

І не нашлі?

Івашка.

Чакай! Адбыліся памеры,
Народны гнеў панкі да вару давялі,
Народ не хоча быць ні крэпкімі зямлі,

Ні крэпкімі панам, ні новай панскай веры,
Паноў не хоча знаць, пісцоў гатоў пабіць
Ксяндзоў гатоў тапіць, як тых шчанят ў балоце...

Рыгор.

Што-ж не хапае?

Івашка.

Што? Скажыце вы, браты?
Вось што мы не знайшлі і едзем у сумоце
Паўз замкі моцныя, пад'ёмныя масты,
Пад плач і стогн і крык закутай беднаты.

(Агульнае маўчанне. Задум. Гэта адбіваецца на музыцы, якая суправаджала прамову Івашкі—нарастала разам з ёй, як адгалосак народнага гневу і абарвалася пытаннем, каб развярнуцца яшчэ раз ужо знутры, з цяжкіх думак чалавека. У гэтую музыку паступова ўваходзяць гукі жніўнай песні:

„Бадай пану ў двары страшна
Як нам у полі сонца зашла"—

гэта ідуць жнеі).

З'ЯВА XIII

Жнеі (*калі яны падыходзяць, чуваць апошнія словы песні*):

— Бадай пана пахавалі,
Каб сабакі разарвалі.
Пахавалі пры даліне,
Каб па пану ваўкі вылі,
Бадай пана громы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі.

Войт (*які ішоў з жнеямі*):

Эй, прыкусіце, дзеўкі, языкі,
Пачуе пан, тады не наракайце—
Аддасць загад—і ўсыпяць гайдукі!

Вясёлая дзяўчына.

А ну, дзяўчаткі, войта велічайце.

Жнеі (*пяюць*).

Чорт пану войтам
Ляда драў, ляда драў!
Войт наш у пана
Гіцлем стаў, гіцлем стаў!
Брашы, брашы, войце,
Пад вакном, пад вакном,
Можа пан пачастуе
Бізуном, бізуном.

Войт.

Ну й язычкі, адсохлі-б вам яны.
Каб заўтра раніцай дажалі мне кліны!

(Плюнуў і пайшоў. Услед яму смех дзяўчат).

Вясёлая дзяўчына.

Не любіць праўды чорт,
Іш, падтуліў як хвост—
І агрызнуўся як, бы серада
Ды на вялікі пост!

Жнеі (*пяюць*).

Ай, пане мой, кароль, кароль,
Пусці мяне дамоў парой,
Як я ў пана жыта жала,
У мяне дома бяда стала.
Звалілася свякроў з тыну
Ды ў зялёную крапіву.
Не жаль-жа мне свякровачкі,
А жаль-жа мне крапівачкі
Свякроўка паляжыць—ды й ўстане,
Крапіўка паляжыць—завяне.

Адна з жней.

Эй, нешта песня йдзе няўдала,
Няма сягодня Кацярыны,
Відаць к вяселлю прыбірала
Сваю хаціну бедачына.

Вясёлая дзяўчына (*другой*).

Бяжы, Алеська, і гукні!
Хай кіне ўсё і к нам прыходзе:
Апошнія дзявоччы дні
Павінна быць у карагодзе.

(Тая пабегла).

І хлопцы тут? Дзяўчаткі, ну—
Спяем ім песеньку адну:
Сваім звычаем
павелічаем.

Жнеі (*пяюць*).

Хлопцы нашы нерухавыя,
Непрыгожыя, нежвавыя!
Пашлі ў вяззе,
Там увязлі;
Пашлі ў ліпкі,

Там уліплі;
А пайшлі ў сяло,
Дык там іх памялом!
Беглі хлопцы, завіхаліся
І назад не азіраліся!

Касцы *(пяюць)*.

Нашы дзеўкі-сваявольніцы,
Да работкі ды няздольніцы
Дзе мёд чуюць,
Там заднююць;
Дзе гарэлку,
Там нядзельку;
А дзе п'юць салодкі мёд,
Там і круглы год.
Жанішкоў-жа дзе пачуюць
Там і днююць і начуюць...

Жнеі *(пяюць)*.

На гары святлела,
святлела,
Казлова барада, гарэла,
гарэла!
Ідзеце хлопчыкі, тушыце,
тушыце,
Рэшатам ваду насіце,
насіце,
Як у рэшаце вады нет,
вады нет,
Так у хлапцоў праўды нет,
праўды нет.
Як у рэшаце вады ні ложкі,
ні ложкі,
Так у хлапцоў праўды ні крошкі,
ні крошкі.

Хлапцы *(пяюць)*.

Ай, авясец, мамачка, авясец!
Ды калі-ж бог сватоў прынясець?..
— Увосень, дзіцятка, увосень,
Будуць ездзіць зразу па восем...
Міма нас, міма нас, к суседзям,
Кожны нас кожны раз... аб'едзе.

Жнеі *(пяюць)*.

Ой, Пятрок, Пятручок,
Што ты нам прывалок?
Дзеўкам росту,

Хлопцам каросту,
Як абсела языкі,
Заскакалі дзяцюкі!
Языкі чэшуць,
На дзевак брэшуць,
Дзеўкі смяюцца,
Хлопцы скрабуцца.

Хлопцы.

Ой, хопіць, дзяўчаткі,
здаемся без бойкі,
— Бярыце ў палон і чыніце, што воля!

Казакі.

Як хутка-ж пабеглі вы з ратнага поля,
А мы вас паслухаць збіраліся толькі.

Адзін з хлапцоў Антось.

— Згаворышся з імі? Нарвешся на сорам!
Адзін на адзін—яшчэ гэтак і так,
А гуртам—заб'юць, залапочуць, заморуць...

Вясёлая дзяўчына.

Адзін-на-адзін выхваляецца рак
Вала перацiснуць кляшней—ды хто бачыў?

Антось *(кідаецца да яе).*

Ой, прыдзецца сціснуць цябе, не йначай.

Вясёлая дзяўчына.

А нюхаў чым пахне, вось гэты кулак?

(Суе яму кулак пад нос, хлапец мімаволі пад агульны смех хуценька адхінаецца).

З'ЯВА XIV

**Кацярына** і **Алеська** (выходзяць з хаты).

Кацярына.

Не цягні мяне, сястрычка.
Не заві мяне, Алеська!
Выпіў злы груган крынічку
Маёй радасці і песні.
Час настаў—яе слязамі
Я напоўню аж да краю.
Над сухімі верасамі
Жалем-горам заспяваю.

Не ўмаліла бога маці
Сваёй доньцы долю даці,
Абыходзіць мяне хмарай
Лёс без шчасця і без дараў.

*Размова ў натоўпе:*

Дзед Ксаверый.

Ой, жаночы лёс слязлівы!
На жыцці у небаракі
Здасца час адзін шчаслівы
Ды і той прымусяць плакаць.

Пажылы селянін.

А чаго? спытай хто хоча,
Не сілком-жа іх валочуць.
Горка рэдзька, ды ядуць,
Дрэнна замужам, ды йдуць.

Антось.

Каб ішлі, а то бягуць,
Дзе трушком, а дзе й груньком.

Вясёлая дзяўчына.

Будзь, Антоська, дзяцюком,
І скажы ты нам, дзяўчатам,
Колькі год ты ходзіш ў сваты
І ўсё ліжаш таўкачы?
Хто-б казаў, а ты маўчы!

Антось.

Каб пасватаў, ты-б пайшла,
Хоць бы нават за вала,
Абы дома не была.

Вясёлая дзяўчына.

А такіх валоў, як ты,
Хай воўк цягне у кусты
Да вяселля, халастых.

Антось.

Ой, заплакала-б!

Вясёлая дзяўчына.

Ад злосці
Калі-б воўк пакінуў косці,
А каб з'еў усё без астатку
Заскакала-б у прысядку.

Антось.

Ну й дзяўчына, ну й язык—
За ім розум не паспее.

Вясёлая дзяўчына.

Калі ён ў цябе чуць тлее,
Можа й праўда, свет вялік!

Паміж тым большасць натоўпу ўжо абярнулася да Кацярыны і Антось з вясёлай дзяўчынай засталіся адны на авансцэне, не заўважыўшы ў сварцы змены ў настрою людзей. Калі яны падхапіліся, дзяўчаты акружылі Кацярыну і клапатліва пытаюць яе.

— Што з табою, Кацярынка?
Што з табою, журавінка?
Можа маці захварэла?
Мо' прыбрацца не паспела?
Мо' людскія нагаворы?
Мо' хлапецкія дакоры?
Што слязою вочкі росіш?
Раскажы нам, просім, просім.
Усе чым можам, дапаможам,
Дапаможам усе, чым можам.

Кацярына.

Быў дзяржаўца. Даў загад—
Год служыць яго княгіне.
Хто-ж пайшоў у замак,—згіне,
Хоць і вернецца назад.
Не пайду я, мой Рыгорка,
Хай зарэжуць, не пайду,
Лепш я смерць ў віры знайду.
Мая радасць, мая зорка!
Там—з душой звярынай людзі—
Век у гвалце, век у блудзе;
Там растоптана у брудзе
Ї душа і цела будзе.
(*Плача*).

(Народ прыдушаны цяжкой навінай. Рыгор сам разгублены. Спрабуе суцешыць).

Рыгор.

Быць не можа, так не будзе,
Не дапусціць бог і людзі.

Дзед Ксаверый

(*як-бы сам з сабою*).

Кабылка бабылкі загразне ў балоце...
Заесць воўк авечку сіроцкую ў статку...
З вайны сын удоўкі не звернецца ў хатку...

Бедняцкую ніўку усю градам змалоціць...
Чаму так няроўна ты, божа наш, дзеліш?
І белае чэрніш, а чорнае беліш?

Дзед Ахрэм.

Сто разоў пры мне на дрэвах
Абрывала восень лісце—
А вясна іх зеляніла—
У ліхалецці кожным выйсце
Ёсць на свеце,—браце мілы...

*(Да Рыгора і Кацярыны).*

Не гаруй, не плач, казача,
Утрымай слязу, дзяўчына,
Хай за вас ваш вораг плача,
Што катуе люд бязвінны!
Поп тут ёсць?

Пажылы селянін.

У руках у пана.

Дзед Ахрэм.

Пачакаем атамана,
Раз поп ёсць—вянцы ў капліцы.
Трэба згода? Ну й згадзіцца.
Трохі страху, трохі грошы—
Будзе кожны поп харошы.

Селянін.

Пан заесць патом, дзядуля.

Дзед Ахрэм.

Ну, яму паднесці дулю
Можна будзе дый на блюдзе,
А тым часам можа чулі
Вы такую байку, людзі.
„Жыў ды быў каваль на свеце.
Працаваў заўжды ў ахвоту—
Даў бог сілу, даў здароўе,
Што-ж яшчэ ад долі трэба?
Ну і жыў, не ведаў ліха.
Толькі раз яго паклікаў
У двор далёкі на работу
Пан суседні. І праз пушчу
Позна ўвечары з работы
Йшлі каваль і брат дахаты
І зблудзілі ў цемры ноччу.
А ў той пушчы жыў быў Ліха—

Страшны волат аднавокі.
Пас ён козы ў гэтай пушчы,
Паляваў на звера часам,
Але больш за ўсё любіў ён
Чалавечыну, пракляты.
Цёплым лецечкам, дзяўчаты,
Йшлі ў маліну, ці ў арэхі,
Пільнаваў іх смехі Ліха
А як хто у бок адбіўся,—
Пападаў яму у кіпці
І на векі-вечна гінуў.
Кавалёў прывабіў Ліха
К сабе ў хату і пытае:
„Што за людзі, чалавекі,
Чым займаліся на свеце?"
— „Кавалі мы".
—„Ці змаглі-б вы,
Мне скаваць другое вока,
Бо адным не дабачаю?"
— „А за працу чым заплоціць
Кавалям васпан лясовы?"
На іх вызверыўся Ліха:
„Вам якой патрэбна платы?
Вы скажыце лепей дзякуй,
Што я вас не з'еў адразу,
На вугаллях не падсмажыў.
Дзень жыцця вам за работу
Будзе платай. Ці-ж то мала?"
Што ты зробіш з аднавокім?
Браты мусілі згадзіцца.
„Толькі, Ліху каваль кажа,—
Трэба прэнт, сажэнь удоўжкі,
Каб нагрэць яго у горне,
Прапячы у лобе дзірку
Для другога вока пану"—
Ды яшчэ з сырыцы шкуры
Звіць вяроўку і да дуба
Прывязаць самога Ліха,
Каб ад болю не сарваўся
У часе працы, не пашкодзіў
Сам сабе. Згадзіўся Ліха
Звіў вяроўку, стаў да дуба.
Прывязалі браты Ліха,
Напяклі той прэнт у горне
І ў здаровае у вока
Ліху сунулі тым прэнтам.
Як зароў ад болю Ліха,
Аж з асін у пушчы лісце
Паабсыпалася долу,
Аж у дуба голле-вецце

Захісталася у бокі,
І парвалася вяроўка
З сырамяціны ласінай.
Вырваў Ліха дрэва з корнем
І пачаў гасіць па лесе,
Нарабіў ён буралому,
Што не зробіць і навала,
Толькі хатку ашчаджаўся
Не чапіць каб,—бо сышлося
Стада коз яго у хату,
Як заўсёды ў часе буры.
А між коз і каваль з братам.
На парог усеўся Ліха,
Цэлу ноч правыў бязвокі.
Рана-ранкам коз на пашу
Трэба гнаць яму, сляпому
Ён стаў кожную абмацваць,
І пускаць на пашу з хаты.
А кажух ляжаў на лаве,
Брат старэйшы увабраўся,
Ў яго, вывярнуўшы воўнай
І пайшоў да Ліха ракам,
А малодшы шкурыць козы,
Каб яны ля ног таўкліся
І абмацваць не давалі.
Каваля абмацаў Ліха,
Палічыў казлом-важатым:
— „Раздабрэў ты, воўча доля,
Ці не час цябе зарэзаць?
Шкада толькі—ты важаты,
Без цябе заблудзіць стада“.
І шпурнуў яго вон з хаты,
Але той рамень ад пугі
За сабой пацяг, каб брату
Перадаць кажух праз дзверы,
Як адчыніць Ліха зноў іх.
Удалося. Апрануўся
Брат, апошнім тыц пад ногі.
— „Во каго я з'ем сягоння“
Кажа Ліха і на плечы
Ўзваліў яго (нагамі
Перамацаў усю хату—
Кавалёў шукаў.—Дарэмна!)
І панёс да рэчкі рэзаць
Кавалёва брата, кроўю
Не паіць зямлю каб блізка:
Адрачыся могуць козы...
А каваль за дубам стаўшы
Выцяг Ліха ды па твару
Сырамятнай пугай мокрай.

Уз'енчыў Ліха, кінуў брата,
Ды аб дуб з разгону лобам,
Аж залысіў дуб з разгону,
А каваль—за дуб суседні.
Так завабіў каваль Ліха,
Ужо на горкі яблык збітым
І знясіленым дашчэнту
На гару, гара-ж да рэчкі
Абрывалася бяздоннем
І тады з усёю сілай
Па сляпому таму воку
Выцяў Ліха. Ашалелы
Людаед знячэўкі скочыў
І зляцеў уніз ў багну.
Аж прадонне застагнала!
Так праз розум і смякалку
Чалавек падужыў Ліха.

(*Да Рыгора*).

Зразумеў старога казку?

Рыгор.

Мне без казкі, дзедка, ясна,
Аднаму змагацца з Ліхам,
Можа й можна—ды напрасна.
Не такое зараз ліха.

Дзед Ахрэм.

Ну тады паслухай казку
Ты другую. Толькі ціха.
— Быў адзін зямец на свеце,
Меў ён летнік каля пушчы,
А у ім калод са дваста
Ну і жыў, хваліўшы бога
На пашану і на зайздрасць
Добрым людзям, але толькі
— Ці то хто яго сурочыў,
Ці паслаў вірутнік чары,—
Зачасціў к яму у госці
Баравы князь карнавухі.
Быў мядзведзь усім мядзведзям
  вялік, і дуж, зладзюга.
Што ні ноч, калод з дзесятак
Знішчыць, спляжыць і не знайся!
Сам зямец быў дуж на сілу,
Двухгадовага мядзведзя
Раз схапіў рукой за карак—
Яўкнуў той шчанём бяссільным,
На карачкі сеў ад страху.

Але з князем пушчы ў бойку
Не палез асілак дужы.
Быў мядзведзь усім мядзведзям
І вялік, і дуж без меры.
Гінуць пчолы, гіне праца
Найшчырэйшая на свеце,
Але пчолкі маюць розум,
Так як людзі, часам болей!
Па вуллёх пагаманілі,
Даў вулей суседу вестку,
Той другому і рашылі—
Адбівацца ад мядзведзя.
Але што казюрка-пчолка
Супроць волата мядзведзя?
Што зрабіць звярузе зможа?
А змагла! Клубком абселі
На зары мядзведзя пчолы,
Заляпілі вочы, вушы,
Секлі джаламі без ліку,
Самі гіблі, ім на змену
Новых тысячы ляцелі,
Аж пакуль ў шалёных скоках
Не сканаў лясоў ўладыка.
А мядзведзь быў ўсім мядзведзям
І вялік, і дуж без меры!

Рыгор.

Усё то прыказка, дзядуля,
Сказка будзе, як на яве
Нам стварыць пчаліны вулей
І паноў у вір адправіць.

Дзед Ахрэм.

А як пчолы?

Рыгор.

У іх ад бога
Да вуллёў нахіл і джгала.

Дзед Ахрэм.

У нас розум, пане-браце,
А ў руках што, сілы мала?

Рыгор (*падняў рукі*).

Не, ў руках хапае сілы—
Усю зямельку абаралі,
Неба ўсперлі як на вілы—
Вежы й цэрквы збудавалі...

Івашка.

Значыць, што-ж валяй да купы,
Мейсца ў чоўне знойдзем, браце,

Дзед Ахрэм.

Ці шкада чужой халупы
І батрацкага багацця?

Рыгор.

На багацце бог прабачыў,
Як ты мысліш, любка Каця?
Ці у замак, ці казачыць?

Кацярына.

Запытай старую маці.

З'ЯВА XV

Неўзаметку падышла старая **Прузына.** Яна чула прапанову.

Прузына.

Пан суддзю чакае ў замак
Заўтра рана. Ў ногі рыну
Я суддзе—з мальбой апошняй—
Не чапаць маю дзяўчыну.

Не паможа,—воля божжа:
Паляціце птушкі ў вырай,
Не жалейце—мы, старыя,
Дапаўзем к пасцелі божай.

Рыгор.

Што? суддзя у замку будзе
Заўтра ўранку? Дзед Ксаверый,
Занясем яму паперы,
Што тры дні назад мы склалі
Ад народу пасля сходу.

Дзед Ксаверый.

Яно можна... Не, Рыгорка,
Выйсці з панскага падворка,
Ды яшчэ калі не звалі,
Не так лёгка—гэта ведай,
Ліст больш гожа несці дзеду:
Больш павагі, меней шкоды,
Меней часу й невыгоды.

Касцы.

Дзед Ксаверый праўду кажа:
Раз праклятыя князь наважыў
Адабраць тваю дзяўчыну,
То самога затрымае.
— Ліха спіць, нашто чапаеш?
— Зробім новыя выборы,
— Трох дзядоў замест Рыгора
Мы пашлем.

Рыгор.

Які ты скоры?

Дзед Ксаверый.

Каб занесці квіт да пана
І за гэта быць прагнаным,
Ці-ж вялікая заслуга?
Не, ты лоўчых збі у кола,
Каб не вырваўся ваўчуга,
Калі станем мы наўкола,
А паперу занясем мы—
Можа што і дапаможа,
Можа ў добры час пасеем
Скаргі нашай словы—збожжа.

*(Да Прузыны).*

Не гаруй і ты, Прузына,
Як твайму мы чалавеку
Зробім ўсё для Кацярыны,
Хто-ж не помніць Жарнасека?

Пажылы селянін.

К каралю тады дабіўся,
На пяць год скасціў падаткі.

Кацярына.

Толькі сам ты не нажыўся,
Добры татка, бедны татка.

Дзед Ахрэм.

Жарнасек?!
і атамана
Хлопцы клічуць Жарнасекам.

Івашка.

З гэтых ён краёў аднекуль,
І падлеткам збег ад пана.

Кацярына.

Можа дзядзькавіч Мікола?

Казак.

Так, Мыкола...

Кацярына.

Апанас ў?

Казак.

Опанасавіч, тым часам.

Прузына.

Вось не думала ніколі,
Што пляменнічка спаткаю.
Дзе-ж Міколка?

Івашка.

Ён у замку.

Дзед Ахрэм.

Ну й вяселле-ж мы згуляем!
Разагнем мы тую клямку,
Што загнуў ваш князь народу.
Чуй, казакі?

Казакі.

Чуем, дзеду!

Дзед Ахрэм.

Я-ж у замак дай пад'еду,
Дзе аб'ездам, дзе абходам,
Разузнаць, што з атаманам.
Вы ж... панове-казакове,—
Пакажыце добрым людзям,
Як вяселле гуляць будзем!
Хто і дзе скажыце, бачыў,
Каб казак у смутку вянуў?
Грай, казача, грай казача,
Нават дзед і той паскача.

(З'явіліся цымбалы, дудка, гуслі і дзед пайшоў у скокі).

„Ты дуб, я бяроза,
Ты п'ян, я цвяроза,
Ты п'еш, а я плачу,

Маладосць сваю трачу,
Лепш не пі, не лютуй,
Болей дома начуй,
Бо жыве цераз тын
У суседа добры сын.“

Выхадка дзеда развеяла цяжкі настрой. Народ засмяяўся, разагнуліся плечы расцвілі ўсмешкі на вуснах, зрабіўся круг і ў круг ўляцеў у ліхім гапаку малады казак.

Ідзе дощ, ідзе дощ
Аж зо стріхи капотить,
Разсердився мій миленький,
аж ногами тупотить,
Разсердився, розгнівався
Мій мілий на мене,
А я гляну серце вяне
І в нього і в мене.

Не сцярпела вясёлая дзяўчына—пайшла дробненька перабіраць чаравікамі перад казаком:

Ой млын меле,
Ой млын меле,
Калясо сакоча.
Ідзі дзеўка за Антона
Каторая хоча.
Ой млын меле,
Ой, млын меле,
Калясо віхае.
Не йдзі, дзеўка, за Антона
Свякруха ліхая.

А тым часам другая група казакаў зацягнула песню:

„Пабратався сокіл
З сизокрилим орлом,
„Ой брате-ж мій, брате,
Сизокрилий орле!
Покидаю тобі
Всі мої пожитки,
Всі мої пожикти
Й маленькії дітки“.
Літа сокіл лито,
Літа сокіл друге,
На трецее літо
Сокіл прилетає
Сокіл прилетає,
Тай орла питае:
„А де-ж ти, дів, брате,
Всі мої пожитки,

Всі моі пожитки
Й маленькіі дітки?
—„Приіхали, брате,
Пани й паненята,
Та й забрали вони
Діти соколята.“
„— Бодай тіі пани
Та й не панували,
Ой що моіх діток
В чужий край заслали!“

Яшчэ не скончылася песня, як моладзь адгукаецца на яе сваёй:

Касцы і жнеі.

Сеяў, сеяў сын пшаніцу,
Ды некаму жаці!
Ой, пытае сын у маці,
Каторую браці?

Казакі.

Ой чи тую багатую,
Воли та корови?
Ой чи тую сиротину,
Що чорния брови?

Касцы і жнеі.

Ды ці тую, матуленька,
Што хораша ўбрана,
А ці тую, матуленька,
Што ў сэрцы ўпала?

Казакі.

Багатая—губатая,
Та вся вона горда.
Ой, як выйде на вулицю,
Як у свині морда.

Касцы і жнеі.

Багатая—пыхатая
Пад капою стала,
Мая-ж там сіротачка
Дзесяць коп нажала.

Казакі.

А та ж моя сиротина
Та все вона пишна,
Ой, як выйде на вулицю,
Як у саду вишня.

Касцы і жнеі.

Багатая—пыхатая
Ідзе з карчмы—плача,
Мая-ж там сірацінка
Ідзе з поля скача.

Казакі.

Багатая—губатая,
Та все вона дметься,
А бедная сиротинка
К серцю пригорнется.

(І пайшлі парамі—ды з топатам, ды з грохатам мяцеліцу-лявоніху, аж чубы казацкія ў паветры падлётваюць, аж спадніцы дзявоцкія віхрам завіхрыліся. У першай пары Рыгор і Кацярына, у апошняй дзед Ахрэм з дзедам Ксаверыям на пару. Народ забыўся на гора і нядолю, загаварыла адвечна жывучая ў ім вера ў светлую будучыню, у шчасце, яшчэ больш распраміліся спіны, яшчэ больш радаснымі сталі ўсмешкі, а рукі самі апляскалі ў ладкі, а ногі самі пачынаюць адбіваць тахты мяцеліцы-лявоніхі. І на гэтым паволі зачыняецца заслона )

---

## АКТ ДРУГІ

Замак князя Капусты. Поўкруглая цэнтральная зала. Ідуць сходкі наверх—у пакоі княгіні; другія - у вежу. Унізе некалькі дзвярэй у пакоі і адны на ганак. Багатае, але грубае ўбранне пакою. Руска-беларускія арнаменты часамі перамяжоўваюцца з рэчамі ярка польскага паходжання. Так поруч з кіётам усходніх абразоў стаіць каталіцкі пан Езус на крыжы. Дзея пачынаецца перад світаннем наступнага дня. Яшчэ да адчынення заслоны чуваць далёкая спакойная музыка—спакойная, як ноч, у замку, пад аховай дазораў і вартаў, ноч—сытых людзей. Але паступова ў спакойную музыку ўрываюцца трывожныя ноткі; ноч не спіць, ноч жыве чалавечымі страсцямі і барацьбой. Пад гукі музыкі пачынае мільгацець агонь лампадкі перад кіётам, то амаль загасне, то разгарыцца ярчэй і тады кідаюцца ў вочы два цяжкія крэслы на першым плане.

З'ЯВА І

З вежы выходзяць: **казацкі атаман—Мікола Жарнасек, дзед Ахрэм і Уладзік**—гайдук пана Заенчкоўскага.

Уладзік.

Бабуля Марына сыйсці не павінна.
На варце ў княгіні яна ці Рагіна.

*(Цішэй).*

Мужык у княгіні не молад, бяздзецен,
О ёсць маладзейшы на пэўнай прымеце,
А князь у дарозе...

Дзед Ахрэм.

Дык грэх на парозе?
Ды мне не да іх—блох ім сотню ў пярыны!
А скажа пра ход нам падземны Марына?

Уладзік.

Яна зненавідзела князя за сына,
Якога без часу глынула зямля;
Жыла два гады у сям'і каваля,
Рыгора і Кацю, як родных, любіла—
Я думаю—скажа. А вось і яна.

(Уваходзіць з кіёчкам згорбленая, старая **Марына**).

З'ЯВА II

Марына.

Каго разнасіла нячыстая сіла
Ў начную пару?

Уладзік.

Гэта я.

Марына.

Ты—Уладзік? З табой хто такі?
Чаму сваю варту без часу пакінуў?
Глядзі, засякуць і цябе гайдукі,
Як сына майго, незабыўнага сына.

Уладзік.

Са мной падахранны. Ён брат Кацярыны—
Каханай Рыгора, казак—атаман.

Атаман.

Пачуў я, бабулька, пра цяжкае гора,
Што сее народу працоўнаму пан,
І моцна хацеў-бы пакольні ёсць сілы
Аддзячыцца пану.

Марына.

Ты-ж вязень.

Атаман.

На волі сябры,
На волі рушніцы, багры, тапары.

Дзед Ахрэм.

На волі народ.

Марына.

Ён гніе ў пакоры.

Дзед Ахрэм.

Да часу, сястра.

Марына.

Ну, а час той няскора.

Уладзік.

Ты чула, бабуля, дзяўчыну Рыгора
Пан ў замак бярэ на пакуты і сорам!

Дзед Ахрэм.

І возьме, калі нам сястра не паможа.
Панкі, пашкадуй добрай смерці ім, божа!

Марына.

За наша жыццё адной смерці ім мала,
Не зроб'цца так, каб у вочы панам
Яна і ўдзень і ў начы заглядала-б
Каб цень ад яе—ім шляхі пакрываў.

Дзед Ахрэм.

Пачутае, божа, пабачыць дай нам.

Марына.

За нашых дзяцей, за забітых бязвінна
Сваімі дзяцьмі адказаць яны вінны.

Уладзік.

Бяздзетны наш князь.

Марына.

Ну, дык што-ж, пачакаем.
На свеце няма найцяжэйшае помсты.
Як знішчыць нашчаднасць, як знішчыць патомства!
Будзь проклят навек пан, як Ірад і Каін!

Атаман.

Тады памажы нам, бабуля, дабрацца
З Бярозы у замак. Бо кажуць ў народзе,
Што дзесьці ў зямлі тайны ход ад палаца
На бераг Бярозы, ці ў пушчу, выходзе.

Марына.

Ёсць ход падзямельны, з заходняе вежы
На бераг і ў пушчу. Ключы за іконай
У панскім пакоі.
Падуў вецер свежы
У вакно, ужо світае... Ідзіце адгэтуль...
Каб пан не дазнаўся, зжыве ён са свету
І вас і мяне... Ды абыходзьце Адама.

Таксама
Вартуе
Таго, хто у княгіні штоночкі начуе,
Сыночку пярыны княгініны сцеле.
Баюся, засне на смяротнай пасцелі
Ї мне перашкодзіць адпомсціць за сына
Сынком яго светласці князя Ївана...
Ды не, дажыве і старая Марына
Часіны шчаслівай, гадзіны чаканай!

## З'ЯВА III

**Атаман, Уладзік, дзед Ахрэм** неўзаметку знікаюць. **Марына** працягвае гаварыць ужо да сябе. (Яна ўспомніла сына і пачынае ціхія, жудкія прычытванні па умірушчаму. Ім адказвае музыка.

Сыночак мой мілы, голуб сізакрылы,
Ці чуеш ты маці сваю?
Ізноў я адна над тваёю магілай
Душою і думкай стаю.
Я чую, як пальцы тваё па скляпеннях
У муках смяротных скрабуць,
Як вусны тваё у крывавай у пене
Апошняе „мама"—завуць...
Даруй, мая краска, што я перажыла
Мучэнне і смертку тваю,
Што я аб скляпенне тады не разбіла
Сівую сваю галаву,
Што я не загрызла, што я не заела
Тваіх ліхадзеяў. Ды, знай,
Я помсту пасеяла,—помста паспела,
Нядоўга ужо... пачакай...
Сабралася маці у госці к дзіцяці
У сырую зямельку прысці.
Ї хай бог карае, як сам, святы, знае
Мяне на апошнім пуці,
Але не пасмее і бог загадаці
„Марына ты пану даруй"—
Ён чуў, як у муках ты зваў сваю маці,
Як плакаў: „Матуля, ратуй!"

(Панікла ў вялікай тузе і задуме. Паступова світае. Марына падымаецца).

— Світае... пастукаць... і сціснуўшы рукі
Ісці сваім шляхам крыжовым на мукі.

(Падымаецца па сходках, стукае ў дзверы княгіні,— сыходзіць назад, і знікае ў цемры).

З'ЯВА IV

З дзвярэй пакоя княгіні выходзіць княгіня **Ядзя**, за ёй малады, прыгожы хлапец—гайдук **Ясь**.

Ядзя.

Ноч прайшла, як сон, як мара,
Зорка неба тчэ у краскі,
Ах навошта промень сонца,
Рушыць-нішчыць маю казку!
Знаеш?—мне здаецца, ў пушчы,
Я ў палоне ў злога цмока,
Ён над рэчкай, па-над кручай,
Замак чорны, адзінокі
Збудаваў для паланянкі,
Для красуні-каралевы;
Закідаў шляхі-дарогі
Бураломам, дзікім дрэвам;
Варту моцную паставіў
Сцерагчы лугі і воды,
І няма ў тым дзікім краю
Ні праезду, ні праходу.
Толькі пушча не сціхае,
Сумным шопатам гамоне,
Ды пад шум той у палоне
Вызвалення ўсё чакае
Каралева маладая!
Мне здаецца—ночка ляжа,
Усё пасне ў краю пастылым
І раптоўна ў замак княжы
Ён прыходзіць—мой любімы,
Мой кароль! Прайшоў ён пушчу,
Праз звяр ё, і праз дазоры
Ценню лёгкаю пракраўся
У простым пажаскім уборы.
Ён прышоў—стаў замак светлым,
Як дзяўчыны юнай мары—
Знік на час цяжар палону
І старога цмока чары.

(У часе прамовы княгіні пачынаецца далёкая, далёкая музыка, ціхая, пяшчотная, бяздумная. Сваю прамову княгіня канчае спевам).

Ясь і Ядзя

(*дуэт*).

— Ноч прайшла, як сон кахання,
У віхрах цудоўнай ласкі.
Ах, навошта промень рання
Рушыць сон дзівоснай казкі,
Заўтра, толькі ночка ляжа
І засне мой муж пастылы,
Ты прыходзь у замак княжыць,

Мой кароль і паж мой мілы!
Толькі ноч на землю ляжа,
І засне твой муж пастылы,
Я прыду у замак княжыць,
Твой, княгіня, паж любімы.

Ясь.

Можа думка-чарадзейка
Каралём над каралямі
Ставіць сына мужыкова,
Засыпаць яго дарамі,—
Адхілю дары любыя,
Хай любая слава гіне,
Я вазьму адно—Ядвісю,
Маё шчасце і княгіню!
Я вазьму яе на рукі,
Пагляджу у бездань вочак,
Панясу за сіня-мора,
Дзе шчаслівым ёсць куточак;
На шаўковую, на траўку
Пасаджу ў саду вішнёвым.
Паду-стану на калені
І такія моўлю словы:
— „Свет мой любы, мая Ядзя,
Хочаш ведаць, як люблю я?
Загадайісці на муку,
З радай радасцю пайду я!

Ядзя.

І ў смяротных муках, Ясю,
На агні, ў пякельным дыме
Ты не скажаш анікому
І ніколі любай імя?

Ясь.

І ў смяротных муках, Ядзя,
На агні, ў атрутным дыме,
Не скажу я анікому
І ніколі тваё імя!

Ядзя.

І калі-б табе здалося,
Што княгіня вінна ў здрадзе,
Ты не выкажаш, мой Ясю,
Не пагубіш сваю Ядзю?

(Музыка выразна падкрэслівае клятвы Яся).

Ясь.

І калі-б я нават бачыў,
Улічыў цябе у здрадзе,
Я не выдам і на дыбе
Маё шчасце, маю Ядзю!

Ядзя.

Дзякуй, Ясю, дзякуй, дужы!
Мне Марына—мамка мужа,
Што павінна князю сына
Нашаптаць (ты чуеш, Ясю?)
Расказала, як звялася
Князя першая дружына,
Як замучыў здзекам дзікім
За бясплоднасць князь княгіню.
— Бог мой любы, бог вялікі,
Зловіць нас— душы й загінем!..
Муж падобен да мядзведзя
З гэтай пушчы векавечнай.
Што-ж, мой паж, і знай і ведай,
Што каханне небяспечна,
Што жыццё такога шчасця
Не дае цаною таннай.

Ясь.

Заплаціць гатоў душой я,
За дваіх, мая ты панна!

Ядзя.

Заплаціць гатоў? Пабачым!
Будзе час—я патрабую
Гэтай платы, каб на волю
Вырваць душачку жывую.

Ясь.

А за волю ўзнагародай?

Ядзя.

Што-ж за волю даць не мала?
Я-б апошнюю сарочку
Аддала-б, не шкадавала.
А цяпер—у бок тры крокі,
Сцерці радасць з губ распусных,
Сцерці смех у рабскім зроку!
І па вочках, і па вуснах
Знаць адно усе павінны—
Ты гайдук, а я—княгіня *(Пайшла з песняй).*
Czy-ż to wszystkie kwitną sady,
Co się rospuszczały?
Wszystkie-ż serca biorą śluby,
Co się pokochały?
Płynie czółno malowane,

Pośród morza tonie
Brzegiem idze ukochana
Załamuje dłonie...

Апошнія словы песні чуваць ужо з-за сцэны. Разам з княгіняй вышаў **Ясь**. З цемры выходзіць **Марына**.

З'ЯВА V

Марына.

Ногі пухнуць, сэрца стыне,
Смерць кастлявым пальцам вабіць...
... Мо' пакінуў што на памяць
Непрыбраным у княгіні?
Дзеўкі знойдуць, перашкодзяць,
Князю скажуць... Бог мой мілы,
Дацягнуць душу да помсты
Дай мне сілу, дай мне сілы.

(Пайшла ў пакой княгіні і варочаецца з поясам у руках).

Пояс шыты, вышываны,
Падаруначак ад пані.
Хай ляжыць і ён схаваны,
Сведка новы і чаканы...

[illegible] іх [illegible] варочаецца і зусім зморaная садзіцца ў крэсла).

Ногі ломіць ад [illegible]томы,
Знебылася я старая.
Падрамлю, хай бог відушчы
Нас ад злога ашчаджае! *(Заснула)*.

З'ЯВА VI

Уваходзіць **Адам**, бацька **Яся**. Аглядзеў пакой, сеў насупроць Марыны, задумаўся.

Адам.

Вайдзіла шваграм быў Ягеллы,
Халоп быў братам каралю.
Прыдбаў дваранства і зямлю...
Пад ім маёнткаў тузін цэлы,
І добрародныя баяры
Лічылі гонарам сваім
Знаёмства з ім,
І гнеў яго для іх быў карай...
... А скончыў чым?
Сухой асінай:
Павешан жончынай раднёй,
Завіс між небам і зямлёй,

Як заляцеўшы не па чыну
З халопскім рылам ў княжы род.
То-ж што? Благога лёсу здзекі?
Ці злым дзеяннем злыя лекі?
Ці страх на просты на народ?

(Страсянуў галавой, усміхнуўся).

— Дурны... па горла у віры,
Вяду бязглуздую развагу.
Не позна! Славяць хай адвагу
Ці званары,
ці гусляры!
Чаму не быць Вайдзілам Ясю?
Бо нават там, дзе адступае
Не толькі розум, але й бог,
Каханне ўсё перамагае!

Марына (*праз сон*).

Сынку мой, сыночак,
Звялы мой лісточак,
Што ты стаў далёка?
Што ўздыхнуў глыбока?
Ты мне шэпчаш: „маці,
Цяжанька ляжаці,
Цяжка чуць, як ходзіць
Мой забойца-злодзей,
Цяжка чуць, як б'ецца
Кроў у воўчым сэрцы,
І ляжаць, таміцца,
Смагнучы напіцца".

Адам.

Ва сне і то, дурная галава,
Свайго сыночка з думак не спускае...
А ну, прачхніся, чуеш ты, сава!
Жывым жывое одумі хапае.

Марына (*праз сон*).

Я не памру, пакуль не напаю
Варожай кроўю вусны майго сына...

Адам.

Вось хлопну раз, і помсту ўсю тваю
З табой зараз прыхлопне дамавіна!

Марына (*прачнулася*).

Чаго ты хочаш, кат? Крыві? Яе няма
У гэтым сэрцы, высахшым ад гора.

Адам.

Не я, а ты
Пра кроў тут марыла сама,
Ды ведзьма да яе дарвешся ты не скора,
А мо' й ніколі! Пану давядуць
Аб тым тваім намеры,—
І чарвякі магільныя з'ядуць
Цябе хутчэй, чым падзямелля дзверы
Я расчыню—прышоўшы за табой.

Марына.

Ты давядзеш?

Адам.

Не меў яшчэ клапот!
Па мне хай выдахне увесь баярскі род,
Абы мяне пакінулі ў спакоі.
Я-ж не давёў, як клікнуў князь назад
Цябе, былую мамку, хоць і ведаў,
Што князь пакаецца і пракляне стократ
Пару, з якой ідзеш за князем следам
І торыш пуць пагібелі і бедам.
Дарэмна хвалішся. Бярэ напэўна жах
Што князь...
Як не п'яны і як не спіць вядома
(*націскам*)
Шчаўком заб'е цябе,
і здохнеш без крыжа,
Як ведзьма дзе-небудзь, пад дзерцю буралома.

Марына.

Як не п'яны і не сонны? ха-ха-ха...
Гарэлка, сон і смерць—бы родныя браты,
Бы дзеці аднаго смяротнага граха...

Адам.

Чацвертая да іх—напэўна будзеш ты!

Марына.

О не! патрэбна весялосць
І хараство, каб стаць у пару ім;
Каб сон і смерць парвалі маладосць
І прагнасць да жыцця, якое йдзе на ўздым,
Якое хмельны хмель у золата завіў;
Каб не вячэрнюю, а раннюю зару
Рабінавая ноч вужакай абвіла,

Каб чалавек, як воўк сівы, завыў,
Задраўшы галаў угару,
Адкуль адчай, пустэча, мгла...

Адам.

Даволі выць, карга! Сам Ірад каб васкрос
І ведаў, што Хрыстос
Радзіцца мусіць яшчэ раз ад дзевы,
Не змог бы ён, цар зайздрасці і гневу,
Ляжаць змяёй у яслях і чакаць,
Пакуль дзіця народзіць божжа маць.
А ты чакаеш сына у княгіні
З нажом навостраным...
Кінь выбрыкі благія!

Марына.

Не мог?! Ну, а чаму скажы мне, кат, скажы
Над яслямі халопаў і сялян
Стаіць наш пан
І распінае іх, братоў хрыстовых, на крыжы?
Чаму мой сын на свеце не пажыў
У цяпле і радасці сваёй вясны,
Як птушка вольная ці нават звер лясны?

Адам.

Спытай у пана. Я ні брат, ні сват
Іх светласці.

Марына.

Паўзеш назад, як гад!
Кат кату—сват, кат кату—брат:
У крыві адной душу і рукі ксціліі.

Адам.

Ён—пан, я—раб, багацця не дзялілі.

Марына.

Са страху ці з любві сабацкай вы лілі
Людскую кроў па матухне-зямлі—
Яна святая—бога слёзна моліць
Адпомсціць кроў людзей!

Адам.

Даволі!
Жарт жартам, справа справай,
За умысел звярыны і крывавы
Ты сёння к вечару, Марына,
Пабачышся з душой загінуўшага сына.

Дарэчы, як яго у ланцугі кавалі
Нож гэты гайдукі у Ваські адабралі...
Я навастрыў яго, хацеў табе аддаць—
Каб паклялася мне—
князіні не чапаць!

Марына

*(узяла нож, але адмоўна ківае галавой):*

За сына—сына, кат, не болей і не меней!

Адам.

Тады папарышся да смерці ў падзямеллі.
(*Крычыць*). Гайдук!

З'ЯВА VI

Гайдук (*уваходзіць*).

Я, пан старшой!

Адам.

Забраць яе!

Гайдук.

Забрана.

Адам.

Завесці у падвал—чакаць прысуду пана...

(Гайдук павёў Марыну. Але калі ён параўняўся з другімі дзвярыма ўнізе—адтуль выкаціўся кругленькі, пухленькі польскі панок. За ім ідзе **Уладзік**. Гайдук пакланіўся, але пану здалося, што не досыць нізка і пан накідваецца на гайдука).

Пан Заенчкоўскі.

Ніжэй, ніжэй уклон, галгане!
Мувь „з добрым ранкем, ясны пане!"

Гайдук.

Ды з добрым раннем, ясны пане!
Нам што, мы падданыя людзі,
З паклона галава балець не будзе,
Хоць з самага найніжшага.

Пан Заенчкоўскі.

О, Езу!
Не выпячэш з яго ні бойкай, ні жалезам
Прыроды хамскай, як з тае быдлі!
Маўчы і кланяйся да самае зямлі,
Калі з табою, быдлём, сам пан гавора!

Гайдук (*буркнуў*).

Не разбярэш,—над намі пан каторы?
Ці пан, ці князь!

Пан Заенчкоўскі.

Ты мне пагавары!
На стайню захацеў? Ці морда даўно біта?

Гайдук.

Дальбог не ведаю, завошта пан сярдзіты.
Пакланяцца? Вось пану раз, і два, і тры!
Мне толькі бабу дай уніз адвесці,
А там магу пакланяцца раз дзвесце.

Пан Заенчкоўскі.

Ой, о-ей, зараза нелавярак
І без нажа, дурацкім словам!

(*Да Ўладзіка*).

Бі ў карак,
Гані з вачэй, каб я не чуў брыды!..
Чакай!.. Яе вядзеш завошта і куды?

Адам (*падыходзячы*).

Пшэпрашам, ясны пан, дай пану бог здароўя!
Як пану той галган, яна мне пустаслоўем
Гадзіны дзве вантробы ад'ядала
І я сказаў—завесці да падвала.

Пан Заенчкоўскі (*страшэнна абураны*).

О Езус! параўнаў сябе з вяльможным панам,
Нікчэмны хлоп! за гэта у кайданы
Самога закаваць! Чакай, прыедзе зяць!
Паскачаш, мерзкі хлоп!
(*Да Гайдука*): Старую развязаць.
Не звязана?—Пусціць!
(*Да Марыны*). Цалуй руку у пана.

Марына (*цалуючы руку*).

Удзячна пану я.

Пан Заенчкоўскі.

На векі векаў. Аман.

З'ЯВА VII

Тымчасам неўзаметку са свайго пакою вынырнуў **ксёндз Антоні** і стаў ззаду Заенчкоўскага.

Ксёндз.

Я не сказаў, пан Юзеф: „похвалёны",
А пан „на векі векаў. Аман".

Пан Заенчкоўскі (*хуценька павярнуўся да яго*).

Прабачайце—
Не бачыў вас. (*Да Гайдука і Марыны*):
Ну, галганы, знікайце!

(Гайдук, Марына, Адам і Ўладзік выходзяць).

З'ЯВА VIII

Пан Заенчкоўскі.

Я ледзьве ўстаў і рвуся, як шалёны,
Учарашні хмель сціскае галаву,
А тут хам'ё, што слова—то як вілы!
Як пойдзе так ўвесь дзень—то я парву
І валасы свае, не толькі жылы.

Ксёндз.

А вы вальней, пан Юзеф, спакайней,
Хрыстос цярпеў і не такія мукі;
Бог даў язык, але бог даў і рукі
Каб злосць сваю адводзіць на людзей.

Пан Заенчкоўскі.

У вас, айцец Антоні, ўсё цярпі!
А тут у зяця хам раз'еўся, разбазырыў,
Што шаг ступі, то цераз лоб лупі,
А не ўлупіў--глядзіш, ён яму табе вырыў!

(*Лагодным голасам да ксяндза*):

А як, айцец Антон, меў ласку пачываць?

Ксёндз.

А з ласкі бога і паноў гасподы—
Спаў як дзўно не меў выпадку спаць:
У дарозе дзе-ж шукаць спакою і выгоды?
А тут, як у раю.

Пан Заенчкоўскі.

Так, Польшча пану—рай,
Які-б той пан не быў, адкуль бы не прыходзіў.
Другой такой краіны не шукай,
Не знойдзеш, ваша мосць. На захадзе на ўсходзе
Па ўсёй зямлі—ад краю ў край
Усюды слых ідзе об нашым аб народзе:
„У Польшчы пану рай, у Польшчы пану рай!“

Ксёндз.

Тады я спаў ў двайным раю.

Пан Заенчкоўскі (*спагадліва расплыўся усмешкай*).

Ну рай на рай не шкодзе.
З анёлкам пан айцец?

Ксёндз (*смяючыся*).

Ў Езусавых гадах,
Але на п‘янага не такі велькі жах!

(*Раптам вочы ўгару, рукі склаў, моліцца*).

Прабач мне, госпадзі, грэх немашчы маёй,
Грэх слабасці і прагнасці цялеснай,
Не ўспомні іх у часе судных дней
І літаснай рукой сатры іх з кніг нябесных.

Пан Заенчкоўскі.

Айцец Антон, кінь бога турбаваць.
Не можа ён у кандуіт ўсясветны
Ўпісаць, што пан меў, скажам, ласку спаць
З сваёй рабой—то-б было не шляхетна,
А пан бог шляхціц, шляхце спагадае:
Не ўсякі грэх у кнігу пападае.

Ксёндз.

Вы слушна кажаце, пан Юзеф, далібог.
Знаць, Польшчу для сябе абраў сам госпад бог.

Пан Заенчкоўскі.

А што пан думае?
Дзе ёсць яшчэ народ,
Якому дзеўчына ў пятнаццаць год
Абняўшы мужа слабымі рукамі
За мужам абняла—заўважце—абцугамі
Два княствы—Літву і Русь*). Ого!
Няма вялікшых цудаў у бога самаго.

*) Ён нагадвае далучэнне Літвы да Польшчы ў сувязі з жаніцьбай літоўскага караля Ягелло з польскай каралевай Ядвігай.

Ксёндз.

Шляхі гасподнія няведамы і багаты,
У зброю ўсё сваю ён змог ператварыць
І рыцарскі палаш, і звонкія дукаты,
І слова боскае й дзявоцкія дары.
Хай будзе хвалена імя яго на векі
І зброя боская заступіцца за нас!
І зноў ідзе іспыту грозны час:
Кароль Жыгмонт—каб помсціцца за здзекі
Над братняю лівонскаю зямлёй,
Што чыніць цар Іван—
Ідзе на Русь вайной!
Усеслаўны Жыгімонт—ён маскалям пакажа
Шляхецтва польскага і сілу і удар!
Упэўнен я, скарыцца грозны цар—
Як войска польскае вакол Крамля абляжа.

Пан Заенчкоўскі (*аж падскочыў ад радасці*).

Віват! Ура! Я сам пайду ў рушэнне,
Адвагу Заенчкоўскіх знайце маскалі!
О, там дзе я, там слова „паражэнне“
І слова „страх“—як прывіды сплылі.

Ксёндз.

Сардэчна рад, пан Юзеф, і віншую
Вас—воіна касцёла й караля.
Нам трэба не адна маскоўская зямля,
Мы веру рымскую, адзіную, святую
На варварскі усход са зброяй панясем
І,—хай цяпер яшчэ касцёл не люб ім,
Але ад мук пякельных мы спасём
Патомства тых, каго ў баях загубім.

Пан Заенчкоўскі.

Загубім? так... загіне-ж нехта й сам...

Ксёндз.

Не без таго пан Юзеф, шмат загіне.

Пан Заенчкоўскі.

Жаніць бы нам каго—не на цару,—дык сыне,
І як Літву, Маскву прыбраць к рукам,
І менш крыві і клопату, і страху,
А пышны ўезд ў Маскву—
святы вялікі бог!

Хто-б з намі ў гэтым пацягацца змог?
Не, Польшча дала маху!
Не мог бяздзетным быць апошні Ягеллон!
І выбар жон і просьба прыснадзеве
Маглі-б дапамагчы, як мысліць пан Антон,
Ці першай, ці другой, ці трэцяй каралеве?

Ксёндз.

Малітвы маладых прыдворных і пажэй
Былі-б карысней тут і многа прыгажэй.

Пан Заенчкоўскі:

О, патэр мой, вы рымлянін і цынік!

Ксёндз.

Язык мой—вораг мой, ён цягне у грахі.

(*Вочы к небу*).

Даруй мне, пане мой, учынак мой благі
І не пазбаў мяне мілосці і святыні!

(*Да Заенчкоўскага*).

Гады са тры апостальскім трудом
Тружуся я, смірэнны і убогі,
Авечак сотні тры прывёў я ў божы дом.
А зараз я прашу у пана дапамогі.

Пан Заенчкоўскі (*хуценька*).

Каб выгнаць іх адтуль? Ахвотна адхрышчу
Я мужыкоў—работа мне па густу,
Хрысціць я не прывык,—лупцую і хвашчу.

Ксёндз.

Ды не, я вам кажу пра зяця, князь Капусту.
Яго-б адкалупіць апостальскім нажом
Ад схізмы грэчаскай—былі-б касцёлу свечы,
А грэчаскай царкве яшчэ адзін ражон!

Пан Заенчкоўскі.

Ах, пан Антон, як то-б было да рэчы!
Я, грэшны чалавек, часамі думаў так,
Навошта мужыку законы рымскай веры,
Тым больш, дзе хам—ліцвін, а пан яго паляк?
Касцёл раўняе іх—у пэўнай меры—
Ці можа думку шкодную аб роўнасці стварыць.
Вы разумееце? Нялоўка-ж ў самай справе
Ударыць мужыка (а як яго не біць?!)
Калі і ён, як ты Te Deum laudamus*) правіць.

*) „Цябе, бога, хвалім!“ (па-латыні).

Рэч іншая—паны. Ад Віслы да Дняпра
Адной дзяржаваю з'ядналы
І веры караля—айца й гаспадара—
Павінны быць прыхільны і адданы.

Ксёндз.

Пан не ўлічыў, што трэба ад Масквы
Адрозніць і народ, а не адны баяры,
Украіну і Беларусь пад прозвішчам Літвы
Вадзілі на Маскву шляхоцкія штандары.
Аднак жбан воду носіць да пары:
Парвецца тонкая шляхоцкая пачопка,
За веру ўчэпяцца маскоўскія цары,
І панаванню нашаму у гэтым краю—кропка!
Халоп тутэйшы цягне да Масквы,
Крыві і веры з ёй адной, мой пане,
А злучацца яны—пілнуйся галавы!
Шляхецтва польскага у краі гола стане!

Пан Заенчкоўскі.

А край багаты,—золата—не край!
Садзіся і грабі—на поўную лапату
Дабро і звярыну і звонкія дукаты.
Ды толькі волі хамам не давай!

Ксёндз.

Панове Рада, разам з каралём
Пра гэта моцна думаюць, варожаць,
Апошні Ягеллон, а з ім крулеўскі дом
У руцэ, як кажуць, божай.
Адложыцца Літва і прагная Масква
Да рускіх валасцей руку пацягне зразу,
Глядзіш праз год, найболей цераз два
Не будзе нам сюды ні ходу, ані лазу...

Пан Заенчкоўскі.

Злучае нас шляхоцкі прывілей,
І шляхты шмат прыехала з кароны.

Ксёндз.

З'яднаннем вер зрабілі-б мы мацней
І наш саюз і нашу абарону.
Пан кардынал нас выклікаў к сабе,
Свяцейшага айца пасланне нам чыталі,
І на сябе й на вас, паны, у барацьбе
Мы шмат чаго нязбежнага узялі:
Пранесці польскі дух да самае мяжы,
Пашырыць, як мага, свет веры каталіцкай,

Каб добрародныя літоўскія мужы
Усе выракліся вер—паганскай і мужыцкай,
Каб у літоўскі дуб, як крэмень ў старыну,
Мы шляхту польскую для вернасці ўвагналі.

Пан Заенчкоўскі.

Такім дубком, калісьці у вайну
Літвіны чарапы варожыя ламалі.
Дубкі, глядзеў я ў Яся—сваяка
У замку—у княжастве каронным—Мазавецкім.

Ксёндз.

Дык вось, каб адхіліць удар таго дубка
Ад нашых гнёзд і вольнасцяў шляхецкіх,
Павінны мы баяр і шляхту навакол
Да веры рымскае схіляць, як толькі змога.
А там Масква! і з ласкі пана бога
Усясветным стане зноў свяцейшы наш касцёл!

Пан Заенчкоўскі.

За князя, возьмемся мы сёння-ж грамадой.

Ксёндз.

Княгіню Ядзю ў зговар мы далучым,
Не возьмем ў лоб, асадаю замучым.

Пан Заенчкоўскі.

Ergo bibamus! *) Патэр мілы мой!

Ксёндз.

Ergo bibamus!

Пан Заенчкоўскі.

Владэк, вудкі!
Гурка, венгліны, сыру—хутка!

З'ЯВА IX

**Уладэк**, які, відаць, чакаў гэтага за дзвярыма (бо рабілася гэта што раніцы)— увайшоў з падносам і паставіў перад панамі гарэлку і закуску.

Пан Заенчкоўскі.

Во—залаты слуга! Жаданне папярэдзіць!
Так вывучыў мяне. Яго я хлапчуком
Аднойчы выйграў у князя ў Радзедзі,
Якому праіграў маёнтак свой і дом.

---

*) „А таму, вып'ем!" (лат).

Уладзік (*стаў на калені*).

Даруйце, пан вяльможны, б'ю чалом.

Пан Заенчкоўскі (*аж разлёгся ў крэсле*).

Ну што-ж прасі, пакуль настрой вясёлы.

Уладзік.

На шлюб прашу я панскага дазволу.

Пан Заенчкоўскі.

А з кім?

Уладзік.

З Рагінай.

Пан Заенчкоўскі.

Пакаёўкай Ядзі?

Уладзік.

Так.

Пан Заенчкоўскі.

Жаніцьба халопа—то прыбытак пану,
Адно—спазніўся з просьбай, небарак,
Я праіграў цябе заўчора князь—Івану,
У яго й прасі дазволу.

(*Да ксяндза*).

А шкода
Я меў бы стаўкі дзве: Рагіна і нашчадак.

(*Да Ўладзіка*).

Што стаў, халоп? Табе што за бяда?—
Прайграў не ты, а я! А гэтакі выпадак
Адбіць ігру я страціў праз цябе.
Вось і хвалі халопа за адданасць,
Адданы ён, пакуль ты едзеш на гарбе,
А чуць ступіў у бок...

Уладзік (*падняўся з кален*).

Што-ж, дзякуй... дзякуй пану.

Пан Заенчкоўскі.

Пашоў, хам, прэч!
Ці стой, пакліч княгіню.

Уладзік.

Яна на рэчцы з Ясем—гайдуком.

Пан Заенчкоўскі (*к ксяндзу*).

Вось пан айцец, як словамі благімі,
Што сказаны бязглуздым языком,

Як можна пасварыць княгіню з мужыком,
Княгіню з князь Іванам.
Хваліў я гайдука, здаецца, надта рана:

(*Да Уладзіка*).

Ну як не зразумець аслінай галаве
Сваім гаршком пустапарожнім,
Што так сказаць аб роўных толькі можна—
„Княгіня з Ясем“.

Уладзік (*хмура*).

Княгіня з Ясем і служанкі дзве.

Пан Заенчкоўскі.

Пашоў, дурны, яловы пень, з вачэй.
Скажы княгіні, каб ішла хутчэй!

(Уладзік выходзіць).

З'ЯВА X.

Пан Заенчкоўскі (*ніяк не можа супакоіцца*).

„Княгіня з Ясем“... Слупень брыдкі.

Ксёндз.

Прашу прабачыць, пане мой, пытанне,
Вы ў гэтым бачыце намёк які,
Што так ўзгарэліся вялікім хваляваннем?

Пан Заенчкоўскі (*аж зароў ад абразы*).

На-а-а-мёк? Хацеў бы бачыць я, мой пане,
Хто-б мог намёк такі зрабіць,
І хай ён будзе тройчы у сутане,
Я буду морду біць, я буду морду біць!!

Ксёндз.

Яшчэ раз прабачайце, пане Юзеф,
Мой сын духоўны—гнеў благі суддзя.
Тым больш што мы ў апостальскім саюзе,
Перапрасіць гатоў абразу я.

Пан Заенчкоўскі (*адумаўся*).

Прабачце, мой айцец, малю я вас сардэчна.
Гарачы, як паляк.

Ксёндз.

І як паляк бяспечны.
Гайдук той не стары?

Пан Заенчкоўскі.

Яшчэ не мае вуса.

Ксёндз.

Сабой прыгож?

Пан Заенчкоўскі.

Як д'ябал ў час спакусы.

Ксёндз.

Ну, вось і на! Аей, аей, мужчыны,
Да пекнай, як анёл, малодзенькай жанчыны
Прыставіць гайдука!

Пан Заенчкоўскі.

Ды я-ж яго зарыю
У зямлю, мой ойча, аж па шыю,
Калі пасмее ён...

Ксёндз.

Ну хто тут не пасмее?
Будзь вы ці я, мой пане добрадзею...
У пані Ядзі погляд, бож-жа-ж мой,
Як блісне з-пад брывей—любое сэрца зкосіць,
Хай абрасло яно і рыб'ею луской,
Раз блісне, два—і хлопец піць папросіць!

Пан Заенчкоўскі.

О Езус—Марыя! Пан ойча, я ў адчаю!
У князь—Івана нешта, мусіць, нелады;
Як выйшла Ядзя замуж тры гады,
А ўнука я дарэмна ўсё чакаю,
Магчыма, што...

Ксёндз.

Магчыма, усё магчыма...

Пан Заенчкоўскі.

Ах, я асёл... вось лыпаю вачыма
Замест таго, каб галаву адняць
Абідчыку! Пракляты зяць,
Ці-ж мне, старому, помсціць за абразы
Твае?.. Дарэчы, ці сказаць нам князю?
Па-мойму—не.

Ксёндз.

А што яму сказаць?

Пан Заенчкоўскі.

Як што? А, паміж іншым што?
Вось нанясло не ў добры час заразу.
Сказаў ён сказ, а што было ў тым сказу?

Ксёндз.

Адны здагадкі, ды к таму-ж пустыя.

Пан Заенчкоўскі.

Ад сэрца адлягло...
Аднак-жа і круты я.
Гатоў быў дратаваць дачку і гайдука
За слова лайдака, за слова лайдака!

Ксёндз.

Адно, пан Юзеф, стала тут прычынай:
Унука трэба вам, а пані Ядзі сына...
Малюся я...

Пан Заенчкоўскі.

... Каб не было пажэй?
Бо іх малітвы вашых прыгажэй!

З'ЯВА XI.

Чуваць песня **Ядзі**.

Na koteczka barmotanie,
Na dzieciątka znijdz drzemanie.
Ty koteczku pobarmotaj
Ty się dciecko nie szamotaj.

(Ядзя ўбягае з двара і кідаецца к бацьку).

Татка, татка, з добрым раннем.

(*Заўважыла ксяндза*).

Ой, прабачце мяне, пане,
Святы ойча—з добрым раннем!
Растлумачыла Марына—
Што я маю, тату, сына!
Свайго першага нашу я,
І ціхонька калышу я.

(*Пяе*).

Ty, koteczku, pobarmotaj,
Ty sie, dziecko nie szamotaj
Ej, koteczek, spi pzy ploce,
A dzieciątko spi we zlocie.

Пан Заенчкоўскі (*некалькі разгубіўся*).

Вось і маеш, вось і маеш...
А сама што адчуваеш?

**Ядзя.**

Адчуваю, тату, сына.

Пан Заечкоўскі.

У добры час, мая Ядвіня!

Ксёндз.

У добры час, мая княгіня.
Як прыб'еццa князь к парогу—
Аддамо хвалу мы богу.

Пан Заенчкоўскі.

Тры імшы зараз адслужым.

Ксёндз.

Аб адным мы толькі тужым,
Што пан бацька у схізме грэцкай.

Пан Заенчкоўскі.

Заенчкоўскіх род шляхецкі
Гербам красіць, верай пляміць!
Вось была-б, Ядвіська, памяць
Аб тым дню, каб ён, вясёлы—
Князь Івана да касцёла
Далучыў.

Ксёндз.

І стаў парогам
Уходу сына ў царства бога.
То было-б над цудам цуда—
Пракацілася-б усюды,—
Што яшчэ да нараджэння
Бацьку сын прынёс збавенне.

Пан Заенчкоўскі.

Бацьку стаў хрышчоным бацькам.
Сам не будучы хрышчоным.
Вось загадка ўсім вучоным—
Паспрабуйце адгадайце!

Ядзя.

Татка мілы, татка любы,
Няма справы мне да Йвана..
Ў кабалу я вамі аддана,
Не люблю я маёй згубы.
Хай ратуецца ці гіне,
Хай жывы аддасца тленню,
Не скрану я і мізінец
На карысць яго збавення.
Вы жадалі, каб пайшла я
За Івана. З вашай волі
Я не выйшла, хоць ніколі,

Не любіла, не магла я
Палюбіць яго. А грошы
Вы любілі.

Пан Заенчкоўскі (*агорчана*).

Дзякуй, дочка!
Стаў і бацька нехарошы.

Ядзя.

Ах, пакіньце. Я сыночка
Нараджу сабе малога,
І не трэба мне нікога.

(З песняй—па ўсходках узбягае на другі паверх і знікае за дзвярыма свайго пакою. Чуваць толькі:

Moje dziecko spi we złoce,
a koteczek spi przy płoce!

(Ксёндз правёў вачыма стройны стан княгіні, але зараз-жа вочы ўніз і ўдваіх з Заенчкоўскім па-старыкоўску падымаюцца па сходках за княгіняй).

## З'ЯВА XII

Ксёндз (*з дакорам*).

Збалавалі вы дачушку,
Ўзгадавалі непаслушку.

Пан Заенчкоўскі.

Хто дзяцей сваіх балуе,
Той пятлю сабе рыхтуе.

Ксёндз.

Ды яно к таму выходзе,
Мондры поляк, ды па шкодзе.

(Выходзяць).

## З'ЯВА XIII

Уваходзіць задуманы **Ясь**, напяваючы пад нос песню:

„Ляцеў воран цераз мора
Ды стаў галасіці,
Ой як цяжка убогаму
Багату любіці.
З'ездзіў каня вараненькага
Ездзючы з паклонамі,
Стаптаў боцікі казловыя,
Ходзячы з упросамі.
Змяў я шапачку бабровую,
Перад ёй здымаючы,
Змачыў хустачку шаўковую
Слёзкі выціраючы.

„Мой сын—сын князя! помні ты, гайдук!“
Сказала мне з пагардаю пышліва...
Здаецца мне—паветрам паміж рук
Яна знікае, як прывід, як дзіва.
А ці ж паветра льга рукамі утрымаць!
Не нацалуешся ўдагонку за дзяўчынай.
Адно яе прымушу я сказаць—
Ці **хто** ці **што** з'явілася прычынай.

(Памкнуўся ісці—насустрач яму бацька **Адам**).

З'ЯВА XIV

Адам.

Стой, Ясь! Ты чуў пра навіну?
Цяжарна пані.

Ясь.

Ну...

Адам.

Што ну?
Як быццам ты у гэтым не прычым!

Ясь.

Ды радавацца нам не бачу я прычын.

Адам.

Дзіцё яе навек з табою звяжа.

Ясь.

Ці ланцугі у падзямеллі княжым.

Адам.

На ланцугі хай знойдзецца другі,
Мне надаеў мой стан адданага слугі.
Паслухай, Ясь,—сачы ты за Марынай.
Сягоння дзень і ноч, каб не спусціўшы з воч
Ты пас яе хвіліну за хвілінай.

Ясь.

Чаму?

Адам.

Таму... Ідзе яна—схініся проч. *(Ясь знікае).*

З'ЯВА XV

Уваходзіць **Марына**

Марына.

Яшчэ апошні дзень і прыме ў свой спакой
Душу маю зямля, калі адмовіць неба.
Хай радуецца князь.

Адам.

Марына, стой!

Марына.

Якая ў ката да мяне патрэба?

Адам.

А ці не рана, ведзьма, ты
Святкуеш перамогу?
Княгінін сын—
яно вядома богу,
Табе і мне,
княгіне й Ясю—
Не знішчыць твой аброк
Аб лютай помсце князю
Зарэжаш ты дзіця,—яго спаткае бог—
Бязвінную ахвяру—
А за яго
Ён Васіля твайго
Скарае лютай карай!

Марына.

Кат, не брашы! Свайго паберажы
Ты сына:—ходзіць на брыжы,
Няровен час—і брыжык абарвецца,
А кат стары бяздзетным астанецца.

Адам.

Змяя!

Марына.

І змей!

Адам.

Дажджэшся ты расплаты.

З'ЯВА XVI

Ясь (*хутка ўваходзіць*).

Пад'ехаў пан, выходзіць на ганак, тата!

(Адам і Ясь выходзяць на ганак. Марына знікае ў людскую. Сцэна—некаторы час пустая).

З'ЯВА XVII

Уваходзяць князь **Капуста**, пан **Бобаецкі**, яго **пісар**, **Адам і Ясь**).

Князь Капуста.

Вось пан суддзя, пан пісар, ваш пакой.
Памыцца, Ясь!

Суддзя.

Крынічнаю вадой.

Ясь.

Ў хвіліну, пан суддзя!

(Выходзіць і праз нейкі час варочаецца з вадой, дзяўчына за ім нясе рушнікі).

Князь Капуста (*да Адама*).

Абед гатоў?

Адам.

Гатоў напэўна: кухар наш старанны.

Суддзя.

Не, князь Капуста, есці надта рана.
Я дзецкага паслаў учора—мужыкоў,
Што скардзіліся мне, у двор прывесці.
Раней іх справы разбяром,
ну а патом
Ї будзем піць, і будзем есці,
Ї адчуваць сябе гасцём!

Капуста.

Як воліць, пан суддзя.
Гатоў заўжды к паслугам.
Што скажаце—спаўняць, такі загад даў слугам,
Ї буду вельмі рад, калі звычай старынны
Я выканаць змагу—прыняўшы вас гасцінна.

(Суддзя і пісар ідуць у пакой, за імі князь Капуста. Аднак яго спыняе Адам).

З'ЯВА XVIII

Адам.

Князь, што гасцям затрыманым сказаць?

Капуста.

Да дзьябала пасла́ць!

Адам.

Узяўшы мыт, ці проста так без мыта!

Капуста.

Не, мыт узяць!

Адам.

Мне войт казаў... нібыта...

Капуста.

Нібыта што?

Адам.

Ды госці нашы—юды:
Ачмучваюць сялян... пра пана перасуды...
Пра волю, пра мяцеж...

Капуста.

Дзе атаман?

Адам.

Я затрымаў.

Капуста.

І не пускаць нікуды!
Хай пагасціць. Каб быў і сыт і п'ян,
А там пабачым.

Адам.

Ды яшчэ Марына...

Капуста.

Э, справа хатняя, абсудзім без суддзі—
За доглядам гасцей сам пільна даглядзі.

(Пайшоў у пакой да суддзі. Адам пайшоў у людскую).

З'ЯВА XIX

(Зверху спускаецца ксёндз і накіроўваецца на ганак напяваючы).

Twoja kosa rozczesana,
Jako brzoza przyodziana,
Twarz, jak kwiatki pomieszane
I liljowe i różane,
Brwi wyniosłe i czarniawe
Usta twoje koralowe
Piersi jawne... piersi jawne...

З'ЯВА XX

Дзецкі (*увальваецца, аціраючы пот*).

Прывёў я мужыкоў, ды ў замак толькі трое
Згадзіліся ісці, а іншых нават боем
У замак бы не ўвёў,
Такі вялікі жах на іх пан-князь навёў.

З'ЯВА XXI

У пакой уваходзяць князь **Капуста**, суддзя—пан **Бобаецкі** і **пісар**.

Суддзя (*да Капусты*).

Кажу я, пан Капуста, скаргаў шмат
На вас і на людзей на дворных у народзе,
Без скаргі дня, здаецца, не праходзіць

Ї госць, і дваранін і хлопчык-торбахват
У голас выюць, ўспомніўшы „Бярозу“.
Навошта-ж ціснуць так, каб стогн кругом ды слёзы?

Капуста.

Што слёзы, пан суддзя?—Салёная вада
Яны—не пот, бо льюцца-ж без труда,
Ну, а купляць за іх, бывае, што й купляюць
Жанчын, папоў і тых, што розуму не маюць.

Суддзя.

Ну так-то так, а дзе-ж гаспадара
Траціна, князь? касцёлу дзесяціна?
Ї дворні чынш? Ї з кожнага двара
Падатак скарбовы і усё як ёсць па чыну?

Капуста (*свіснуў*).

Цю-цю, мой пан, а збеглых у шышы
На сто дымоў душ сотню запішы.
Хай ловіць іх урад, бо збеглі-ж не пры мне,
А ловіць ён іх?—Не. Ён ловіць блох ва сне!
Чым вінен я? Я даў гаспадару
Дванаццаць тысяч коп—ўсё золатам, мой пане
Ї даў я іх у цяжкую пару,
Калі рубель другі рубель праз год дастане.
Я дам яшчэ, як пойдуць на вайну
Дык што з таго,
калі каго
я трохі ціскану!
Убытак вам, дзяржаве, каралю?
Не, пане мой, я спрэчак не люблю:
У замку—я кароль, ў сяле—я гаспадар.
Няма ў мяне гуляшчых і пахожых,
За працай ўсе, як пчолы з вулляў божых,
А я стаю над імі, як пчаляр.
Што добрага з таго, што бегаў селянін
Ад пана к пану па начах, як злодзей?
Палеткаў не гнаіў, расціў адзін палын,
Кароў не гадаваў, валы і клячы зводзіў.

Суддзя.

Усё гэта так, мой любы князь Капуста,
Ды скаргі сыплюцца, як град той часта-густа.

Капуста.

Хай скардзяцца, суддзя! калі на добры лад,
Стаў весці я ў маёнтках гаспадарку,
Пры мне хто цягавіт, той будзе і багат,

Хто працавіт, той будзе мець і скварку,
А калі хочаш, то да скваркі чарку.
А хто гультай—не гневайся, не пан,
Аддай маё—сам пухні на мякіне,
Прадай армяк, прадай, як ёсць, жупан
І прывучыся грошы мець у скрыні.

(*Адчыняе дзверы ў суседні пакой*):

Эй, дзецкі, ну, заводзь,
Хто з скаргамі прышоў на пана князь-Капусту.
Заходзь, дзядок, а ну заходзь—
Хачу я паглядзець, як людзі едуць з глузду.

З'ЯВА XXII

Уваходзіць **стары селянін**, з кійком і торбачкай, адзеты бедна, босы. Ён пакланіўся панам, перахрысціўся на абразы.

Селянін.

Добры дзень дай бог, паночку,
Каб твае свяцілі вочкі,
Каб ты праўду-матку ўбачыў
У лахманах маіх жабрачых.
Ад свайго былого пана
Збег я ноччу, як звычайна
Да іх міласці без звозу—
(Быў згавор у нас, мой пане.)
З возам, толькі на світанні
Мы дапёрлі да Бярозы—
Гайдукі тут нас спаткалі
І да ніткі абабралі.

Суддзя.

Ну, да ніткі?

Стары селянін.

Усё да ніткі,—
Свецім усе мы голай лыткай.
Два валы было ў старога—
Першы чорны, крутарогі,
А другі лабаты белы,
Быццам выбелены мелам...
Узялі тых валоў, сабакі,
„Гэта, кажуць, у падзяку
Ад цябе Капусце, пану—
Што ты стаў яго падданым“.
Я прасіўся: усё вазьміце—
А валоў маіх вярніце:
Без валоў які-ж араты,
Не наробішся лапатай?

Суддзя.

Не вярнулі?

Стары селянін.

Не, аддалі.

Суддзя.

Ну, кажы, што было далей?

Стары селянін.

Напісалі штосьці ў кнігу,
Ўзялі грошы за фатыгу.
І чытае з іх каторы:
„Князь валоў уласных дорыць
Пару сівых“.
Як я глянуў
На валоў і сэрцам звянуў:
Мой Жучок абмазан мелам—
Стаў не чорным і не белым,
Мой Лабач упэцкан ў сажу—
Дорыць князь мне іх—ці мажа
Маім маслам мае губы.
Заступіся, пане любы.

Суддзя.

Дык валы-ж табе аддалі.

Стары селянін.

Ды за іх распіску ўзялі;
Быццам я валы сівыя
Узяў у князя.

Суддзя.

Дождж памые,
Калі сам на перавозе
Не памыў ты іх ў Бярозе.

Стары селянін.

Як „не мыў“—памыў, паночку!
На вялікадня сарочку
Гаспадыня так не мые...
Плачу я, старая вые,
Гайдукі-ж смяюцца, кажуць:
„Усе-ж валы твае сівыя,
Хоць і змыў ты мел і сажу“.

Суддзя.

Гайдукі пажартавалі.

Капуста.

Крыжык твой даўно парвалі.

Стары селянін.

Ох, не веру я, не веру,
Дайце мне назад паперу
З маім крыжам.
(*Да суддзі*) Ясны пане,
Людзі сведчуць—князь абмане.

Суддзя.

Што ты клепіш дзед на пана!
Што ты жарты строіш, п'яны?
Запішы, пан пісар, гэтак:
„У прысутнасці трох сведак,
Князя п'яны смерд абразіў—
Адпісаць валоў на князя“.

Стары селянін (*з дакорам*).

Дзе ж ты праўду дзеў, паночку?
У каго пазычыў вочкі?
Што глузуешся над богам?

Суддзя.

Дзецкі! вывесці старога!

(Дзецкі выштурхвае старога і ўводзіць **Старую**)

З'ЯВА XXIII

Старая.

Быў год галодны. Мой Якуб
У той год прадаўся ў замак дворны.
Аслаб Якуб. Памёр закуп*)
На працы панскай каля горна.
Па ім закупам стала я;
Дачку малую ратавала
І год пятнаццаць я штодня
На панскім полі працавала.

Жыццё-бяды не правярнуць,
Бывала—разгавецца нечым,
А шчочкі Машы—аж цвітуць,
А голас Машы—аж шчабеча,
Дзе Маша, князь?

*) Закуп—г. зв. селянін, які станавіўся нявольным за нявыплату пазыкі.

У свае муры
Ты, як крумкач, занёс дзяўчыну
І без крыжа і дамавіны
Пяском засыпаў у віры.

Суддзя.

Што? утапіў? сам князь? хто бачыў?

Старая.

Відаць і бог таго не бачыў,
Не змог бы богам быць іначай,
Каб бачыў бог і не памог.

Суддзя:

А-а-а, самазгубства!..
Што-ж, бядача,
У жыцці і смерці волен бог.
Паплач, лягчэй на сэрцы з плачу.
Ну, дзецкі, спагадай нязрачай—
Перавядзі цераз парог.

**(Дзецкі выводзіць жанчыну, яна плача. Уваходзіць—Дзед Ксаверый і два селяніны).**

З'ЯВА XXIV

Сяляне.

Б'ем чалом усім сялом
На дзяржаўца ад народу.
Князь Капуста чыніць шкоды
Не знясеш,—хоць будзь валом.

Першы селянін.

Ды якім валом?
— жалезным...

Другі селянін.

Кожны ляды ў пушчы драў,
Ляды князь у нас адрэзаў,
Пот крывавы адабраў.
Князь зямлю нам перамераў,
Па лугах і па раллі
Выйшлі мы з тае памеры
Напалову як былі,
Панскі-ж вор узрос без меры.

Межавыя нашы знакі
Князь у пушчах залысіў,
Пацяробы і дзялянкі
Ці спраціў, ці пакасіў,
Дрэва бортнага палову
Як злізаў хто языком.

Першы селянін.

За мужыцкае здароўе
Князь частуецца мядком.

Дзед Ксаверый.

Зараз ў пушчу не ткні носа,
Ні ваверкі, ні ваўка
Не заб'еш без іх дапроса,
Бо глядзіць асочны коса
Чуць не з кожнага ляска.

Другі селянін.

Не паваліш сам на ўзлессі,
Калі хочаш, пару пней.

Дзед Ксаверый.

А за працай хоць ты трэсні,
Не хапае ў бога дней,
Задыміла дымаўшчына
Чуць не кожны божы дзень.

Першы селянін.

Лют наш князь на дармаўшчыну
І не ласкаў да людзей.
З той пары, як землю паша
Гарапашнік-селянін
Ад дзядоў і продкаў нашых
Не было такіх навін.

Дзед Ксаверый.

Не было, ды й мо' не будзе,
Хоць лажыся й памірай.

Селяне.

— Што мы? Людзі ці не людзі?
Старыну нам, князь, аддай!
Хопіць гвалту, хопіць здзеку,
Хопіць поту і крыві.
Людзі, князь, мы, чалавекі!
Не губі нас, не даві.

Капуста.

Сытых воч няма на свеце,
Сэрца сытага таксама.
На маёй зямле жывеце
мяне-ж ясцё вы, хамы!

Але мала! дай вам замак,
Дай вам лягы, дай вам пушчу.
Вы-б і губ не аблізалі,—
Усё-б маглі зубамі струшчыць...
Хопіць, хамы, лапці плесці.
Не хацелі жыць вы ціха,
Вось я вам наважу ліха,
Скольki кожнаму панесці!

Дзед Ксаверый

Князь, тапельцу дождж не страшны,
Як і голаму—рабунак.
Пан суддзя, на скаргі нашы
Хочам чуць мы паратунак.

Суддзя.

Паратунак—у пакоры,
Паратунак—ў добрай працы,
Узаемныя дакоры
Не памогуць справе, братцы.
Ты сыноў, старэнькі, маеш
І, напэўна, звадку-свару
Па-бацькоўску ўшчуняеш?
Сварка ў хаце—горш пажару.
Як-жа пану не злавацца?
Ён, бач, ладзіць гаспадарку
Як для вас найлепей, братцы.

Ксаверый.

Ладзіць ён у нас на карку
Ды для нас ярмо, васпане,
Тут сляпога не абманеш.
Кажа Тэкля, што у пекле,
Абцярпеўшыся, нічога
Можна жыць, а тут горш пекла,
Насланнё ад духа злога!
Мы-б слупы даўно пасеклі,
Зрылі-б ўсе капцы да бога,
Зацясалі-б знакі ў пушчы,
Па дзядоўскім старым знакам,
Сеў бы пан наш заграбушчы,—
Князь Капуста—дробным макам,
Каб не зналі, што сабраўся
Пан суддзя да нас у госці.
А ўзналі—і падаўся
Наш народ да вашай мосці,
Да суддзі, за праўдай шчырай,
Каралеўскай праўдай, пане.

Суддзя.

Запішы, пан пісар, вырак:
„Дня і года... нам сяляне
Вёсак князя... скаргу далі...
На дзяржаўцу... чыніць шкоды,
Ўзвёў навіны й невыгоды...
І пры гэтым паказалі
На сябе, што скопам, сходам
Мяркавалі бунтавацца,
Межы нішчыць самапраўна,
Скасаваць памер дзяржаўны,
А таму... каб нам дазнацца
Хто зачыншчык гэтай смуты—
Ўзяць пад варту і закутых
Пераслаць да ваяводы“.
Што зачухалі бароды?
Дзецкі! выкліч сюды варту!
Што, дзядок, ты думаў жарты?

Дзед Ксаверый.

Не, панок, я ведаў зразу:
Бог прынёс да нас заразу.
А пакуль заразы жывы,
То датуль і цягнуць жылы.
Ці са скаргаў, ці з малебнаў
Нам наедак, бачу, малы.
Яны мусіць так патрэбны,
Як майму валу цымбалы.

Суддзя.

Дык, мо‘ ўзялі-б чалабіцце
Вы назад? А пан даруе
Вам абразу, папрашу я.

Сяляне.

Не, любіце-не-любіце,
Пойдзем мы да ваяводы:
Цалавалі крыж народу—
Не прадаць братоў і матак
Ні за страх, ні за дукаты.

Дзед Ксаверый.

Шкода вось, сцягнула трасца
Папа рыжага так рана
Сюды ў замак князя-пана:
Не маглі дастаць прычасця.
Можа-б, пан суддзя, быў ласкаў,

Падаслаць папа ў вязенне,
Даць грахоў нам адпушчэнне,
Мо' бяду-б бог адкараскаў.

Суддзя.

Ну, як знаеце. Я-ж раю
Справу з панам скончыць мірам.
Дзень-другі яшчэ счакаю,
Вы-ж падумайце, старыя,
А ці варт' сядзець у казні
Ї карміць з-за спрэчак блохі?
Пасадзі іх, дзецкі, ў лазню,
Разумней, мо', стануць трохі.

(Дзецкі вывеў і гэтых трох сялян).

З'ЯВА XXV

Суддзя.

Што вы скажаце на гэта,
Князь Капуста? Перад светам
Скоры спех—заўжды на смех.

Капуста.

Не спяшаліся баяры,
Бацька, к прыкладу, нябожчык
Меў і сёлы і абшары.
Але з той вялікай плошчы
Грош к яму не йшоў, а плакаў.
Ну а двор, знаёмствы, Кракаў—
Гэта, пане, прапалошча
Ї скарбёнкі і свіронкі
Ї самога і малжонкі,
Як ніякі ў свеце дожджык.

Суддзя.

А дзе-ж выйсце?

Капуста.

Або—або!
Ці залезці ў глуш, як жаба
Ў твань балота, мірна квакаць,
Ёсці, спаць, сварыцца, плакаць
Ці паставіць двор, як трэба,
Не зважаючы на клопат,
Ні на слёзы, ні на ропат,
Каб радзіла грошы глеба,
Каб яны плылі ў таварах

У мой замак, аж з-за межаў.
А тады—і герб на вежах,
І віно ў заморскіх чарах!

Суддзя.

Залатыя пана словы,
Толькі трэба ўсё-ж пацiху,
Бо народ настроен ліха.
Дзе-ні-дзе парадак новы
Так спаткалі, князь Капуста,
Што у замках стала пуста.

Капуста.

Што-ж, бывае, добрадзею,
Хам, як быдла, ашалее.
Толькі гэта ўсё-ж не знача,
Быццам трэба іх, быдлячай,
Патураць, мой пан, натуры.
Трэба біць, пакуль са скуры
(Хай сабе з душою разам)
Дух крамольнае заразы,
Прагнасць панства над панамі
Не павыпетрыцца ў хаме.
Пад уласным будзеш дахам
Мець спакой без перашкоды,
Калі панскія выгоды
Абгародзіш хамскім страхам.

Суддзя.

Толькі трэба па закону.

Капуста.

Не такі мужык-варона,
Сам ён ведае, што возіць
Кожны чорт на свой млын воду,
Ды і сам зарве у шкоду,
Калі зручны міг знаходзіць.
Не закон—калі без сілы,
Той закон—што сілу мае
І рука адсохне тая,
Што здабычу выпускае.
Вось вам прыклад. Нам у ногі
Слёзна плюхнула старая
Каля ганку. Від—убогі,
А яна дзяўчыну мае,
Не дзяўчынка, а малінка!
Прыгажэйшая з прыгожых,

Станам гонка, як сасонка,
Косы—хмары ў небе божым,
Вочкі—бліскаўкі, а бровы—
Маладзік двайны, бабровы.

Суддзя.

А з прыгонных, ці з пахожых?

Капуста.

Бацька быў калісь ў прыгоне,
Зараз зволены указам.
Дзе-ж—ці ў сіле, ці ў законе—
Мне яе шукаць сягоння?

Суддзя.

У абодвух, пане, разам.
Выдаць замуж—добрай воляй,
Ці праз старую—прынукай,
За таго, хто хлеба—солі
Дастае у вас дакукай.

Капуста.

Способ гіблы і ужыты.

Суддзя.

Усякі способ знаць не худа,
Як не возьмецца на жыта,
Залатой навудзіць вудай.

Капуста.

Способ гэты к чорту ў ступу.

Суддзя.

Ну, як воліце. Хто-ж будзе
Той жаніх? мо' ён ў закупы
Ex officio—заблудзіць.

Капуста.

Хто жаніх?
Адам! Ці чуў ты,
Хто дачку Прузыны сватаў?

Адам.

Наш каваль, удавы Агаты сын.

Капуста.

О, сцервы, шалапуты!
Мне ні слова! Кліч Марыну!
Два гады жыла ў Агаты

Пасля казні яе сына,
Яна ведае іх хату,
Хто адкуль, і што.

Адам.

Марына
Дзень апошні трызніць стала,
Сам я чуў, з памершым сынам
Тры гадзіны размаўляла.
Ей здаецца...

Капуста.

Хай здаецца—
Ёсць загад і выкананне,
У замках здавён так вядзецца.

Адам.

Навіна ёсць, ясны пане,
Панясла княгіня сына.

Капуста.

Па-няс-ла? чыйго, якога?

Адам.

Зацяжарыла княгіня.

Капуста.

Хто сказаў?

Адам.

Марына ў ранку
Ей гадала.

Капуста.

Кліч Марыну!

Адам.

Мо' княгіню! ясны пане?

Капуста.

Кліч Марыну, хам!
(*Да суддзі*) Пакіну
Вас, прабачце, на хвіліну.
— Дваццаць год маліў я бога,
Абдарыў старцоў убогіх—
І капліцы і касцёлы,
Цэркві, кірху, нават школы,

Каб паслаў мне бог наследдзе,
Каб не здаць ў чужыя рукі
Плён жыцця майго і мукі.
— Пан суддзя, ну як уседзець
Навіну пачуўшы гэту?!
Не!—сабраць усіх суседзяў—
Раззваніць па цэлым свеце!
Хто прыедзе, ці прыходзе
Утапіць у хмельным мёдзе!
Ой, задам работы цесцю.
(Ён мастак і піць і есці
Збор—дружынаю і з густам:
Тры двары прапіў ў Пазнані).
Хай балюе ўсякі званы
І незваны у Капусты!—
Князь-Капуста не шкадуе—
Мёду-піва на пачосткі—
Толькі бог няхай гадуе
Роду дрэўняга адросткі! *(хутка вышаў).*

З'ЯВА XXVI

Суддзя.

Як ўзгарэўся, як узвіўся
Быць бязвусы малайчына,
Што паўгода як жаніўся—
На'т забыўся пра дзяўчыну.
Патурбуйся, пане пісар;
Войт з папом стаяць на ганку.
Клікні іх—чакаюць зранку—
Войт сказаў—а пан забыўся.

Пісар.

Пан суддзя, гасцёва вока
Бачыць многа і глыбока.

З'ЯВА XXVII.

Уваходзіць **Марына**.

Суддзя.

Ты Марына?

Марына.

Я Марына.

Суддзя.

Князь Івана...

Марына.

— Гадавала.

Суддзя.

Ты сказаць суду павінна
Шчыра праўду. Пражывала
Ты ў Агаты?

Марына.

Пражывала.

Суддзя:

Хто быў муж тае Агаты?

Марына.

Пана Дулі быў падданы.

Суддзя.

Хто пан Дуля?

Адам.

Небагаты
Шляхціц—выпатрашаны панам
Князь-Капустай—над адною
Над сваёй цяпер душою,
Тут ён пан, жыве у грыдні—
Князь давёў яго да злыдні.

Суддзя.

Так, а муж тае Агаты?

Марына.

Ен сканаў,—яна-ж брухатай
Павярнула к бацьку ў хату
І радзіла сына вольным,
Толькі й радасці бяздольным.

Суддзя.

Так, так, так. Паклічце Дулю.

З'ЯВА XXVIII

Уваходзіць поп, ксёндз і войт.

Ксёндз (*к папу*)

Вы, калега, пэўна чулі

Пра Платона...

Поп.

Што з-за рэчкі?

Ксёндз.

Не, філосаф старагрэцкі,
Хоць ён веры быў паганай,
Ён казаў...

Поп.

*(унікаючы размовы, да суддзі).*

Дзень добры пану.

Ксёндз.

Пан суддзя? Пан Бобаецкі?
Божы служка—ксёндз Антоні.

Суддзя.

Я начуты, святы ойча,
Аб жыцці, аб вашым: тройчы
Біскуп вас хваліў з амбона
За апостальскую працу.

Ксёндз.

Чым нам грэшным выхваляцца.

Суддзя.

Не скажыце...

Ксёндз.

*(знаёмячы з папом суддзю).*

Мой калега—
Падбярэзскі поп Цялега.

Суддзя.

Вельмі рад, і рад быў знаць я,
Што жывеце вы, як брацця—
Мірна дзеліце прыход.

Поп.

Ім даходы, мне—народ.
Дзякуй пану князь-Капусце—
І пакуль ён не папусціць
Царкаў божую ў абіду—
Мы сядзім, як тыя гніды.

Ксёндз.

Фі, калега, як то можна
Параўнаць прыхожан божых
З нейкай гнідай—вам жа ў стыд.

Поп.

Каб не стыд, то быў-бы сыт,
Быў такі-б, як ксенджа, тлусты.

Суддзя.

Кіньце поп на сварку змусты—
Тут вы ў замку князь-Капусты,
А не ў царкве з мужыкамі.
У прыходзе ёсць Агата?

Поп.

Ды у нас Агат багата:
У кожнай хаце па Агаце.

Войт (*услужліва*).

Пан суддзя гаворыць з вамі
Аб Рыгоравай, аб маці,
Мне здаецца...

Суддзя.

Хай здаецца!
Яе сын дзяўчыну сватаў
І вяселле блізка жджэцца.—

Поп.

Ну, то ведаю Агату.

Суддзя.

Спавядалі?

Поп.

Ды штогодна.

Суддзя.

Князь дачуўся:—верыгодна,
Вы сказалі,—што Агата
Не прышла дамоў брухатай,
А радзіла сына ў Дулі.

Поп.

Князь-Капуста гэта чулі?

Войт (*услужліва*).

Я даводзіў гэта пану—
Войт, іх светласці аддань.

Суддзя.

Што на споведзі...

З'ЯВА XXIX

Уваходзіць **Дуля**.

Дуля.

Я—Дуля.
Маю гонар быць пазваным—
Яго светласцю і панам.
Толькі звычай мой, каб глотку
Мне прамылі моцнай водкай—
Без таго і чуць не чую
І нямею начыстую.

Суддзя.

Даць кілішак.

Дуля.

Дзякуй, чую.

(Адам падносіць гарэлку, Дуля п'е).

Суддзя.

Вы маёнтак, кажуць, мелі?

Дуля.

Ды трымаць яго не ўмелі.

Суддзя.

А гадкоў назад з дваццатку
Прывяла раба дзіцятка,
Паву Дулю, ды й якое!

Дуля.

Што вы, пане мой, ну што вы?
Ды к таму-ж яно памерла.

Суддзя:

Прамачыце пану горла.

(Адам падносіць, Дуля выпівае).

Не памерла, а жывое
Дзяцюком стала здаровым,
А рабу зваць, пан, Агаткай.

Дуля.

Не, панок, мне не ўздагадкі.

Суддзя.

Даць кілішак.

Дуля *(выпівае)*.

Чуць—чуць помню.

Суддзя.

Даць другі.

Дуля *(выпівае)*.

Яснее ў глуздзе.

Суддзя.

Даць апошні.

Дуля *(выпівае)*.

Усё прыпомніў.

Суддзя.

Вы прадалі князь-Капусце...

Дуля.

Усё, мой пане, да кашулі.

Суддзя.

Ну, вы вольны, пане Дуля.

Дуля.

А кіёчак на дарогу?

Суддзя.

Даць кілішак.

Дуля *(прымае кілішак)*.

„Padam do nóg“.

### З'ЯВА XXX

Уваходзяць: князь **Капуста**, пан **Заенчкоўскі** і княгіня **Ядвіся**.

Капуста.

Пане цесцю, рэй вам весці!
Насклікайце на дажынкі—
Ці з якой другой прычыны,—
Заўтра-сёння вечарынкі,—
Усіх, хто сышчацца на месцы
З шляхты нашай навакольнай!
Хай сын будзе хлебасольным
Да народжання.

Суддзя.

Княгіня,
Вам ад сэрца віншаванне,
Князь клапоціцца аб сыне,
А каб бог пачуў жаданні
Усіх мужчын, хто пані знае,
Ён бы даў дачку напэўна:
Хай красой, як маці,ззяе,
Каралеве—каралеўну.

Ядзя.

Дзякуй, пане мой.

Ксёндз.

Малебны...

Поп.

У царкве.

Ксёндз.

І ў касцеле.

Поп.

Мы адслужым—

Ксёндз.

Гімн хвалебны...

Ядзя *(ксяндзу)*.

Дзякуй, пане мой вялебны.

Ксёндз.

Мы-б адно усё хацелі,
Каб пан Ян пабыў ў касцеле...

*(Да папа)*.

Пан Цялега, вам дахаты
Не пара?

Поп *(у бок)*.

О чорт брухаты!

*(К князю)*.

— Сёння, проста па абедзе,
— Хай у царкаў пан пад'едзе,
Мы адслужым літургію
За прыплод і за княгіню
І не горай, як другія.

(Паглядзеў на ксяндза і вышаў, за ім войт).

З'ЯВА XXXI

Заенчкоўскі.

Эй, Адам, віна і хмелю
Можа-б мы, панове, селі?

(Усе селі, тым часам слугі накрываюць стол пад наглядам Адама).

Ксёндз.

Бог усясільны творыць цуды,
Дождж ў пустыню пасылае—
Ад бясплоддзя вызваляе,
Вымагаючы ад люду
Йімя святое яго славіць
І праўдзіва мольбы правіць.

Капуста.

Ойча мой, ізноў пра веру—
Ды не маю я намеру
Род бацькоў сваіх няславіць.

Ксёндз.

Наш кароль і князь літоўскі
Вымагае аб'яднання
Душ і зброі.

Капуста.

Не вызнання!

Ксёндз.

Ён вядзе на стан маскоўскі
За штандарам каталіцкім
Свае войскі.

Капуста.

Ён баіцца—
Што схізматык будзе біцца
Не на поўную сякеру?
Не, мой ойча, тут не вера—
Вырашаюць прывілеі,
Дзе каму найлепей, дружа.
Цар Іван баяр падужаў—
Стаў трапаць іх на кудзелю—
Толькі пыл кругом курыцца,
Ну, а смерці ўсяк баіцца,—
І бягуць ў край каталіцкі.
Так ці не?

Ксёндз.

Хай так.

Капуста.

У нас-жа
Шляхта высшы слой ў народзе,
Дуля мой хай „вэто“ скажа—
Сойм ратунку не знаходзе.
Для паноў яно не блага,
І хацяя дакучыць звяга
І разбэшчанасць часамі—
Усё-ж ў Маскве, судзіце самі,
Нам не лепш, а горш жылося-б,
І, калі-б тут утраслося
Вервызнаўчае пытанне,
Вось было-б і аб'яднанне.
Мы у царкве, вы ў касцеле.
Пан суддзя, вы-б як глядзелі?

Суддзя.

Усё-ж, пан Ян, ксёндз праўду кажа,
Узяць Маскву...

Капуста.

Не сіла наша.
За спіной Масквы раздолле,
Горы, стэпы і прыволле,
Абаперці ёсць дзе спіну—
Ёсць дзе выламаць дубіну,
Размахнуцца у прасторы—
І прабіць на захад к мору
Трон, што зробіць позна—рана
Не Іван, дык сын Івана.
Што-ж яму працівастаўім?
Сойм хвалслівы у Варшаве?
Не, Масква нас можа спляжыць,
Калі будзе „вэто“ княжыць,
Калі мы ў сябе парадкі
Не наладзім. Кінем звадкі—
П'ю за сына. Піце госці
Віват пані, яе мосці!

Усе.

Віват пані, яе мосці!

Капуста *(заўважыў Марыну і да яе).*

Эй, старая—даць ёй чару—
Вялічай старым звычаем.

(Адам падносіць ёй чару, а сам, як мага, знікае).

Марына.

Дзякуй, ўладар наш і бацька шчаслівы:
Чарку падняць мне?
А што ў ёй наліта?
Кроў тых дзяцей, што ў падвалах ліліі вы,
Ці матчыны слёзы па іх, па забітых?
Ўзняла я чарку над сынняй магілай,
Ды толькі наліць яе думала маці
Кроўю, што з сэрца твайго, князь, шчаняці,
Пан уладар наш, і бацька шчаслівы
Вось мая чарка (вымае нож), даю табе, пане,
Хай прыгадзіцца ў ліхую гадзіну—
Сын гайдука, што народзіцца ў пані,
Мне не заменіць твайго, княжа, сына.
Ты сам перарэжаш нажом яму жылы,
Як родзіцца сын твой у Ярся з княгіняй,
А зараз прымі віншаванне Марыны,
Княжа, ўладар наш і бацька шчаслівы.

(Магільнае маўчанне. Княгіня, амаль непрытомная, крычыць).

Ядзя.

Яна звар'яцела! Не верце, не верце!

Марына *(неяк паднялася, вырасла)*.

Клянуся я сына адпомшчанай смерцю,
Клянуся—спакоем жаданым магілы,
Клянуся я пеклам, што ў сэрцы насіла
І вам перадала—я праўду сказала.

Суддзя.

А доказы дзе?

Марына.

У яе пад пярынай
З вяровак драбіны
І пояс расшыты,
сягоння забыты.

Суддзя.

Прынесці.
Хто знае?

Марына.

Ніхто апроч бацькі Адама.

Князь.

Прывесці звязаўшы і выблюдка й хама.

(Слугі кінуліся выконваць яго загад.)

З'ЯВА XXXII

Слугі прыносяць рэчы, і прыводзяць **Яся**.

Гайдук.

Адам, княжа, збег, захапіў пару коняй.

Суддзя.

Паслаць безадкладна ў пагоню.

Капуста *(гаворыць цяжка, углядаючыся ў княгіню).*

Ну, што-ж, станьце поруч...
а пекная пара...
Смяяліся, кпілі над хрычам над старым...
Дзе-ж пал пацалункаў?
што вусны збялелі?
Дзе-ж вашы абдымкі?
што рукі знямелі?
І як да спадобы маё віншаванне—
Акняжаны хам і чароўная пані?
Ну, дзякуй пан Юзеф і ксенджа Антоні,
Я цуда над цудам пабачыў сягоння.

Ксёндз.

Пан Езус бывае бяду насылае
І крэпкую веру, мой сын, спакушае.

Суддзя.

Не трэба ў адчай, добры княжа, прыходзіць,
А кару павінен панесці хам-злодзей.

Князь Капуста.

О кара! Чаму ты, мой божа вялікі,
Прыдумаўшы мукі без шчоту, без ліку
Для сэрца майго ды не даў яму волі
Над целам яе і яго...—О, ніколі
Яны-б не памерлі, а ў муках пякельных
Малілі-б аб смерці і ночна і дзенна.

Ксёндз.

Мой сын, памаліся, ад сэрца адляжа.

Суддзя.

Вырок, калі ў гневе, няправільны, княжа!
А мы-ж не спыталі ні хама, ні пані,—

Капуста.

Ды ясна, мой пане, і так, без пытання.

Ядзя.

Усё гэта няпраўда—трызненне вар'яткі,
Ратуй мяне, ойча, ратуй мяне, татка!
— Я польская панна і хам—немагчыма!...
— Заўсёды з пагардай праходзіла міма...
— Ей помста патрэбна і помсціцца мною
Пан ксёндз, я засведчу прысягай любою.

Князь Капуста.

Што-ж скажаш ты, хаме?—

(Музыка неадступна пачынае паўтараць матывы клятвы Яся).

Ясь.

Што гэта няпраўда,
Што быў я у пана слугой беспапраўным,
Любіў я княгіню, ды думкаю чыстай
Яна засталася у сэрцы вячыста.
Адно я прашу—князь прыдумае кару,
Хай рэжа, хай паліць, няхай паласуе,
Я буду маліцца пры кожным удары,—
За пана і ката. І толькі прашу я:
Яе не чапайце.

Князь Капуста.

Ну, не, галубочак,
Ты многага хочаш—
Я вас без сарочак
На з'езд маёй шляхты пастаўлю сягоння.

Пан Заенчкоўскі (*да суддзі*).

О пан Бобаецкі, суддзя вы ў кароне—
Прымушан прасіць аб яе абароне.
Вар'ят гэты можа жыўцом яе есці,
Ды гонар шляхоцкі пры людзях бясчэсціць.
Я не дазволю.

Капуста.

Маўчы ты ганебны!
Ганебнай дачкі сваей бацька пастылы
Павесіць яе над парогам патрэбна
Пакою твайго, каб хадзіў ты над стылым
Над трупам пакуль не сатлее, і вочы
Падняць баючыся.
Іх зараз ў цямніцу
Раздзець, закаваць і ключы мне прынесці.
Аддам вам з надсыпкай, аддам вам старыцай!
Усе проч ад мяне,—дайце дух перавесці.

(Усе, акрамя суддзі, вышлі).

З'ЯВА XXXIII

Суддзя.

Я вас суцяшаць не хачу, мой каханы,
Ды словам людскім не уцешыцца ў горы—
А божае слова—з парадай пакоры—
Не знойдзе прытулку ў душы ўзбунтаванай.
Я вам раскажу аб адным мне знаёмым,
Ён быў малады і ў дастатку, дай божа,
І ўзяў, закаханы, дзяўчынку прыгожу
Ды з добрага роду—з магнатаў кароны.
А з крымскага броду у часе паходу
Прывёз яму дзядзька палоннага маўра.
А тут затрубілі, забілі ў літаўры
І сам ён пад Псковам пражыў звыш поўгода.
Звярнуўся дахаты і божа! Цяжарнай
Цудоўную панну знайшоў нечакана
На маўра уголас сказалі тут пану
Суседзі і слугі,—сказалі не марна,
Бо хлопец упаў і на сэрцы і ў вочы
Жанчыне, пакінутай воінам-мужам,
Хоць чорны як цыган, ды рослы і дужы,
Хто-ж можа патрапіць натуры жаночай?
У маўра пан выбіў прызнанне у блудзе.
Жанчыну-ж забі, яна ўсё адмаўляла.
І вырашыў пан: пачакаць, каб раджала...
Дзіця яе сведкай найлепшаю будзе.
І вось дзень радзін настае, як дзень судны.
Адточаны меч пан паклаў каля ложка:
Калі на мурына падобным хоць трошкі
Дзіцёнак той будзе—засне непрабудна
Дзіця й парадзіха. Глядзела жанчына
На меч і маліла, як ласкі, у бога
Памерці ад родаў: здаецца-ж нямнога?
І раптам радзіла цудоўнага сына,
Ад пана пабраўшага нават і крошкі:
Бялюсенькі-белы, з галубымі вачыма...
... І пан пакланіўся у ногі жанчыне,
Што, зразу зсівеўшай, ляжала на ложку.

Князь Капуста.

К чаму гэта байка?

Суддзя.

К таму, проша пана,
Што наша жыццё не ідзе як па шнуру,
Ад дня нараджэння к жалобе хаўтураў
Яно, як рака, усё у лукі пагбана,

хто яго знае—вялік свет, а можа
княгіні з тым хамам, ад бога праклятым
годным аддаць на павешанне катам,
Нічога, што можна назваць непрыгожым,
Яшчэ не было...

Князь Капуста.

Вы мне соліце рану,
Я зараз завыю, як воўк сівы ў лесе.
Тут мала зарэзаць, тут мала павесіць!..

Суддзя.

о пан, а ці мала у пана паданных,
Што маюць віну перед панам. Іх мукі
Суцешыць маглі-б вас ... Вось тая дзяўчына,
Што пан мне сказаў—„журавіна“, „маліна“,
Яна, праз свой шлюб, пану лучыць у рукі,
Яе жанішок—калі ўзяць па закону,
З нацяжкай вядома—халоп пана Дулі.

Князь Капуста.

... Абрыдлі мне, пане, Ганулі, Гапулі—
Няма майму сэрцу ад помсты адхлону
Мне-б зараз ўварвацца ў натоўп гэтых хамаў,
І рэзаць і біць...

Суддзя.

О, хай бог вас бароніць.
Зрабіць гэта—значыць да смерці на ўлонне
Палезці жывому,—памысліце самі.
А з гэтай... Гапуляй маглі-б вы праверыць
Ці верыць княгіні, ці хаму паверыць?

З'ЯВА XXXIV

(Урываецца **войт** і кідаецца пану ў ногі).

Войт.

Княжа любы, літасцівы,
Не вялі казніць, памілуй!
Госці нас з папом звалілі,
Мяне білі, ой, як білі,
А папа ў капліцу ўзялі.
Рагаталі, ўспаміналі
Вас, мой княжа...
Папа-ж мусіць
Каваля вянчаць прымусяць.

(Усхапіўся князь Капуста, кінуўся да зброі. Яго перапыняе суддзя).

Суддзя.

Не турбуйцеся вы, княжа,
Вузел з пісарам развяжам
Самі мы, і сёння к ночы
Пан абніме стан дзявочы,
Калі вам яна па густу.
І ўсё будзе шыта-крыта—
Ёсць на свеце, князь Капуста,
Суддзі Ржэчы Паспалітай.

(Усе трое выходзяць).

З'ЯВА XXXV

З вежы выходзіць **атаман**, з ім **Уладзік**.

Атаман.

Ну, Уладзік, бывай—я пайду падзямеллем
На бераг Бярозы. Глядзі-ж ты за панам.
А ў часе нападу, гарматнае зелле
Падпаліш у бачонку, у зямлі закапаным,
Абсунецца сценка і панская зграя
Туды пабяжыць да ўсходняга краю,
А мы з падзямелля ўдарым, ад вежы
І панскае кодла напэўне дарэжам.

*ЗАСЛОНА*

*(Канец у наступным нумары).*

*Пятро Глебка*

# ПІЛОТАМ

Я ведаю вашу ўсмешку:
Шырокай ракою цяпла
Ад сонца праменная сцежка
Да вашых вачэй працякла;

Я ведаю вашу паходку:
Разлічаны крок і размах
І лёгкасць у жэстах кароткіх,
Якой не уладае і птах;

Я ведаю вашу пасадку:
Упэўнены курс на маяк,
Тры кропкі на вузкіх плашчадках
І тонкае лініі знак;

Я ведаю вашы палёты
У лютых завеях пургі,
Над страшным нязведаным лёдам,
Праз вечную ноч і снягі;

Я ведаю вашы рэкорды
Па роўнай, крутой і крывой,
На веліч і мужнасць,
На гордасць
За славу краіны сваёй.

Адно не абняць і не змераць
Пачуццяў савецкіх людзей,
Чыя непарушная вера
Да мэты нязменна вядзе.

Чый смутак па вас і клапоты
І шчырае сэрца чыё
За вамі і з вамі ў палётах,
Пілоты радзімы маёй.

8/IX-37 г.
Падбярэжжа.

*Пятро Глебка*

## ПАЛЕТ

Гарачы дзень.
Ад лютай спёкі
Згубіўшы прыкры сорам свой,
У рэчку чыстую глыбока
Упала сонца з галавой.

А там,
Высока па-над намі,
У сінь,
Халодную, як лёд,
Не страпянуўшыся крыламі
Плыве празрысты самалёт.

Пад залатой планетай зоркі,
Што яркім знакам на крыле,
Ідуць чародамі узгоркі
І табунамі цёмны лес.

Пілот,
Імклівы і адважны,
Яшчэ вышэй бярэ разгон
І вось—
Нікому недасяжны
Ідзе за сіні гарызонт.

Але і там праходзяць міма
Шырокіх крылаў карабля:
Пад левым—
Воблакі радзімы,
Пад правым—
Родная зямля.

Але і там,
Нячутным ценем
Мінаючы заслоны хмар,
Ён чуе нашы лятуценні
І нашыя палёты мар:

У крыллях маторах б'ецца
Жывая кроў гарачых жыл,
Часцінка нашых чыстых сэрцаў,
Замілавання і душы.

*Пятро Глебка*

## РАДАСЦЬ

Над галавой шумелі клёны,
І вадаспадамі лісты
Ліліся на мурог зялёны,
Дзе ціхая стаяла ты.

Канчаўся дзень.
Над зжатай нівай
Ішлі ключамі журавы.
Ты іх праводзіла маўкліва
Узмахам русай галавы.

На момант у вачах самотных
Успалыхнуў асенні сум
І лёгкі вецер бестурботна
Развіў завітую касу.

І шкода стала маладосці
І пражытых летніх дзён...
Але, як сокам, весялосцю
Наліўся дбайнай працы плён.

Ад ярыны трашчалі гумны,
Раслі высокія стагі,
І малатарні хорам шумным
Будзілі рэчак берагі,

Дзе на калгасных агародах
Багаты бралі ураджай,
Дзе за турботы нагарода
Лілася мёдам цераз край,

Дзе ціхія рачныя тоні
Гулі ад рыб, як вір круты,
Дзе спелі познія антоны,
Гарэлі сонцам залатым...

І моўчкі мы гарэлі самі
Вялікай радасцю зямлі,
І над шчаслівымі над намі
Абломі вечнасці ішлі.

Р. Мурашка

# ЦІШЧА

## I

Цішча ў гэтым выпадку гучыць так, як гучыць яно ў рускім выразе: „У-у, жыла!“ Цішча зрабілася вулічным прозвішчам Купрэя Лабача яшчэ з-замаладу, і нічога крыўднага ў ім для сябе не чуў ён. А прыляпілася гэтае прозвішча яму ад таго, што народ здольны заўсёды пакпіць з другога, з вышэйшага за сябе, асабліва калі бачыць у ім які недахоп. І гэты недахоп убачылі людзі ў Купрэя Лабача, найсамавітага гаспадара ў сяле, калі ён на першых радзінах (нарадзілася ў маладое дужае жонкі першае дзіця—дачка) сказаў:

— Сотня—не сотня... цішча будзе! Толькі-б жаніх, дай бог прычакаць таго часу.

Напэўна зайздрасць кіравала людзьмі ў тым, што яны ўбачылі нешта не такое ў слове Купрэя Лабача, чаму-б менавіта празываць яго Цішчам, а не якім Голікам аба Гарбузом, Чыгуном ці Гаршком, напэўна зайздрасць, бо ніхто з тых, што за вочы кпілі з Лабача за адно слова цішча, не адкінулі-б гэтае самае цішчы,—ой, наўрад ці даводзілася каму нават бачыць яе на сваім вяку. А Цішча і не ўважаў на кпіны, бо бачыў людскую подласць, бо скажы ён увесну якому Голіку: „Сваё не ўцячэ—не воўк, а сёння мне памажы ўзараць,“—дык той і залісьлівіць і падзякуе, бо добра ведае Цішча, што ў таго—пры душы—скарынкі хлеба ў хаце не знойдзеш. І падобны ён быў на гэтую масіўную лічбу з трыма нулямі, вымаўляў якую заўсёды абыякавым, бяскрыўдным і тоненькім галаском, як дзіця дрэнна вывучаны вурок настаўніку.

Усё жыццё яго вызначалася і складвалася з трохнулёвых лічбаў, і быў ён першым добрадзеем на сяле, бо хто-ж пазычыць увесну галоднаму хлеба з аддаткам увосень удвая, бо хто-ж напавер змеле ў сваім ветраку пазычаны ў яго пудзік, бо хто-ж яшчэ больш трымае дзеля сяла жарабца ды бугая з кноразам. Нядрэнна складвалася, каб не адно: памерла першае дзіця, нарадзілася другое і—таксама, нарадзілася трэцяе і—следам за першымі дваіма. Злабу ў душы трымаў на жонку, як на пакаянне, як чорнага вала ўпрагаў у работу. І рабіла тая, рабіла ўпарта, як чорны вол пялася, цягла, але агрызалася,—часцей і часцей гэта было пасля работы.

— Скажы, каму астануцца яны—тваё цішча, калупайла ты, жук падарожны? Мала ўсё табе... Мала з цябе зямлі... мала з цябе коняй,

авец, кароў, свіней... Мала з цябе цішчаў тваіх—не наясіся ўсё... Глядзі!

Яна расхінала на грудзях чорную ўсю з суровага палатна сарочку і паказвала сухія кастравыя грудзі.

— Глядзі, на каго высушыў сваімі цішчамі, а каму яны астанунца, а што мне за радасць з іх.

Слухаў моўчкі жонку Цішча, слухаў, нібы мудрасць жыццёвую пачуць хацеў, якое не ставала яму для памнажэння трохнулёвых лічбаў. І ціхі ён быў тады і спакойны, такі, што нават дрогала сэрца ў жонкі, і яна ўжо ледзь не каялася за свае словы. Але Цішча прачынаўся ад свайго замарачнага сну, прачынаўся звычайна ад таго, што на двары рыкалі каровы ці вісчэлі свінні, і ўвесь спакой і сціш адляталі ад яго нямаведама куды.

— Каму—пытаеш? Каму? А ўжо-ж не табе. Дзеці вось... Але не канчаў. Смутна ўзмахваў рукою, і ўжо строгі і далёкі быў яго твар.

— Не твая справа... Свіней дагледзь ідзі, каровы падой—рыкаюць. Вось...

І хмурны заварочваўся і ішоў на сяло—пільнаваць свае інтарэсы.

— Дзеці табе яшчэ патрэбны, мала табе яшчэ каго душыць... Мала ўчарніў ты гэту няшчасную жонку...

Чорным ад работы зрэбным фартухом зганяла горную з шчакі слязу і ішла даіць каровы, карміць свінні, упускаць у хлеў коні.

Але былі такія кароткія—мала калі—часіны, калі захаплялася яна выпадкова сказанымі Цішчам словамі пра дзяцей, захаплялася думкаю пра іх. Тады здаваўся ёй Цішча ласкавым, добрым, успаміналася маладосць, і яна ўвечары асабліва старанна высцілала, на шырокім драўляным ложку пасцелю. Ах, як ёй глыбока ў душы хацелася дзяцей.

Вялікая была яе радасць, нязмернымі здаліся сілы, калі адчула сябе плоднаю, калі пачула зноў дзіця, пачула і баялася прызнацца Цішчу і таго, што баялася прызнацца, яшчэ радасней было на сэрцы, радасней ад гэтае патаемнасці.

Нарадзілася зноў дзяўчынка. На момант тады пасвятлелі Цішчавы вочы, пазганяла маршчынне з твару, сказаў:

— Вось каму, жонка, цішчы, вось каму я стараўся.

І пайшоў правяраць, ці не крыўдзяць дзе яго інтарэсы, ці так яно ўсё, як ён наканаваў.

Каму была вайна, а Цішчу военка, каму якая прыкрасць у жыцці, а яму проценты, і нават рэвалюцыю прыняў ён, як сплыў акалічнасцей, у якім не можа быць, каб не знайсці якое выгоды. І знаходзіў, і проценты на трохнулёвыя лічбы раслі ўжо не ў банку, не ў каштоўных паперах, якія ён у належны момант перамяніў на больш устойлівы і рэальны аб'ект,—на муаровы пераліўчаты бляск залатых чырвонцаў ён любіў украдкі цешыцца, астаючыся адзін у хаце.

Дачцы было чатыры гады, як памерла жонка. Чуючы холад неўпрашонае смерці на вуснах, строга паглядзела яна на Цішчу:

— Глядзі Еўкі... Хай спажыве яна... За мяне. Глядзі, а не... З таго свету прыду... устану...

Мароз прабег па целе ў Цішчы. Яна не даказала. Хліпнула раз—другі, хапаючы халоднымі вуснамі паветра і сціхла.

Цэлы год жыў з дачкою Цішча, прызвычайваўся да ўдавецкага жыцця. Не прызвычаіўся, не ўгледзець усюды ўсяго аднаму: з суседняга сяла перабраў колішнюю пакаёўку аднае багатае пані і зноў пачаў камандаваць жыццём. Але адчуў у гэтым жыцці ўжо нешта не тое. Ці гэта за год так змянілася ці не дагледзеў ён, прапусціў паўз сябе з нядбайства, здалося яму нешта зусім не такім.

На сяле сабраўся гаманкі, крыклівы сход. Было адно пытанне для ўсіх, пытанне як жыць далей.

— От жылі-ж сабе і хоць-бы што,—як сказаў быў Цішча.—На хутары збіраліся, чаго ўжо лепш трэба, і то—усім не дагодзіш—раскідаліся. Потым на пасёлкі—хай сабе пасёлкі, і я не проць—дык з нашым народам склеіш. Цяпер, кажуць калгасы... калгасы... Э, нічога не будзе... Не будзе... Народ наш такі, што адзін туды, а другі сюды, а трэйці глядзіць, ці не можна і туды і сюды. Нічога не будзе з гэтым калгасам. Нашто ўжо лепш не трэба, як на хутары, а вось-жа не. Не, нічога не будзе з калгасам, і не думайце нават. Бо дзе-ж гэта калі было.

І слухалі і не слухалі Цішчу. Як на крылах ветру прынесеная думка ўяўнаю зданню хадзіла паміж людзей і адчувалася яе гарачае дыханне і страшнае для адных і жаданае для другіх.

На заўтра па сяле пайшла чутка, што вёрст з дваццатак нейдзе выбухла жахлівая пошасць, якую завуць людзі сібіркаю, і якая валам валіць жывёлу. Першы даведаўся пра гэта сусед Цішчаў стары Голік, які быў вінен таму добры жмак грошай, і даведаўся ад самога Цішчы, калі той выводзіў у горад прадаваць жарабца і бугая.

Калі бог дасць—нажывецца некалі. А прападзе—сэрца не вытрывае, гэтулькі клопату марна загіне. А калі на ўтратак, дык хай лепш, суседзе, у каго прападзе, а не ў мяне.

Стары Голік і сумеўся і страшным яму здалося, што можа наведаць яго такая напасць. А Цішча, гледзячы некуды, раптам успамянуў, і ўжо быў інакшы ў яго голас, незразумелы Голіку, чужы, не звычайны Цішчаў.

— Свая капейка ў хаце, дык і пэўнасці больш, дык і смялей неяк хоць-бы і ў калгасе ці дзе сабе хоч. У калгас дык у калгас... А за каня, скажам, ды карову грошы пабраць можна, пра чорны дзень хай будуць.

— А гэта, суседу, праўда... праўду, суседзе, кажаш.

— Дык вось, Сымоне, старайся, пакуль можна, капейку. Ды і мне што вінен, ужо трэба каб аддаў. Час цяпер такі, што і чакаць не ведаеш чаго.

У старога Голіка раптам пахаладнела пад грудзьмі, але ён рагатнуў дробна, цераз сілу і сказаў горна:

— Не верыш, суседзе...

— Веру, Сымоне, далі бог, і веру, што аддасі гэтымі днямі сто рублёў. Бывайма, суседзе!

І паехаў.

А Сымон Голік, насунуўшы шапку на лоб, патупаў дахаты.

II

Хіба не было чаго горніцца старому Сымону Голіку на такія словы неймаверы, якімі сустрэў яго сельскі дабрадзей. Цішча не верыў яму, старому чалавеку, што добрую палову свайго жыцця без папрокаў і дакаранняў—прапрацаваў на цішчавых дзесяцінах, у яго лесе, на яго сенажаці, у яго гумне з цэпам або пры малатарні. Праўда, ён пазычыў у Цішчы гэтыя семдзесят пяць рублёў даўнавата трохі, пазалетась, пазычыў, як памёр яго малодшы і апошні сын, пасля якога засталося гібець (усё бяда яго старой галаве) двое малых дзяцей. А памёр сын нядоўга паляжаўшы пасля таго, як скінуўся ў цішчавым гумне з стаўпа на ток. Гэта быў адработак за Цішчаву ласку. „Хай ты згалей такая жытка“, думае стары Голік. Гэтак ахапіла яго гора, але-ж з усіх бакоў, што нічога рады не даць, не атрапнуцца. А сумленнейшага чалавека над яго няма на свеце. Хіба ён хоць раз дзе пакрыўдзіў калі Цішчавы інтарэсы.

А вось-жа не вытрымаў той. „Нібыта я паважыўся прысвоіць яго грошы“, успамінае стары Голік гэтую абразу. Ён не думае пра тое, як семдзесят пяць рублёўператварыліся раптам у сто, яму крыўдна не за гэта, яму крыўдна, што на яго сумленне накінулі цень недаверлівасці. Ён не думае пра тое, што гэтых ста рублёў аддаць няма вельмі з чаго, што ў хаце, дзякаваць табе, сям‘я не маленькая, а кожнаму ўсё-ж трэба і на галаву, і на ногі, і на плечы. Не, не думае пра гэта стары Голік. Уразілі яго Цішчавы словы ў самае балючае месца,—сумленне бедняка—яго гонар. Але тут старога наведвае раптоўна адна надзвычайна новая думка: „А дзе сумленне ў Цішчы? Калі і хто бачыў яго гэтае дабрадзеева сумленне? Хіба гэта яно прымушае Цішчу лупіць з бедных мядзвежыя процанты? Хіба гэта сумленне зарабляць на суседавым поце, на дзіцячай недаедзі, на чужой смерці?“

І такою новаю была тая думка Голіку, што, здалося яму, нязначная сіла перанесла ўзяла яго на незнаёмае месца, дзе ўсё не гэтак, як у яго родным сяле. Новымі вачамі ўбачыў ён хаты, вулічныя прысады і доўгія істужкі палёў,—цяпер не былі яны проста нежывымі, нерухомымі рэчамі, за ўсім відны яму людзі, за ўсім жыццёвая мітусня, і ўсё стваралася толькі таму, што адзін хоча вось гэтак, а другі так, а трэці неяк іначай. Але ўрэшце і з сілы не ўсе роўныя: слабейшы пнецца-пнецца, ды нічога не вышкураўшы, просіць дапамогі ў дужэйшага. Як з тумановага воблака выступаецца аблічча Цішчы, і трубая камлюкаватая постаць засланяе перад Голікам хаты, прысады, платы і доўгія істужкі палёў. На шырокай палосе ў нагах Цішчы корпаецца з дзеравяным плужком ён, Голік. Слёзы нагортваюцца на вочы, горна яму робіцца за гэтага старога, звекаваўшага век у чарнаце, няшчаснага чалавека. „Але-ж сто рублёў... трэба занесці сто рублёў,“ успамінае ён і ўзмахвае рукою павольна-павольна, быццам цяжар на ёй павіс нямаведама які.

У цяжкія часіны свайго жыцця Сымон Голік заўсёды раіўся з Сымоніхаю. Старая і зморшчаная, твар—печанае яблыка, яна

аднак рыпела яшчэ, жывучая вярба. Ці не заўсёды так здзекуецца лёс з жыцця. Была і ў яе сям'я, як у тых людзей, і ёй здалёк пачынала свяціць ясна шчасце і да яе на прывітальных крылах ляцела праз туман нягоды радасць. А дзе яно ўсё? Дзе сонечнае свята, калі, уходаваўшыся з работаю, перапранаецца яна ў самае лепшае ўбранне (дарэчы, яно і ўсяго толькі адно ў яе на свята), выходзіць і сядае на разбуранай прызбе пад хатаю. Дзе тая сонечная шыр у сэрцы, калі пад зялёнаю раскідзістаю ліпаю прагучаць звонкія дзявочыя і хлапечыя галасы ў старой, як свет, песні, і маці ведала, што там поўныя сілы і надзеі яе дзве дачкі са сваімі жаніхамі. Дзе той яе ціхі і дабрадушны смех, калі пазбіраюцца да прызбы такія-ж, як і яна суседкі, сяброўкі маладых дзён яе надзей. Дзе спакойнае возера яе воч, калі Сымон, яе чалавек з кім пасеялі яны зерняты кахання на такой мізэрнай і неўрадлівай зямлі, калі Сымон прыдзе за руку з малодшым сынам адтуль, дзе ўбіраецца ў сілу, як рута зялёнае жыта, гэтая крыніца дыхання бедных, да якога кожнага святка адбываецца паломніцтва, як да святога месца. Дзе краскі журботнай радасці ціхага смутку, калі здалёк з вялікага горада, якога і ўявіць сабе яна не можа, у шэрым сукне і ў чорнай бесказырцы з какардай і чырвонымі кантамі прыходзіць на пабыўку яе ўзмужнелы старэйшы сын, яе першая радасць і слёзы мацеры. Дзе яно усё? Старэйшага сына-салдата ў аўгустоўскіх лясах напаткала бязлітаснае жалеза нямецкага знарада. Як гордыя кветкі на поплаве касец, у самым росквіце маладое сілы і прыгажосці абедзве дачкі яе, помач яе і натхненне, неўзабаве за грамадзянскай вайной скасіў раз'юшаны сыпняк. Але самы малодшы перамог і сыпнякі і вошы, бруд і голад, яго абмінулі калчакоўскія і белапольскія кулі, ён вярнуўся ў невялічкай жменьцы сваіх таварышоў, што асталася ад усяго палка, жывы для таго, каб у цішчавым гумне стрэла яго тая нядоля і каб пасля доўгае хваробы пайсці туды, адкуль больш не прыходзяць. Два парасткі—двое малых унучанят,—клопат старой галаве,—пакінула нявестка. Дзе яно ўсё? Як злосны варажбіт, ператасаваў карты жыцця па-свойму здзеклівы вотчым—лёс. Але не ўважаючы на ўсё, захавалася адно: нязменная блізасць да свайго чалавека, да такога-ж ашуканага жыццём. Як і ў дні іх вясны, была для яго жонка дарадцаю, і ішоў цяпер Сымон параіцца з ёю ў цяжкую часіну жыцця.

Заходзячы ў двор яшчэ пачуў ён, што плачуць дзеці ў хаце. У грубой абалоне старога цела калацілася добрае чулае сэрца, а ўнучанят ён любіў, як і сваіх родных некалі дзяцей, аднак пераступаючы парог, не паспяшыў ён даведацца аб прычыне таго плачу.

Старая саджала хлеб у печ і не заўважыла Сымонавае заклапочанасці. А Сымон скінуў на лаву шапку і сеў пры стале.

— Баба!—пачаў ён.—Ці чула ты, баба, што гамоняць на сяле?

— А што гамоняць?—таксама папытала ў яго тая, але павярнулася ўстрывожана, і рабіла сваю работу, пакідаючы загнёт і соўгаючы лапатаю ў печ, пакуль у дзяжы не асталася толькі

адна малюсенькая крыха цеста, якая паводле нейкага завядзенства павінна аставацца ў дзяжы да наступнага разу. Ці было ёй чаму дзівіцца на гэтым свеце цяпер.

— Нядобрае гамоняць,—уздыхнуў Сымон. І ўзрушаны расказаў, што пачуў сёння ад Цішчы, як ім паставіцца да гэтых жахлівых палзей і дзе ўзяць на аддатак Цішчу сто рублёў.—Мяркую я, баба...—сказаў ён і прыпыніўся. Пальцам кіўнуў да сябе і боязны возірк кінуў на вокны. І калі падышла яна блізка, ціха казаў далей:—Мяркую я, баба, ці не прадаць нам чаго з дабра. Учора праз цэлы дзень ды і сёння... чуў я на сяле... чуткі благія ходзяць... усё да кураняці пабяруць у той калякціў. Пры чым астанешся, баба, за што рукі зацяць будзе тады. А як уваліцца гэтая пошасць сібірка, ні табе не будзе, ні калякціву таму. А яшчэ прычапіўся Цішча сёння з гэтымі грашмі. Узяць іх дзе,—хоць ты з калена вылямі вазьмі. Мяркую я, баба, збыць трэба што-кольвечы. Вядуцца людзі ў горад з коньмі, кароўмі ды свіньмі. Цішча жарабца з бугаем павёў. Спродваюць мудрэй, як перад тым збежанствам у германскую вайну. Што рабіць, а?

Не думаў ён пра сябе, не за сябе баяўся стары Голік, яго клопат быў пра дзеці, пра гэтыя няшчасныя сіроткі, ім каб хоць якія лахмакі засталіся прыкрыць голае цела. А яму самому больш нічога не трэба, абы скарынка тая хлеба на стале ды самасейка ў люльку. Праз хваляванне ён забыўся нават задыміць сваім паравіком, як казала старая.

— Пачакай, Сымон,—сказала яна, хваляванне старога не кранала яе,—пачакай, няма чаго спяшацца. А ты, як за ветачку, і гатоў ужо. Спрадаць не позна ніколі.

— Як не позна,—збянтэжаны ўзняў той свае камлатыя бровы.—Што ты кажаш не позна.

— Тое кажу, што яшчэ мала слухаць вельмі каго, трэба мець трохі і свайго розуму. Падумай сам... Цішча прадасць жарабца з бугаём, дык у яго яшчэ тройка коняй ды чацьвёра кароў, а свінні ж, а авечкі... А ў цябе што? А ты, як збудзеш гэтую няшчасную тавярыну, з чым застанешся, к чаму прыткнешся тады. Гэта вугал яшчэ гэты адзін, дык і з тым невядома. Няшчасны ты чалавек. А я дык думаю, што горшага дабра як было не будзе, то і няма чаго баяцца.

— Ну добра, а дзе возьмеш грошы Цішчу?

— Лахманы лепш прадам, голая лепш застануся, а каровы ды каняняці і не думай чапаць.—голасам, які адхіляў усялякія пярэчанні Сымона, праказала старая.

— От дурная баба,—з сэрца, але ласкава прабурчэў стары,—дала рады. І гэта будзе праўдаю, што яна возьме сотню за свае лахманы. А я не дазволю табе выняць з кубла вось ані ніткі,—ласкава злуючы, прамармытаў ён.

Нарада, на якую пакладалася гэтулькі надзей, тым і скончылася. Што ты будзеш рабіць, калі куды ты ні зірні, няма табе прасторы.

Плач дзяцей адарваў яго ад трывожных думак.

— А дзетачкі-ж мае, а чаго-ж вы плачаце, галубочкі мае?

Высветлілася, што яны недзе бачылі ў дзяцей каляску, у якой можна вазіць лялькі, а баба на іх накрычала, што яны не даюць ёй адхланку.

— Ціх-х-х!—падміргнуў ім стары і, хітра зірнуўшы, адным вокам у напрамку старое, даказаў:—Зробім!

А Сымоніха тымчасам зусім не такая ўжо спакойная і ўпэўненая была, як здалося Сымону. Усялякія жахлівыя меркаванні лезлі ў галаву. Гэтак, узапёршыся на далонь, пасядзела яна пры стале, а потым пайшла ў клець корпацца нечага ў кубле. І калі старому спатрэбілася снасць рабіць каляску і ён глянуў у клець, дык убачыў, як Сымоніха складвала ў новы зрэбны мяшок звоі палатна, старасвецкія наметкі, рушнікі, свой дзявоцкі яшчэ кажух і матчын новы андарак. Туды-ж пайшоў і—хлапецкая памяць— Сымонаў шырокі тканы пояс з густымі махрамі. Убачыўшы чалавека, яна адхінулася ад кубла і прашаптала:

— Прыдумай, стары, прыхаваць дзе. Хто яго ведае цяперашнім часам, можна і праўду кажуць людзі.

III

Прамінуў дзень, а трывога на сяле не меншала. Гэтак сама жахлівыя чуткі адна за адною прыходзілі аднекуль, прыходзілі і цяглі за сабою гора і пакуты. Але за чуткамі не прыходзіла ні гора, ні пакуты, не было страшнае сібіркі, усё было па-даўнейшаму на сяле: людзі ўдзень рабілі сваю работу, хлопцы і дзяўчаты ўвечары гэтак-сама бестурботна спявалі на лаўках свае лепшыя песні,—усё было па-даўнейшаму.

Па снеданні да Сымонавых унучкаў прыбегла гуляць Цішчава дзяўчынка. Пералазячы цераз высокі парог, яна закрычала:

— А ў мяне ештачка!.. А ў мяне нештачка!.. У мяне нешта ёсць... А ў вас няма такога!.. А ў вас нямашака... А ў вас нямашачка,—заспявала яна падбягаючы да дзяцей.

Дзеці пакінулі каляску, што зрабіў дзед, і навыперадкі кінуліся да дзяўчынкі, бо яны ведалі, што Цішчава Еўка калі пахваліцца чым, дык значыцца ў яе напраўду ёсць нешта такое, чаго ў іх няма, не было, а мо' і не будзе ніколі, таму што ў яе бацькі поўна багацця, а ў багатага бацькі адной дачцы колькі хоч усякіх цацак. А ім, як казаў дзед, пра купленыя цацкі не трэба і думаць. І таму яны нямаведама як рады былі, калі дзед зрабіў ім каляску, маленькую, праўда, як лялькам толькі лягчы, але калі пацягнулі яны за вяровачку, дык яна і паехала. Ай, як рады былі яны. А цяпер Еўка зацікавіла іх гэтым таемна невядомым „нешта". Яны заскакалі перад ёю, заглядваючы ў вочы, пазіраючы на рукі. Але рука ў кулачку была моцна сціснута, а ў вачах надзвычайная патаемнасць. Але-ж калі вельмі просяць, дык трэба нарэшце гэтае нешта паказаць. У хаце тымчасам не было ні Сымона, ні старое, і дзецям ніхто і ніштo не замінала. Еўка расціснула кулачок.

Ай, якое хараство!

Дзеці гэтага сапраўды ніколі не бачылі. На маленькай далонцы ў Еўкі ляжала бліщчастая жоўтая і круглая, як гузік, цацка.

І вось Еўка пачала паказваць, што там на гэтай цаццы. А на той цаццы з аднаго боку птушка з двума галовамі, а з другога галава чалавека. Вось якая гэта была цацка. Але і тое яшчэ не ўсё хараство было ў ёй. Еўка кінула яе на шырокую лаву, і круглая блішчастая цацка заблішчэла, закруцілася і зазвінела, як прыгожы званочак. Вось якая гэта была цацка.

І дзеці закрычалі наўпераймы:

— Пакажы мне!.. Дай мне ў рукі! Я хачу памацаць яе! Я хачу пакруціць!

А Еўка доўга не пушчала цацку з рук. Адале ўгледзела новенькую калясачку, на пасцельцы ў якой спалі ўмітусь дзве лялькі. Еўку зацікавіла каляска і тады яна выпусціла з рук круглую блішчастую цацку, і ёю завалодалі тады дзеці. А Еўка паглядзела пасцелькі, пацягла калясачку за матузок, што прывязаны быў спераду, і каляска з лялькамі паехала за ёю.

Гэта вельмі спадабалася Еўцы. Толькі лялькі былі нехарошыя,— з анучак, калашматыя, брудныя і старыя. У яе лялькі лепшыя, у яе лялькі купленыя, яны як жывыя, і нават вочкі заплюшчваюць, як кладуцца спаць. А ў гэтых і воч няма,—што гэта за лялькі. Вось каб яе лялькі сюды пакласці, вось гэта-б добра. Яна-б іх вазіла, а тыя-б ляжалі, а тыя-б спалі на мяккай пасцельцы. Еўка забыла нават пра круглую маленькую цацку. Але дзецям яна спадабалася і яны забыліся пра каляску. І тады адбылося яно неяк само па сябе. І калі ў хату ўвайшла старая Сымоніха, дык не было ўжо ў хаце ні Еўкі, ні новае каляскі, а брудныя лялькі растрыбушаныя ляжалі доле і ўнучкі сядзелі і гулялі гэтак згодна, як ніколі не бачыла іх гэтакімі старая. Яна заўважыла, што ў хаце няма каляскі і пачала дапэўнівацца, дзе яе дзелі. І тады яна ўбачыла круглую блішчастую цацку з галовамі і даведалася, што дзеці памяняліся з Цішчавую Еўкаю на каляску, якую тая і забрала з сабою дадому. Тады старая ўбачыла, што дзеці гулялі з залатым чырвонцам, і адабрала яго, і калі ўнучкі заплакалі, дык яшчэ і накрычала. Гэтак неспадзявана скончылася для іх уся гісторыя з прыгожаю цацкаю, якою яны не маглі нацешыцца.

— Што гэта вам за цацка такая! Каб згубілі, не дай бог, што-ж бы мы тады рабілі. Ці-ж з гэтым гульня. Дзе-ж бы мы ўзялі аддаць яго. І тых вунь яшчэ невядома з чаго аддасі,—скулузавала іх старая.

А дзеці не ўнімаліся, дык яна заздавала і напраўду ўжо:

— Годзе вам, бо паўрозы вазьму. Астатні раз кажу, гэта вам не цацка, я зараз панясу аддам Цішчу. Сціхніце! Адхланку няма з імі.

У сенцах старая стрэлася з Сымонам.

— Баба, я можа забаўлюся, дык ты зірні каняняці на аселіцы, а як позна мяне не будзе, дык прывядзі ў хлеў.

— Дзе-ж ты будзеш бавіцца?

— На сход звалі, прадстаўнікі прыехалі в раёну. Можа і забаўлюся, бо калі яны прыехалі, дык мабыць што не так сабе. Як не было чаго, дык гады са два не прыязджалі. А гэта мабыць ёсць чаго. А я, баба, пазычыў аддаць Цішчу сто рублёў, а то ўжо

хоць не стракайся. Хай праглыне возьме іх, занясу ўсуну ў горла, калі яму ўсё мала.

— Ну ідзі, адказала старая.—Толькі не выскаквай вельмі наперад людзей нідзе. Ды ідучы на вось занясі аддай Цішчу.

Яна дала Сымону залаты чырвонец і расказала, як гэта здарылася.

— Добра, старая, што нахапілася, гэта-ж клопату не абраццa было-б. Скажы ты на літасць...

Ён паківаў галавою.

— То я і пайду.

— Ідзі ды без толку не загібай вельмі.

Цішча быў дома, як прышоў Сымон, а малая Еўка гуляла з каляскаю. Цішчаў твар уяўляў сабою спакой і здавальненне, і сустрэў Цішча Сымона ветліва. Але Сымону не было часу, яго клікалі на сход і таму ён адразу сказаў, падаючы чырвонец:

— Я гэта па справе зайшоў.—Ён расказаў гісторыю з чырвонцам.—Бачыце, сусед, колькі клопату маглі-б нарабіць гэтыя дзеці... А гэта доўг, сусед, што вінаваты, вельмі дзякую, суседу за ласку,—сказаў ён, падаючы і грошы.—Прабачай, суседзе, але мне трэба ісці.

Ён зірнуў на Цішчу і зжахнуўся: дзе дзеўся той спакой і здавальненне, з якім Цішча сустрэў Сымона. Нібы ўзяў хто яго і вывернуў хцівым нутром—твар балюча скрывіўся, адкуль і набегла, здаецца, плойма маршчыння і вочы адразу сацмянелі і ўвайшлі некуды глыбока, пакінуўшы вузкі злаславы прарэз. Але голас яго яшчэ усё такі самы ветлы, калі ён дзякаваў Сымону за добрасуседскую сумленнасць і за прыязнасць.

— Зразумей, суседзе, ці варта гэта старацца для тых дзяцей, ці варта. Захацелася табе пагуляць з чым, то можаш папрасіць і нібы-ж бацька не зрабіў-бы, або не купіў-бы. Я табе зраблю такую каляску, дзе не толькі твае лялькі, а і ты сама памесцішся.

Словы ішлі ціхія бацькоўскія, але за імі хавалася грозная перасцярога.

Сымон развітаўся і пайшоў. І заварочваючы з двара на вуліцу, чуў не моцны, але гняўлівы Цішчаў голас:

— Я табе зраблю каляску... Я табе зраблю...

Неўзабаве малая Еўка прывезла назад Сымонавым унучкам калясачку. Горныя слёзы яшчэ стаялі ў журботных вочках, калі яна, аддаючы сябрам іх цацку, казала:

— Мне тата зробіць сваю каляску. Ён казаў, што зробіць... вялікую, казаў, зробіць, а не такую маленькую... Такая вялікая будзе, што і я лягу ў ёй з лялькамі. Вось якая будзе каляска ў мяне.

— Вялікая каляска,—кажа Сымоніха,—але табе адной сумна гуляць, Еўка.

— Але,—сумна кажа Еўка.

— Дык ты прыходзь к нам, Еўка.

— Прыходзь к нам!

— Прыходзь к нам!

Адно перад адным стараюцца дзеці. Яны таксама яшчэ смутнаватыя, у іх-жа адабрала баба гэтую прыгожую цацку, не дала нагуляцца колькі ім хацелася.

— Добра,—кажа Еўка.—Я буду прыходзіць.

— Прыходзь, дзяўчынка,—кажа старая і праводзіць сумную малую Еўку. Ёй шкада дзяўчынкі, яна-ж сіротка, у яе-ж няма роднае маткі.

— Бедная мая сіротка, няма каму пашкадаваць цябе. Прыходзь, табе весялей будзе ў нас.

Не па-дзяцінаму задуменная, з журботнымі вачамі, ідзе дваром, а потым і вуліцаю сіротка, дачка сельскага багатыра, і хада ў яе зусім як у старое, павольная, самотная.

Яна ішла і старалася ўявіць сабе, якая-ж будзе тая каляска, што зробіць ёй тата. І радасці не было ў яе маленькім дзіцячым сэрцы.

„Можа тата і робіць ужо“, думала яна. „Я прыду, а тата робіць каляску“.

Але радасць не з'яўлялася, ёй было гэтак невесела, як ніколі яшчэ.

Дома яе сустракае злосны воклік пажылое адрузглае жанчыны, якая вось ужо колькі часу жыве з імі, пасля таго, калі старыя і маладыя незнаёмыя дзядзькі вынеслі некуды яе маму ў такой калясцы без калёсак з хаты, і больш ужо мамы не было. І хоць Еўка і плакала калі, і моцна плакала, і доўга плакала і ўсё адно мамы не было. І тады прыехала раз з татам гэтая сярдзітая тоўстая жанчына. І вось яна цяпер крычыць на яе нема:

— Дзе ты швэндаешся, паганая! Мо ізноў да гэтых голікаў няшчасных!

Сіротка маўчала, яна ўжо навучылася за колькі часу палахліва маўчаць.

— Добра, ну добра, ты можаш сабе хадзіць куды хоч,—падабрэла гняўлівая жанчына,—але скажы, мая любая, дзе ты ўзяла тую круглую блішчастую цацачку. Скажы, маё золата, не бойся, я цябе не з'ем,—шыпучым голасам гаварыла непрыемная Еўцы жанчына.

— Я знайшла,—адказвала ціха Еўка.

— Яна знайшла!—жахліва ўскідвала рукі жанчына і, пераплёўшы моцна пальцы і прыціснуўшы гэтак рукі да грудзей,ківала галавою, гледзячы ўпарта на Еўку, і ўсё друзглае цела яе ходарам хадзіла і калацілася, як ківала яна галавою.—Яна знайшла... Скажыце, людцы мае... Яна знайшла...—канчала яна страшным шэптам.

І доўга гэтак, не зводзячы свайго жахлівага погляду з Еўкі, і прыціскаючы да грудзей пераплеценыя пальцамі рукі, стаяла перад дзяўчынкаю жанчына, быццам молячыся і заклінаючы каго. І дзяўчынка таксама стаяла нерухома, і заўсёды так баялася яна нават пальцам паварухнуць дзтуль, пакуль жанчына не пакідала яе і больш не чакала другога зручнага моманту. Нарэшце жанчына, цяжка ступаючы, адышла ад дзяўчынкі. Толькі цяпер зірнула тая па хаце. Не было ні каляскі, пра якую ідучы яна думала без радасці, не было і таты.

Цішча таксама пайшоў на сход.

І доўга не прыходзіў. І спаць лягла Еўка, а яго не было.

А Цішчу са сходу папрасілі выйсці, бо яму, як сказалі, там не месца, хаця ён і гаварыць паспрабаваў быў і за калгас руку вытыцнуў. І доўга бадзяўся ён у цёмнай начы пазавуголлю, пакуль не зразумеў канчаткова, што такое сёнешні сход і, зразумеўшы, пайшоў дадому.

Еўка прачнулася ад ціхага гоману ў хаце.

Гарэла чамусьці не лямпа, а газнічка і вокны чамусьці пазавешваны былі посцілкаю. Яна ўпершыню ўбачыла хату такую незвычайную, як незвычайная была і гутарка ў таты з тоўстаю жанчынаю. Пра нешта незразумелае Еўцы гаманілі яны.

— Калі яна хоць словам абелякне, дык і канцы. Гэтыя Голікі не пашкадуюць твайго дабра.

— Ты хацеў зрабіць каляску ёй, казаў... Іх!—хліпнула жанчына зжахнуўшыся ад раптоўнай думкі.—Ты-ж казаў, зробіш каляску...

Больш Еўка не пачула нічога, бо гаманіць сталі гэтак ціха, што слых яе лавіў толькі невыразны шолах. Бачыць яна не магла іх, ёй боязна павярнуць было галоўкаю. Гэтак ляжала яна, і невыразны шолах ліўся ёй у вушы. Яна і заснула-б пад гэты шолах, у яе ўжо і вочы зліпаліся. Але тады зашорхаў па падлозе чобатамі бацька, і яна глянула, і сон уцёк ад яе раптам.

Тата глядзеў на яе.

— Ты не спіш, Еўка,—казаў ён ветлым голасам.—А я табе каляску вялікую зрабіў. Ты нават спаць будзеш у ёй са сваімі лялькамі. Прынесці табе каляску?

Ён пытаўся добрым такім голасам, а па твары і вачах відаць было Еўцы, што тата баіцца нечага. Як тата быў добры, дык Еўка любіла яго. І цяпер тата добры быў, хаця яна не ведала чаго баяцца тату. А як ён добры, дык трэба шкадаваць яго і слухаць, і Еўка міргнула вочкамі, што згодна.

Цішча ўстаў, і за ім пасунулася, як капа жанчына, і яны прынеслі з сянец і адчынілі скрыню. І калі паклалі Еўку з яе лялькамі ў гэтую каляску, дык ёй мулялася нешта цвёрдае і было страшна і хацелася заплакаць, але твар бацькаў і твар непрыемнай жанчыны былі яшчэ страшнейшыя, і яна праглынула крык.

Жанчына з Цішчэм мабыць заўважылі перамену ў твары запалоханай дзяўчынкі, бо пачалі гэтак добра прасіць яе, каб яна ляжала ціха і каб заснула, бо цяпер ноч, усе людзі спяць і ёй трэба спаць ужо, і яны будуць спаць, а заўтра паедуць у горад і накупляюць ёй пернікаў, і цукерак, і булак, і абаранкаў, і бацінакчкі жоўценькія і ўсякіх цацак.

Еўцы хацелася доўга слухаць пра тое, што ёй гаварылі. Але тата з жанчынаю адышліся, і асталося толькі думаць пра ўсё, чаго ёй накупляюць. Яна думала—думала, ды і заснула думаючы.

Тады жанчына апусціла цяжкае века скрыні і патушыла газнічку.

У хаце настала ноч. Запанавала беспадзельна неабсяжная магутная цемра.

Але гэта былі толькі астатнія намаганні пахмурнай ночы і неўзабаве вывіднела. Ранішняе святло рашуча авалодвала і перамагала над ноччу. І тады рэшткі начной цемры, не ўздужаючы змагацца з яшчэ больш магутным відном, палахлівымі ценямі беглі і хаваліся па цёмных кутах.

Развіднела ў Цішцы ў хаце.

Хата была акуратна прыбрата, усё ляжала і вісела на сваім месцы, усё адно як гаспадары і не клаліся спаць. Гэтак яно і было.

Цішча толькі што памыўся, а жанчына наклала ў печ дроў і паставіла чыгун у калена з нялупленаю бульбаю да дроў. Падпаленыя сухія дровы ўхапіліся полымем і жоўтыя блікі рассыпаліся па яшчэ цмянай падлозе.

Тады з вуліцы завярнула ў двор куча мужчын, і пастукалі пад сенцамі ў дзверы. Жанчына войкнула і ўстыла, як гара неабсяжная, пры печы.

Цішча пайшоў адчыніў дзверы.

У яго па-гаспадарскаму запатрабавалі ключы ад хлявоў, ад гумна, ад свірна і клеці.

Адзін момант не мог уявіць сабе Цішча, чаго патрабуюць ад яго. Ён толькі ў змозе быў праказаць:

— Як?..

— Ды вось так,—адказаў нехта,—давай ключы. Калгас пастанавіў учора,—мы цяпер гаспадары. Ёсць пастанова ўраду і сходу раскулачыць кулакоў, як клас. Гэта значыць давай ключы. Коні і калёсы дома?

— Д-д-дома,—адчуваючы, як неўпрашоны холад сціскае яго ў жалезных абдымках і па целе бягуць дрыжыкі, праварушыў непаслухмянымі вуснамі Цішча.

Ён не патурбаваўся нават пазнаць, з кім ён размаўляе і хто стаіць перад ім, адкуль гэтыя людзі. Дрыготнаю рукою зняў ён з паліцы над мыцельнікам звязак ключоў і падаў, не бачачы, каму аддае і хто іх бярэ.

Куча людзей ураз рассыпалася па цішчавай гаспадарцы.

— Усё...—толькі і мог вымавіць ён.—Усё...

Некалькі чалавек зайшлі за ім у хату і сярод іх быў сусед Цішчаў Сымон Голік. І Цішча заўважыў яго.

— І ты, Сымоне...—праказаў ён павольна і ціха, але Сымон пачуў.

— І я, суседзе. А дзе-ж мне дзецца. Бацькі мне харомаў не пакінулі, сам мазалём золата не прыдбаў, дзеці коняй ды кароў не нагадавалі, а самі вось уплоджваюць зямлю. Дзе-ж мне дзецца. Ды на маю ж галаву і гэтыя няшчасныя сіроткі яшчэ засталіся. Я-ж даў зарок ды і па закону павінен даглядзець іх, ды і люблю іх. Мне-ж трэба ў людзі іх выпхнуць... Так, суседзе, дзеці гэта—нашае ўсё. А без дзяцей мы нішто—попел з люлькі.

Гара чалавечага мяса і тлушчу ў жаночым адзенні стаяла не зрухнуўшы на адным месцы, упарта закрываючы сваёю тушаю чалеснікі.

— Але, суседзе, дзеці,—выціснуў з сябе Цішча, гледзячы не-

куды паўз Сымона,—і я некалі спадзяваўся на дзеці, і я стараўся для іх. А цяпер...—і ён махнуў рукою.

Цяпер толькі стары Сымон павёў вокам па хаце і не ўбачыў нідзе маленькае Еўкі.

— Дзе-ж гэта ваша дзяўчынка, сусед?—запытаўся ён.

— Э-э-э,—замармытаў Цішча. Язык у яго зрабіўся, здаецца, як бервяно, і не павярнуць яго.

У гэты момант з-за парога гукнуў нехта жанчыне пры печы:

— Цётка!.. Згарыш!

Жанчына скаланулася знячэўку і з незвычайным для свае асобы спрытам павярнулася да печы, і саўганула з разгону вілкамі ў дровы. Дрывяная пабудова рушыла на чыгун. Чыгун перавярнуўся, і на прыпечак, а з прыпечка далоў пакацілася неабуджаныя яшчэ бульбіны ў лупінах і... залатыя чырвонцы.

— Ай-яй!—залемантавала жанчына і грымнула як стаяла.

А Цішча не мог вымавіць ні слова. У яго папруцянелі і ногі і рукі, ён аслупянеў увесь і язык не вярнуўся прамовіць слова.

— Мабыць смачная страва—бульба ў лупінах з золатам,—засмяяўся жорстка чалавек з-за парога.

— А гэта што тут!—закрычалі людзі з клеці.—Эге! Тут нейкі спрат!

З-пад узадранае падлогі яны вынялі скрыню. І як толькі адчынілі, страшны крык жахлівасці вылящеў ува ўсіх адначасова.

У скрыні ляжала нерухома са сваімі лялькамі маленькая Еўка. Некалькі рук ухапілі яе і пачалі тармасаваць. І закрычалі:

— Вады сюды!

— Вады!

Цішча асунуўся на лаву і толькі праварухнуў непаслухмянымі вуснамі:

— Гэта, не я...

Стары Сымон кінуўся з кубкам вады ў клець. Балюча сціснулася яго сэрца: бедная сіротка,—і падплыло гневам. Павольна вярнуўся ён у хату.

Жанчына, як гара ляжала непрытомная, накрыўшы сваім велізарным целам і бульбіны і чырвонцы.

— Жывая! Жывая яшчэ! Дыша!—закрычалі з клеці і вынеслі напалову апрытомеўшую дзяўчынку.

— Дайце мне яе!—закрычаў Сымон.—Не нясеце да гэтых пачвараў! Каб то сваё роднае дзіцё ды гэтак збаёдаваць... Да чаго дажыць трэба, а, да чаго дапусціцца. Дайце мне гэтую няшчасную сіротку. Яна выгадуецца з другімі сіроткамі такімі, як сама, толькі не такімі няшчаснымі. Мы дагледзім цябе, мая галубка, бо мы людзі, а не звяры.

І Сымон пайшоў са сваёю ношаю на руках дадому.

А з двара ў Цішчы выязджала навершаная кулацкім дабром ягоная-ж хурманка.

1937 г.

*Эдві Агняцвет*

# ФЕЛІКС ДЗЕРЖЫНСКІ

*(Паэма)*

Буржуазія не ведала больш ненавіснага імені, чым імя Дзержынскага, адбіваўшага сталёвай рукой удары ворагаў пролетарскай рэволюцыі. Граза буржуазіі—вось чым быў Фелікс Дзержынскі.

*І. Сталін.*

УСТУП

Недалёка ад строгай граніцы,
Дзе шумяць тонкаствольныя сосны,
Дзе спяваюць жывыя крыніцы
І квітнеюць прыгожыя вёсны,—

Там утульны раскінуўся горад—
Сведка боек былых векапомных,
Там на плошчы,
на чыстым прасторы,
Як жывы ўздымаецца помнік:

Чалавек у звычайнай шынелі,—
Ён уперад, у даль пазірае,
Мне здаецца,—ўглядаецца Фелікс
У граніцы Совецкага краю,

Дзе стаяць баявыя чэкісты,
Дзе стаяць яго слаўныя дзеці—
Днём вясновым,
туманам мжыстым,
Летам светлым,
у сцюжу і ў вецер,

Дзе стаяць маладыя героі,
Берагуць нашу мірную працу,
Нашых фабрык жыццё дарагое,
Нашы нівы,
сады
і палацы.

Чалавек у шынелі салдата,—
Ён, здаецца, глядзіць яшчэ далей
Праз лясы, праз высокія хаты,
Праз вазёры і сінія далі,—

На чужыя заводы і сёлы,
На заходняе, шэрае поле,
Дзе не чутна напеваў вясёлых,
Дзе марнее бядняк у няволі.

Ён глядзіць на чужыя абшары,
Поўны суму
і сіл навальнічых,
Ён глядзіць праз узгор'і і хмары,—
Да змагання вялікага кліча!

Ён стаіць, як жывы...
Тут увесну
Краскі-кветкі вакол расцвітаюць,
Салавей прылятае з-за лесу
І вясёла звініць-запявае
Аб жыцці маладым і высокім,
Аб якім чалавек гэты марыў.
Тыя песні імчацца далёка,
Узнімаюцца разам з штандарам,
І стралой да мяне прылятаюць
Праз даліны, праз чыстыя рэкі,—
У сэрцы б'юцца
і спеў я складаю
*Камісару,*
*байцу,*
*чалавеку.*

---

## I

## 1900 год

Ходзіць па вуліцы лютаўскі вецер,
Ходзіць і вые ваўчыхаю шэрай.
Злодзеем лезе ў галодныя клеці,
Б'ецца ў замерзлыя шыбы і дзверы.

Гэткай парой, непагодаю злою,
Сумна ў пахілай, няпаленай хаце.
Плача ў калысцы дзіцятка малое,
Песняй яго супакойвае маці.

— На дварэ ўжо ночка,
Люлі, дзетка, люлі...
Хай майго сыночка
Ціхі сон атуліць.

Спі, мой голуб мілы,
Спі, не плач так многа.
Набірайся сілы
Для жыцця цяжкога.

Падрасцеш
і ў людзі
Выйдзеш, мой саколік.
Разам з бацькам будзеш
Здабываці волю...

На дварэ ўжо ночка,
Люлі, дзетка, люлі...
Хай майго сыночка
Ціхі сон атуліць...

Скрыпнулі дзверы,
ўваходзіць мужчына—
Упалыя грудзі,
змарнелы і тонкі.
З ласкай глядзіць ён на роднага сына,
Потым паціху гаворыць да жонкі:

— Дружа, чысцей прыбяры нашу хату,
Сёння мы, знаеш, збіраемся рана.
Будзе й на нашай вуліцы свята!
— Чуеш, ступае ўжо нехта на ганак.
— Вось і Антон!*
Ну, а дзе Пераплётчык?**
— Прыдзе ён хутка,
— Сядай, пачакаем.
— Ледзьве прышоў,
следам нехта ўсё крочыў.
Страшна на вуліцы,
замець такая...
Новыя людзі прыходзяць у хату—
Юны набойшчык з усмешкай жывою,
Згорблены муляр,
сталяр сіваваты,
Гутараць нешта яны між сабою.
Кожны прыходзіць асобна,
употай,
Ціха ступае праз цёмныя сені.
У хаце запахла махоркай і потам,
Скачуць на сценах дзівосныя цені...

— Ну, што-ж, сябры, ўжо час ідзе да ночы,
Нас многа тут. Дык будзем пачынаць!

---

* Антон Россол—актыўны малады польскі рабочы, друг Ф. Э. Дзержынскага, памёр ад сухотаў у Седлецкай турме.
** Пераплётчык—адно з падпольных прозвішчаў Фелікса Эдмундавіча.

— Давай, давай, таварыш Пераплётчык!
Сціхае гул і людзі ўсе маўчаць.

Ён устае таварыш Пераплётчык,
Ён падыходзіць стройны да стала.
Глыбокай думаю яснеюць вочы
І слова кожнае яго—страла.

І слова кожнае працята болем
За ненакормленых малых дзяцей
І за бядняцкую цяжкую долю,
За слёзы згаслых матчыных вачэй.

Ён, быццам сцяг ўздымае голас гнеўны
На тых,
хто век жыве чужым гарбом,
Хто робіць свет магілаю турэмнай,
Хто хоча правіць смерцю і жыццём.
— Таварышы!
Не будзем мы здавацца!
Рабом паноў ніхто не хоча быць.
І заўтра зноў не выйдзем мы на працу!
Таварышы! Не спынім барацьбы!

Так кліча ён танклявы і высокі,
„Нібы таполя кіеўскіх вышынь“.
Далёка бачыць ён арліным зрокам,
І слухаюць яго таварышы.

Сядзяць яны ў маўклівасці суровай.
А ў сэрцы сілы грозныя гараць,
І проста ў душу западаюць словы:
— Адно для нас—змагацца, баставаць!..
— Га, баставаць?!
Бунтоўныя размовы?—
У хату з ветрам уварваўся крык—
— Угору рукі!
Ўстаць хамове!
І ля дзвярэй халодны бліснуў штык.
Узняўся шум
і ўсхваляваўся Фелікс,
Ён падымае горды, тонкі твар,
І гнеў гарыць ў вачах жывых і смелых,
І замаўкае знехаця жандар...

... Іх павялі завулкамі глухімі.
Завеі снежныя наўкол гулі.
Зяругамі драпежнымі за імі
З вінтоўкамі ў руках
жандары йшлі.

* * *

Марозны вецер блукае па хаце,
Ніхто не вышаў дзверы зачыніць:
Каля калыскі горка плача маці,
А сын яе зусім спакойна спіць.

---

## II

### Смерць таварыша

„Сижу за решеткой в темнице сырой,
Вскормленный на воле орел молодой.
Мой грустный товарищ, махая крылом,
Кровавую пищу клюет под окном“...

За халоднай, шэраю сцяной
Галасы дзявочыя звінелі,
У гэтай песні гора, неспакой,
Гэту песню сэрцам чуе Фелікс.
Ледзь па камеры ступве ён,
У кайданы закаваны ногі.
Змоўкла песня,
                    зноў магільны сон
Ахінае цемрай і трывогай...
Спіць турма.
                    Паволі ноч ідзе
Па Варшаўскай чорнай цытадэлі*
І не чутна шолаху нідзе,
А вачэй закрыць не можа Фелікс.

Цішыня, бы сонны, грозны звер...
Раптам дзесьці ўзнікаюць гукі—
Чалавека павялі цяпер
За спіной яму скруціўшы рукі.

Чалавек хацеў жыцця з святлом,
Ён народжаны гарэць і верыць.
А яго загналі ў мёртвы дом
І ад свету зачынілі дзверы!

Дзесь пілуюць.
                    Чуцен гэбляў скрып,—
Зноў камусьці шыбеніца будзе.
Закатуюць, мабыць, на зары
І пяском сырым засыплюць грудзі.

Хто сказаў, што вечна будзе так?
Гнеў мільёнаў не задушаць каты!
势ануць поплеч бацька і юнак,
Прыдзе час, суровы час расплаты!

---

* Х-ты павільён Варшаўскай цытадэлі—вядомы сваім невыносным рэжымам і т. зв. каменнымі мяшкамі, дзе трымалі арыштаваных.

Мы разбурым турмаў душны свет,
Разаб'ем праклятыя кайданы!
Ў сэрцы песня новая расце —
— Быў нічым, а хутка ўсім ты станеш!

Падыходзіць Фелікс да вакна,
Маладзік на небе ўзыходзіць.
За вакном цяпер ужо вясна,
І спяваюць птушкі на свабодзе.

У садзе, мабыць, вішні расцвілі.
А калі праходзіць дождж вясновы,—
Пахнуць чыстай свежасцю палі
І зямля тады здаецца новай...

Вартавыя крочаць на двары,
Часам, стук затвораў далятае.
Фелікс кнігу са стала бярэ,
А старонкі месяц асвятляе.

Ён чытае доўга ў цішыні...
Ужо світае за вакном высокім.
Раптам хтосьці дзверы адчыніў,
Набліжаюцца цяжкія крокі.

— Ты!
— Выходзь!
Хрыпіць каля яго
Ненавісны п'яны бас жандара.
— Ну, хутчэй!
— Марудзіш ты чаго?
І ўдарыў Фелікса па твары.

Пацякла з распухлых дзяснаў кроў,
У вачах, бы ноччу, цёмна стала.
Нехта злосна прасіпеў ізноў:
— І ў Седлецкай* пасядзіш не мала!

... Зноў халодны і сыры астрог.
Зноў кайданы. Цішыня наўкола.
— Фелікс, родны!
Тут сустрэў яго
Нечый блізкі
І любімы голас.
— Хто, Антон?
Антон! Таварыш мой!
— Я. Пазнаў і ў гэтакай магіле?
Кашаль душыць лютаю змяёй.
— Бачыш, Фелікс, што яны зрабілі?
Цяжка дыхаць. Ледзь гаворыць ён
І дрыжыць увесь у ліхаманцы.

* Седлецкая турма ў Варшаве.

— Спаць кладзіся.
Адпачні, Антон!
Голас друга, быццам голас маці.

* * *

Смерць ступае няўмольнай
і хуткай хадою.
Мабыць, болей Антону не прыдзецца ўстаць.
Паміраць гэтак цяжка вясной маладою,
Калі кветкі ў садах пачалі расцвітаць.

— Фелікс, руку мне дай...
Мне так добра з табою.
Эх, каб волю цяпер!
Я пайшоў бы туды,
Дзе паўдзённае мора грукоча прыбоем,
Я памыўся-б у хвалях салёнай вады...

Уцячы-б нам адсюль...
А калі-б і ўцяклі мы
Хіба-б змог я змяніцца
Па іншаму жыць?

Не! Не змог-бы я сцежкамі блукаць крывымі!
Фелікс, родны мой
Зноў...
Увутры ўсё гарыць...

Кашаль жудасны грудзі яго раздзірае.
І сціхае Антон.
Потым шэпча ізноў:
— Дзе Янінка мая, дзе яна дарагая?
А забыўся...
Яніна-ж у Вісле даўно.
Так... На вёсцы жыла,
Парабчанкаю простай
Спадабалася пану...
Глуміўся ён... Здзек...
А ці-ж мала такіх?
Нашы мацеры, сёстры!..
— Хто адпомсціць?..
... Закрыліся вусны навек.
Ён ляжыць малады на турэмнай пасцелі.
Кроплі буйнага поту на твары блішчаць.
Нахіляецца к другу ўсхвалёваны Фелікс
І не можа ён слёз непакорных суняць.

— Спі, спакойна, Антон!
Спі спакойна, таварыш!
Голаў друга свайго
Гладзіць горача ён.

І гараць яго вочы, бы сонца з-за хмары,
І прысяга звініць—
— Мы адпомсцім, Антон!

---

„Калі-б зорка соцыялізма не свяціла чалавецтву, не варта было-б жыць!"

*Ф. Дзержынскі.*

## III

### Мужнасць

Выюць завеі,
выюць віхуры.
Звісла над снежным прасторам туга.
Дзень, нібы вечар, змрочны, пануры.
Глянеш навокал—
тайга
і тайга.

Спеў закаваны крочыць паволі
І кайданамі пацІху грыміць:
— „Сбейте оковы,
Дайте мне волю,
Я научу вас
Свободу любить"...
Душу сціскае холад, бы краты,
Ные спіна,
Ад пабояў баліць.
А пад старым арыштанцкім халатам
Сэрца гарачае б'ецца, гарыць.
Шляхам сібірскім,
ранкам,
начамі,
Людзі праходзяць з надзеяй сваёй.
Ім пагражаюць куляй, штыхамі,—
Будзе ўсёроўна надзея жывой!

... Злева і справа—скогат мяцеліц,
Злева і справа—жандары, канвой.
Нехта прамовіў:
— Холадна, Фелікс.
— Будзе нам цёпла, таварыш ты мой!
Яснае сонца хутка засвеціць!
Фелікс хвалюецца,
Крок прыпыніў:
— Шчасце спазнаюць нашыя дзеці,
Прыдуць, таварыш, прыгожыя дні!..

— Эй!
Не спы-няц-ца!
... Шаблі. Кайданы.
Хочацца скінуць ўладу тайгі.
Ў памяці вырас вобраз Багданы *),
Вось яна, быццам, ідзе праз снягі.
Ён на рабоце стрэўся з Багданай,
Важныя пісьмы прыносіла раз.
Чорныя вочы,
тонкая станам.
Ён не забудзе юнацкі той час!

На развітанні плакаць не стала,
Як адпраўлялі мужа ў Сібір.
Толькі рашуча, горда сказала:
— Ім не зламаць нашых сіл, барацьбы.

Думкі-ўспаміны крык абрывае—
— Эй!
— Ста-на-віся!
... А вецер гудзіць.
Песня у сэрцы б'ецца жывая
— „Я научу вас
свободу любить!“

Над галавою снежныя хмары,
Месяц па небе начным не плыве,
Раптам пацїху просіць таварыш:
— Ўспомні юнацкія вершы свае.

— Ўспомні, Дзержынскі!
... Ён пачынае,
Голас высокі расце і звініць,
Верш устае над лёдавым краем,
Верш заклікае змагацца і жыць:
— Вырас я ў турмах...
Ў дні маладосці
Многа я гора, пакуты спазнаў,
А каб нанова жыць мне прышлося,—
Гэтак-жа зноў-бы жыццё я пачаў!
Слухаюць людзі з брытымі лбамі.
Сэрцу становіцца цёпла ад слоў,
Быццам над цемрай
і над снягамі,
Раптам вясновае сонца ўзышло.

---

*) *Багдана* — тагочасная партыйная клічка Соф'і Сігізмундаўны — жонкі Ф. Э. Дзержынскага.

— Як і раней я, родныя, горды.
Мы не баімся іржы ланцугоў!
Бачу—ўстаюць байцы за свабоду,
Новыя сілы растуць для баёў!

* * *

Ён ішоў між сібірскіх снягоў,
Ён пакутваў у турмах халодных.
І рабочыя знаді яго,
Называлі таварышам родным.

Адзінаццаць гадоў ён пражыў,
Ненавісным астрогам закуты.
І з выгнання ён тройчы бяжыць,
Разрываючы душныя путы.

Ён працоўных на бой падымаў,
Поўны верай вялікаю, яснай.
І ні разу ён духам не паў,
І ні разу надзея не згасла.

На такое змаганне-жыццё
Наша слаўная партыя звала.
Быў ён чысты як тое дзіцё,
Быў ён цвёрды, як морскія скалы.

Хоць гарэў у ім вершаў агонь,—
Не пісаў больш паэм гераічных.
Самай лепшай паэмай яго
Стаў упэўнены бой за Кастрычнік!

---

## IV

### Чэка

Шмат вуліц шумлівых у роднай Маскве,
Дамоў шмат прасторных і цесных.
У доме адным тут жыве чалавек
Суровы і просты, як песня.

Дом адзінаццаць
высокі, стары,
а вуліцу клічуць Лубянкай.
У шэрай шынелі юнак вартавы
Стаіць ля каменнага ганку.

Глядзіць ён ласкава на дзверы, на дом,
Часамі, ўсміхнецца шырока,—
Ён знае, што тут няўтомным жыццём
Жыве камісар яснавокі.

Ў старой гімнасцёрцы, ўвесь скромны такі—
да самай апошняе рыскі.
Крыштальнае сэрца
і цвёрдасць рукі—
Такі ён таварыш Дзержынскі.

Не дрэмле ніколі яго тэлефон,
Спакою няма ў чалавака.
Упэўнена, хутка адказвае ён,
Гарацъ ад бяссоння павекі...
Уранні прыходзіць таварыш к яму,
А ён усміхнецца ў бародку
І строга спытае:
— Не спаў ты чаму?

Што дзень для цябе ўжо кароткі?
І твар твой схудалы, і голас не той,
І вусны, здаецца, збялелі!

Таварыш той толькі кіўне галавой:
— А сам, як працуеш ты Фелікс?
Вось тут у пакоі, за шырмай стаіць
Пад коўдрай салдацкаю ложак.
Даўгімі начамі Дзержынскі не спіць,
Ён часам такім спаць не можа.

Варушацца гады на нашай зямлі
І злосна сіпяць на советы.
Паўзуць на заводы,
Паўзуць на палі
Жывыя нябожчыкі свету.

Ізноў яны хочуць украсці ў нас
І яснае сонца, і волю,
Каб радасці светач ізноўку пагас,
Каб нам не свяціў ён ніколі.

Што з гадамі гэтымі трэба рабіць
За іхнюю подлую здраду,—
За тое, што прагнуць краіну разбіць,
З нажом падпаўзаюць да ўлады?

... Не спіць тэлефон ад відна да відна
І Фелікс не ведае цішы.
Рука не падманіць,
не дрогне яна,
Калі ён
— К расстрэлу
— падпіша.

... У скромным пакоі сядзіць за сталом
Чэкіст—камісар яснавокі,

Адкрытыя вочы сагрэты жыццём
І сілаю думы глыбокай.

Нястомныя вочы.
Блакітны агонь!
Часамі ў іх столькі пакуты!
Уліваецца, часам, у душу яго
Маўклівага суму атрута.

Вось так з ім і ўчора пад вечар было.
Ён хутка па вуліцы крочыў,
Падбег да яго неяк ціха,
без слоў
Маленькі замурзаны хлопчык.

За край гімнасцёркі ўхапіўся рукой,
а тварык прасіў:
„Дайце хлеба!“
Над вуліцай плыў надзвычайны спакой.
Сінела вячэрняе неба,
І пахла вясною...
А хлопчык чакаў.
Дзержынскі купіў абаранкаў,
Даў есці малому
а сам—у Чэка,
і там не заснуў аж да ранку.

Уставалі ў памяці іншыя дні—
Варшава.
Былое юнацтва.
У шэрых кварталах ля кожнай сцяны—
Пажоўклыя дзеці, жабрацтва...

Маленькія дзеці з вачыма старых
І з тварам ад ветру шурпатым!
Начамі,
у сне прылятаді да іх
і маці,
і цёплая хата.

Ён з болем, трывогай праходзіў тады
Ля юных пакутнікаў гэтых...
Навалы грымелі,
міналі гады,
І вось ён—
на варце Советаў.
Мы творым у грозны
небачаны дзень
Жыццё найвялікшае ў свеце.
Жыве яшчэ, часам, мінулага цень—
Галодныя, бледныя дзеці.

А можна-ж зрабіць, каб яны расцвілі,
Каб шчочкі ярчэлі, як ружы!
Ён звоніць у Крэмль:
— Владзімір Ільіч?
Ёсць справа сур'ёзная дужа.
— Вы знаеце,
дзеці.

Не мала такіх,
Што сёння без бацькі, без дому.
Я думаю, трэба комуны для іх.
Мне хочацца ўзяцца самому.

Што згода? Вітаю! Мы сёння
пачнем!
Ён радасна ў трубку смяецца.
На вуліцы—
светла.
Гадзіннік б'е сем.
І смутак адчаліў ад сэрца.

Яснее вясна у спакойных вачах
— Так, значна, комуны ўжо маем!
Ён бачыць, як дзеці гуляюць ў садах.
Сагрэтыя сонцам і маем.

Адзін будзе токар,
другі з іх—паэт,
А трэці ляцець будзе ў высі.
Адчынен для іх неабсяжны ўвесь свет
Адно толькі ведай:
вучыся!

Для гэтага варта было пацярпець,
Пакутваць у царскіх астрогах,
За горла хапаць непакорную смерць,
Хадзіць па таежных дарогах.

Для гэтага варта тварыць, будаваць,
Змагацца няспынна
і смела,
І цемру, і гора старое зламаць
Адным прыгаворам:
— К расстрэлу!

---

## V

### Апошняя прамова

Ён устае высокі і жывы,
Ён вырастае на трыбуне,
Як воін,
як суровы вартавы.

І пленум слухае трыбуна.
Спачатку ціха ён загаварыў,
Твар пабялеў ад хвалявання.
І з першых слоў ён залу пакарыў
Агністым клічам да змагання.
Ён сёння ледзьве можа гнеў
стрымаць,
Нянавісць грозная у сэрцы,—
Да тых,
хто йдзе сумленне прадаваць,
Хто дыша здрадаю і смерцю,
Хто падымае подлы бруд рукі
На ўсё, што свята нам і блізка.
У зале ціш.
І слухаюць вякі—
Гаворыць горача Дзержынскі.
У страсным голасе спявае медзь.
Ён просты ўвесь,
бародка клінам.
І слова кожнае, нібы баец—
На варце
Партыі адзінай.
Яго любоў чысцей ад ясных рос,
Яна загойвае і раны.
Ягоны гнеў між навальніц узрос,
Крывёю сэрца ўзгадаваны.
Свяшчэнны гнеў!
Ён падае, як меч
На вас, варожыя галовы!
Прымусяць вас
спалохана знямець
Яго палаючыя словы.
Ён кожнай лічбай простаю, жывой
Знішчае вырадкаў праклятых.
Ён сёння вышаў у апошні бой
З суровай мужнасцю салдата.
Нікому ён не стане гаварыць
Што ў грудзях боль засеў глыбока.
І гасне ўраз, і зноў ярчэй гарыць
Ружовасць хворая на шчоках.
І толькі рукі тонкія яго
Хапаюцца за сэрца, часам,
Але ў прамове сіла перамог
І вочы пазіраюць ясна.
Глядзіць ён грозна здраднікам у
твар,
Ён сёння ўсё сказаць ім хоча;
Ім не зламаць наш баявы штандар,
Ім не спыніць работы творчай!
У зале гром ад воплескаў гудзіць,

Дзевяты вал бурліць у зале.
Ён дасказаў, ён бледны ўвесь стаіць,
Перад вачыма цёмна стала.
У сэрцы боль,
Паволі ён пайшоў
З старым нагружаным партфелем
І кажа хтось з яго таварышоў:
— Дай руку, родны ты наш, Фелікс!
— Я сам магу...
ўсхвалёваным сябрам
Ён прашаптаць ледзь чутна можа.
Ідзе ў пакой суровы свой.
— Я сам...
І мёртвы падае на ложак.

*
* *

Хай-бы жыў ён яшчэ, будаваў!
Сорак восем гадоў—хіба многа?
Ён памёр на пасту. Ён аддаў
Увесь агонь свайго сэрца жывога,—
Каб расла і квітнела ў баях
Наша сіла мацнейшай ад сталі,
Каб патомкі ў наступных вяках
Яшчэ большую радасць спазналі.
Ён памёр.
Але слова жыве,
І ўстае яго слаўная справа,
Як суровы, жывы чалавек,
Як чэкіст на савецкай заставе.
Ён жыве на калгасных палях,
Дыша мужнасцю нашых заводаў,
Ён стаіць вартавым ля Крэмля,
І жыве ён у казках народаў.
З новай сілай ён сёння заве:
— Нагатове трымайце вы порах!
Мы яго не забудзем завет,
Смерць
і смерць атрымае
наш вораг!
Не дамо мы ні пядзі зямлі,
Што бацькі здабывалі нам з боем,
За якую згарэла калісь
Жыватворчае сэрца героя.
1936 г.—1937 г.

*Ю. Віцьбіч, Б. Люгоўскі,*
*А. Ушакоў, Р. Жалезняк*

# МЫ КІМАЎЦЫ

*(З гісторыі Віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі)*

## ЗАЛАТАЯ СТАРАСЦЬ

*Р. Фрумкін*

Лет до ста
расти
Нам
без старости.
Год от года
расти
Нашей бодрости.

*В. Маякоўскі.*

Чатырнаццацігадавым падмайстрам даводзілася мне на рубяжы двух стагоддзяў бываць у пасёлку Маркаўшчына. Прыгарадныя Калупаевы і Разуваевы мелі там гароды. У маі месяцы яны пачыналі прывозіць на Віцебскія рынкі радыску і зялёную цыбулю, пазней, у чэрвені—скараспелую бульбу, у канцы жніўня—качаны капусты. Раніцамі іх работнікі, згінаючыся ў крук, везлі па ўскраінных вуліцах горада цяжка гружаныя гароднінай каламажкі. У Маркаўшчыне адпраўляў урачыстыя набажэнствы адзіны ў Віцебску манастыр. Нудныя гукі званоў плылі над загубленымі, паміж хмызнякоў, убогімі хацінкамі. Кастрычнік знішчыў кулакоў і зачыніў боскую ўстанову.

Гаспадар саматужнай майстэрні, дзе я працаваў, Халфін меў у Маркаўшчыне сталага заказчыка—замежную фірму, якая будавала ў тыя гады ільнопрадзільную фабрыку „Дзвіна". Усю слясарна-кавальскую работу для будаўніцтва рабілі ад цёмнага да цёмнага мы—работнікі Халфіна.

Пазней, калі фабрыку нарэшце пабудавалі, у доўгім, падобным да турмы, корпусе з'явіліся работніцы. Па брудных цэхах пачалі прагульвацца прыганятыя з бізунамі ў руках, бізунамі яны напаміналі дзецям—з'ёмшчыкам, што час здымаць пражу. Гэта было не ў далёкае сярэднявечча, а ў пачатку нашага стагоддзя.

Губернскі горад Віцебск, дзе з аднаго боку былі губернатар і архірэй, чыноўнікі ўсіх рангаў і папы ўсіх культаў, гандляры і домаўласнікі, гарадавыя і жандары, а з другога боку—рабочыя, саматужнікі і людзі паветра, не меў вялікіх прадпрыемстваў акрамя

„Дзвіны“, махорачнай фабрыкі Калбаноўскага і акулярнай фабрыкі Левінсона. Для яго прамысловасці ў той час характэрны такія заводы, як спірта-гарэлачны, піваварны, крупадзёрны, штучных мінеральных вод, кафельны і шматлікія саматужныя майстэрні. Тэхніка тагочаснага Віцебска ўвекавечана ў яскравых карцінах мастака Юрыя Майсеевіча Пэна. Гэта тэхніка пасхальнай мацы і шабасавых свечак, тэхніка шыла і дратвы, нажніц і уцюга.

Трыццаць год таму назад мне давялося падмайстрам эксплаататара Халфіна садзейнічаць будаўніцтву фабрыкі „Дзвіна“. У 1931 годзе па ўказанню віцебскіх партыйных і савецкіх арганізацый я, як дырэктар завода „Чырвоны металіст“, садзейнічаў пуску соцыялістычнай фабрыкі—палаца „Кім“.

Сам я па прафесіі слёсар. У 1919 годзе Віцебскі камітэт па барацьбе з беспрацоўем паслаў мяне ў ліку нязначнай колькасці таварышоў у „белыя казармы“, дзе змяшчалася ваенна-рамонтная майстэрня. Гэта тая самая майстэрня, у якой за два гады перад нашым прыходам працаваў тады салдат пятай артылерыйскай пачыначнай каманды, а цяпер генеральны камісар дзяржаўнай бяспаснасці т. Ежоў. Там быў арганізаваны завод сельска-гаспадарчага машынабудаўніцтва, вядомы сёння не толькі віцеблянам, як чырвонасцяжны „Чырвоны металіст“.

Спачатку я працаваў загадчыкам цэхоў кавальскага, плужнага, загадчыкам вытворчасці, нарэшце дырэктарам. Да трыкатажнай прамысловасці непасрэднага дачынення я не меў. Але новапабудаванай фабрыцы „Кім“ патрэбны былі кваліфікаваныя кадры і я быў пераведзен туды. Тут як галоўны механік, я кіраваў заканчэннем абсталявання цэхоў, устаноўкай вадапомпавай і парасілавой станцыі. Гэта блізкая мне работа. Без кваліфікаваных кадраў і недахопу матэрыялаў даводзілася непасрэдна кіраваць работамі, адшукваць сродкі. Часта прыходзілася перамагаць цяжкасці.

Часовая вадапомпавая станцыя стаяла на беразе Дзвіны без усякіх умацаванняў. Увясну 1934 года ледаход пагражаў знесці яе. Фабрыка магла застацца без вады, неабходнай для абслугоўвання фарбарнага цэха. Новая сталая вадапомпавая станцыя яшчэ не была пушчана.

Разам з т. Гарадзецкім—начальнікам вадапомпавай станцыі і чатырма рабочымі, па калені ў вадзе мы трое сутак змагаліся з стыхіяй. Кожны дзень пераносілі станцыю ступенькай вышэй, выратоўваючы ад ільду, які штохвілінна пагражаў знішчыць яе. „Врэмянку“ ўдалося нарэшце ўстанавіць. Месяц пасля гэтага я прахварэў крупозным запаленнем лёгкіх. Гавораць, што ў гарачцы ўскакваў з ложка і збіраўся бегчы ратаваць станцыю. Выжыў. Фабрыка паслала мяне на курорт.

Так скончылася мая барацьба з ільдом, а раней мне давялося змагацца з полымем. Аднойчы на заводзе „Чырвоны металіст“ адкрылася фарсунка лакамабіля. Гарачая нафта ўдарыла ў дах цэха і языкі полымя пабеглі па сцяне. Пачынаўся пажар. Я рынуўся да машыны і ў агні закруціў крант. Апёк руку да касці. Доўга хварэў.

37 год работы. Дзесяцігадовым хлапчуком я паступіў у Лепельскую рамесніцкую школу. Шэсць гадзін займаліся навукамі, шэсць працавалі—дванаццаць гадзін у дзень. Тры гады я вучыўся там. Маці мая ў гэты час працавала кухаркай у багатых. Гаспадыня ўзяла яе на работу з умовай: не прыводзіць сына. Баялася, каб дзесяцігадовы галодны хлапчук не аб'ядаў іх. І я бадзяўся з дому ў дом, летам начаваў на плытах, якія стаялі ля берагоў ракі Ульянкі, зімой на печы з сябрамі. Аднаму з гэтых сяброў маленькаму Гершману, здольнаму к рамяству, не ўдаваліся навукі. Я дапамагаў яму рыхтаваць урокі. Ён, употай ад сляпой маці, падкармліваў мяне чорным хлебам з цыбуляй і соллю.

З трынаццаці год я павёў самастойнае жыццё рабочага—стаў зарабляць і дапамагаць маці. Ужо восемнаццацігадовым юнаком пачаў удзельнічаць у рэвалюцыйным руху: распаўсюджваў пракламацыі, баставаў. Я задаволены тым да чаго дажыў, чаму садзейнічаў, для чаго працаваў. Рабочыя сустракаюць мяне з павагай, фабрыка адзначае маю работу, клапоціцца аб маім здароўі. Трое сыноў радуюць маю старасць: старэйшы скончыў ВНУ, сярэдні працуе тэхнікам. Яму восемнаццаць год. Малодшы—няхай будзе тым, кім хоча. Ён свавольны і дзёрзкі. Марыць быць лётнікам. Пакуль майструе мадэлі планераў, выдатна плавае, ходзіць сарвігалавой. Стары Фрумкін задаволены сваімі сынамі!

Пакуль у мяне ёсць сілы, я буду працаваць. На фабрыцы добра. Гэта вялікі родны сямітысячны калектыў рабочых і работніц. У маім кацельным цэху 150 рабочых. Каля шасцідзесяці з іх—стаханаўцы. Яны паказваюць соцыялістычныя ўзоры працы. Выпуск прадукцыі фарбарным цэхам залежыць ад нашага цэха. Апал цэхаў—таксама наша справа. Добра працаваць са стаханаўцамі. Кожны з іх кроўна зацікаўлены працай.

Што трэба лепшага, чым жыць у краіне, у якой кожны работнік працуе для сваёй краіны, для сябе, дзе краіна так клапоціцца пра сваіх сыноў. Што трэба лепшага, чым вырашчваць сыноў, якія будуць працягваць справу тваю—бадзёра і радасна будаваць соцыялістычнае грамадства.

Я дзед. За маімі плячамі ляжыць вялікае жыццё, якое па-звычайнаму для ўсіх людзей, пачынаецца з дзяцінства і канчаецца старасцю. Назваць маё непрыветнае, жабрацкае дзяцінства залатым можа толькі які-небудзь безнадзейны недарэка. Я не ведаў гэтага залатога дзяцінства, вядомага маім сынам, але за тое мне добра знаёма мной заваяваная залатая старасць. А можа гэта зусім і не старасць?

Калі ў дзень шасцідзесяцігоддзя М. І. Калініна краіна закідала юбіляра прывітаннямі, Міхаіл Іванавіч сустрэў гэты бурны струмень віншаванняў усмешкай:

— Ужо ці не спроба гэта пазалаціць пілюлю, ці не спачуванне з прычыны наступлення старасці. У нашай краіне пытанне старасці трэба перагледзець...

Хіба не праўду казаў усесаюзны старшыня? Старасць гэта забабоны. Вышэй галаву, дзяды. Глядзі ўперад. Шырэй плечы.

---

## НЯПРАЎДА, ШТО Я СТАРАЯ

*Г. Славіна*

Стары Віцебск. Яўрэйскае гэтта Расійскай імперыі. Жабрацкае сутарэнне на Афіцэрскай вуліцы, побач з прыгожымі камяніцамі. Камяніцы належалі Хане Гурвіч. Да яе прыязджаў на шклянку чаю губернатар, а ў сутарэнні жыў мой бацька Янкель Славін, якога лічыў справай гонару зняважаць кожны гарадавы. Наша вялікая сям'я амаль што галадала і таму я з 10 год пайшла зарабляць на хлеб.

Не ўсякі віцеблянін сказаў бы вам, дзе знаходзілася панчошная майстэрня Малкіна. Непрыкметная гэта была майстэрня і не кожны яе ведаў. Пра яе існаванні толькі сведчыла шыльда, дзе вакол намалёванай панчохі ішлі крывыя літары:

ТУТ З ДВУХ ПАРВАНЫХ ПАНЧОХ РОБЯЦЬ АДНУ НОВУЮ

ды старая сумная песня панчошніц, якая часам чулася з глыбіні паўцёмнага акна:

Дзе ты куля, агнявая куля,
Кліча цябе Рыва, бедная Рыва,
Ой, хай заб'е яго матку куля,
Яна адгаварыла майго жаніха.

Тут я ўпершыню пачала разам з сваёй сястрой вучыцца рамяству. Каму не вядома, як вучыліся ў ранейшых майстэрнях. Некалькі цяжкіх год адпрацавала ў Малкіна, потым перайшла да Фейгі на Пескавацік. Няўзабаве Фейга паехала ў Амерыку і я трапіла ў другую майстэрню.

У тыя гады буйны гандляр даваў часта бедным работніцам на выплату машыны, каб потым яны на кабальных умовах працавалі на яго. Так, я працавала значны час на вядомага віцебскага гандляра Марковіча. Гэты гад асабліва даўся мне ў знакі, у сувязі з адным выпадкам у нашай сям'і.

Выдавалі мы замуж старэйшую сястру. У мінулым выдаць замуж бедную яўрэйскую дзяўчыну, і тым больш з непрыгожым тварам—была справа не лёгкая. Жаніх менш чым за чатырыста рублёў не згаджаўся ісці пад вянец. Нічога не зробіш. Прышлося усёй сям'ёй працаваць, каб сабраць пасаг. Не памятаю колькі часу мы працавалі--мусіць доўга, бо грошы вялікія. Толькі памятаю, што працавалі ўсе ноччу, аж да віднага. Нарэшце, грошы сабралі, пачалі рыхтавацца да вяселля. Вось усё падрыхтавана—час прызначаны. Госці запрошаны. Вось ужо жаніх правярае грошы і... раптам выявілася, што мы аблічыліся,—было не чатырыста, а трыста пяцьдзесят рублёў. Ён абурыўся: хто пасмеў жартаваць з яго. Умова—ёсць умова. Чытырыста рублёў і кропка. Інакш не бываць вяселлю. Што рабіць. Вельмі шкада сястру, якую асаромяць цяпер на ўвесь горад. Я пабегла да Марковіча прасіць у яго пяцьдзесят рублёў. Ледзь выпрасіла. Сястра выйшла замуж. У мяне не хапае рашучасці асабліва абвінавачваць жаніха маёй сястры. Ён паходзіў з той-жа бедны, як і мы. Гэтыя чатырыста рублёў яму патрабаваліся на першапачатковыя сямейныя абсталя-

ванні. Але за тое ніколі я не забудуся, як прасіла ў Марковіча пяцьдзесят рублёў. Прасіла са слязамі, амаль што ў нагах валялася. Ён даў гэтыя грошы, як даюць міласціню, потым яшчэ больш закабаліў нашу сям'ю.

Гэтаму выпадку можа хто з моладзі не дасць веры, але для нас ён суровая жыццёвая праўда, пра якую горка ўспомніць. Усю сваю маладосць я правяла па чужых майстэрнях, у працы на чужых і варожых людзей. Таму, зразумела, як толькі пасля вялікай пролетарскай рэволюцыі пачалі арганізоўвацца совецкія прадпрыемствы, я адной з першых пашла туды працаваць.

У 1919 годзе, у памяшканні былога „дваранскага сабранія" адкрываецца панчошная фабрыка імя Клары Цэткін. Там ужо працавалі Баскіна, Фрумсон, Дробкіна, Сіманенкава і інш.

Калі цяпер гавораць: панчошная фабрыка, дык уяўляеш сабе вялікія светлыя карпусы, доўгія цэхі, абсталяваныя машынамі высокай тэхнічнай якасці. Але спачатку фабрыка імя Клары Цэткін адрознівалася ад саматужнай майстэрні толькі сваім памерам. Мы, панчошніцы, нагадвалі цесляроў, якія прыходзяць на будоўлю з уласнымі сякерамі, бо прыходзілі на фабрыку з уласнымі машынамі. Памятаю спярша я працавала уцюжчыцай. У цэху палілася невялікая печка, з якой мы бралі вугалле і расспальвалі уцюгі. Ад печкі ў цэху рабілася чадна і я тады перабіралася працаваць у калідор. Па ваду мы хадзілі на раку—на фабрыцы яшчэ не было вадаправода. Нават не было сваёй фарбарні, прадукцыю аддавалі фарбаваць у прыватную майстэрню. І нават доўга яшчэ прахожыя па масту праз Заходнюю Дзвіну чулі з вакон фабрыкі:

Ой, хай заб'е яго матку куля,
Яна адгаварыла майго жаніха.

Работніца Баскіна першая ўзняла пытанне аб здачы ўласных машын фабрыцы. У газеце „Панчошніца" яна пісала: я першая ўношу ў фонд індустрыялізацыі сваю панчошную флангавую машыну, на якой працавала, пакуль я паступіла на фабрыку. Выклікаю ўзяць з мяне прыклад усіх астатніх работніц, у якіх яшчэ асталіся флангавыя машыны, і гэтым самым мы, работніцы, унясем сваю частку ў вялікае будаўніцтва соцыялізма.

Выклік Баскінай адразу падхапілі. Флангавыя машыны былі аддадзены на фабрыку.

Неяк пашлі чуткі—у Віцебску мае будавацца вялікая панчошная фабрыка. У 1930 годзе мы ўжо ведалі, што фабрыка будуецца. У вольны ад работы час я пашла ў тагочасную Маркаўшчыну паглядзець на будаўніцтва. Нібы прыкаваная да аднаго месца, стаяла здзіўленая размахам работ. Грымелі бетонамешалкі, на рыштаваннях і на двары мітусіліся сотні людзей. Рабочыя фабрыкі „Дзвіна" прышлі на суботнік. Мне зрабілася неяк няёмка стаяць і глядзець, я ўзяла рыдлёўку і пачала працаваць разам з усімі. Раслі фабрычныя карпусы. Спачатку яны перараслі камяніцы, пасля яны перараслі і фабрыку імя Клары Цэткін і ўсё тое, што мяне дагэтуль здзіўляла.

Гледзячы на светлыя цэхі новай фабрыкі, мне, старой работніцы,

не цяжка было бачыць светлую будычыню людзей, што будуць тут працаваць. Але я ведала і тое, што на фабрыку прыдуць новыя рабочыя, пераважна з вёсак, без усякай кваліфікацыі, навучыць іх працаваць на новых машынах—задача не лёгкая. Прыдзецца не мала пакласці працы, казала я сабе. і цвёрда парашыла, што абавязкова пайду працаваць на новую фабрыку.

Але нажаль не ўсе так думалі.

Для таго, хто ведае стары Віцебск—з словам Маркаўшчына звязана многае. Гэты раён славіўся сваім буянствам. Мала населеная мясцовасць, глухія закуткі,— усё гэта да часу давала прытулак розным цёмным людзям. Трамваі туды не хадзілі і дабрацца з горада было вельмі цяжка. Таму я не здзівілася, калі работніцы, асабліва маладыя, адмаўляліся ісці працаваць на новую фабрыку.

Аднаго разу прыходзіць да мяне начальнік цэха т. Левіт і пытае:

— Як, Славіна, пойдзеш працаваць на новую фабрыку?

— А хіба не? З вялікім задавальненнем,—шчыра адказваю я.

Левіт нават здзівіўся. Ён проста падумаў, што я кпіла з яго. Многія адмаўляюцца, а тут,—калі ласка, са здавальненнем. Ён падышоў да адной работніцы і папрасіў, каб яна перагаварыла са мной. І толькі, калі я яшчэ раз падышла да яго і зусім сур'ёзна пацвердзіла, што хачу працаваць на новай фабрыцы,—ён паверыў.

У выходны дзень зайшла на старую фабрыку, размаўляла з работніцамі, дзялілася ўражаннямі аб сваёй новай рабоце. Работніцы перадавалі адна другой:

— Гіся ужо дзесяць дзён працуе на новай фабрыцы. Гаворыць, што гэта не фабрыка, а проста палац. Гаворыць, што старой Маркаўшчыны няма, а ёсць новая Пролетарская слабада.

Пачаўся прыток старых рабочых на фабрыку „КІМ".

Калі я прышла сюды на фабрыку, мне было 45 год. Я была неграматная. А хіба можна быць поўнацэннай совецкай работніцай, поўнацэнным грамадзянінам совецкай рэспублікі, калі ты неграматная. Я пачала вучыцца. Вучылася я ўпарта, настойліва, хоць і было цяжка. Тут на фабрыцы аба мне клапоцяцца, берагуць маё здароўе, пасылалі на курорт і ў плавучы дом адпачынку.

Аднойчы я паспрабавала параўнаць сваё мінулае з сучасным. У мінулым прыгадаліся: гаспадар, слёзы і цяжносная работа, тут я зразумела ўсю няўмеснасць такіх параўнанняў.

Як нельга параўнаць майстэрню Малкіна з нашай фабрыкай, так нельга параўнаць старое з сучасным. Майстэрня Малкіна—гэта чорнае сутарэнне, дзе павук плёў сваё павучынне і высмоктваў з сваіх афяр апошнія сілы і сокі Фабрыка „КІМ"—гэта сонечныя карпусы, палац тэхнікі, праца ў якім, як і ва ўсіх прадпрыемствах нашай радзімы, найвялікшае шчасце.

З надзеяй я гляджу ў будычыню. Мяне не палохае, што прыдзе старасць. Аба мне клапоціцца мая краіна. І толькі часамі, калі, гледзячы на мае пяцьдзесят год, мяне называюць старою, мне робіцца крыўдна.

— Няпраўда, што я старая,—адказваю.—Мне 7 лістапада 1937 года будзе толькі дваццаць год.

## ЗНОЙДЗЕНЫ АЛМАЗ

*І. Шнейдэрман*

Бацька прыходзіў з работы, калі ўжо цямнела. Ён доўга мыў рукі, некалькі разоў праходзіў па пакою і падыходзіў да паліцы з кнігамі. Узяўшы адтуль кнігу з чорнай вокладкай, пачынаў голасна маліцца. Дарэмна штодня па некалькі раз маліўся небарака. Шчасце праходзіла міма пахілай хаты яўрэйскага спадчыннага бедняка. Прыход маці я пазнаваў па бразгатню шкла ў сенцах, яна працавала шкляром. Дзіўная на першы погляд прафесія для жанчыны, але толькі не для жанчыны з былога мястэчка. Калісьці мой дзед знайшоў загублены падарожным шкляром алмаз. Паміраючы ён адказаў алмаз маёй матцы. А там, дзе шыла, там і шавец, дзе нажніцы—там і кравец, дзе алмаз, там і шкляр. На гэты раз маці прышла пазней звычайнага. Яна ўжо даўно ходзіць па майстэрнях, упарта шукаючы месца, дзе-б прыстроіць мяне. Мне ўжо мінула пятнаццаць год і я рыхтаваўся вучыцца майстэрству.

— Іцка, заўтра пойдзеш на працу,—сказала маці, уваходзячы ў пакой. Брэгер, нарэшце, згадзіўся ўзяць цябе. Хто ведае, можа і ты знойдзеш у жыцці свой алмаз.

Я помню, маці гаварыла бацьку, што на іншых умовах гаспадар не згаджаецца—грошы за вучобу сына патрабуе наперад. Раніцою маці зняла з ложка дзве падушкі, сабрала у клумак такія-сякія рэчы і панесла прадаваць. Потым яна прышла па мяне і мы пайшлі ў майстэрню. З гэтага дня я пачаў працаваць у сталярнай майстэрні Брэгера у Бешанковічах.

На бруку мястэчак чарты яўрэйскай аседласці вельмі цяжка было знайсці алмаз. Не кожны бедны хлопчык меў магчымасць набыць кваліфікацыю. Ну, а якой кваліфікацыі мог вучыцца бедны яўрэйскі хлапец? Шавец або сталяр, кравец або маляр, вось і ўсе спецыяльнасці. Неўзабаве я разам з сваёй спецыяльнасцю пачаў, як перакаці-поле, блукаць па гарадах—у мястэчку на адну труну прыходзілася два сталяры.

У 1914 годзе я прыехаў у Віцебск на будаўніцтва ваенных баракаў. У паветры пахла імперыялістычнай бойняй. Баракі будаваліся ў Маркаўшчыне побач з фабрыкай „Дзвіна". Падрадчыкі Міровіч і Соркін заманілі мяне і другіх рабочых на будаўніцтва прывабнай умовай—будуйце баракі, дадзім адтэрміноўку ад вайсковай службы. Мы, нават не захоўваючы сваёй радасці, адразу згадзіліся, бо зусім не хацелі праліваць сваю кроў ні за веру, ні за цара, ні за бацькаўшчыну.

За што нам было змагацца? За рабскія малітвы бацькі? За поўжабрацкую прафесію матак? Няма за што кроў праліваць. Мы ў гэтым канчаткова пераканаліся, азнаёміўшыся з жыццём рабочых „Дзвіны"

Былі выпадкі, калі работніцы, сыходзячы крывёю, раджалі ў цэхавых прыбіральнях. Дзяцей прыносілі карміць да банкаброшаў і кардаў, і калі маткі пяшчотна прыціскалі іх да грудзей, ганялы білі матак плёткай. Падрастаючы, з 8—10 гадоў, дзеці прыходзілі

на фабрыку працаваць побач з бацькамі. Прыгожых дзяўчат пад пагрозай звальнення майстры гвалтавалі. Старыя, і пакалечаныя машынамі, бязлітасна выкінутыя за вароты фабрыкі, ішлі жабрачыць да варот Маркава манастыра. Нарэшце, хаваць рабочых дазвалялася толькі на фабрычных магілках, ля якіх капіталісты купілі дзесяціну парэзанага канавамі балота. Ад нараджэння ў прыбіральні да пахавання ў балоце—так жылі ў праклятым мінулым дзвінцы.

Дык няхай яна згарыць такая бацькаўшчына, думалася нам.

На маю долю выпала шчасце праз 15 год змагацца на франтах соцыялістычнай бацькаўшчыны. Пад кіраўніцтвам большэвікоў—людзей выключнай рашучасці і энергіі, я ўздзельнічаў у перабудове старой Маркаўшчыны у буйны прамысловы раён новага Віцебска. Гэтае перараджэнне Маркаўшчыны у Пролетарскую слабаду непасрэдна звязана з будаўніцтвам фабрыкі „КІМ". На ўскраіне з'явіліся каменныя дамы, роўныя вуліцы. Пачаў расці горад.

Я прышоў на фабрыку адным з першых. Калі зірнуў на „КІМ", мне адразу прыгадалася мая матка. Яна шкляр местачковых падслепаватых халуп і не сніла ніколі пра такі палац, пабудаваны амаль што з аднаго шкла. Першыя варштаты ў вязальным і швейнакацельным цэхах устанаўліваў я. Рабочыя яшчэ толькі ішлі на „КІМ" з усіх бакоў. Помню, прыслалі на фабрыку партыю нейкіх дзіўных на першы погляд рабочых. Адбылася ў мяне з імі адразу такая размова.

— Адкуль вы?

— З Бабруйска.

— Вы што, бяспрытульныя?

— Сам ты бяспрытульны.

— Так, кажу я,—у мяне няма ні бацькі, ні маткі. Хіба я не бяспрытульны?

— Ну, а мы не бяспрытульныя. У нас ёсць савецкая улада.

Назаусёды запомніўся мне гэты адказ. Я зразумеў, што размаўляю з людзьмі, якія знайшлі сабе месца ў жыцці і адчуваюць, што знаходзяцца пад аховай вялікай пролетарскай краіны.

На маіх вачах выраслі добрыя дамы для рабочых, яслі, пляцоўка, клуб. На маіх вачах разам з фабрыкай расла моладзь, якая ні разу раней не бачыла машыны. Ды што моладзь? Разам з фабрыкай вырас і я.

На фабрыцы першы раз адчуў, што я чалавек, патрэбны для нашай вялікай справы. На фабрыцы я ўступіў у комуністычную партыю. На фабрыцы я пачаў вучыцца. Ленін і Сталін, Пушкін Гогаль—мае настольныя кнігі.

Я вельмі хачу вучыцца. Хачу шмат ведаць. Мне часам цяжка даецца вучоба, бо я не юнак, але тады прыгадваюцца ўпартыя словы сівога героя ўсесаюзнай качагаркі т. Арцюхава на першай стаханаўскай нарадзе:

„Навучыўся вугаль рубаць, навучуся і на піяніна іграць".

Правільна, таварыш Арцюхаў! Фабрыка мяне падтрымае і ў вучобе. Як бачыце, усюды фабрыка, фабрыка, фабрыка.

І хіба не зразумела цяпер, што знойдзен і заваёван мной алмаз непараўнальна больш каштоўны, чым той, які згубіў калісьці ў мястэчку Бешанковічах вандроўны шкляр.

## Я І МАЕ ВЫХАВАНЦЫ

*Г. Вайнман*

Старых кадравікоў з фабрыкі імя Клары Цэткін пераводзілі на гігант першай пяцігодкі „КІМ“.

— На вас ляжыць пачэсная задача—вывучыць і выхаваць моладзь,—звярнуўся да кадравікоў сакратар парткома,—іменна на вас, бо за вашымі плячамі вялікі жыццёвы і вытворчы шлях.

К гэтаму часу я ўжо год, як была ў партыі і два гады інструктарам вязальнага цэха. А што датычыцца жыццёвага і вытворчага шляху, дык сакратар таксама не памыліўся. Усё сваё жыццё я вырабляла панчохі. Яшчэ з дзесяці год бацька дзяцей—бедны шавец, паслаў мяне да саматужніка-панчошніка, сказаўшы:

— Час, дачка, зарабляць на свой кавалак хлеба.

З сутарэння глядзела ў вакно на вуліцу. Там суседнія дзеці ладзілі вясёлыя гульні. Вельмі хацелася далучыцца да іх, але гаспадыня была грозная. І я, глытаючы слёзы крыўды, разматвала ніткі. Не павесялела жыццё і тады, калі падрасла. Мая сястра таксама вучылася ў панчошніка. І вось бацькі нашы ўзялі на выплату ў гандляра Баксіна вязальную машыну. Але і яна не дала нам чаканага шчасця. Матэрыял мы бралі ў таго-ж Баксіна, рабілі панчохі і здавалі яму зноў. Выпрацоўку ён прымаў на вагу, аблічваў і плаціў жабрацкія грошы. Аднойчы мы папрасілі надбаўку—пяць капеек на кожны дзесятак панчох. Баксін рашуча адмовіў. Тады мы казалі: „не будзем больш браць работы“ і пайшлі дахаты. Нас падтрымліваў вопыт віцебскіх забастовак, на якіх трэба спыніцца асобна.

Першая буйная забастоўка ў Віцебску была ў 1901 годзе на махорачнай фабрыцы Калбаноўскага. Прычынай забастоўкі, якой кіравалі іскраўцы, было жаданне фабрыканта звольніць двух рабочых. Рабочыя выставілі патрабаванне дванаццацігадзіннага рабочага дня і павялічэння зарплаты. Лозунгам забастоўкі было:

АД 8 ДА 8

А іменна працаваць ад 8 гадзін раніцы да 8 гадзін вечара.

Гэта забастоўка з'яўлялася першай па свайму размаху. Сімпатыі ўсіх рабочых былі на яе баку. Аб ёй гаварылі дома, на рынках, на сходах, на заводах і г. д. Не спала і паліцыя. Але рабочыя трымаліся дружна. Аб іх настроі гаворыць вельмі папулярная ў той час песенька на яўрэйскай мове:

Нам трэба ад 8 да 8
І будзь ты проклят
Арэ Калбаноўскі.
А божа-ж ты мой.
Злітуйцеся нада мной,
Ратуйце мяне ад фабрыкі.

Гэту забастоўку рабочыя, дзякуючы сваёй настойлівасці выйгралі, але арганізатары былі потым арыштаваны і на чатыры гады сасланы ў Сібір. З прычыны таго, што рабочыя Віцебска арганізавалі грандыёзныя провады арыштаваных, тэрмін іх ссылкі быў павялічаны яшчэ на адзін год.

Поспех забастоўкі на фабрыцы Калбаноўскага ўскалыхнуў увесь рабочы клас Віцебска. Таксама паспяхова скончыліся забастоўкі на плужных заводах Берліна, Левінтава і Заг-Гейма, дзе рабочыя патрабавалі дванаццацігадзінны рабочы дзень.

Улетку 1902 года пачаліся забастоўкі ў будаўнікоў, якія праходзілі пад лозунгам:

АД 6 ДА 6 ГАДЗІН—ШЭСЦЬ РУБЛЁЎ У ТЫДЗЕНЬ

Патрабаванні будаўнікоў былі таксама здаволены.

Асабліва яскрава рэволюцыйны рабочы рух у Віцебску, як і ва ўсёй краіне разгарнуўся ў 1905 годзе. У студзені баставалі 500 рабочых у горадзе і на фабрыцы „Дзвіна“ ў Маркаўшчыне. У сакавіку забаставалі прыказчыкі ўсіх магазінаў. У кастрычніку ў горадзе пачалася агульная забастоўка. Былі барыкады. На вялікай дэманстрацыі рабочых паліцыя забіла сем і раніла сто дваццаць чалавек. Пахаванне забітых, у якім удзельнічала больш за 10 тысяч чалавек, вылілася ў яшчэ больш грандыёзную дэманстрацыю.

Вось іменна ў гэтым бурным 1905 годзе, улетку, калі баставалі панчошніцы мы папрасілі ў Ваксамана надбаўкі пяць капеек. Гандляр пасмяяўся над намі і прыгразіў:

— Захочаце есці, прыдзіцё прасіць работы, ды толькі будзе позна — другім аддам.

Так я пакутвала да Кастрычніцкай рэволюцыі.

— Каму-ж, як не мне вучыць навічкоў?—вырашыла я цяпер. Назаўтра я ўжо ехала на фабрыку „КІМ“. Трамваі хадзілі рэдка і марудна. Абуджаная пяцігодкай Маркаўшчына пачала забудоўвацца і рабочых туды ездзіла многа. Яны прыступам атакоўвалі трамваі і садзіўся той, хто быў мацнейшы. Першы дзень работы не зрабіў лепшага ўражання, чым язда на трамваі. Вялікі фабрычны двор быў увесь у ямах, завален смеццем і будаўнічым матэрыялам. Я ледзь дабралася да вязальнага цэха. Цэх быў падобны на пустэльню. На велі агнай плошчы працавала ўсяго чалавек пятнаццаць. У паліто яны бараніліся ад холаду. Іголкі, аўтаматы, за ноч замярзалі. Раніцой работніцы прыходзілі на работу—аўтаматы адмаўляліся працаваць. Не было сталоў і тавар валяўся на падлозе брудным.

Я з невясёлай думкай глядзела на пусты цэх.

Дзе-ж набяруць рабочых, каб запоўніць такую вялізную прастору. Цяпер-жа няма беспрацоўных.

Мой непакой аказаўся дарэмным. У пачатку 1932 года пачалася масавая вярбоўка рабочай сілы. З дзетдамоў, калгасаў і вёсак прыходзілі работніцы і рабочыя. Многія з іх толькі ўпершыню бачылі горад. Вашчанка, цяпер лепшая стаханаўка, чатыры гады таму назад палохалася трамвая.

— Не пайду ў трамвай,—баязліва гаварыла дзяўчына.—Яшчэ абернецца...

Такіх людзей я павінна была прывучаць да працоўнай дысцыпліны, навучыць іх кіраваць машынай. Першыя часы прыходзілася цяжка. Мяне цягнулі ва ўсе канцы цэха. Спыніцца машына, падыходзіць новая работніца і скардзіцца:

— Нешта машына распрэглася. Вось гэтая штучка не працуе. Дайце раду.

А другую блізка да машыны не прымусіш падыйсці. Тулячыся за мае плечы, яна з апаскай паведамляе:

— Цётачка, баюся. Машына гуркнула.

Калі машына не ішла, работніца пачынала плакаць і ўпадаць у роспач:

— Паеду дадому. Ніколі мне тут не вывучыцца.

Мне даводзілася ўгаварваць іх і суцяшаць, як малых дзяцей. Прыгадваецца адзін павучальны казус.

Новая работніца Семянкова давала высокую якасць. Фабрыка да XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі адзначала дасягненні паказвала лепшых сваіх людзей. Да Семянковай падыходзіць старшыня фабкома і гаворыць:

— Заўтра прыдзі ў гарадскі тэатр. Там цябе на сходзе будзем прэміраваць.

І пайшла не сказаўшы больш нічога. Гэта было непапраўнай памылкай. Работніца адразу зажурылася. Прышоўшы дахаты, уткнулася ў падушку і праплакала цэлы вечар.

— Што я ім дрэннага зрабіла?—скардзілася яна сяброўкам.— Калі мяне маці выпраўляла ў горад строга-на-строга наказвала: „Глядзі-ж, працуй старанна“. Будзь сумленнай і нічога чужога не бяры. А тут, вось табе, сорам які.

У тэатр ісці яна забаялася. Калі сяброўкі позна вечарам звярнуліся, нерашуча запытала:

— Дзяўчаты, што там гаварылі пра мяне. І была вельмі здзіўлена і ўзрадавана, даведаўшыся, што ёй за добрую работу далі прэмію.

Да дысцыпліны прывыкалі марудна. Бывала глядзіш—машына ідзе на халастым ходу і работніцы няма паблізу. Спыняеш машыну. Чакаеш. Праз гадзіну варочаецца работніца:

— Ты дзе была?—пытаюся ў яе.

— У краму па хлеб хадзіла,—зусім спакойна адказвала тая.

З вёсак да работніц прыходзілі сваякі і знаёмыя. Прыходзілі з клумкамі проста ў цэх. Машыны спыняліся і пачыналася гутарка.

Партарганізацыі фабрыкі і кадравым рабочым давялося не мала папрацаваць, каб з людской сыравіны, ніколі не працаваўшых на вытворчасці, зрабіць высокаякасных каштоўных работніц. Вясковыя, баязлівыя і малаграматныя дзяўчаты выраслі на фабрыцы, сталі вылучэнкамі, інструктарамі, кантралёрамі, членамі фабкома, і цэхкома, скончылі школу чырвоных сясцёр, займаюцца фізкультурай, ходзяць са значкамі СПА, ГСО, ГТО, варашылаўскага стралка, людзі, якія на „выдатна“ здалі тэхмінімум. Семянец, Камленкава, Андрыянава, Іванова, якая некалі мела мянушку „маўклі-

вая“, зрабіліся лепшымі стаханаўкамі. Кожны дзень я сустракаю сваіх вучаніц і сэрца радуецца за іх рост. Яны мне расказваюць пра сваё шчаслівае жыццё і дзякуюць за вывучку. Вось падзяляецца са мной радасцю стаханаўка Лемеш, што вышла замуж. Фабрыка дала ёй добрую кватэру, набыла багатае абсталяванне. Разам з мужам яна зарабляе пяцьсот рублёў, усяго ёй хапае і вельмі здаволена сваім жыццём. Вось гутарыць са мной былая бяспрытульная вясковая дзяўчынка Дзёма. Яна не ведала, як адзяваць галошы, а цяпер купіла гарнітур за чатырыста рублёў.

Калі я прыходжу на работу, я не пазнаю сваіх былых вучаніц— так выраслі людзі. У час абедзенага перапынку яны выходзяць на фабрычны двор і садзяцца на чыстыя лаўкі. Перад імі цвітуць ружы. А ў гары, над велізарным корпусам фабрыкі, нада мною маімі выхаванцамі вісіць вялікі партрэт правадыра.

Вакол яго палымнеюць агнявыя словы:

„*Жыць стала лепш, жыць стала весялей*“.

---

## ЯК Я ЗНАЙШОЎ БАЦЬКАЎШЧЫНУ

*С. Траян*

„Твае бацькі жывы і здаровы. Пішуць яны табе так рэдка толькі таму, што не маюць грошай на марку, а без маркі лісты за граніцу не ідуць. Як я табе зайздрошчу. Я ўсё не магу знайсці працы. Пішы нам аб усім падрабязна, з кожным тваім лістом нам прыходзіць свята. Жадаю табе поспехаў. Твой сябра Двожак“.

Гэты ліст я атрымаў надоечы адтуль. Адтуль, дзе цякуць Влтава, і Морава, Лаба і Калачава. Адтуль, дзе на камяністых ўзгорках шумяць прыгожыя сасонкі, ярка зеляннеюць бярозавыя гаі. Адтуль, дзе паабапал вялікага шляху, абсаджанага грушамі і яблынямі, знаходзіцца вёска Вычапы, у якой, як і ў сумежных вёсках, галадуюць людзі.

Калі выйсці з вёскі Вычапы і накіравацца на ўсход сонца, дык трапіш у акуратненькі і чысценькі гарадок Грэбіч. Ён недалёка ад нашай вёскі, усяго чатыры кілометры, далей на адзін кілометр, але ўжо не на ўсход, а на захад знаходзіцца вельмі падобны да Грэбіча гарадок Яром. У маленстве я чуў, як дарослыя, гутарачы паміж сабой, часта ўспаміналі назвы гэтых гарадкоў. Успаміналі яны і назву вялікага горада, які называлі Прагай. Мяне, маленькага хлопчыка, цікавілі размовы аб гарадах, якія нагадвалі цудоўныя краіны з дзедаўскіх казак.

Ішлі гады, падрасталі мае браты і сёстры. Нас усіх было дзесяць. Дзедаўскія няхітрыя казкі мяне больш не цікавілі, хацелася простых, сапраўдных слоў. Аднойчы ўвечары, выбраўшы зручную хвіліну, я пачаў распытвацца ў заўсёды панурага бацькі:

— Як жывуць людзі ў Грэбячы?

— А так, жывуць сабе.

— А як жывуць у Яроме?

І не чакаючы адказу бацькі, выпаліў:

— А добра пабыць у Празе.

Памалу размова з бацькам завязалася. Я даведаўся, што Яром і Грэбіч зусім блізка ад нашай вёскі, але бацьку няма чаго туды хадзіць. Нельга траціць часу. Самім няма чаго есці, а не толькі, каб што несці на рынак. Зноў спее пшаніца, трэба ладзіцца ісці працаваць да Вейтаса, падзарабіць хлеба на зіму. А наконт Прагі, дык гэта толькі размовы, ніхто там не быў, апрача Вейтаса. Ён цэлымі вагонамі адпраўляе туды рознае дабро. Калі-ж ты так усім цікавішся, скончыў бацька сваю гутарку, дык я аддам цябе ў школу, яно і самы раз табе вучыцца.

Прыйшла восень. У вымытай кашульцы я з'явіўся ў школу. Невялічкі светлы пакой, некалькі радоў парт. На сценах карты, а вышэй партрэт. Маршчакаваты дзядок з сівенькай бародкай — гэта імператар Франц-Іосіф. Нас вучылі лічыць, пісаць і чытаць пачэшску. Самым цяжкім прадметам быў закон божы. З суседняй вёскі Уезд Гурны прыходзіў пробашч касцёла. Усе малітвы і жыццё святых мы вывучалі з кніжкі напамяць, слова ў слова. Варта толькі заблытацца, як велебны пан браў бамбукавы стэк і біў вучняў па руках. Мне было 12 год калі скончылася маё навучанне ў школе, але бацька лічыў мяне дарослым. Было сорамна разлічваць далей на бацькаўскі хлеб і я пайшоў працаваць у Ярам. Прыстроіўся вучнем у рамонтна-механічную майстэрню Майстэрня была невялічкая, працавала ў ёй пяць майстроў і чатыры вучні. Рамантавалі матацыклы, веласіпеды, прымусы і розную дробязь. Вучні жылі ў гаспадарскім доме, у асобным пакойчыку. Румяная салдатка гатавала нам страву, мыла бялізну і даглядала нас. У майстэрні працавалі ўвесь дзень. І кожны з нас залежаў ад свайго майстра. Мой майстра на словы скупіўся і вучыў мяне больш штуршкамі. Часамі ў майстэрні звінеў званок (гаспадар любіў тэхніку, мы пакідалі працу і беглі да пані, адзін сек дровы, другі насіў, астатнія надрываліся вязучы ваду. Рабілі ўсё гэта спяшаючыся, майстры не любілі, каб мы надоўгу адлучаліся з майстэрні. За ўсякую затрымку яны вучылі нас кулакамі, як хутчэйшым спосабам сеч дровы і вазіць ваду. Так прайшло тры гады. Нарэшце — я сам майстар. Пачалося самастойнае жыццё, аб якім я так марыў. Але яно не прынесла радасці, час быў занадта трывожны. Балканы гарэлі ў полымі вайны. Вестка аб Сараеўскім забойстве ўсіх усхвалявала. Аўстра-венгерская імперыя нагадвала ўстрывожаны вулей. Народу навязалі вайну. Эшалонамі адпраўлялі салдат на фронт. Я з'явіўся на прызыўны пункт у Грэбіч. Мы пілі чэшскае піва і распявалі чэшскія песні, калі да нас падышоў студэнт:

— Браты чэхі, не пралівайце крыві на карысць праклятых немцаў, здавайцеся адразу рускім. Яны нашы браты—славяне. Ужо цалкам здаўся 28 чэшскі полк. Учора здаўся 17 егерскі. чарга за вашым палком. Далоў старога вар'ята Франца-Іосіфа і яго насенне.

Шпікі, шпікі, — перадавалі шэптам navабранцы. Агітатар знік.

Ап'янёны нацыяналістычнай агітацыяй я прабыў на фронце не больш гадзіны. Мяне навучылі, як здацца ў палон.

— Праз гадзіну мы пачнем наступаць на рускіх, пасля пачнецца адступленне нашых часцей, ты-ж не адступай, а кладзіся, такім чынам і застанешся ў рускіх.

Я, усміхаючыся ад радасці, хацеў абняцца з братамі рускімі, але ўдар прыклада збіў мяне з ног. Нас акружылі канвоем і павялі. Ішлі мы чатыры дні, ледзь пераступаючы, не піўшы і не еўшы за гэты час.

Пад Сувалкамі дрыжэла ад кананады зямля. Пад градам германскіх куль мы капалі акопы і рабілі ўмацаванні для рускай арміі. Ці трэба нават гаварыць аб здзеках над намі рускіх афіцэраў. Яны рабавалі нас, забіраючы сабе грошы, што прылічваліся нам за работу.

Нарэшце я трапіў у Віцебск. Прыгналі нас як раз на гэтае месца, дзе цяпер стаіць фабрыка „КІМ“. За два дні мы зрабілі сабе на пустыры зямлянкі. У два рады паклалі нары, каб сагрэцца—спалі цесна прытуліўшыся адзін да аднаго. Пачаліся эпідэміі і тады нас вырашылі накіраваць на работу.

Чыгуначная лінія, якая праходзіць каля маслазавода, пабудавана намі, жвір для насыпу мы бралі на ўзгорку, дзе цяпер знаходзіцца лесазавод. Зімой ачышчалі горад ад снегу. Мы бачылі, як па гораду паўзлі разбітыя трамваі. Усё разбуралася. Сярод ваеннапалонных пачалі адбіраць людзей з кваліфікацыяй і я трапіў на электрастанцыю.

З радасцю мы сустрэлі люты 1917 г. Скінулі цара, чакалі спынення вайны. Хутка канец нашым пакутам! Праходзілі дні, месяцы, а вайна ўсё працягвалася. Жыццё рабілася цяжкім. На нас, ваеннапалонных, пачалі паглядаць варожа.

— Самім есці няма чаго, а тут яшчэ кармі аўстрыякаў.

На рабочым сходзе нехта выступіў і пачаў патрабаваць нашага звальнення.

— Самі ўправімся з работай!

Мяне тады вельмі здзівіла выступленне аднаго рабочага.

— Нельга так, таварышы,—казаў ён.—Аўстрыякі тут не прычым. Яны такія-ж рабочыя, як і мы. Помніце, як з нашага дэпо выганялі яўрэяў? А хто-ж гэта зрабіў. Каму ад гэтага карысць? Гэта патрэбна было толькі таму, каму цяпер патрэбна вайна. Гаворыце, што цяжка. Дык мы ўсё-ж з вамі дома, а як ім, аўстрыякам, яны-ж на чужой старане. Нядобра так, таварышы, нядобра.

Рабочыя электрастанцыі зноў пачалі з намі сябраваць. Мы здзіўлёна прыглядаліся да гэтага рабочага. Свой хлапец—тлумачылі нам. Большэвік. Адным днём мы адчулі вялікую радасць. Нам трапіла ў рукі чэшская газета. Выдавалася яна ў Петраградзе і з'яўлялася органам большэвіцкай групы. Газета агітавала супроць вайны, тлумачыла каму вайна патрэбна. Артыкулы пісаліся так ясна, што адчувалася, нібы звяртаюцца непасрэдна да цябе.

— Не ваюй, не будзь пасобнікам капіталістаў.

— Ды якія з нас ваякі, калі мы ў палоне,—думалася нам.

Справа ў хуткім часе высвятлілася. У чэрвені месяцы 1917 года ў Віцебск прыехалі чатыры афіцэры. Апранутыя з іголачкі, яны францілі сваёй выпраўкай і курылі дарагія папіросы.

— У Жытоміры фарміруецца чэшскі корпус. Час узняць зброю за незалежнасць вялікай чэшскай нацыі...

Яны гаварылі нам пра легендарную каралеву Любушу, якая калісьці ўзяўшы за сябе мужыка Пржамысла, паклала пачатак чэшскай дзяржаве.

— Як, панове, прозвішча гэтага Пржамысла—Шкода ці Баця?— крычалі мы ў адказ, маючы на ўвазе каралёў чэшскай прамысловасці.

Сход прайшоў без поспехаў для афіцэраў. Яны не адставалі ад нас, цэлымі днямі ўгаварвалі ўступіць у корпус. Нарэшце, тры чалавекі з пятнаццаці здалося. Я застаўся ў Віцебску. Я не ведаў яшчэ тады, што гэтым самым застаюся ў вялікай пролетарскай дзяржаве, якая з „чужой стараны“ ператварылася для мяне ў бацькаўшчыну.

Хутка споўніцца 20 год як я жыву ў савецкай краіне. Разам з вялікім рускім народам пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў я пачаў адбудоўваць сваю новую радзіму.

На маіх вачах нарадзілася і вырасла фабрыка „КІМ“. Я бачыў колькі трацілася сіл і энергіі, каб зрабіць вясковых дзяўчат кваліфікаванымі работніцамі. Мне самому ў час абсталявання сілавой сеткі прышлося вучыць чорнарабочых складаным мантажным работам. У самы адказны момант—у часе пуску і асваення фабрыкі я ўступіў у рады комуністычнай партыі.

І толькі цяпер мне робіцца ясным, чаму застаўся тут. Выключна таму, што калісьці тут я першы раз у жыцці пачуў чалавечае слова, адрасаванае мне, адчуў сапраўдныя клопаты аб сабе. І адчуў я гэта на сходзе ў трамвайным дэпо, калі на абарону нас, ваеннапалонных рабочых, выступіў большэвік.

---

## КРЫЛАТАЕ ШЧАСЦЕ

*М. Рабава*

Калісьці я думала:—Ці праўду кажуць, што чалавек павінен нарадзіцца шчаслівым. А можа шчасце трэба ўмець знайсці? Я знайшла ў жыцці сваё шчасце, бо дасягнула таго, аб чым марыла, аб чым усяго толькі пяць год таму назад сніла. Я зрабілася лётчыцай і парашутысткай.

Жывучы ў вёсцы, увесь час праводзіла за работай у полі, я хацела вучыцца. Хацела ведаць, як на моры ходзяць караблі, ад чаго лятае самалёт, і што гэта за людзі, якія перамагаюць паветра. Ці ўсім можна быць такімі людзьмі.

Такія думкі займалі вясковую дзяўчынку, якая акрамя сваёй вёскі нічога не бачыла Я любіла тэхніку, любіла складаныя механізмы, хацела навучыцца імі кіраваць. Я ведала, што для гэтага

трэба паехаць у горад. З ім у маёй свядомасці аб'ядналася ўсё лепшае. Толькі як паехаць, калі заўсёды чуеш ад маткі:

— Пакуль, дачка, гуляй, весяліся, потым замуж выйдзеш, пра горад забудзь, выкінь яго з галавы. Рабіць там ты нічога не ўмееш, а ў служкі я цябе не аддам.

Усё-ж я не пакідала надзеі. І адным днём 1932 года супроць волі маці, сабралася і паехала ў Слуцак.

Ідучы за мной па вуліцы маці прычытвала:

Мая-ж ты, Марыська, даражэнькая,
Мая-ж ты, Марыська, міленькая.
Ды навошта ты мяне пакідаеш
Ды чаго ты ўсё па людзях шукаеш.

Эх, матуля мая, матуля. Ну як ёй было растлумачыць, што яе дачку больш не задавальняюць такія механізмы старой беларускай вёскі, як журавель над студняй, ды прасніца, як кросны ды жорны. І як ёй было растлумачыць, што яе Марыська ідзе ў людзі шукаць сваё шчасце.

Я не бачыла сама, я толькі чула ад дарослых, як ішлі раней аднавяскоўцы шукаць сваё шчасце. Яны зашывалі ў ладанку жменьку зямлі роднай вёскі і потым заўсёды насілі яе з сабой на грудзях разам з нацельным крыжыкам. У мяне не было зялёнага ад поту крыжыка, мне не патрэбна была таксама і жменька салёнай ад слёз зямлі. Мне патрэбна была мая вялікая, неаглядная вясёлая зямля ад Мурмана да Батумі, ад Менска да Владзівастока, патрэбна ўсё з усімі яе марамі і рэкамі, гарадамі і вёскамі.

У Слуцку я працавала спачатку работніцай, потым загадчыкам буфета. А ў лістападзе 1933 года я з радасцю ехала ў Віцебск у ліку трохсот комсамольцаў, накіраваных для ліквідацыі прарыву на фабрыцы „КІМ“.

Упершыню я трапіла на такое вялікае прадпрыемства і спачатку прышлося цяжка. Але я ведала, што перад намі, комсамольцамі, пастаўлена ганаровая задача вывесці фабрыку з прарыву. Пачалася барацьба за авуладанне кваліфікацыяй, за высокія тэмпы работы. Я ўключылася ў спаборніцтва.

У снежні 1933 г. я, не верučы сваім вушам, пачула словы начальніка аэраклуба: „Вы, таварыш Рабава, залічаны ў групу пілотаў без адрыву ад вытворчасці“. Было цяжка сумяшчаць працу з вучобай. Пасля сямі гадзін працы трэба ехаць на аэрадром і пяць гадзін вучыцца. Я ўсё-ж упарта змагалася за годнасць пілота. Комсамол навучыў мяне перамагаць цяжкасці. Я вучылася на авіякурсах, авалодвала ведамі і ўвесь час чакала дня, калі палячу. Хацелася ўпэўніцца ў сваіх сілах, праверыць сябе. І нарэшце, 18-га чэрвеня 1934 г. нам сказалі:

— Вы сёння паляціце.

Кожнаму хацелася ляцець першым. Мне прыпала ляцець чацвертай. Запускаю матор. Ад яго гуду задрыжэла вакол зямля. Траву прыбівае, як дажджом. Падхопленае ветрам, сухое лісце падымаецца ў паветра. Падыходжу да самалёта, аглядаю яго, саджуся,

Упершыню я так блізка пачула гул матора і рокат вінта. Мне вельмі спадабалася ляцець. Зусім не страшна і я, калі ляцела з лётчыкам, думала, што неўзабаве буду лётаць самастойна і рабіць складаныя фігуры.

Прайшоў год. Я самастойна вяла па гарызонту самалёт. Беззаганная паслухмянасць самалёта маёй волі нават крыху хвалявала мяне: машына настолькі паслухмяная, што нельга перакласці на яе ні адзінай выпадковай памылкі ў тэхніцы пілатавання. Уся адказнасць ляжала толькі на мне. Унізе на аэрадроме інструктар уважліва сачыў за маім першым палётам. І вось я ўжо вяду самалёт на пасадку. Плаўна збаўляю газ. Паступова змяншаецца гарызонт. Насустрач бягуць ангары, лётнае поле, таварышы. Я пасадзіла машыну на тры кропкі і іду рапартаваць. Інструктар і начальнік лётнай часткі паціскаюць мне руку, вітаюць з выдатным палётам. Я атрымала падзяку і вельмі радавалася, што апраўдала высокае давер'е—быць савецкім лётчыкам. Пачаліся самастойныя палёты і авалоданне складаным пілатажам. Самае любімае ў пілатажы для мяне—петлі і перавароты цераз крыло.

У нашы дні нельга лічыцца поўнацэнным пілотам, не ведаючы парашутнай справы. Далей—парашутны спорт выкоўвае ў кожнага, хто ім займаецца, валявыя якасці: мужнасць, рашучасць і смеласць—гэта значыцца тыя якасці, якія патрэбны маладым будаўнікам сацыялізма.

25 мая 1935 года на аэрадроме аэроклуба з зрабіла свой першы парашутны прыжок з самалёта. Я была першай дзяўчынай-парашутысткай у БССР. Таму ў час прыжка адчувала вялікую пашану, якая мне аказана заданнем ленінскага камсамола, пакласці пачатак развіццю жаночага парашутнага спорта.

Да прыжка я часта бачыла, як прыгаюць, чула, што часам бывае страшна. На мяне пазіралі, ці хвалююся. Не, я была спакойная. Мела месца толькі перажыванне нейкага новага невядомага пачуцця, але такога вокамгненнага, што я нават не паспела разабрацца ў ім. Па загаду інструктара пакідаю самалёт. Выцягваю кальцо. Праходзіць секунда. Кальцо ў руцэ. Чую шолах парашута за спіною. Адчуваю штуршок. Вялікі белы купал навісае над маёй галавой. Убіраю кальцо. Не, ніколі не здрадзіць савецкі парашут! Вісіш у паветры, а вецер ледзь прыкметна нясе цябе ці пагойдвае на стропах. Свяціла сонца. Хацелася спяваць. Раптам на момант мне здалося, што я не набліжаюся да зямлі, а яна падымаецца да мяне. Прызямлілася я па ўсіх правілах. Першы мой прыжок палічылі вельмі ўдалым і вылучылі на ўсесаюзны парашутны злёт. Там адбыліся спаборніцтвы, на якіх па дакладнасці прызямлення каманда Беларусі заняла другое месца. Цяпер маю дзесяткі прыжкоў і ўсе цікавыя, усе з розных самалётаў—з „У-2", „АН-14", „ТВ-1", прыжкі з люка, прыжкі зацяжныя з уласным разлікам, прыжкі са скальжэннем. На злёце я набыла годнасць інструктара парашутнага спорта 2-й ступені. За выдатныя поспехі атрымала ад ЦК ЛКСМБ і Цэнтральнага Савета Асоавіяхіма прэмію—гадзіннік, ад ЦК ВЛКСМ - грамату.

Я жадала яшчэ лепей вывучыць парашутную справу. Мне-ж

яшчэ не ўсё вядома. Трэба ўмець прыгаць у ваду, ноччу, зімой з вялікай вышыні і з вялікай зацяжкай.

Парашутны спорт пачаў шырока распаўсюджвацца сярод моладзі. На нашай фабрыцы ўжо тады было дзевяць парашутыстаў і з іх тры дзяўчыны—Лена Норкіна, Оля Васілёнак і я.

Надышла зіма 1936 года. У нас у Віцебску тады можна было займацца практыкай толькі ўлетку. Пашла займацца тэорыяй у аэраклуб. Тады я на фабрыцы працавала слёсарам. Неўзабаве я даведалася, што мяне вылучылі на вучобу ў вышэйшую парашутную школу ў Маскве. Нельга пераказаць словамі маю радасць у той час.

З чэрвеня 1936 года я займаюся ў вышэйшай парашутнай школе. Упарта авалодваю новымі дысцыплінамі, каб набыць годнасць інструктара парашутнага спорта першай катэгорыі. Па сканчэнні школы паеду працаваць у БССР. Хачу прыехаць у Віцебск, вучыць парашутнаму спорту рабочых нашага горада і нашай фабрыкі.

Мая гордая прыгажуня-фабрыка „КІМ“. Такая блізкая, такая родная. Яна дала мне першую загартоўку і накіравала мае жыццёвыя крокі ў жаданым для маёй Радзімы, а значыцца і для мяне напрамку. Яна дапамагла мне знайсці маё крылатае шчасце.

---

## БАЛЮЧА, АЛЕ ЎСПАМІНАЮ

*К. Осіпава*

— Ты ў мяне жывеш дзеля Хрыста, павінна рабіць усё, што загадаю. А калі не хочаш, дык вон з хаты,—з гэтымі словамі выкінулі за дзверы маленькі клумачак з маімі рэчамі.

Я не плакала. Я чакала гэтага. Пасля смерці бацькі жыццё дома дзеля Хрыста зрабілася мучэннем. Катавала родная матка. Не пускала вучыцца, рвала піонерскі гальштук,—не месца для цябе піонерскі атрад, ідзі ў служкі, ідзі куды хочаш. І я пашла „куды хочаш“. Пашла на вуліцу.

Халодны асенні дзень. Слота. Без канца цярусіць дождж. Бязлітасны вецер трэпле рваны сарафанчык. Вада набіраецца праз дзіркі тапачак. Дабраўшыся да параднага пад'езда незнаёмага дома, моцна заснула ля цёплай батарэі цэнтральнага ацяплення.

Доўгія маскоўскія вуліцы, вышкі і сутарэнні ўскраінных дамоў прынялі новага трынаццацігадовага насельніка. Правілы жыцця „на дне“ простыя:—знаёмства, кароткі расказ пра сябе, пара дзён праверкі „на рабоце“ і ты атрымліваеш назву „свой“. Так пачалося маё жыццё, пра якое мне цяпер агідна і цяжка ўспомніць. Мне сорамна. Мне балюча. Але я ўспамінаю. Я ўспамінаю ўсё да апошніх дробязей, бо гэта для мяне час мінулы і незваротны. Я далёка пайшла ад гэтых дзён сёння, магу пра іх гаварыць, не як падсудны, а як суровы крытык, як бязлітасны суддзя.

За маімі плячамі застаўся цяжкі і суровы шлях, віхлясты і нероўны, усеяны каменнямі і жвірам. Але разам з тым гэта шлях,

якім я прышла ў сапраўднае жыццё, зрабілася карысным грамадскім чалавекам. Ён праўдзівы і павучальны ў сваёй непрыгляднасці. Гэта шлях дзесяткаў і соцень такіх як я, якія ў другой краіне засталіся-б вечнымі злодзеямі, а ў нас яны сталі каштоўнымі людзьмі, стаханаўцамі, інжынерамі, лётчыкамі, пісьменнікамі.

* * *

Па доўгай Крапоткінскай вуліцы з сшыткамі і алоўкамі ў руках ішлі дзве дзяўчынкі. На шыі ў абодвух піонерскія гальштукі. Ідуць, сур'ёзна размаўляюць, глядзяць нумары дамоў.

— Зойдзем сюды, Клава—звярнулася русая дзяўчынка да сяброўкі.

У хаце толькі хлопчык, нікога з дарослых няма. Светлы чыста прыбраны пакой. Буфет, з-за шкла яго бачна срэбная пасуда, пазалочаныя лыжачкі ззяюць на сонцы. Русая дзяўчынка загаварвае з хлопчыкам, дае цукерку, расказвае вясёлае пра зайца і ліса. Хлопчык рады, смяецца, просіць цёцю расказаць яшчэ. Дзяўчынка расказвае і непрыкметна пераходзіць у другі пакой. Сяброўка адчыняе буфет, дастае лыжкі, каштоўныя рэчы, хавае ў хустачку і зусім спакойна выходзіць.

— Ну, Тамара, пойдзем. Дарослых няма і рабіць нам тут няма чаго. Бывай, хлопчык, скажы матцы, што прыходзілі піонеры для вучота непісьменных. Хлопчык на развітанне махае рукой гасцям, якія выходзяць з дому

Доўга мы з сяброўкай Тамарай Улескай хадзілі па „вучоту непісьменных“. Калі знаходзілі дома дарослых, пыталіся, ці ёсць у сям'е непісьменныя, а разам з гэтым выглядалі пакоі, меркавалі, як лепш ноччу залезці і што зручней украсці. Ужывалі мы розныя метады і прыёмы. Кралі на маскоўскіх рынках і ў магазінах. Добра памятаю адну буйную „спажыву“.

Тамара даведалася, што на Мясніцкай вуліцы жыве зубны ўрач, у якога ёсць золата. Ноччу мы залезлі ў кватэру ўрача, ціханька адсунулі сядзенне ў канапе, выцягнулі золата і нячутна выбраліся з пакою. Крадзенае мы аддавалі адной старой жанчыне, якая пасля продажу давала нам грошы. Гэта так званая „паханша“. Паступова мы добра апрануліся—купілі фетравыя берэты і прыгожыя гарнітуры. Цяпер мы смела гулялі па Маскве і смела „працавалі“ ў трамваі, не баючыся, што вопратка выдасць заняткі. Усё-ж і вопратка не забяспечыла нас ад міліцыі.

Аднойчы мы даведаліся, калі рабочыя электразавода атрымоўваюць зарплату. За паўгадзіны да сканчэння працы, мы ўжо былі на трамвайным прыпынку каля завода. Гудок, і праз некалькі хвілін натоўп рабочых рушыў з шырокіх заводскіх варот. Пачалася таўханіна ў трамваі. Мы з Тамарай уцёрліся ў натоўп і прабраліся разам з рабочымі ў трамвай. Бачу ў аднаго мужчыны з кішэні відаць кашалёк. Я яго нячутна выцягнула і аддала Тамары. Тая няўдала прыняла,—заўважылі і нас затрымалі. Зноў „прывод“. Я ўжо не памятала, у які гэта раз. Але дасюль нам неяк усё-ж

праходзіла—патрымаюць некалькі дзён, а потым, як няпоўнагадовых выпусцяць. Цяпер-жа нас накіравалі ў калонію Пакрава, каля 180 кілометраў ад Масквы.

1933 год. Пакроўская калонія. Рэжым і дысцыпліна яе агідныя мне, цягнула на вуліцу. Я вырашыла ўцячы. Было свята, не памятаю цяпер якое, мы пашлі на дэманстрацыю. Ідзем у калоне, побач са мною Тамара, я міргнула ёй вокам, тая зразумела—уцячы трэба. Прышлі на пляц, шмат народу. Уцякайма,—кажу я Тамары. Мы згубіліся ў натоўпе і збеглі. Але нядоўга мы прабылі на волі, усяго толькі трынаццаць дзён. Пасля няўдалай пакражы на Яраслаўскім вакзале нас затрымалі і мы зноў апынуліся ў калоніі. Начальнік калоніі т. Пятроў спрабаваў з намі гаварыць, прывучаць нас да вучобы і работы, але я пра гэта і слухаць не хацела. Парвала гамашы, каб не пайсці на працу, хуліганіла. Нарэшце, я і яшчэ сем чалавек задумалі ўцёкі.

Калонія знаходзілася на выспе—вакол вада, непадалёку лясок. Ноччу мы парвалі простыні, звязалі з іх вяроўку, па адной спусціліся з другога паверху і перабраліся ў лясок. Раптам чуем у калоніі ўзнялі шум, заўважылі нашы ўцёкі. Неўзабаве мы блізка каля сябе адчулі людзей. Нас затрымалі і зноў адвялі ў калонію і засудзілі на два гады.

Нечакана прышла восень. Рана змяркалася, амаль увесь дзень ліў дождж. З крыкам адляталі апошнія птушкі. Было сумна. У такія дні я часта задумвалася над сваім жыццём, і траляліся хвіліны, калі я яскрава бачыла, што шлях мой—няверны шлях і да дабра не давядзе. Але гэтыя хвіліны і развагі доўга не цягнуліся. Навокал таварышы, якія жывуць адным жыццём з табою і пра іншае не думаюць. Расказваць ім пра свае думкі нельга—засмяюць, аўтарытэт згубіш. Так і міналі дні, тыдні, месяцы. Пра сваё ранейшае жыццё я не ўспаміналa—там суцэльнае гора. Толькі пра адзін час у сваім дзяцінстве я любіла ўспамінаць. Гэта пра жыццё ў піонерскім лагеры Артэк.

Крым, сонца, мора. Я ў піонерскім гальштуку разам з іншымі дзяцьмі гуляю, смяюся, спяваю нашу любімую песню:

Мы ў Артэку загарэлі,
Быццам негры пачарнелі.
Наш Артэк, наш Артэк,
Не забудзем цябе век.

Вечарам мы хадзілі глядзець, як заходзіць сонца, як крывава-чырвоныя промні яго павольна спускаюцца на мора. І тады морская вада робіцца цмяна чырвонай і такой бліскучай, што ў ёй як у люстры можна бачыць блакітнае паўднёвае неба. Слухалі старых камандзіраў, якія расказвалі нам пра грамадзянскую вайну, пра ўзяцце Перакопа. На поўдні ноч спускаецца непрыметна. У начной цемры скалы і кіпарысы набывалі фантастычныя контуры. Нам мроілася, што гэта пікі бандыцкіх коннікаў і папахі махноўцаў. Мы туліліся адзін да аднаго і з увагай і пашанай слухалі субяседнікаў.

Успомніш пра гэтыя шчаслівыя дні,—на сэрцы робіцца сумна, сумна. Адыйдзеш у кут і заплачаш, каб ніхто не бачыў. А пасля зноў сябры, зноў п'янкі, зноў разгул і я зухавата спяваю:

А шарабан мой
Американка,
А я девчонка
Да хулиганка.

Зноў жыццё ідзе па-ранейшаму. Зімой мы з Тамарай уцяклі з калоніі. Пабылі на волі дваццаць пяць дзён і зноў папаліся. Тамару накіравалі ў Хабараўск, а мяне ў Марыінскі канцэнтрацыйны лагер.

— Трэба іх разлучыць,—сказаў начальнік міліцыі,—мабыць тады супакояцца.

Але і адсюль я ўцякла. Разам з сяброўкай Нюрай і яшчэ двумя дзяўчатамі на тэндары даехалі да Омска. Кралі ў Омску, як у Маскве, пакуль „паханша" не выдала нас. Зноў лагер.

Я любіла сядзець у карцэры. Спакойна, ніхто цябе не чапае і рабіць нічога не трэба. Да таго ж яшчэ там весела. Разам са мной сядзелі манашкі. Увесь дзень яны маліліся богу, мармыталі сабе пад нос малітвы. Я спачатку слухала, потым абрыдзела. Пачала лаяцца. А яны плачуць, просяць, каб перастала зневажаць бога. Хутка мяне выпусцілі з карцэра і накіравалі ў комуну на станцыі Яя. Там нас навучалі кравецкаму рамяству.

Запомніўся мне выхавацель комуны дзядзя Міша Крылоў. Ён быў вельмі ўважлівы і часта размаўляў са мною. Праз два месяцы пасля прыбыцця ў комуну Міша зрабіў мяне брыгадзірам. Я пачала працаваць, займацца фізкультурай. Выхавацель думаў, што я ўжо зусім выправілася і калі прыехаў да нас т. Берман пачаў мяне хваліць і параіў вызваліць. Я абяцала паступіць працаваць на фабрыку. Сёмага верасня мяне вызвалілі, а 24 га верасня арыштавалі.

У Навінскую турму, куды я была заключана, прыехаў т. Пятроў—начальнік калоніі Пакрава, каб набіраць людзей у калонію. Як падлетка і мяне туды накіравалі. Калі Пятроў даведаўся пра гэта, дык адмовіўся ўзяць мяне:—усё роўна ўцячэ,—сказаў ён. Я ледзь упрасіла, каб узялі.

Прыехала я ў калонію 6 га лістапада 1934 года. Пасадзілі ў каранцін. Назаўтра святкавалі XVII гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі. Усе пашлі на дэманстрацыю. Я з Нюрай вышлі з каранціна і пашлі ў інтэрнат. Бачым—на ложках ляжаць белыя прастыні, добрыя сяннікі з чорнай матэрыі. Нядоўга думаючы, мы з прасцінь зрабілі сабе кофткі, а з сянніка—спадніцы. Потым знайшлі ўцюг і выгладзілі ўсё. Не хапала толькі касынак. Для гэтай справы мы ўжылі сцягі, вывешаныя ў калоніі. Апрануліся і пашлі гуляць. Тым часам з дэманстрацыі вярнуўся народ. Пятроў убачыў разгром у пакоях і абадраныя сцягі. Вінаватых знайсці было не цяжка. Мяне выгналі з калоніі. Здалося мне тады вельмі крыўдна—лепш бы сама ўцякла, а то выгналі, што ўперадзе—зноў вуліца. Мяне нагнаў т. Сяргееў—выхавацель, стары большэвік. Ён пачаў са мной гаварыць і прапанаваў вярнуцца.

— Толькі глядзі, Осіпава,—казаў ён.—Я бяру цябе на парукі. Ледзь выпрасіў у Пятрова. Я ведаю, ты здольная дзяўчынка, толькі ўзяцца табе трэба, а ахвоты няма.

Я пачала чырванець,—у першы раз за апошнія гады, і апусціўшы галаву пабыла зноў у калонію. Тав. Сяргееў прызначыў мяне начальнікам каранціна. Пад маім начальствам цяпер знаходзіліся ўсе дзяўчаты.

— Вось добра, нам лафа, увесь каранцін разбяжыцца,—казалі яны.

Але ніхто не збег. Рашуча папярэдзіла дзяўчат, што нікога не адпушчу—яны слухалі мяне. Я добра спраўлялася з працай. Сяргееў неўзаб ве зрабіў мяне начальнікам штаба калоніі і такім чынам я зрабілася яе гаспадаром. Працавала старанна, не хацелася падводзіць т. Сяргеева.

Памятаю, прастудзілася я і захварэла. Адвезлі ў бутырскую больніцу. Балела галава, бальнічная ціша дзейнічала на настрой. Засмуцілася я і раптам зусім нечакана для мяне ў палату ўвайшоў т. Сяргееў. Ён прынёс яблык, цукерак, гаварыў са мною, жартаваў. Палягчэла на сэрцы, адчула што не адзінокая. Пасля выхаду з больніцы да мяне ў інтэрнат зноў прышоў т. Сяргееў. У пакоі нікога не было, ён пачаў распытваць пра здароўе і зусім непрыметна для мяне перайшоў на размову пра маё жыццё, пра нашу краіну. Ён мне расказаў пра жыццё пры царскай уладзе, пра барацьбу большэвікоў за новае светлае жыццё.

— Бацькі нашы ў астрогах і на катаргах пакутвалі, ішлі на барыкады, каб нам дзецям жылося лепш, каб не ведаць жахаў капіталізма. Нашы бацькі галодныя ішлі на франты грамадзянскай вайны, змагаліся супроць белых генералаў, супроць акупантаў, каб адстаяць савецкую рэспубліку, каб вам, маладым, можна было спакойна жыць, вучыцца і працаваць. І вось цяпер, калі можна спакойна працаваць, у нашыя светлыя радасныя дні, знаходзяцца людзі, якія шкодзяць гэтаму жыццю, якія разбураюць тое, за што змагаліся і гінулі нашы бацькі.

Я адчувала, што т. Сяргееў гаворыць пра мяне, гаворачы аб тых, хто разбурае здабытае крывёй нашых бацькоў. Я такія словы пачула першы раз у сваім жыцці і пачула іх ад чалавека, які гаворыць са мною, як родны бацька. Я задумалася над словамі т. Сяргеява. А ён апавядаў:

— Ты, Клава, здольная дзяўчына, табе толькі семнаццаць год. Ты яшчэ можаш вучыцца, можаш зрабіцца інжынерам, можаш пайсці працаваць на фабрыку, можаш вырасці ў чалавека, пра якога будуць гаварыць з пашанай.

Я глядзела ў вочы т. Сяргеяву, а потым не вытрымала і заплакала.

Праз некалькі дзён пасля гэтай гутаркі ў калонію прыехаў прадстаўнік фабрыкі „КІМ“ набіраць рабочых. Ён расказаў нам пра фабрыку, пра горад. Я пашла да т. Сяргеява прасіць каб мяне ўключылі ў спіс ад'язджаючых на фабрыку. Ён абяцаў мне дапамагчы. На сходзе я дала слова, што буду добра працаваць, што калонія больш мяне не ўбачыць. Мне не верылі. І калі мы ад'язджалі—т. Пятроў з усімі развітаўся, а са мной нават і не размаў-

ляў: усёроўна хутка прыедзе,—сказаў ён. На гэты раз ён памыліўся.

20-га жніўня 1935 года разам з 55 дзяўчатамі з калоніі я прыехала ў Віцебск. Яшчэ на вакзале нас сустрэлі прадстаўнікі фабрычных арганізацый. Пайшлі ў інтэрнат. І там нас таксама надзвычай добра сустрэлі. Сакратар парткома з намі весела размаўляў, жартаваў. Ён нам вельмі спадабаўся. Я думала: „напэўна сакратар парткома не ведае адкуль мы прыехалі і хто мы такія, інача-бы ён з намі так не размаўляў“.

Назаўтра нам далі па 85 рублёў, паліто, жоўтыя туфлі. Мы пераапрануліся і накіраваліся глядзець горад.

Працаваць я пашла ў вязальны цэх. І адразу пасябравала з Оляй Ждановіч, якая была ў нас начальнікам змены. Пасля працы Оля прапанавала пайсці з ёй вечарам у кіно. Да працы я была заўсёды здольная. Тут таксама хутка авалодвала тэхнікай вязальнага працэса, хаця не абышлося без цяжкасцей. Праз месяц я працавала ўжо на трох машынах. Да мяне часта падыходзіў сакратар парткома, пытаўся пра работу, чаго нехапае, даваў білеты ў кіно і тэатр. Я ўвесь час адчувала таварыскую ўвагу рабочых,—яны адносіліся да мяне, як да роўнай. А я-ж усяго некалькі месяцаў таму назад была шкодным для грамадскасці чалавекам.

Сёмага лістапада 1935 года на вялікім вечары, прысвечаным XVIII гадавіне Кастрычніцкай рэволюцыі мяне прэміравалі 200 рублямі. Я паднялася на сцэну. Першы раз выступала перад такой колькасцю людзей. Прыняла прэмію, падзякавала і нечакана падзяка мая перайшла ў хвалюючую аповесць пра сваё жыццё, якую закончыла словамі:

— На фабрыцы я знайшла сваю сапраўдную сям'ю, тут мяне сустрэлі, як родную. Вялікая падзяка кіраўнікам, усім маім сябрам, якія дапамаглі мне стаць карысным чалавекам. Я абавязуюся стаць стаханаўкай і добра працаваць на карысць нашай вялікай радзімы.

Апошнія мае словы пакрыў гром апладысментаў. Я сышла са сцэны атуленая цяплынёй калектыва. Абяцанне сваё я выканала. У снежні стала стаханаўкай, перавыканала новую норму, уступіла ў ленінскі комсамол. Я захапляюся фізкультурай, дабілася нядрэнных спартыўных вынікаў і ездзіла на спаборніцтва ў Маскву. Хачу дабіцца яшчэ лепшых паказальнікаў. Я вывучаю вайсковую справу і загартую сябе, каб у патрэбны момант разам з усім пролетарыятам стаць на абарону маёй соцыялістычнай радзімы.

---

## РАВЕСНІЦА КАСТРЫЧНІКА

*В. Чэркасава*

Перад сном, як заўсёды, я з сваімі сяброўкамі фабрычнага пасёлка слухала па радыё выпуск апошніх навін.

Забойшчык Стаханаў з шахты „Цэнтральная—Ірміна“ на пласту „Ніканор“ перавыканаў у дзесяць разоў норму па здабычы ву-

галю,—пачулі мы раптам паведамленне, і тут жа нам растлумачылі сакрэт яго поспехаў. Тады мне ў галаву запала думка, якая амаль што мяжавала з фантазіяй. Прыйсці ў цэх, перавыканаць норму разы ў тры, ускалыхнуць усю фабрыку, каб адразу ўсе навыперадкі адзін перад другім пачалі перавыконваць план. Але гэта было толькі жаданне. Колькі я не намагалася, нічога не магла прыдумаць, каб яго здзейсніць. Той ноччу я заснула позна, злуючыся сама на сябе за сваю няўцямнасць.

Назаўтра работа за машынамі мяне падбадзёрыла. Аналізуючы свой рабочы працэс, я адчула, што можна працаваць лепш. Для стаханаўскай работы я атрымала добрую падрыхтоўку—у ФЗВ, а потым у вязальным цэху я заўсёды была ўдарніцай.

Пра жаданне працаваць па-новаму я падзялілася з сваімі сяброўкамі. Яны ўспрынялі недаверліва:

— Дзе нам сваёй дробязнай работай цягнуцца за Стаханавым. У яго вугаль—выпрацоўка тонамі. Размах які. Дзе ўжо нам.

Прыходзячы з работы, я чытала „Чырвоную змену“ і „Комсомольскую правду“ і было зразумела, што выбухнуўшы ў шахце „Ірміна“ энтузіязм ахоплівае цяпер усю неабдымную краіну. Нормы перавыконвалі не толькі шахцёры, але і рабочыя ўсіх галін вытворчасці. Увечары радыё паведзіла газету, прынёсшы весткі пра нормы каваля Бусыгіна і машыніста Крываноса. Гэтыя весткі сагрэлі мае надзеі. Не толькі там, дзе вугаль, магчымы стаханаўцы!

Пасля нарады, прысвечанай задачам стаханаўскага руху ў нашым цэху, мне стала зразумелым з чаго пачынаць. Якраз у гэты час адна работніца пашла з працы і яе вязальная машына засталася незанятай. Тут жа на сходзе я заявіла:

— Хачу працаваць на трох машынах.

15-га верасня фабрыка выходная. 16 га працую на начной змене. Першая спроба работы на трох машынах у нашым цэху. Адчуваю адказнасць перад работніцамі, каб не асароміцца, укладваю ў работу ўсё сваё ўмельства. На перапынку падыходзяць сяброўкі. Распытваюць пра выпрацоўку, заахвочваюць, даюць парады. Першы дзень работы прынёс перамогу—замест 19 выпрацавала 22 дзесяткі. Другі дзень—замацаваў норму, паказаўшы работніцам невыпадковасць дасягнутага мной. І так цэлая пяцідзёнка. За гэты час я асвоілася з працэсам, шпарчэй навучылася насаджаць панчоху на ласцік. Загадчык змены т. Ждановіч арганізавала падноску матэрыяла, па які я раней хадзіла сама. На сходах мяне адзначалі, як лепшую работніцу, што падбадзёрвала, надавала больш ахвоты працаваць.

У гэты час я была комсамольскім групоргам. У маёй групе на насадцы працуе адзінаццаць чалавек. Маім абавязкам было зрабіць іх усіх стаханаўкамі.

— Мы не можам—гаварыла Яроміна і Лайхман,—на трох машынах цяжка працаваць.

Я ім прапанавала:

— Павялічце лік абаротаў.

І яны на ранейшых сваіх машынах, пачалі перавыконваць норму.

Я равесніца Кастрычніка. Залетась я святкавала 18-годдзе вялікага пролетарскага свята і пачатак свайго дарослага жыцця. Пачатак быў адзначан стаханаўскай работай, за якую мяне прэміравалі 300 рублямі.

Пасля свята работніцы Машканава і Шэстоўская ўзяліся працаваць на трох машынах. Праз два дні яны кінулі, сказаўшы:

— Як ты працуеш? Гэтак-жа вельмі цяжка?

— Каб быць стаханаўкай,—тлумачыла я ім,—неабавязкова налягаць на сілу і стамляцца. Трэба правільна арганізаваць работу. Добра ведаць сваю машыну, правераць яе перад работай, загадзя падрыхтаваць матэрыял. Вось я ў сваёй машыне ўпэўнена, як у самой сабе, ведаю кожны яе вінцік, усе яе капрызы.

Утрох—Лемеш, Радашкевіч і я высунулі патрабаванне перад адміністрацыяй, каб матэрыял не адвозілі на склад, а непасрэдна перадавалі нам, што дае эканомію часу. Дасюль матэрыял дзён за пяць злежваўся на складзе і вочкі ласціка асядаліся. Гэта рабіла марудным працэс насадкі.

У сакавіку цэх пачаў рыхтавацца да выпрацоўкі новых норм. У брыгадах праходзілі гарачыя спрэчкі і дэбаты. Рабочыя самі высоўвалі і абмяркоўвалі свае будучыя нормы. Сёння прапаноўвалі, а назаўтра за машынамі правяралі рэальнасць сваіх прапаноў. На двух машынах высоўвалі замест трынаццаці дзесяткаў і чатырох пар—пятнаццаць і шаснаццаць дзесяткаў. На трох машынах я прапанавала дваццаць тры дзесяткі. Многія работніцы пачалі папракаць:

— Табе добра—не прывыкаць. Ты і цяпер столькі выпрацоўваеш, а нам трэба вучыцца.

— Ды такую норму здолее кожная выпрацаваць,—даводзіла я і прачытвала ім мудрыя словы таварыша Сталіна:

„Стаханаўскі рух гэта такі рух рабочых і работніц, які ставіць сваёй мэтай пераадаленне цяперашніх тэхнічных норм, пераадаленне існуючых планаў і балансаў. Пераадаленне—таму, што яны, гэтыя самыя нормы, сталі ўжо старымі для нашых дзён, для нашых новых людзей. Нам патрэбны такія тэхнічныя нормы, якія праходзілі-б дзе-небудзь пасярэдзіне паміж цяперашнімі тэхнічнымі нормамі і тымі нормамі, якіх дабіліся Стаханавы і Бусыгіны“.

— Вядома, якая гэта стаханаўка, калі малыя нормы выпрацоўваеш,—пачалі згаджацца некаторыя работніцы.

Тым часам набліжаўся X з'езд ленінскага комсамола. У парадку падрыхтоўкі да яго, я на групавым сходзе высунула лозунг: —Зрабіць усю групу стаханаўскай. Гэтыя словы падхапілі ўсе комсамолкі і пачалася дружная барацьба за іх ажыццяўленне. Пільна сачылі, як да з'езда рыхтавалася ўся краіна і падцягваліся самі. У цэху штодзённа вывешвалася „Комсомольская правда“. Комсамольцы Брунштэйн і Ігнатовіч за гэты час выраслі ў добрых стаханаўцаў. Я правярала ўмовы па спаборніцтву, перадавала вопыт работы адстаючым. Давала ў рукі ласцік і паказвала як яго надзяваць. Яны надзявалі панчоху на тэкеля па аднаму вочку а я ў гэты час умела надзяваць адразу чверць панчохі. Вучыла правільна рабіць заправку, каб замкі шчыльна падыходзілі к іголкам.

Інакш іголкі ламаліся і затрымлівалася работа. І самаму галоўнаму навучала—сумленню. Як панчоха гатова яе трэба ўважліва праверыць, ці няма штопкі. Панчоха з штопкай—другога гатунку тавар. Бывае работніца пагоніцца за большай выпрацоўкай і кладзе горшы выраб у першагатункавы.

Да з'езда ўся мая група стала стаханаўскай. І вось аднойчы, пасля працы мяне выклікаюць у камітэт і гавораць:

— Табе з ЦК комсамола асабістае запрашэнне ехаць на з'езд. Збірайся і сёння ж выязджай. Я вельмі ўзрадавалася, што я, маладая, комсамолка, дзяўчына—равесніца Кастрычніка заслужыла такую павагу. Тут я дала сабе слова, вярнуўшыся са з'езда, працаваць яшчэ лепш.

З Віцебска на з'езд са мной яшчэ ехала лепшая комсамолка—стаханаўка фабрыкі „Сцяг індустрыялізацыі" Ніна Сарбай. Мы вельмі пасябравалі і ўсюды бывалі разам.

Чырвоная сталіца нам надта спадабалася. У Ахотным раду мы шчаслівыя спускаліся на эскалатары ў метро. Пра метро я дасюль чытала кніжку „Апавяданні будаўнікоў Метро", але і сотай долі я не магла ўявіць такой прыгажосці і цудоўнасці, якая адкрылася перада мной цяпер. Мрамарныя калоны, мяккае прыемнае святло, бязшумныя шпаркія вагоны і ўсё гэта пад зямлёй—нагадвалі мне дзіўныя палацы з казкі дзіцячых часоў.

Аглядала музей Леніна—гэта хвалюючая гісторыя большэвіцкай партыі, жыцця і барацьбы генія большэвізма ў карцінах і дакументах, у кнігах і фатаграфіях.

Асаблівае пачуццё адчуваеш прагладаючы сумесную работу Леніна і Сталіна, як гэтыя два волаты пролетарскай думкі і волі дапаўнялі адзін другога ў важнейшыя перыяды нашай партыйнай работы.

Аглядаючы музей, адчуваеш, што справа нашай партыі робіцца яшчэ бліжэйшай і роднай. Хочацца працаваць, гарэць будаўніцтвам, як гарэў наш вялікі правадыр.

На з'ездзе я ўпершыню ўбачыла дарагога і любімага ўсімі працоўнымі таварыша Сталіна. Здзейснілася мая самая запаветная мара. Таварыш Сталін прыходзіў у прэзідыум і здароўкаўся за руку з Вінаградавай, Дземчэнка, як са старымі знаёмымі. Я сядзела ўвесь час не зводзіла з яго вачэй. Гэта быў самы шчаслівы дзень у маім жыцці. Такія дні запамінаюцца назаўсёды.

---

## ДЗЯЎЧАТЫ ЁСЦЬ У НАС

*Т. Падскочава*

У 1932 годзе я паступіла ў ФЗВ панчошнікаў. Прадаўжаць далейшае навучанне ў сямігодцы не прыходзілася—бацька памёр, пакінуўшы вялікую сям'ю, а матка зарабляла вельмі мала. Я рашыла—набуду кваліфікацыю, прыдзецца адначасова працаваць і вучыцца. Я ўжо даўно імкнулася працаваць, хацелася самастойнасці. Мне тады было чатырнаццаць год.

Хто ў дзяцінстве не хоча выдаваць сябе за дарослага, хто ў маленстве не хоча выглядзець незалежным. У некаторых дзяцей гэта проста вынік перайманння з дарослых. Мяне ж да думак пра самастойнасць штурхалі ўмовы жыцця. Я пайшла працаваць рана. І нікольнкі не шкадую аб гэтым. На вытворчасці я вельмі хутка вырасла і хаця ў мяне за плячыма толькі васемнаццаць год, з'яўляюся поўнапраўным членам нашага калектыва, многа маю вытворчых дасягненняў, за якія мяне цэняць і паважаюць.

За два месяцы да сканчэння ФЗВ адбылася экскурсія лепшых вучняў на фабрыку „КІМ". Я ўдзельнічала ў гэтай экскурсіі. Нас сустрэў дырэктар, пашлі па цэхах. Са здавальненнем я аглядала вялікія светлыя цэхі і машыны, на якіх працуюць работніцы, прыглядалася да работы, уяўляла сябе на іх месцы. Сказаць па праўдзе было крышку боязна. Хоць мы і атрымалі ў ФЗВ добрую кваліфікацыю, але ж то ФЗВ—невялікая майстэрня, а гэта фабрыка „КІМ".

Першага студзеня 1934 года—першы дзень маёй работы на фабрыцы. Мяне прызначылі ў вязальны цэх, а я жадала працаваць у швейна-кацельным. Швейна-кацельны цэх мяне вабіў шырокімі мажлівасцямі самастойнай творчай работы. Я папрасіла і мяне перавялі ў швейна-кацельны. Як падлетак я працавала шэсць гадзін. Нас было 60 чалавек і працавалі мы за асобным сталом. З першых дзён работы я старалася працаваць, але норму не выраблівала. Патрабавалася 28 дзесяткаў, а я рабіла 25. Норму ў нас выконвалі тады толькі Давыдава і Дворкіна. Я і Дабравольская вырашылі тагнаць іх.

Крыху аб дружбе. Маё жыццё і праца вельмі цесна перапляталоцца з жыццём і працай маёй лепшай сяброўкі Яніны Дабравольскай. Разам мы з ёй вучыліся ў ФЗВ, разам пачалі працаваць на фабрыцы і разам дабіліся нашых поспехаў. У нас яшчэ адсутнічала практыка, але было жаданне працаваць. І неўзабаве мы пачалі выконваць норму. Я ведала, што для гэтага трэба вывучыць добра тэхніку сваёй справы, ведаць добра машыну, на якой працуеш.

Увясну 1934 года на Беларусі шырока разгарнуўся зотаўскі рух. Лепшыя ўдарнікі фабрык і заводаў абвясцілі паход за аўладанне тэхнікай. У Віцебску зотаўскі рух набыў асабліва шырокі размах і наш горад вышаў першым у спаборніцтве. Зотаўскім рухам была ахоплена і наша фабрыка. У красавіку я на „выдатна" здала тэхмінімум. Цяпер я дасканала ведала сваю машыну. Прыходзячы на працу, правярала яе, парярэджвала мажлівыя непаладкі і толькі тады прыступала да работы. Пры норме 31 дзесятак я пачала рабіць 45—46. Працуючы шэсць гадзін, я перавыконвала норму дарослых рабочых. Так працавалі ў цэху нямногія.

Першага мая 1935 года мяне першы раз прэміравалі. Я не здавала дасягнутых поспехаў, імкнулася працаваць яшчэ лепш.

Дзесятага лістапада 1935 года мяне, як лепшую ўдарніцу ў ліку дзесяці чалавек паслалі ў Ленінград на экскурсію для абмену вопытам работы. Гэтая экскурсія зрабіла на мяне вялікае ўражанне—я першы раз трапіла ў такі горад, як Ленінград. Трэба спыніцца

на тым, што я там бачыла, бо гэта бачанае потым дапамагло мне ў жыцці і ў працы.

Спачатку мы наведалі фабрыку „Краснае Знамя“. Гэта вялізная трыкатажная фабрыка, на якой працуе 15 тысяч чалавек. Яна абсталявана машынамі высокай тэхнічнай якасці. Асабліва мне спадабалася кетлёвачная машына „Контр-Рэкорд“. Мы мімаходзь прайшліся па цэхах—не хапала часу. Пасля я вельмі шкадавала, што не мела мажлівасці грунтоўна вывучыць машыны і метад працы ленінградскіх работніц.

Вялікае ўражанне пакінуў музей Рэвалюцыі. Ён знаходзіцца ў памяшканні былога зімняга палацу, дзе жыў цар. Нам паказалі рэдкія дакументы рэвалюцыйных падзей, здымкі рэвалюцыянераў, барацьбітоў за савецкую ўладу. Гісторыя барацьбы рабочага класа, комуністычнай партыі прайшла перад нашымі вачыма ў жывых і хвалюючых дакументах.

Я бачыла яшчэ шмат гістарычных помнікаў, якія напаміналі пра мінулае жыццё з жудаснай эксплаатацыяй і прыгнётам. Якім далёкім і незвычайным здаецца гэта мне—чалавеку, які нарадзіўся пры савецкай уладзе і стаў свядомым у гады вялікіх сталінскіх пяцігодак.

Зразумела чаму, прыехаўшы з Ленінграда, мне хацелася яшчэ лепш працаваць.

Прайшла восень 1935 года. Алексей Стаханаў дае прыклад сацыялістычнай працы. Хутка ў нашым цэху адбыўся сход, на ім гаварылі пра стаханаўскі рух і пра яго разгортванне на нашай фабрыцы. Я была ўпэўнена, што норму можна перавыканаць, трэба толькі ўмець тонка разлічыць свой час, каб прадукцыя паступала бесперабойна і каб машына была ў спраўнасці.

Назаўтра я з Дабравольскай далі 50 дзесяткаў пры норме 31. Склікалі сход. Парторг цэха віншавала нас з перамогай. Яна гаварыла, што норму можна яшчэ больш перавыканаць. Мне спачатку здавалася, што я дасягнула максімума ў выпрацоўцы, што больш ужо зрабіць ніяк нельга. Так толькі здавалася. Праз некалькі дзён, я даказала, што можна перавыканаць норму ў два разы. Я зрабіла 60 дзесяткаў. Тады я папрасіла, каб маю машыну перавялі на большую хуткасць. Машына пачала працаваць на 240 абаротаў у мінуту і яшчэ праз некалькі дзён я з Дабравольскай устанавілі ўсесаюзны рэкорд, даўшы 63 дзесяткі за 6 гадзін. Сакратар парткома вітаў нас з выдатнымі стаханаўскімі поспехамі. Работніцы прынеслі нам кветак. Я адчула ўсю ўвагу і пашану да мяне рабочага калектыва. Мая праца прынесла мне шмат радасці і задавальнення.

Чыталі, як расказвае аб сваім рэкордзе Аляксей Стаханаў.

„Памятная ноч 30 жніўня. Калі мы пачалі працаваць, першы час было не зусім спакойна. Потым бачу: справа ідзе добра, рублю няўтомна, крэпільшчыкі паспяваюць. Адап'ю крыху вады з фляжкі—і зноў за работу. Велізныя глыбы з грукатам ляцелі ўніз. У забоі шум ад падаючага вугалю і віску малатка такі, што і слоў нашых не зразумець. Усё было ахутана чорным пылам—баявы фронт пад зямлей, дзе я павінен перамагчы.

І стала мне незвычайна весела. Захацелася песні спяваць ад усведамлення, што вось я, радавы шахцёр, да вялікай думкі дайшоў—хачу давесці, што ўсе навукова-тэхнічныя нормы няправільныя.

Рублю і рублю. У пяць гадзін раніцы 31 жніўня лава была падрублена. Нарубіў я сто дзве тоны. Перамога".

Мы змагаліся не пад зямлёй, нас не ахутвала вугальным пылам, але ў нас таксама была вялізная радасць і перамога. Алексей Стаханаў і мы змагаліся на розных флангах аднаго і таго-ж баявога фронту.

Неўзабаве ў цэху з'явіліся яшчэ стаханаўцы. Правядзенне стаханаўскіх змен, пяцідзёнак, месячнікаў мела вялікае значэнне для агульнага ўздыму работы цэха. Наша брыгада стала стаханаўскай. Але не ўсе ў самой брыгадзе аднолькава працавалі, некаторыя адставалі. Мы вывучалі, дапамагалі ім. Перавыкананне нормы стала для мяне справай звычайнай. Пачаліся будні, але будні радасныя, якія запамінаюцца на ўсё жыццё.

У студзені 1936 года мне далі вялікую кватэру ў фабрычным доме. Я перасялілася туды з сваёй сям'ёй. Хутка мне прывязлі добрую абстаноўку і патэфон. 8-га сакавіка я прачытала ў газетах, што ўзнагароджана ганаровай граматай ЦВК БССР.

Сяброўкі, знаёмыя прыходзяць да мяне пасля працы—слухаем патэфон, танцуем, весялімся, а потым пачынаем спяваць. Пяюць дзяўчаты пра будзёнаўцаў і стаханаўцаў, пра прыамурскіх партызан і магнітагорскіх кавалёў, пра Ніну Камневу і Пашу Ангеліну. Песні праз вокны вырываюцца на вуліцу, ляцяць да фабрычных карпусоў і ахутваюць іх. Спяваюць савецкія дзяўчаты.

---

*Народная творчасць*

# I. ПЕСНІ НЯДОЛІ І ГНЕВУ

## САЛДАЦКАЯ ПЕСНЯ НАПЯРЭДАДНІ КАСТРЫЧНІКА

Пад Варшаву падхадзілі,
Афіцэры ўперадзі,
А як пушкі загрымелі,—
Афіцэры пазадзі.

Ах, вы каты, вы зладзеі,
А куды вы завялі,
Самі спраталісь ў вакопы,
А салдатаў на штыхі.

Эх, рэбяты, вы брасайце
Дарам кроў праліваць,
А пайдзём-ка мы ў вакопы
Афіцэраў разганяць.

Не жалейце вы, рэбяты,
А каліце ўсіх пад пяты,
Уласць советаў заваюем,
А буржуяў усіх раздуем.

*Запісана ад Ів. Анціпенкі, 47 гадоў, калгас Большэвік, Слабадскі сельсовет Магілеўскі раён.*

## СТАРАЯ РЭКРУЦКАЯ

Ныла сэрца, занывала,
Чула душа, не казала.

Не быць малайцу ў доме,
Быць, прапасці у няволі,
У некруцкаму паборы.

Са вечара маладца ўзялі,
Ручкі, ножанькі звязалі
Пасадзілі ў вазочак,
У саменькі ў задочак.
Самі селі, загрымелі,
Слаўны песенькі запелі,
Добры моладзец заплакаў.
Стаў ён плакаць і рыдаць,

Сваю долю праклінаць.
Ах, бесшчасная гадзіна,
Калі мяне маці радзіла.
Ну, неўмела мяне маці
Маленькага прыкапаці,
Толькі ўмела мяне маці
Маленькага калыхаці,
Салдацікам называці.

*Зап. у в. Гальшына, Горацкі р. 1934 г.*

## ОЙ, ПУШЧУ Я ПАЖАР...

Ой, пушчу я пажар, пажар па даліне,
Няхай гараць горы, горы і даліны.
Няхай ідуць дымы на маю старонку,
На маёй старонцы ацец, родна маці.

Ой, у маёй мамкі піражочкі мягкі,
У маёй-жа горкай долі няма хлеба-солі.
У маёй маладосці хлеба да скупосці,
Ой, пазаву к сабе родну мамку ў госці.

„Не ўпавай-жа, мамка, што ў цябе адна,
Ідзі мяне утапі, мяне, дзе крыніца без дна.
Не ўпавай-жа, мамка, што высокага росту,
Ідзі мяне утапі, мяне, з высокага мосту.

*Зап. у Менскай губ. 1864 г.*

## ОЙ, САДОМА, ПАНЕ БРАЦЕ!..

Ой, садома, пане браце,
Садома, садома,
Няма хлеба, пане браце,
Ні ў полі, ні дома.

Была-ж у мяне паляначка
Зелена, зелена,
Ды пажалі уражжы ляхі
Без мяне, без мяне.

Як пашоў я, пане браце,
К пану на заплату,
А ён мяне выбіў, выбіў
Дай выгнаў з хаты.

Цяпер сталі ўражжы ляхі
Шчэ горш на работу,—
Увесь тыдзень на паншчыну,
Шарваркі ў суботу.

Ой, ждем-жа мы нядзеляанькі,
Як самаго бога,
Ды што-б наша аддыхала
Малая нябога.

Ой, у нядзельку параненьку
Ва ўсе звоны звоняць,
Асаул-жа з казакамі
На паншчыну гоняць.

Мужчын у гумно малаціці,
А баб валоў пасці,
Малых дзяцей да цюцюну
У папушы класці.

Бадай-жа вам, уражжы ляхі,
Важка ў свеце жыці,
Як вы нашы памучылі
Маленькія дзеці.

*Зап. у Менскай губ. у 1864 г.*

## ПРЫСТАЎ І ГРОШЫ

Гнаўся шляхам станавы
На чыюсь бяду,
Праваліўся сярод ставу
На тонкім ляду.

Ішчуць соцкія з рассыльнымі,
Ішчуць рыбакі,
Водзяць шнурам ўкруг канавы,
Осці і гакі.

Аж ідзе дзедок убогі,
Галавой патрос,
Чуеш, чуеш—стаў пытацца,—
Што такое ў вас?

Ой, наш прыстаў утапіўся,
Госпадзі прасці,
Хадзі, дзядок, хоць паможаш,
Шнурам зацясці.

На што шнурам вам шукаці
Чужыя бяды,
Абы грошы паказаці—
Ён выскачыць з вады.

Паслухалі той рады
І сказалі ўраз:
Што-ж цяпер будзеш рабіці,
Няма срэбра ў нас.

Нашто срэбра вам шукаці,
Была-бы хоць медзь.
Абы грошы паказаці,
Не пойдзе пад лёд.

Ударылі па кішэнях,
Нашлі грывень пяць,
Дзівісь, дзівісь, ў станавога
Ужо вочы гараць.

Пашукалі яшчэ болей,
А ён як не быў,
Працяг руку, схапіў грошы
І з вады мільгнуў.

*Зап. у Гарадзенскай губ. у 1864 г.*

## II. ПЕСНІ ШЧАСЛІВАГА ЖЫЦЦЯ

### ДАРОЖАНЬКА

Узышоў свецел месячка—
Ясная зара,
Асвяціў дарожаньку
Цёмнага сяла.

Была ты, дарожанька,
Непрыгляднаю,—
Стала-ж ты, дарожанька,
Ненаглядиаю.

Парой, непагодаю
Тугой ты гула,
Гаротну судзбіначку
На век пракляла.

Прашлі той дарожанькай
Два багатыры,
Праклящце з дарожанькі
Рукою знялі.

Шыроку дарожаньку
Ленін пралажыў;
Пастройку дарожанькі
Сталін завяршыў.

Цяпер нам дарожанька
Вольная дана:
Работаць машынамі,
Вадзіць трактара.

Запіс І. Сербаў, ад работніц соўгаса Вейно,
Грэбянеўскі сельсовет, Магілеўскі раён.

## СТАЛІН ДАЎ НАМ МІЛАЕ ЖЫЦЦЁ...

Сіратою я расла,
Я ў полі былінка,
Ад васьмі-жа гадоў
Па панах служыла

Дзе качала я дзяцей,
Шчэ й кароў даіла.
Цяжка, цяжка было жыць
З гадамі панамі

На работу усе гналі,
А есці не давалі,
А нагайкаю ўсягды
Над галавой махалі.

А цяпер паноў прагналі,
Каб нам не мяшалі,
Нас вядзе к соцыялізму
Наш вялікі Сталін,—
Даў нам мілае жыццё,
Шчэ й вяліку радасць.

*Запісаў М. Грынблат ад Грэчнай Домны і іншых калгасніц Якімавічы, Мазырскі раён*

## ЯК МНЕ ПРЫДЗЕ ГОД ПРЫЗЫВУ...

Як мне прыдзе год прызыву,
Пайду ў армію сваю,
Паслужу свайму народу,
Я краіне паслужу.

Вораг хоча лезці ў бой,
Парушае наш спакой,
Але моцнай нашай сілы
Ён баіцца, як магілы.

СССР стальной рукой
Змяце ворага з зямлёй,
Сталін-бацька наш, вучыцель,
Вядзе нас усіх ўпярод,

З песняй звонкай к тым пабедам
Ідзе шчаслівы наш народ.
Усе ворагі кляліся,
СССР заваяваць,

Ды вось дваццаць год хацелі,
Ды ніяк не змаглі узяць,
Сталін ў бой нас ўсіх вядзе
І к перамогам прывядзе.

*Запісана ад Шаліма С. рабочага завода імя Варашылава, Менск*

## СЯМЁН БУДЗЁННЫ

Ой, за лесам, лесам цёмным
З сваімі байцамі
Выязджаў Сямён Будзённы
На шырока поле.
Коні мчацца, не стрымаеш,
Міма курных сёлаў.
Знаюць байцы,
Знаюць коні
Каманду Сямёна.
— Гэй, люд бедны,
Люд убогі,
Стань у шэраг з намі...
Наперадзе палыхае
Чырвонае знамя.
Сабраліся бедны людзі,
Народ абыдзенны:
„Прынімай нас, бацька родны,
Прынімай, Будзённы.
У нашых сэрцах
Гнеў ускіпае
На паноў, падпанкаў,
Бо яны пілі кроў нашу,
Магілы капалі.
Пойдзем, пойдзем мы адпомсцім
За ўсе іх здзекі,
І цяпер мы ўсе прыпомнім—
Зруйнуем навекі"...
Паглядзеў Сямён Будзённы
Позіркам лагодным.
Гэтак цёпла і ласкава,
Быццам бацька родны.
— Я прыму вас, добры людзі,
Сядайце на коні!
Мы з савецкай краіны
Ворага прагонім.
Ой, за лесам, лесам цёмным
З сваімі байцамі
Выязджаў Сямён Будзённы
На шырока поле.
А насустрач ім здалёку
Ворагі імчацца,
У пагоны плечы ўбраны,
А крыжамі грудзі.
— А ну, хлопцы, а ну, храбры,
Вынімайце шашкі.
Мы пакажам, як мы любім
Бацькаўшчыну нашу...
Як вынялі байцы шашкі

Ды з сталёвых ножан,
Як махнулі, як шахнулі,
Засвісталі шашкі,
Наперадзе сам Будзённы
Б'ецца смела, храбра,
Прыпадае конь да долу
Ды вараной масці.
Да золаку да самога
Ў полі, чыстым краі,
Змагаліся будзёнаўцы
Ды з варожай зграяй.
А як сонца пад'ялося
На лясы, на сёлы—
Дрогнуў вораг,
Здаўся вораг
У палон к Сямёну.
Многа крыві пралілося
У адважнай бойцы—
Многа байцоў асталося
На шырокім полі.
Люты вораг не забудзе
Нашых вострых шашак.
Знае вораг, як мы умеем
Адважна змагацца.

*Запісана ад Громава, б. чырвонаармейца калгасніка.*
*Склалі і спявалі чырвонаармейцы (Віцебскі раён).*

### ВЕЦЕР ВЕЕ, СОНЦА ГРЭЕ...

Вецер вее, сонца грэе,
Песня разліваецца,
Мой міленькі, даражэнькі
У армію збіраецца.

Пасадзіла пад акном я
Бярозку зялёную,
Едзе, едзе не ў салдаты
У армію Чырвоную.

Рада маці, рад і бацька,
На граніцу сын ідзе,
— Ды глядзі-ж, сынок мой мілы,
Стой там моцна, як нідзе.

На зямлю нашу не пускай
Фашыстаў ліхіх,
Варашылаву перадай
Прывецік ад радных.

Вецер веяў, сонца грэла,
Песня разлівалася,
З сваім міленькім дружком
У той дзень развіталася.

*Зап. ад Стальчэнка, 23 г. калгасніка, калгас „Чырвоны Гай“, Кіраўскі сельсовет, Рагачоўскі р.*

## СПЯВАЛА ДЗЯЎЧЫНА...

Спявала дзяўчына
У садзе зялёным,
А вусны гарэлі
Макам чырвоным.

Ой, сокал, мой сокал,
Як сонейка ясны,
Стаіш на граніцы
Рабоча-калгаснай.

Будзь горды, мой сокал,
Ї ў сцюжу, і ў вецер,
На варце краіны,
Найлепшай у свеце.

Спявала дзяўчына
У садзе зялёным,
Што мілы на варце
Граніцы чырвонай.

*Запіс. у Суражскім раёне*

## СЯСТРА БРАТУ КАНЯ АСЯДЛАЛА...

Сястра брату каня асядлала,
Выпраўляла народу служыць:
— Сваю родную шчасця краіну
Ад паноў умей, брат, бараніць.

Годзе ім на зямлі нашай роднай
Пот і кроў нашу піць і смактаць
Ї на шыі рабоча-сялянскай
Дзень і з ноччу да позна гуляць.

Час настаў ужо пану расплаты,
Час настаў ужо пана прагнаць,
Сабірайцесь пад сцягам чырвоным,
Пачынайце на іх наступаць.

Ї аб працы, браток, будзь спакойны,
За цябе я змагу працаваць,
Сваёй працай жаночай, упартай
У баях вам змагу памагаць.

*1937. Склаў Р. Іодка, рабочы, Бярэзінскі р.*

## ШТО Й З-ЗА ЛЕСУ, ЛЕСУ...

Што й з-за лесу, лесу,
Лесу зялёнага,
Чутка песня ўдалая
Любага, мілога.

Выйду я да лесу,
На калгасна поле,
Сама песню запяю
Пра шчасліву долю.
Хай-жа мая песня
Па свету нясецца,—
Усяму свету раскажу,
Як добра жывецца.

*Зап. ад калгасніка М. Маркава, 21 г.*
*в. Селіванаўка, Рагачоўскі р.*

## П'ЯНІЦА

Ідзе, ідзе п'яніца
па калгасу,
Не хадзіў работаць ён
а ні разу.
Ідзе, ідзе п'яніца,
Трэпле боты.
— Хадзі, хадзі, п'яніца,
На работу.

Ой, не хоча п'яніца
Сена грэсці,
Толькі хоча п'яніца
Смачна есці.

Ідзі, ідзі, п'яніца,
Па барочку,
А йдзе паначуеш
ты ночку.

Ідзі, ідзі, п'яніца,
Далінсю,
А што будзеш есці
Ты зімою.

*Запіс. ад калг. Леташкава Данілы, 25 г.*
*калгас „Комунар", Кашалеўскага сельсовета,*
*Буда-Кашалеўскага р.*

## ГОЛАС НАШ ЦЯПЕР НЕ ЗА ПЕЧКАЮ...

Ой, была-ж была
Ночка цёмная,
Ночка цёмная,
Што без месячка.

Ой, не знаці-ж мы
Свету белага,
Свету белага—
Жыцця вольнага.

У дзеўках седзячы,—
Гараваліся,
Замуж йдучы,—
Бедаваліся.

Ой, жыццём сваім
Не пахвалішся,
П'яны муж паб'е,—
Не пажалішся.

Доля жэнская—
Проціпечная,
Гарамычная,
Поднявольная.

Ты за печкаю
Гадавалася,
На запоінах
Прадавалася.

Падхапіліся
Ветры грозныя,—
Разарваліся
Хмары цёмныя.

Раступіліся
Хмары цёмныя
Перад раніцай
Света белага.

Разыгралася
Сонца яснае,—
Прынясло з сабой
Жыццё новае.

Ясно сонейка—
Сталін мудры наш,
Вывеў нас на пуць,
Жысці радаснай.

Мудры Сталін наш
Новы даў закон,—
Параўняў жанчын
За работамі.

Голас наш цяпер
Не за печкаю:
На совет ідзем
Роўнапраўнымі...

*Зап. І. Сербаў ад калгасніцы Дарашковай Н. Бялыніцкі р. 1937 г.*

## ЯК СТАХАНАЎКАЙ Я СТАЛА

Як стаханаўкай я стала,
Стала добра я ўжо жыць,
Эх, стала добра,
Стала добра.

Эх, ты сонейка мілое,
Выглядай ты, залатое,
Эх, залатое,
залатое.

Не бываць ужо той пары,
Калі гналі да зары,
Да паўночы,
Эх, да паўночы.

Не патрэбны мне іконы,
Не патрэбны мне трызвоны,
Іх трызвоны,
Эх, іх трызвоны.

Ой, ты Сталін, бацька родны,
Я ўжо цяпер свабодна,
Стала вольнай, Эх, свабоднай.

Цяпер заможнымі мы сталі,
Не так, як сахой аралі,
Як аралі,
Эх, як аралі.

Дзякуй, родны бацька Сталін,
Ужо заможнымі мы сталі,
Мы ўжо сталі,
Эх, ды сталі.

*Зап. у м. Копысь, Аршанскі р.*

## ЖЫТЦО

Каласістае, буйное
Вырасла жытцо,
І багатае такое,
Як наша жыццё.

Выйдзем гуртам мы ў поле
Сваё жытцо жаць,
Песню, песню весёлую
Будзем запяваць.

Як дажнем сваё жытцо —
Буйнае, калгаснае,
Мы напішам пісемцо
Пра жыццейка яснае.

Ты ляці, ляці у Крэмль,
Наша пісемцо,
Раскажы ты Сталіну
Пра яснае жыццё.

*Запісана ад Я. Рымарова, калгас „Чырвоны Гай". Кіраўскі сельсовет, Рагачэўскі р.*

## ТЫ ЛЯЦІ, ЗЯЗЮЛЬКА

Ляцела зязюлька
З зялёнага саду.
Села на бярозку
Песню кукаваць.

— Выйдзе, выйдзе шчасце
З калгаснага ладу,
Песні гаратлівай
Ужо не чуваць.

Стала та зязюлька
Песню кукаваці,
Прыгнуўшы галоўку
К беламу сучку.

Рады усе людзі,
Рады бацька-маці,
Ёсць цяпер работа
Бацьку старычку.

Сціхні ты, зязюлька,
Песні кукаваці,
Прыгні да сучочка
Сіву галаву.

Ты зязюлька ўмееш
Добранька лятаці,
Мы табе даверым
Справачку адну.

Эх, ляці, зязюлька,
Ты ў Маскву-сталіцу
І ляці, зязюлька,
Прама да Крэмля.

Як мы ўсе працуем
І аром зямліцу,
Сталіну раскажаш,
Зязюлька мая.

Ўзляцела зязюлька
На сцяну крамлёўску,
Вялікаму Сталіну
Песню стала пець.

Спела та зязюлька
Пра калгасну вёску,
І сказала Сталіну—
Ў госці к нам прыездзь.

*Зап. К. Папкоўскі ў к-се імя Дзяржынскага ад калгасніц. Лагойскі р.*

## ПЕСНЯ АБ СТАЛІНЕ

Наша краіна,
Як роза цвіце,
Геній народаў,—
Ён к шчасцю вядзе.

Сталін вядзе нас,
Працоўных людзей,—
Жыць стала лепш,
Жыць стала весялей.

Новым законам
Жыве краіна,—
Гэта даў Сталін
Сваёй радзіме.

Сталін вядзе нас,
Працоўных людзей.—
Жыць стала лепш,
Жыць стала весялей.

Знай мудры Сталін:
Мы ўсе на чаку,
Пядзі зямлі
Не ўступім ўрагу.

Сталін вядзе нас,
Працоўных людзей,—
Жыць стала лепш,
Жыць стала весялей.

*Зап. В. Герасіменка ад маладой калгасніцы К. Каржовай ў в. Калыбань, Камарынскі р. 1937 г.*

## ЭХ, ТЫ ЖЫТА

Эх, ты жыта, жыта, жыта,
Жыта ўдалое,
Ты на сталінскай зямельцы
Выйшла залатое.

Добра нам пад светам сонца
Жыта спеленькае жаць,
І стаханаўскаю працай
Песні Сталіну спяваць.

Пачалі мы жаць на славу
Шпаркім сталінскім жнівом
І за дзесяць дзён ударных
Усё поле ўбяром.

*Зап. Н. Малахаў у калг. „Новае жыццё", Паланіцкага с/с, Крычаўскі р.*

## ДЗЯКУЙ СТАЛІНУ ЛЮБІМАМУ

Ад дзяцінства да старасці
У нястачы я рос,
У жыцці не бачыў радасці,
Гора шмат я перанёс.

То ў заводзе за капейку,
Я дзве змены працаваў,
За каровамі з жалейкаю
Чорствы хлеб я здабываў.

За сваю працу цяжкую
Што-ж я бачыў, мужык?
Жыццё горкае, пакутнае,
Плач дзяцей, ды жончын крык.

Век пражыў я і ніколі
Не быў зрадаван хоць раз.
Жыццё радасным настала толькі,
Калі арганізаваўся наш калгас.

Цяпер ззяе золак радасці,
Знікла ночы чорнай цень,
Ах, як рад я, што хоць к старасці,
Я спаткаў шчаслівы дзень.

Старасць мне цяпер не страшна
Ёсць калгасы, ёсць Сталінскі закон навек,
Дзякуй Сталіну любімаму,
Цяпер і я жыву, як чалавек.

*Склаў Лапіцкі, калгаснік к-са Комуніст, Кабанаўскага с/с, Жлобінскі р. 1937 г.*

## ЗА ХАРОШУЮ РАБОТУ ДЗЯКУЕМ ЕЖОВУ

Сарву кветачку прыгожу
Ля крутога рову,
За харошую работу
Спасіба Ежову.

Каб шпіёнаў хутчэй знішчыць,
Мы ўсе пойдзем на пралом,
Хай жыве ордэнаносец
Ежоў—Сталінскі нарком.

Як сабака Троцкі брэша,
Банду падбірае,
Яму Гітлер ды з Берліна
Тожа памагае.

Мяне мілы правадзіў
Да зялёненькіх рабін...
Усіх трацкістаў корні знішчым,
Не астанецца ні адзін.

Усе кветачкі белыя
У верасні павянеце;
Зіноўеўцаў ушчэнт паб'ем,
След свой не памянеце.

Хай бандыты і шпіёны
Наматаюць на вус,
Што не доўга ім шпіёніць,
Бо іх знойдзе НКУС.

## ПЕСНЯ КАЛГАСНІЦЫ

Я старэнька дзетачкі,
Як памру, раскажыце Сталіну пра мяне.
Раскажыце роднаму пра мяне,
Што жыла я семдзесят зім і лет,

Ой, вялікі, дзетачкі, белы свет
Я-ж думала, ў свеце праўды нет.
Як была я, дзетачкі, малада,
Мае грудзі сціснула нішчата.
Мае вочы слёзамі заплылі,
Людзі сэрца выелі, як звяры.
Не ідзі, не ідзі ў маю хату, смерць
У маёй хаце некуды цябе дзець.
Ой, ты б села ў клець маю у закрамах.
Ды там жыта буйнае і мука.
А ты-б села ў хату маю, у куце,
Ды цябе мой венічак замяце.
А тыб села ў поплаве на пакос,
Ды цябе мы стопчам ў сенакос.
А ты-б села ў полі ў баразну,
Ды цябе там трактары разнясуць.
Убірайся, лютая, са двара,
Мне, старой, не хочацца паміраць.
Са сваімі дзеткамі хачу быць,
Са сваімі роднымі хачу жыць.

*Зап. ад калгасніка Леташкова Данілы, калгас „Комунар", Буда-Кушалёўскі р.*

### ЧАСТУШКІ ПРА ЛЕНІНА

Як у нашай у дзярэўні
Загарэліся агні,—
У бой нас вёў таварыш Ленін
У кастрычніцкія дні.

*Калгас „Шлях Сталіна",
Полацкі раён, 1935 г.*

Мы разбілі ўсіх бандытаў
Разграмілі на франтах,
Бо да гэтага нас клікаў
Смелы голас Ільіча.

*Грыбаны, Магілеўскі раён, 1935 г.*

Над зямлёй зара гарыць
Над усім народам,
Гэта Ленін, наш Ільіч
Даў людзям свабоду.

*Лагойскі раён, 1935 г.*

Сталі весела мы жыць,
Ільіча благадарыць,
Нам свабоду, землю даді
Каб мы ёю упраўлялі.

*Чэрвеньскі раён 1924 г.*

Куплю Леніна партрэт,
Залатую рамачку,
Вывеў ён мяне на свет
Цёмную сяляначку.

*Сенненскі і іншыя раёны. 1934 г.*

Ох, яблычка,
З боку зелена,
Увесь працоўны народ
Любіць Леніна.

*Запісана ў Н. Крупец,*
*Добрушскі раён, 1934 г.*

Яшчэ пушкі не заціхлі,
На франтах ішлі баі,
Ленін ўжо вапрос паставіў
Аб электрыцы страны.

*Запісана ў в. Грыбаны,*
*Магілеўскі раён, 1936 г.*

Помніць Леніна я буду,
Буду помніць і любіць,
Як настаўніка і друга
У сэрцы беражна насіць.

*Запісана ў калгасе „Чырвоная*
*зорка", Дрыбінскі раён 1936 г.*

Мы цяперака жывём,
Па заветам Леніна,
Жыццё шчаснае куём,
Песні звонкія пяём.

*Запісана ў калгасе „Асвета",*
*Клічаўскі раён.*

Калі Ленін паміраў,
Дык ён Сталіну сказаў,
— Братка, Сталін дарагой,
Ты кіруй усёй страной.

*Запісана ў Уваравіцкім*
*раёне, 1936 г.*

## ЧАСТУШКІ ПРА СТАЛІНА

Добра з Леніным было,
Сталін ў рукі ўзяў стырно,
Павядзе карабль далей,
Каб жылося шчэ лепей.

*Запісана ў Дубровенскім*
*раёне, 1932 г.*

Калі ворагі на нас
З боем наступалі,
На пазіцыю пайшоў
Сам таварыш Сталін.

*Запісана ў м. Белае, Полацкі раён, у 1935 г.*

Сталін—сэрца ўсёй краіны,
Сталін—мужны чалавек,
Правадыр для нас любімы
Ён жыць будзе з веку ў век.

*Запісана ў калгасе Новы Быт, Полацкі раён, 1937 г.*

Як прыгожа цвітуць кветкі
Пад акенцам на градзе,
Ужо да трэцяй пяцігодкі
Родны Сталін нас вядзе.

*Запісана ў в. Бабчык, Хойніцкім раёне, у 1936 г.*

Народ вольны пяе песні
К шчасцю новаму ідзе.
К комунізму родны Сталін
Смелым поступам вядзе.

*Запісана ў Зубаве, Аршанскі раён, у 1937 г.*

Пераможам мы прасторы,
Пераможам далі,
Нас вядзе да перамогі
Наш любімы Сталін.

*Запісана ў калгасе „Чырвоная Рудкоўшчына,“ Горацкі раён, 1937 г,*

Мы ідзем дарогай новай
З песняй, званчэй сталі,
Нас вядзе к соцыялізму
Наш вялікі Сталін.

*Запісана ў калгасе II пяцігодка, Лагойскі раён, у 1935 г.*

Добры дзень, таварыш Сталін,
Шлем табе мы свой прывет,
Дарагі ты наш і любы
Цябе любіць увесь свет.

*Запісана ў калгасе Комсамолец, Бярэзінскі раён, у 1936 г.*

Я на Сталіна партрэт
Кожны дзень любуюся,
Вывеў ён мяне на свет,
Я цяпер красуюся.

*Запісана ў калгасе „Зара Свабоды", Ушацкі раён, у 1933 г.*

Самалёт, птушка крылаты,
Хачу ў Маскву паляцець
І там Сталіна пабачыць,
Перадаць яму прывет.

*Запісана ў Любаньскім раёне, у 1937 г.*

Весялей нам грай, гармошка,
Галасы з сталі.
Вучыць нас работаць чэсна
Дарагі наш Сталін.

*Запісана ў калгасе імя Кірава, Горацкі раён, у 1935 г.*

Каб павысіць ураджайнасць,
Будзем з тэхнікай дружыць.
І жадаем, родны Сталін,
Доўга, доўга табе жыць!

*Запісана ў Буда-Кашалеўскім раёне ў 1936 г.*

Уюцца сцягі, уюцца ўвысь,
Украшаюць далі.
Нам заможнае жыццё
Даў таварыш Сталін.

*Напісана ў Гомельскім раёне ў 1935 г.*

Імя Сталіна зіяе,
Зоркай яркаю гарыць
— Гэта ён стварыў нам шчасце,—
Народ вольны гаварыць.

*Запісана ў Аршанскім раёне, у 1937 г.*

Калі песню запяём,
Дык гамоняць далі.
Нам вясёлае жыццё
Даў таварыш Сталін.

*Запісана ў калгасе Юны мір, Дрысенскі раён, у 1936 г.*

Эх, песню запяю,
Песеньку вясёлую,
Канстытуцыю стварыў
Родны Сталін новую.

*Запісана ў Старобінскім раёне, у 1937 г.*

Канстытуцыю чытала,
У ёй добра сказана.
Гэта мудрыя слава
Дарагога Сталіна.

*Запісана ў калгасе імя Варашылава, Старадарожскі раён, у 1937 г.*

У краіне наша радасць,
У краіне песні звон,—
Уступіў ужо у дзейнасць
Новы Сталінскі закон.

*Запісана ў Аршанскім раёне, у 1937 г.*

Правадыр—любімы Сталін
Канстытуцыю нам склаў—
Для працоўнага народа
Жыццё радаснае даў.

*Запісана ў Горацкім раёне, у 1937 г.*

## КАЛГАСНЫЯ ЧАСТУШКІ

У калгасах ёсць сады,
Ёсць і пчолак рої.
За апошнія гады
Выраслі героі.

А за горкай расце клён
Расце надта гонкі,
Развядзем мы добры лён
Для радной старонкі.

З калодца вада льецца,
Траўка зеленеецца,
Добра нам цяпер жывецца,
Усё ў нас імеецца.

Атрымаў 100 пудоў збожжа
Ёсць яшчэ і на таку.
А раней парогі білі
Праклятаму кулаку.

Пайду я ў сад зялёны,
Сяду там ды запяю,
Бо я сёння ў калгасе
Вельмі весела жыву.

Каля вёскі за гародам
„Сталінец“ па полю ходзіць,
У калгасе з кожным годам
Ураджай ўсё большы родзіць.

*Зап. у Аршанскім, р. 1937 г.*

* * *

Зараз у горад як паедзеш
Толькі ўеццa ззаду пыл
Атрымаў калгас нядаўна
Грузавы аўтамабіль.

Колькі радасці ў нас сёння,
Што жывем ў шчаслівы век.
Больш няма такой краіны,
Дзе так вольны чалавек.

Я ўперад была батрачкай
І хадзіла голай век,
А цяпер ў калгасе нашым
Я найлепшы чалавек.

Чалавек ён быў апошнім
З-за беднасці сваёй,
А цяпер наш дзед у калгасе
Стаў інспектарам палей.

А з-за лесу, а з-за бору
Усходзіць сонца яснае.
Дзякуй, дзякуй, родны Сталін
За жыццё калгаснае.

*Зап. у Аршанскім р., 1937 г.*

* * *

А за лесам, за дубровай
Пяе песні салавей,
Не прыдзе к нам болей гора,
Жыццё стала весялей.

Наш вялікі Сталін бацька
Аб усіх клапоціцца,
Жыццё радаснае стала,
Паміраць не хочацца.

*Зап. у Касцюковіцкім р., 1937 г.*

## ЛЕНІНСКАЯ ПРАЎДА

*Народная беларуская казка*

Жылі ў вёсцы два браты. Поле яны аралі, зямлю слязамі палівалі і гарбы сабе нажывалі. Хлябок і жывёлу ў іх паны забіралі, а плацілі за гэта кулакамі ў спіну.

Жылі браты не год і не два, а невядома колькі. Вакол і другія мужыкі таксама жылі.

Абрыдла братам працаваць на чужое здароў'е. Вырашылі яны адправіцца па Расіі-матушцы праўды шукаць.

Ідуць яны месяц, ідуць год. Бачаць стаіць вялікае сяло. Пасярод—панскі дом і царква каменная.

— Дай,—думаюць браты,—дойдзем сюды і спытаем праўды.

Ідуць яны па вёсцы, а насустрач ім пан у калясцы едзе.

— Чые вы, мужычкі, адкуль ідзеце і чаго шукаеце?—запытаў іх пан.

Браты адказваюць яму:

— Жылі мы, жылі ў галечы, у горы, больш моцы не хапіла так жыць. Ідзем праўды шукаць. Навучы нас, пане, дзе яе знайсці.

— Добра,—кажа пан,—пакажу я вам праўду, калі пажадаеце, толькі вы мне папрацуйце за гэта.

Згадзіліся браты.

Працавалі яны, працавалі: поле аралі, зямлю слязамі палівалі. Прайшоў год. Прыходзяць яны да пана і кажуць:

— Навучы зараз, пане, як нам праўду знайсці.

— Ну вось вам і праўда,—адказвае ім пан,—голь не мытая, працаваць вам заўсёды на нас паноў.

Плюнулі браты і пайшлі далей.

Ідуць яны месяц, ідуць год. Бачаць стаіць поп.

— Навучы айцец, дзе праўду знайсці?—пытаюць яны.

— Добра,—кажа ён,—я вам праўду ў цара нябеснага вымалю, а вы ў мяне папрацуйце за гэта.

Згадзіліся браты. Працавалі, яны працавалі, слязамі зямлю палівалі. Прайшоў год. Прышлі браты да папа, а ён ім кажа:

— Працуйце вы добра і не гнявіце бога,—вось і ваша праўда.

Плюнулі браты ды пайшлі далей.

Прыходзяць яны да купца. Вышаў ён таўсты і багацей пана і папа.

— Добра,—кажа купец,—навучу я вас праўдзе, толькі папрацуйце на мяне.

Згадзіліся браты. Сталі браты працаваць і гарбы нажываць. Вучыў іх купец, як чэсны народ ашукваць і беднату абмерваць. Не дачакаліся і года, як малодшы брат і кажа:

— Не пайду я больш праўду шукаць, няма яе на свеце, праўды мужыцкай.

І вярнуўся ён у сваю вёску. А старэйшы брат настойлівы—не захацеў ён без праўды дамоў варочацца. Пайшоў ён адзін да фабрыканта.

Фабрыкант і за пана, і за папа, і за купца багацей. Пачаў старшы брат працаваць у яго. А на фабрыцы шмат людзей працуе.

Працавалі яны многа год. Гарбы нажывалі, а праўды не бачылі. Толькі раз пачуў брат на змене ціхую гутарку:

— Ёсць чалавек адзін—ён і праўду ведае. Завуць гэтага чалавека Леніным, а жыве ён на поўначы, у Піцеры.

Запамятаў брат імя гэта і пайшоў шукаць гэтага чалавека.

Ішоў шмат дзён, а магчыма і месяцаў. Прышоў у Піцер. Бачыць ідзе рабочы, ён яго запытаў ціханька.

— Дзе тут Леніна знайсці.

А той яму яшчэ цішэй:

— Пойдзем са мной я цябе давяду.

Вось і прышлі яны ў звычайны пакой. Вакол розных кніг шмат. Выйшаў да іх чалавек, адзет не багата, але чыста. Ён і гаворыць:

— Добры дзень, таварышы, што скажаце добрага?

Расказаў яму брат, як ён праўду шукаў. Доўга з ім гаварыў Ленін аб парадках на фабрыцы, распытваў аб вясковай беднаце, а потым сказаў:

Правільна ты зрабіў, на фабрыцы аб праўдзе ты лепш даведаешся. Вы яе там у руках трымаеце.

І расказаў Ленін брату, як трэба за рабочую праўду змагацца, каб не служыць ні панам, ні купцам, ні фабрыкантам, і як выгнаць іх разам з царом.

Вярнуўся брат зноў на фабрыку і пачаў другім ленінскую праўду тайнымі словамі расказываць. Адзін расказвае, а дзесяць слухаюць, дзесяць расказваюць, сто слухаюць. І пайшла Ленінская праўда па ўсяму свету.

Шмат год хадзіла яна па фабрыках і вёсках. Узнімала яна рабочых і сялян на барацьбу. А ў кастрычніку 1917 г. аб'явілася гэта праўда громкім голасам, залпамі на ўвесь свет. Пайшлі рабочыя і сяляне бязлітаснай вайной на памешчыкаў і фабрыкантаў. А вёў іх тады сам Ленін, са сваім лепшым памочнікам Сталіным і ўзяла верх у Кастрычніку Ленінская праўда.

З таго часу рабочыя і сяляне больш не працуюць на паноў і фабрыкантаў, гарбоў не нажываюць, зямлю слязамі не паліваюць, самі гаспадары сваіх фабрык, сваей зямлі і свайго жыцця.

*(Запісана ў вёсцы Заломная, Жлобінскага раёна БССР).*

## ПАХАВАННЕ КАЗЛА

*(Народная казка)*

Жылі стары са старою. Не было ў іх ніводнага дзіцяці, толькі і было, што казёл: тут усё! Стары ніякага майстэрства не ведаў, плёў адны лапці—толькі гэтым і харчаваўся.

Прывык казёл да старога: бывала куды стары ні пойдзе з дому, казёл бяжыць за ім. Вось аднаго разу здарылася ісці старому ў лес за лыкам, а казёл за ім пабег. Прышлі ў лес, стары пачаў лыка драць, а казёл бродзіць там і сям і траўку шчыпле: шчыпаў, шчыпаў ды нечакана пярэднімі нагамі і праваліўся ў рыхлую зямлю, пачаў рыцца і выкапаў адтуль кацялок з золатам. Бачыць стары, што казёл зямлю грабе, падышоў да яго і ўбачыў золата. Надта ўжо дзед узрадаваўся, пакінуў свае лыкі, падабраў грошы— і дахаты. Расказаў аб усім сваёй жонцы.

— Ну, стары!—гаворыць бабуля,—гэта нам бог даў такі клад на старасць за тое, што столькі гадоў з табой працавалі ў беднасці, а зараз пажывём з вялікай прыемнасцю.

— Не, старая,—адказаў дзед,—гэтыя грошы знайшліся не нашым шчасцем, а казловым. Зараз-жа нам—шкадаваць і берагчы казла лепш, чым сябе.

З таго часу пачалі яны шкадаваць і берагчы казла лепш, чым сябе. Пачалі яны даглядаць, ды і самі папраўіліся, лепш быць не можа.

Стары нават пазабыў, як і лапці плятуць.

Жывуць сабе ды пажываюць. Ніякага гора не ведаюць. Вось праз некаторы час казёл захварэў і здох. Стаў стары раіцца са старой, што рабіць?

Калі выкінуць казла сабакам, дык нам за гэта будзе перад богам і перад людзьмі грэх, бо ўсё шчасце ад казла атрымалі. Я лепш пайду да папа і папрашу пахаваць казла па-хрысціянску, як і іншых нябожчыкаў хаваюць.

Сабраўся стары, пайшоў да папа і кланяецца.

— Добры дзень, бацюшка!

— Здароў, чалавеча! Што скажаш?

— А вось, бацюшка, прышоў да тваёй міласці з просьбай, у мяне ў хаце вялікая бяда: казёл памёр. Прышоў зваць цябе на пахаванне.

Як пачуў поп гэта, моцна ўзлаваўся, схапіў старога за бараду і давай цягаць па хаце.

— Ах ты, акаянны! Што выдумаў! Ванючага казла хаваць!

— Дык ён-жа, гэты казёл, бацюшка быў зусім праваслаўны. Ён вызначыў табе дзвесці рублёў.

— Паслухай, стары хрэн!—сказаў поп,—я цябе не за тое б'ю, што просіш мяне казла хаваць, а затое, чаму ты да гэтага часу не паведаміў аб яго смерці: можа ён у цябе даўно памёр.

Узяў поп з мужыка дзвесці рублёў і гаворыць:

— Ну, ідзі хутчэй да айца-дзякана, скажы, каб падрыхтаваўся. Зараз пойдзем казла хаваць.

Прыходзіць стары да дзякана і просіць:

— Зрабі ласку, айцец-дзякан, прыходзь да нас нябожчыка хаваць.

— А хто ў цябе памёр?

— Дык-жа вы ведалі майго казла? Ен вось і памёр!

Як пачуў дзякан, стаў даваць яму аплявушыны!

— Не бі мяне, айцец дзякан!—гаворыць дзед.—Казёл жа быў зусім праваслаўны: як памёр, табе сто рублёў вызначыў за пахаванне.

Які-ж ты стары і дурны!—казаў дзякан,—што-ж ты даўно не паведаміў аб яго праваслаўным скананні, ідзі хутчэй да дзячка, няхай пазвоніць па казловай душы!

Прышлі да старога поп і дзякан, пачалі пахаванне адпраўляць, плакалі, казла ў труне аднеслі на могілкі і закапалі яго.

Вось сталі пра гэту справу гаварыць паміж сабою прыхажане. Дайшло да архірэя, што поп казла пахаваў па-хрысціянску. Патрабаваў архірэй да сябе на расправу старога з папом.

— Як вы маглі пахаваць казла? Ах вы, бязбожнікі!

— Ды гэты-ж казёл,—гаворыць дзед,—зусім не быў такі, як іншыя казлы: ён перад смерцю вызначыў вашаму прасвяшчэнству тысячу рублёў.

— Эх, які ты дурны, дзед! Я не за тое лаю цябе, што казла пахаваў, а за тое, чаму ты яго, калі ён жывым быў, маслам не сабораваў! Узяў тысячу і адпусціў старога і папа дахаты.

*(Запісана ў Касцюковіцкім раёне).*

## З ЧАГО ЛІХА НА СВЕЦЕ

*(З народнай казкі)*

... Даўным даўно, спрадвеку жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха не зналі. Свет вялікі; усюды вольна; як патрудзіўся, так і пажывіўся. Не было тады ні паноў, ні мужыкоў, а так сабе людзі.. І не было на зямлі ні ліха, ні дабра. Людзі, бы кветкі цвілі, жылі, бы птушкі ў небе, ці рыба ў вадзе; жылі, што стрэлі, то ўжывалі—ні шчасця, ні бяды не мелі. Але што такое жыццё? Так жыве і звяр'ё па лесе, так жыве і дзяраўляка. Бог убачыў тое ды і пачаў вучыць людзей, як латвей дастаць ім жыўнасць, як зрабіць сабе адзежу, як схавацца ў непагоду, як лавіць рыбу ды звяр'ё, ды птушак. І пазналі тады людзі, што каму ўлажыў бог розум, той можа зрабіць, што хоча.

— Гэ, мы і самі з вусамі—кажуць людзі,—што захочам то і зроб'м. Мы і самі бы багі, толькі бог затым не даў нам сілы, улады, што баіцца, каб, зямлёю заўладаўшы, мы не ўздумалі і самога бога сапхнуць з неба...

Адступіўся тады бог ад гордых людзей і пайшоў сабе на неба.

... Давай гэта дужэйшыя адбіраць ад слабейшых, што тыя зробяць, давай іх прымушаць рабіць на сябе, давай імі ўладаць, бы сваім дабром... І пашло з тае пары ліха на зямлі, пайшло такое ліха, што і сказаць не можна. Пачалі паны лавіць людзей, бы звяр'ё, пачалі іх мучыць ды здзекавацца, быццам гэта і не людзі, а жывёла...

Паны ўзялі ўладу на зямлю, пачалі марыць людзей голадам, пачалі іх біць да забіваць, ды адзін на другога насылаць.

... Так да тых часоў мужыкі гаруюць, мужыкі працуюць, а хлеба не маюць, часам голадам падыхаюць, бо што не зробяць, то паны здзіраюць. А паны пануюць, нічога не робяць, ды ліха вымышляюць, бо за сабой чортаву сілу маюць. І няма ратунку ад такога жыцця, бо яно ўсё бы каменная куча, зверху цяжкае каменне дробных на пясок расцерла ўнізе; зверху іх гнятуць другія, а на тых ляжаць і цісьнуць долу яшчэ цяжэйшыя; зверху-ж лёг адзін вялікі камень. От гэта спрадвеку і да тых часоў ліха людзей давіць, ліха цісне людзей зверху к долу, бы кучы той каменне. Трашчыць куча, трэ каменне, на жарству іх трэ ўнізе; трашчыць і хутка асядае, асядае ніжэй-ніжэй ды ўсё ніжыцца да долу. Мабыць скора затрашчаць падпоркі і рассыпецца ўся куча. Так і ў жыцці: усё горш-горш бедным людзям, бо народ множыцца, а свет адзін. І так цесна людзям на зямлі, а тут і тое, што слімазарнае, дужэйшыя людзі захвацілі ды і трымаюць, бы воўк зубамі забіваюць, паядаюць людзі адзін другога горш, як звер звера. Яны не знаюць таго, што адзін чалавек не мае моцы, бы чарвяк, бы тая былінка ў полі: наляціць вецер, закруціць хваля ды сатрэ, зраўнуе з зямлёю. Быў чалавек—пхх! і няма, бы на свет не радзіўся. Толькі тады чалавек моцны, як ён не адзін, а жыве з другімі людзьмі ў згодзе да ў ладзе. І чаго толькі не зробяць людзі, калі возьмуцца за справу грамадою, бы адзін чалавек. Але от гэтага і не зналі людзі, не зналі як жыць на свеце, каб усім было добра. Кожны цёг да сябе, кожан гарнуў к сабе, кожан на другіх, як на ворагаў глядзеў і кожан другіх ворагамі меў... І затрацілі людзі ўсе свае сілы толькі на тое, каб адолець сваіх ворагаў...

... Так спрадвеку біліся людзі, нішчылі адны другіх. От ад чаго ліха на свеце. Але... радзіўся на свеце ясны розум і пачаў расці; толькі расце ён так ціха, так памаленьку, што чалавек век пражыве, а розуму чуць на крыху прыбудзе. Адны людзі паміраюць, другія раджаюцца. Яны пражывуць век і аслабаняюць месца другім. Тыя—сплодзяць дзяцей і памруць. Так і жывуць людзі, бы вада цячэ ў рацэ. А розум хоць ціха, памаленьку, ды ўсё расце, расце і паднімаецца на ногі. От як вырасце той ясны, бы сонейка, розум, ды пачне свяціць людзям у вочы, то тады ўсе пазнаюць, з чаго ліха на свеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысць і зажывуць на зямлі, бы ў раю. Мы ўжо недачакаемся таго, але мо' нашы дзеці, ці ўнукі такі дачакаюць.

*Запісана ў 1910 г. у в Гаўрыльчыцы на Палессі.*

## ЯК ПЛОТКІ ПЕРАМАГЛІ АКУНЁЎ, ШЧУПАКОЎ І АКУЛУ

*(Казка)*

Было на свеце вялікае, вялікае мора. У тым моры было шмат рознае рыбы. Была акула, шчупакі, акуні і плоткі.

Акулы баялася ўся рыба. Акула была поўным царом у моры. Шчупакі былі ў акулы служкамі, а акуні ў шчупакоў. Вось прызывае гэтая самая галоўная акула ўсіх шчупакоў і кажа:

— Каб сёння к абеду было мне 1000 плотак.

— Добра,—гавораць шчупакі.

Прызываюць к сабе шчупакі акунёў і гавораць:

— Акула патрабуе тысячу плотак. Сёння дастаньце к абеду.

— Добра,—гавораць акуні.

А ў гэты самы час адна плотка, ідучы, падслухала, што гаварылі шчупакі акуням. Пабегла яна дадому к астатнім пдоткам і расказала ім усё. Назаўтра, калі акуні сабраліся лав'ць плотак і весці к акулам, плоткі ўсім стадам наваліліся на кучку акунёў і перабілі іх. Шчупакі чакалі, чакалі акунёў і пашлі самі па плотак, а плоткі стадам і шчупакоў перабілі. Асталася акула без служак. Пабаялася, што і яе заб'юць і ўцякла ў другое мора.

Сталі плоткі жыць і пажываць свабодна. Адгарадзілі сваё мора ад другіх сцяной моцнай і высокай.

Тым часам акула пазвала на дапамогу з другіх мораў акул, шчупакоў, акунёў. Падышлі гэта яны к мору, а тут высокая сцяна. Што рабіць? Сталі шчупакі і акуні цераз сцяну лезці, а ім плоткі як надавалі, то акула з шчупакамі і акунямі ледзь уцяклі, а плоткі і цяпер вольна жывуць.

*Запісана ад вучняў Бельскай ШКМ, Полацкі раён, у 1936 годзе.*

## МУДРЫ ЛЕНІН

Ленін гэта быў вялікі з вялікшых людзей ва ўсім свеце. Калі жыў Ленін у той краіне быў цар Нікалай другі. Пры гэтым цару вельмі кепска жылося рабочым і сялянам. І вось Ленін арганізаваў гэтых бедных людзей, каб скінуць цара і захапіць уладу ў свае рукі,—абвясціць усім людзям свабоду.

Рабочыя і сяляне яго паслухаліся. Прагналі цара і ўсіх царанят і тады была ўтворана Совецкая ўлада.

Старшынёй гэтай улады быў сам Ленін.

Ленін быў вельмі разумным чалавекам. Ён ведаў за 100 год уперад, што будзе і напісаў такую вялікую кнігу, па якой цяпер будуюць соцыялізм.

*Запісана ад калгасніка Парэчына Сяргея, калгас Сілач, в. Задашчанне, Пухавіцкага раёна.*

## КАЛГАСНЫЯ ПРЫКАЗКІ

1. Ты паслухайся лепш мас ды ідзі ў калгас.
2. Не спадзявайся на бога,—будзе з калгаса падмога.
3. У калгасе працаваць—гора і бяды не знаць.
4. Вот кулак павесіў нос, значыць моцны наш калхоз.
5. Забывае вёска пра вузкія палоскі.
6. Дрэнна раней жылося: гора ў хвасце плялося, а як у калгас уступіў, гору на хвост наступіў.
7. Як сонейка з неба не збіць, так і калгаса не разваліць.
8. Не крапідлам машы, глыбей пашы.
9. Дзе запахана і ўбрана ў пору, там кілограм пайшоў угору.
10. Без плана і ў хаце заблудзіш.
11. Працаваць яму лень, а крычыць: мала на працадзень.
12. Багата хата не вугламі, а працаднямі.
13. У калгасе язык не ў зачот, а хто працуе, таму і пачот.

*Владзімір Кандраценя*

# КАХАННЕ

## I

За нашай вёскай, непадалёчку ад цёмных гарбатых гумен, каля зжатага палетка—калгасная хата-чытальня.

На змроках моцна пахне рамонак, і вохкую свежасць нясуць сюды маўклівыя палявыя прасторы.

Кожны вечар тут сумятліва і весела. З усяе вёскі сыйдуцца квяціста прыбраныя дзяўчаты, прывядуць хлопцы гарманіста, і ўраз ажывае ціхі сіні вечар. Песням няма канца, і танцы да самага поту,—дарма, што ўвесь дзень працавалі! На тварах хлапцоў і дзяўчат няма нават і ценю ад дзяннное зморанасці, бо вядома—такая ўжо маладосць!..

Звіняць мядзяныя талеркі, гулка бухае бубен, на ўсе галасы залівaецца гармонік, а пары лёгка, нібы на невідочных шаўковых крыллях, кружацца-вальсуюць у прыгожа расквечаным карагодзе. Прытка кружацца кружацца пары... мільгаюць ружовыя бесклапотна-шчаслівыя твары дзяўчат...

На сярэдзіне хаты, над галовамі танцуючых, ярка віхаціць вісячая лямпа з зялёным абажурам.

Успёршыся рукою на падваконнік у журлівым задуменні стаіць чарнавокая Марына. Беленькая кашуля, вышытая чырвонымі ўзорамі, рэзка адцяняе прыгожы смуглы твар. Цераз кволую акругласць пляча спускаецца на грудзі пышная чорная каса. Смуглыя тонкія пальцы з паспешнай нервовасцю перабіраюць кончык касы, які бліскае зыркімі іскрамі чарнаты. Чаго-ж засмуцілася чарнявая красуня?

Падыходзілі хлопцы да Марыны, запрашалі танцаваць—яна моўчкі адмаўлялася.

— Ганарышся!—скоса пазіраючы, з іроніяй і неяк нараспеў прамовіў нечакана збянтэжаны хлапец.—Няма Алеся, дык на другіх глядзець не хочаш...—ён разгублена стаяў, спадзяючыся, што Марына падатліва працягне яму сваю руку.

Чорныя, неспакойна-гарачыя вочы дзяўчыны рашуча бліснулі.

— Сказала табе—не пайду...

І яна кпліва засмяялася:

— Кавалер...

Марыне самой не вельмі хацелася стаяць збоку: яна не прапускала на пагулянках ні аднаго танца, а цяпер было гэтак-жа многа рухавай весялосці!

„Чаму яго няма? І ўчора вечарам не паказаўся, і сёння не прыходзіць...“

Увесь дзень Марына працавала ў полі, а думкі дзявочыя былі там—каля яго... Ледзь дачакалася вечару. А як сцямнела—э заміраючым сэрцам (дзе не бачылі людзі—аж падбегам)—хутчэй на музыкі.

„Забыўся... А можа знарок не хоча?.. Прыдзе... Напэўна работаю заняты“,—сама сябе заспакойвае Марына.

На апошнім развітанні Алесь намякнуў, што ў наступны раз скажа ёй нешта вельмі значнае і цікавае.

На ганку спяваюць, Марына вышла туды. На лавачцы нізка абшаляванага ганку сядзяць прыбраныя ў яркія колеры дзяўчаты, каля іх увіваюцца хлопцы. А дзяўчаты заманліва выпяваюць, прыемна трывожаць хлапечыя сэрцы:

Каб мне з горачкі спусціцца,
З ручайка вады папіць.
Каб мне з міленькім сыйсціся,
Пра любоў пагаварыць.

У хаце гулка ўздыхае бубен, а тут бойка звіняць прыпеўкі, расказваюць пра пачуцці дзявочыя і спадзяванні...

Я надзену бела плацце,
Вышываны рукава.
Ой, няўжо ж ды я не буду
Сельсоветчыка жана?

Няма ў садзе салаўя,
Няма й шчабятання.
Няма мілага майго—
Няма і гуляння.

Над зжатым палеткам плавае вечаровая сінь. Залатымі кроплямі высыпалі ў небе зоры. Над дымчата-цёмнаю сцяною лесу нерухома стаіць месяц і бліскучым вокам пазірае на зямлю.

Зжатым полем ад хаты-чытальні выходзіць на загуменную дарогу вузенькая шэрая сцяжынка.

Марына ўкрадкава пазірала ў сіняэмрочнасць, траціла надзею, а потым зноў ёй думалася: „А можа прыдзе, пэўна дзесь на рабоце заняты...“

А таварышкі нібы адгадвалі яе думкі, весела спявалі.

Вышывала я платочак
Селязнямі-уткамі.
Дажыдала я мілога
Часамі-мінуткамі.

Марына ўціснулася між таварышак на лаўку і разам з імі пачала спяваць.

Пойце, дзеўкі, пойце, дзеўкі,
Пойце-весяліцеся!
Наша лепшая брыгада,
Дзеўкі, не журыцеся!

Спявае Марына, толькі з твару яе не сыходзіць засмучэнне... Спрабавала смяяцца і жартаваць—выходзіла ненатуральна, фальшыва, бо на душы было інакшае. У гэтыя хвіліны нецярплівага чакання да яе прышло пачуццё, падобнае на ясны сонечны дзень з тонкаю блакітнаю палоскаю смугі на даляглядзе—каля лесу. Блакітная смуга—гэта лёгкі смутак, невыразны і шчымлівы, ціхія лятуценні пра яго, мілага, добрага, што нямаведама чым і як заваражыў гарачае сэрца дзяўчыны...

З неба звёздачка упала
У раку на самы край.
Мяне любіць прэдседацель,
А падругу—сакратар.

Марына прыкусіла губу, каб схаваць хітравата-вясёлую ўсмешку: „У мой агарод каменьчыкі кідаюць“. Яе апаноўвае весялосць, сэрца па-калыскаваму прыемна гушкаецца на высокай, светлай хвалі радасці: там, дзе навакол бадзёрасць, не ўмее жыць смутак, ён развейваецца, знікае, нібы лёгкі ружовы дымок у звонкім, марозным паветры сонечнай раніцы.

Марына раз-по-разу, нібы ненарокам, кідае позіркі на сцежку. Плавае блакітны змрок. Чарнеюць нязграбныя сілуэты гумен... яшчэ здалёк, на дарозе, заўважыла белую пляміну. Неўзабаве ўжо бліжэй закалыхалася цёмная постаць... „Няўжо Алесь? У белай рубашцы...“ Мляўка замірае дзеўчыны сэрца—стукае напорыста і гэтак часта часта... А як распазнала, што не ён,—адразу стала нядобра і крыўдна. „Чаму яго няма? Каб жа ведаў ён, як тужыць маё сэрца...“ Дзяўчаты перасталі спяваць, пазнавалі, хто ідзе.

Да ганка прыкульгаў Саўка.

— Добры вечар, сакатухі!—весела крыкчуў ён і ступіў на ганак.

Дзяўчаты дружна адказалі на прывітанне старога і наперабой узбуджана загаманілі.

— Каго прычакаліся!

— Дзядзька Саўка!

— Сядайце...

— Скучылі без вас.

— Сядайце, вось тут.

Пакульгваючы, Саўка тупаў, кружыўся на адным месцы, расчулена соп носам, нарэшце лёгка ўзмахнуў рукамі, нібы вузкімі белымі крыллямі.

— Сесці каля каторае? Ай, ды нязручна, што вы...—жартаўліва загаварыў ён, папраўляючы на белай рубашцы папружку.—Які з мяне кавалер! З хлопцамі не хачу спорыць. Куды ўжо мне!

Дзяўчаты весела засмяяліся; Саўка ўрачыста сеў і неўзаметку падкруціў вусы, ён адчуваў сябе тут сваім чалавекам. Дзяўчаты любяць яго за маладую весялосць душы. Дзе Саўка, там заўсёды звініць смех.

— Што з вамі зробіш! Кавалер я такі—сівыя валасы на галаве, а от-жа ўмеюць дзяўчаты старое сэрца сагрэць,—дай ты ім рады!

Ён адчувае пяшчотнасць дзявочай увагі, ласкавай і кволай, як месячнае святло, і заўсёды, калі прыходзіць слухаць песні мола-

дзі, яго ахапляе пачуццё шчаслівага замілавання. У гэтыя светлыя часіны ён стараецца забыць пра пакутную сваю маладосць, гэтак несправядліва скалечаную людзьмі...

— Сёння вы ў нас госць, дзядзька.

— Госць, сакатухі мае, госць—унь адкуль прыехаў! Паглядзеў Саўка свету. Каля саменькага мора быў, на цёплых водах—любата... Нага, хоць не адышла, але балець перастала. Ай, ды мора, дзяўчаткі, сіняе мора...—голас старога губляе жартаўлівую афарбоўку, становіцца лятуценна ціхім.—Пазіраў я, а сіняе мора от як сон... І самому сабе не верылася. Што вам сказаць? Дзяўчаткі мае, сакатухі, гляну на вас і хоць не хачу, а жыццё сваё ўспомніцца... І там, каля мора таго сіняга, было так—плачу... Жыццё ўспомню, і горка стане—не стрываць...

Ён на хвіліну змоўк.

І стаяла на ганку блакітнае маўчанне—многа чула спагады ў маладых сэрцах.

— А сёння дадому прыехаў, наша машына якраз у Слуцку была—нарыхтоўку прывозілі. То от у сельсовет хадзіў, пашпарт аддаў на прыпіску. Чакайце-ж!.. Чуць не забыў. Дзе-ж Марына? Сюды ідзі, красуня, сакрэт да цябе,—таямнiча і хітра загаварыў Саўка.

Марына падышла, нахілілася, мяккі вус прыемна казытаў кончык яе вуха. Саўка ціхенька, каб не пачулі другія, шапнуў:

— Алесь прасіў, каб зайшла. Ён там адзін, нешта ўсё піша, падлічвае...

Адыходзячы, Марына яшчэ пачула расчуленыя словы старога:

— Нешта цягне да вас. Трэба-ж каму расказаць, сакатухі, як дарогаю ехаў, як мяне чужыя людзі даглядалі, нібы роднага бацьку. От такія дакторкі, як вы,—маладзенькія...

— Дзядзька,—запытаўся дзявочы голас,—а чаму нага ў вас такая?

Марына не чула ўжо адказу на пытанне.

*
* *

У дрымотным спакоі маўчыць вёска. Замоўклі пералівістыя галасы гармоніка, сціх гулкі бубен, не чуваць дзявочых песень...

Блакітная ноч і цішыня.

— Скажу табе, Марына...—голас Алеся задуменна-ціхі.

„Што ён скажа?...“ Ад нез‘яснёна-салодкай устрывожанасці замірае сэрца дзяўчыны.

Марына дагадваецца, пра што ён загаворыць, і гэта соладка мучыць: і хочацца, каб хутчэй сказаў, і крыху сорамна ад сваёй хітраватай здагадкі, і раптам неяк боязна: няхай-бы потым, пачакаў-бы яшчэ... а з глыбіні душы нібы чыйсьці голас нашэптвае з спакуслівай настойлівасцю: хутчэй выслухай, тыя словы будуць па-ранейшаму ласкавыя і прынясуць табе шчасце,—вось гэтак у дзіўны вянок сплятаюцца дзявочыя пачуцці.

Пабраўшыся за рукі, Алесь з Марынаю паволі ідуць соннаю вуліцай. У гэтай іх паходцы, каб глянуў хто збоку, заўважыў-бы нешта па-дзяцінаму простае і мілае.

Алесь пачаў і не дагаварыў, паглыбіўся ў свае думы.

Цёмнымі, дымчата-сінімі воблакамі пышна падымаюцца над будынкамі сады—адтуль плыве салодкі пах спелых ранніх яблык.

У хвіліны найяснейшых пачуццяў моўчкі прыслухоўваецца чалавек да нез'яснёна прыгожай музыкі зблізаных каханнем сэрцаў. Навошта словы, калі поціск рукі, калі адзін позірк адкрывае нязведаныя таямніцы—квяцістую гаму пачуццяў блізкага чалавека. Марына разумела яго сэрцам—да таго блізкі і родны быў ён...

Чорныя вочы дзяўчыны шырока адкрыты, і ў глыбіні іх туліцца, на момант успыхваючы бліскучымі аганькамі, пякучая радасць.

Прыпыніліся каля яе хаты. Было позна, але вокны няярка чырванелі—у хаце нехта яшчэ не спаў.

Алесь пазіраў у цёмныя Марыніны вочы, ружовая кволасць разыходзілася па целе, і ён ласкава гладзіў гарачыя плечы каханай, а другою рукою перабіраў яе чорную касу. Надыходзіў рашучы момант—Марына чакала яго слова. Ён меў натуру мяккую, гэты дабрадушны лятуценнік, а таму важны крок зрабіць яму было цяжка, хоць і ведаў, адчуваў усёю істотай, што не адвернецца Марына і не бразнуць за ёю дзверы.

— Марына, паслухай...

У цёмна-сіняй вышыні мігацяць бліскучыя кроплі зор. Казачным залатым руном высыпалі яны на сіні аксаміт неба і—недасяжна-далёкія—заманліва зіхацяць... І яшчэ—насупроць двара над самым балотам—мяккая белая палоска туману.

— Кажы, Алесь...

Марына ловіць яго руку і моцна сціскае, і ён раптам разумее, што дзяўчына ведае, аб чым ён хоча сказаць. Пэўна таму, што адгадала, Марына абнадзейвае яго няхітрым словам:

— Гавары...

Алесь гарыць нязвыклым хваляваннем, нясмела падымае свае добрыя вочы—ад ружовых вокан яны дзіўна блішчаць у сіняй імгле ночы. А патрэбных слоў няма. Зблыталіся і няўлоўна кружацца, як цені, квяцістыя гірлянды думак... Алесь выпесціў і бярог іх, як чыстату свае душы, для аднае Марыны. А слоў не падабраць, каб выказаць тыя думы проста, задушэўна і хвалююча, гэтак, як у вершах Паўлюка Труса.

— Марына,—кажа Алесь і, здзіўлены, не пазнае свайго голасу.— Я хачу быць блізка... заўсёды з табою... Мне сну няма. Марына...— І ўжо цвёрда канчае:

— Будзем жыць разам.

Марына яшчэ бліжэй прытулілася да яго, шэптам сказала:

— З бацькамі пагавару.

— З бацькамі?—здзівіўся Алесь.—Выдумала. Быццам бацькі нешта скажуць насуперак... А каб нават не згадзіліся, то мы ўсё роўна-ж не можам разыйсціся.

— Добра, што ў цябе такі бацька...

— А твой?

— Сам ведаеш, які мой бацька...—патупіўшы вочы, сказала Марына.

— Нават не думай, ён згодзіцца.

— Добра...—А калі што-якое,—раптам усхвалявана і рашуча сказала Марына, пазіраючы Алесю ў вочы,—калі што-якое, дык я не паслухаю, зраблю як мне па сэрцу,—яна мацней сціснула Алесеву руку і памкнулася ў двор.

— Пабудзь яшчэ са мною...

— Позна, Алесь. Спаць ідзі, табе заўтра ўставаць рана, у дарозе драмаць будзеш.

У ціхім спакоі спіць вёска.

***

На камінку цмяна блішчыць газнічка. Душна да млосці і смярдзіць куродым. Над жоўтым аганьком чорнаю стрэлкаю падымаецца копаць.

— Тата,—сказала Марына,—няхай-бы ты запаліў лямпу.

— Уга, лямпу!—нездаволена мармытнуў Арцём, не падымаючы вачэй ад падранага чаравіка.—Адно газу паліць... не было чаго.

— Газы шкадуеш.. У хаце дыхнуць нельга, і сам вочы слепіш...

Марына падышла глянуць на карпаніну. Сівы, як голуб, бацька натужна схіліўся над растоптаным чаравікам.

— На што яны табе? Гэтыя атопкі пара на сметнік выкінуць.

— Уга!—аж суняўся стары і пачухаў сінюю пляміну валасоў на шчацэ.—Разумная нашлася! Пры даўнейшым рэжыме можа ў мяне толькі на думцы было, каб мець што з тавару наногі. А цяпер—на сметнік, разбагацела вельмі... уга!

— Каб не было-ж за што. Лепш новыя купіць, чым над гэтым карпець.

— Багатырка нашлася...

— А то чаго-ж. Рахункавод падлічваў нядаўна працадні, у нас больш як у каго,—сказала Марына і ўжо перамірліва дадала:—навошта для сябе капейку шкадаваць? Лепей-жа новыя купіць.

— Уга, новыя! А гэтыя чаравікі выкінуць? Верх падлаплю, то іх унь колькі насіць можна: падэшва тут, як костка. Старая даносіць. Зімою добрую анучу, пане мой, акручвай, і муляцца не будзе—прасторыня,—гаварыў Арцём і замілавана абмацваў сухія пакарэжаныя скураты.

Марына не выцерпела.

— Зноў свае правілы,—стрымліваючы слёзы, з сэрцам сказала яна.—Нудота, слухаць нельга...

— Лажыся от! Як аса якая над вухам.

— Тата...—ледзь прамовіла Марына і змоўкла, падышла к шафцы пашукаць чаго з'есці.

Марына змоўчыла, бо не хацела сварыцца: уцехі кахання поўняць сэрца пяшчотнай дабрачыннасцю. Аднак яна не магла, ніколі не магла зміръцца з бацькавай скарэднасцю—гэтае бацькава пачуццё было для яе незразумелым і выклікала злосную агіду. Часта Марына з горыччу думала: „У таварышак бацькі як бацькі, а ў мяне... Скнара...“—і крыўда спірала дыханне. Як меншая яна была—ледзь не кожны дзень плакала, хацела пераставіць бацьку, а ён упарта маўчаў альбо пачынаў у злосці мармытаць...

Але як ні ёсць—бацька... І можа ад таго, што любіла яго, як бацьку, можа таму гэтак бязлітасна і злосна ненавідзела цёмную пляміну яго душы. „Людзі з яго смешкі строяць, а дачцы трэба ўсё слухаць, цярпець...“

— Тата, лёг-бы паспаў лішнюю мінуціну. Табе-ж на зары коні выганяць.

— Адчапіся, прыбілася к аднаму... То лягу ўжо, лягу.

II

У сенцах плавае дрымотны поўзмрок, матава бялее адзінае ў сцяне акенца.

Алесь ужо прачнуўся, але ўставаць не хочацца. Адразу ўспомнілася ўчарашняе і самому стала крыху ніякавата за тую сваю нерашучасць. Вечар з бляскам зор і месячным ззяннем схіляе да рамантычнасці; уранні-ж кожны чалавек, нават рамантык, больш рэальна падыходзіць да рэчаў. „Гэта-ж так проста, а я нібы саромеўся чаго“... Алесь заплюшчвае вочы, чарнявая красуня нахілілася да яго, і ён адчувае як гарацць яго смаглыя вусны ад дзявочага пацалунку. Але клопат не выходзіць з галавы, ён не дае спакою нават у сне. Алесь зноў прачынаецца, рашуча зрывае з сябе коўдру і саскаквае на падлогу. Каб хоць не спазніцца ў банк—раённае мястэчка далёка! У хаце ўжо чуецца гамонка: маці гатуе снеданне.

Праз некалькі хвілін Алесь завіхаецца на прыгуменні, ладуе з бацькам калёсы ў дарогу. На траве пад нагамі рассыпаюцца танюсенькія кропелькі расы.

— Ты глядзі,—навучальна кажа бацька.—А то, не дай бог, што-якое, то прападзеш. З грашмі не жарты. Чалавек, ён, сказаць, такі, што к сабе цягне; не дурны нехта выдумаў: свая сарочка бліжэй к целу.

— Цяпер-жа, бацька, свет не той; людзі сталі інакшымі.

— Табе думаецца так. А колькі яшчэ брыдкіх людзей. Таму непарадкаў многа. От палукашка няма. Ліха ведае, што робіцца. Абы палажыў, што на відавоку, то прыбяруць, а назад не паложаць. Абабегаў усе прыгуменні—няма! А ты кажаш—людзі...

... Над самым борам устае заспанае малінавае сонца. У зеленаватым паветры вохкая свежасць.

Каля дарогі ў аўсе квола і пералівіста свішча перапёлка.

Нешта заспакойваючае і ласкавае нашэптваюць шыны колаў.

Алесь не выспаўся, яго лагодна цягне заснуць, млявае цела ахутвае ружовы туман ранішняе дрымоты. Як-бы добра так вось спакойна, ціханька—ляжаць, не варушачы ні адною часткай цела.

Сонца, нібы толькі што народжанае і выкупанае ў светлай вадзе дзіця. „Будзе дзіця, маленькае,—любы крыкунчык“—у поўсне думае Алесь, і саромлівасць ружовіць яго шчокі.

Ціхамірна шыпяць на пяску шыны...

А перад вачамі нібы матылёк кружыцца, пырхае... зусім блізка, каля самых вачэй трапечуцца мяккія крыльцы, на вейкі асядае павуцінны, прыемна-пахучы пылок...

„Марына... і дзіця...“

На вуснах гасне сарамлівая ўсмешка.
Шурхаюць шыны.
Памаленьку хіліцца-хіліцца галава...

* *
*

Калісьці тут адзін пры адным стаялі пышнакудрыя ядлоўцавыя кусты ў рост чалавека. Рэдка дзе пракідалася лапінка немудрашчае травы. Неяк аднае восені хлапец, пасучы авечкі, падпаліў ад ветру высозны куст, дзьмухнуў вецер, абпалены ядловец тонка і злосна затрашчаў тысячаміігліц,—з таго дня цэлы тыдзень з дымам звінелі кусты, пакуль не спусціліся асеннія дажджы. Потым, як арганізаваўся калгас, вышлі мужчыны і расцерабілі для пашы вялікую плошчу. Трава ўзялася расці дружна.

Яшчэ і цяпер тырчаць на Радоўках чорныя абгарэлыя стырчакі, сям-там падымаецца кучомісты ядлоўцавы кусцік. Адзінока стаяць пабіцьця на ралы невысокія хвойкі,—росту ім няма.

Саўка з Арцёмам чуць свет выганяюць на Радоўкі калгасны табун. Матава блішчаць кропелькі светлай расы, коні не адрываючыся грызуць сакавітую траву.

Як толькі стаў на ногі калгас, Саўку і Арцёма выбралі пасвіць коней, і абодва яны вось ужо другое лета не адлучаюцца на іншую работу. Спачатку Арцём нудзіўся, спрабаваў для ўцехі мармытаць забытыя песні: выходзіла смешна, недарэчна і ён адразу пакінуў гэты занятак, баючыся, што нехта падслухае, і высмяе. Цягнула рабіць на полі, натужана ступаць за плугам па халоднай гладкай разоры...

— Стой з гэтымі падламі, хай іх воўк парэжа...—нездаволена мармытаў Арцём.

А пасля да таго звыкся са сваёй прафесіяй, што нібы ад роду вышаў пастухом пры конях.

Сёння Саўка выехаў у чыстай белай сарочцы, як на свята якое. Арцём не сказаў яму нічога, толькі насмешліва скасавурыў схаванае ў сівізне валасоў выцвілае вока. „Кавалер знашоўся...—падумаў ён.—Кульгавы .. Фанабэрыцца як з водаў прыехаў. Пры конях у горшым адзенні можна, не то што... А ён—як жаніх...“

Саўка ўзбуджана чыкіляе каля табуна, накульгваючы на вывернутую ў калене левую нагу. Ён ходзіць гэтак, нібы знарок пераломваецца ў паясніцы, каб падхапіць нешта леваю рукою з зямлі. Яшчэ не апала матавая раса і ззаду няроўна кладуцца дзве мокрыя зялёныя сцяжынкі. Без патрэбы Саўка нязлосна пакрыквае на коней, нібы вітаецца з імі пасля доўгае разлукі.

Арцём насоўвае на вочы пашарпаны казырок нейкай старасвецкай шапкі з сінім верхам і чорным аколышам. „Не пасядзіць,— панура думае Арцём, косячыся на крывую нагу Саўкі.—Сюды грабе гэтаю кульбакаю...“

Падыходзіць Саўка, ён ззяе як сонца—жылісты, бронзавы ад загару.

— То паглядзеў я свету, пагледзеў,—мякка ўсміхаецца Саўка і варушыць залатымі кольцамі вусоў.—Вунь які шырокі ды вялікі

свет!—захапляецца ён.—Сеў на поезд, значыць; машына тая грыміць-грыміць і ляціць мой Саўка, як вецер, у дальнюю старану... Мне на вяку ездзіць чыгункамі не давялося, у салдатах не быў, як значыць, нага няспраўная... І от я, значыць, Саўка—колішні панскі пастух, кульгавы чалавек, а цяпер калгасны конюх,—я, значыць, еду на поездзе, вус падкручваю. Як губарнатар які сяджу, людзі паважна глядзяць на мяне і ветліва загаварваюць... ну, вядома-ж, абы каго на поезд не пасадзяць!.. Еду гэта я, ад акна не адрываюся, налюбавацца не магу—хораша так!.. Кружацца палеткі, адыходзяць сёлы, гарады мінаем—на станцыях паравозы крычаць... У няведамы край еду, у дальнюю старану—к сіняму мору. Падумаю—жаласць агорне... Мала добрых, ласкавых слоў чуў я ад чалавека, а от пад старасць другія людзі прышлі і мяне—калеку—лячыць адправілі... Думалася мне ў дарозе: хто мяне там дагледзіць? Аж дзе бачыў!—як роднага бацьку прынялі! Прыветлівыя такія дзяўчаты ў белых халатах...

— А нага-ж як?—не падымаючы вачэй, нечакана зацікавіўся Арцём.

— Ды палепшала! Ужо не ные, а тыя разы спакою не знойдзеш—гэтак баліць. А цяпер—нічога. Каб, значыць, не крывая, дык ступаў-бы настаяшча.

— Яна ў цябе ад прыроды не згінаецца?

Як рукою зняло весялосць Саўкі. Ён пацямнеў з твару, у правым кутку неяк канвульсійна варухнуліся губы, уздрыгнула залатое кольца вуса. Арцём аж суняўся: такая дзіўная перамена адбылася з чалавекам.

Стаяла няёмкае напружанае маўчанне.

— Ад прыроды... — глуха, нібы ў пакутным сне, загаварыў Саўка, задуменна і натужліва пазіраючы шэрымі вачамі ў далячыню.

— Каб-жа ад прыроды,—на поўныя грудзі ўздыхнуў ён і ўжо разважліва дадаў:—Сама прырода не псуе, гэта мяне скалечылі,—даўно было. Людзі скалечылі. За чужую, значыць, капейку...

— От як,—безуважна кінуў Арцём.

Панагінаўшы касцістыя глянцавіта-бліскучыя галовы, коні не адрываючыся грызуць з расою смачную сакавітую траву.

— Табун!—раптам выказвае затоеную сваю думу Арцём, любуючыся коньмі.—Каб аднаму, га?

Саўка неадабральна крутнуў галавою і ўсміхнуўся гэтак, як усміхаецца дарослы, пачуўшы наіўнае глупства дзіцяці, толькі больш пагардліва.

— Выдумляеш,—сказаў ён.

— Ну, я к слову,—спахапіўся Арцём, нібы шукаючы апраўдання.—Мой сусед меў чацвера стаенных, то ён любіў гаварыць пра коней! (Яго летась выслалі, гэта калі было высяленне кулакоў). Ён хваліць сваіх ардэнаў, а мне слухаць нудна. Кабылка мая незавідная была—нечым пахваліцца.

— Ды ў цябе вока шырокае,—асуджальна сказаў Саўка.—Мабыць набраўся суседавага духу. Нядобра, чалавеча... На што табе, каб запытаў у цябе, канечне аднаму, калі так усяго хапае?

— Ну, я к слову,—апраўдваецца Арцём.

— Дзякуй, дрозд! Прыду!—запэўніваў птушку пасажыр.—Абавязкова прыду і на чай і на гарэлку. Хаця я і не Філіп, а Іван Пятровіч Іваноўскі.

Фурман раней чым запытацца, кракнуў і злез з калёс:

— Вы даруйце мне, таварыш, не прыміце за крыўду. Я ад шчырага сэрца пытаюся без усякага там якога замыслу. Вось напрыклад, я—Мірон Пракапчук—калгаснік, а вы часам прабачце на слове, не з птушыных скуралупаў? З тых, што ловяць птушак для чучалаў?

— Не-е,—засмяяўся дзед.—Я настаўнік. Еду ў вашу студзянецкую школу вучыць вашых дзяцей. За адно я іх і з птушкамі пазнаёмлю.

— Ага! І відаць вы раней доўга вучыліся?—зацікавіўся фурман.— Пэўна не адну школу скончылі?

— Зразумела не адну,—пацвердзіў настаўнік,—і вучыўся я дваццаць год. Спярша два гады ў Арлоўскім цэнтрале, потым дзесяць у Нерчынскай турме.—Заўважыўшы ў вачох субяседніка поўнае неразуменне, дзед, усміхаючыся, растлумачыў.—У спецыяльных вышэйшых навуковых установах мне вучыцца не давялося. Прыродазнаўства вывучаў, як паліткатаржанін. У пятым годзе пайшоў я разам з тысячамі лепшых рэвалюцыянераў пяшком уздоўж Владзіміркі ад маскоўскай Прэсні да Нерчынска. На нагах грымелі дарожныя кальчатыя кайданы. Мы іх звалі дробназвон. На плячах бурая куртка з шэрымі рукавамі. Палова галавы абрыта.

— Няўжо ж і палітычным галілі тыя гады голавы,—здзівіўся Пракапчук.

— А як-жа. Здзекваліся над намі каты, як толькі хацелі. Ішоў я тады не дзень, не два, а некалькі месяцаў і па дарозе вывучаў і матылёў, і расліны, і птушак. Дапамаглі мне ў гэтым студэнты, якія ішлі побач са мной. І зацікавіла мяне прырода, захапіла цалкам. Я пачаў вывучаць яе на катарзе і па кніжках і практычна. Рэволюцыя вызваліла мяне і я пачаў настаўнічаць, але большасць маіх таварышоў не дачакаліся вызвалення. Загінулі, дарагія, за шчасце народа.

Пры ўспаміне аб таварышах дзед засмуціўся, замоўк, а потым ціха заспяваў:

— Далеко в стране Иркутской...

— Не дарэмна, таварыш настаўнік, яны загінулі,—сказаў фурман, з пашанай гледзячы на свайго пасажыра, які толькі што здаваўся яму недарэкай.—Вялікая падзяка ім ад усіх нас. Вечная ім памяць. Узяць хаця-б наш Студзянец, але-ж вы самі зараз яго пабачыце. Ці ўзяць нашых дзяцей? Яны вас адразу палюбяць, бо вы, відаць, справу сваю добра ведаеце і любіце. А такіх людзей у нас шануюць. Вось напрыклад пагранічнікі.

— Якія пагранічнікі?—здзівіўся дзед, вытарашчыўшы вочы.

— Як, якія пагранічнікі,—здзівіўся ў сваю чаргу Пракапчук.— Нашы, совецкія, чырвонаармейцы. Студзянец-жа знаходзіцца на самай граніцы.

— Няўжо? На самай граніцы? Я пра гэта толькі цяпер даведаўся.

— На сама н Чутна, як польскія сабакі брэшуць. Дык вось пагранічнікі, яны часта запрашаюць да сябе настаўнікаў. Ахоўваюць мальцы граніцу і вучацца. У адной руцэ вінтоўку трымаюць, у другой—кніжку. Залегась нейкі загранічны бандыт забіў аднаго з нашых чырвонаармейцаў, калі той у вольны час чытаў на беразе ракі.

— Якая агіднасць! Польскія варвары!—абураўся настаўнік.

— Начальнік іх, даводзілася мне разам з ім шчупакоў лавіць, таксама любіць прыроду. І птушак добра ведае.

— Начальнік добра ведае птушак?—перапытаў дзед і потым шчыра абрадаваўся, як радуюцца толькі нечаканай знаходцы сябра.

— А птушак колькі ў нас!—прадаўжаў Пракапчук.—Што ні дрэва, то капела. Мы-ж толькі цяпер пачулі, як яны прыгожа пяюць. Раней яны спявалі не для нас. А салаўёў адных колькі? Нашы-ж студзянецкія салаўі па ўсёй Беларусі вядомы. Як засвішчуць, як зашчоўкаюць...

— Паганяй каня! Хутчэй паганяй!—закрычаў дзед нават падскакваючы на калёсах.—Ці многа яшчэ ехаць да Студзянца? Досыць ужо мне вандраваць па зямлі. Да самай сваёй смерці застануся працаваць у вашым цудоўным салаўіным Студзянцы.

— Навошта паміраць, таварыш настаўнік,—сказаў фурман, падганяючы каня.—Цяпер толькі жыць і жыць. Няхай ворагі нашы паздыхаюць. А ці далёка Студзянец?—пытаеце вы. Ды вось ён, як на далоні.

Унізе на прыбярэжнай лагчыне разгарнуўся паміж ракой і рэчкай маленькі горад, акружаны з усіх бакоў гаямі. Здавалася, што ён па самыя стрэхі хат замецен снежнымі сумётамі. Цвілі сады.

— Вось гэты новы будынак,—паказаў фурман—і ёсць дзесяцігодка. Я вас, таварыш настаўнік, проста да яе і падвязу Тут у нас усё новае, і хаты на вуліцах, і яблыні ў садах, і бярозы ў гаях. Белапалякі ў дваццаць першым годзе спалілі ўвесь Студзянец і нават усе дрэвы павысякалі. Але мы хутка адбудаваліся і абсадзіліся. Цяпер у нас брукаваныя вуліцы, тратуары, электрычнасць, гукавое кіно, больніца, раймаг. А самае галоўнае, што ў нас ёсць—гэта савецкая ўлада, а ву-унь там—бачыце на тым баку ракі чорную вёску?—там ёсць пан Пшыглоўскі.

— Як Шчаглоўскі?—перапытаў дзед.

— Не, Пшыглоўскі,—паправіў калгаснік.—Раней да яго не толькі той маёнтак належыў, але і Студзянец таксама. За яблыкі ў садах, за сыравежкі ў гаях, за чарніцы ў лясах—за ўсё мы плацілі гэтаму гаду. Сам ён жыў у Варшаве і толькі аднойчы, год трыццаць таму назад, яшчэ да нямецкай вайны прыязджаў у Студзянец. Прыехаў з маёнтку, прайшоўся па вуліцах, паклаўшы рукі ў кішэні, і зноў назад у маёнтак. Мне давялося яшчэ перавозіць яго на лодцы праз раку, і вось, як цяпер вас, так яго бачу. Нізенькі такі, голены твар, на лобе над правым вокам дзве барадаўкі... барадаўкі... як...

—А-а-а-а-а!—раптам прарэзліва закрычаў дзед, схапіўшыся рукой за сэрца. Спалоханы конь панёс з крутой гары па выбоістай дарозе ўніз. Фурман адразу прыўстаў на калёсах, туга нацягваючы лейцы і нечакана паляцеў пад колы. Настаўнік, качаючыся ад болю, выпадкова штурхануў яго нагой.

— Ратуйце! Ратуйце!—крычаў дзед і неяк спрытна зваліўся з калёсаў у бок на зямлю. Калі падбеглі людзі ён, збялелы, ляжаў на зямлі і закрыўшы вочы шаптаў:

— Сэрца... сэрца... але глупства сэрца... Лепш дапамажыце фурману. Як ён, небарака?

Фурман моўчкі, увесь акрываўлены ляжаў, значна далей між паляў дарогі. Яго непрытомнага са зломанай нагой павезлі да больніцы.

— І ў вас нешта на лобе кроў,—заўважылі дзеду.—Вось над вокам, нібы хто вырваў кавалак мяса.

— А проста драпіна гэта на лобе,—адказаў настаўнік ужо ступаючы паціху да Студзянца.—Ёдам толькі трэба яе змазаць. Вось з сэрцам горш справа. Праклятая катарга. Добра ўсё-ж, што мы не дарэмна пакутвалі на ёй.

III

Першай прачынаецца гарыхвостка. Яшчэ толькі ледзь-ледзь займецца на дзень, а ўжо ў садах звоніць яе кароткая песня. За гарыхвосткай на світанні прачынаецца заранка. Невядома, калі яна спіць, але птушка заўсёды радасна вітае над ракой і ранішнюю і вячэрнюю зару. За заранкай, калі зусім развідняе, прачынаецца дрозд. Яго свіст у гаях нагадвае флейту. А ўжо за драздом паступова прачынаецца Студзянец—маленькі горад вялізнай краіны.

Зарыпелі над студнямі вочапы і з комінаў хат паплыў дым. Жонкі і маткі рыхтуюць снеданне. Пасля снедання дарослыя накіроўваюцца хто куды. Хто ў прамысловыя арцелі да кавадла і цiскоў, да нажніц і шыла. Хто ў крамы, каб, стоячы за прылаўкам, адпускаць зямлякам хлеб і кнігі, вопратку і абутак. Хто ідзе ў сады ачышчаць з птушынай дапамогай ад вусняў ігрушы і яблыні, агрэст і парэчкі. А дзеці, прыціскаючы да сябе падручнікі і сшыткі, спяшаюцца ў школу. Яны ўжо багата пра што даведаліся, але ім трэба ведаць значна больш.

— Сябры, пачакайце,—спыніў адну групу дзяцей пагранічнік.—Ці не ведаеце вы часам, дзе на гэтай вуліцы жыве выкладчык прыродазнаўства? Той што днямі прыехаў сюды.

— Іван Пятровіч? Дзядок такі?—запыталася маленькая курносая дзяўчынка з піонерскім гальштукам і паказала на недалёкую хату.—Каб Зося ды не ведала. Вось тут, таварыш пагранічнік. Ён любіць дзяцей і птушак. Мы яго таксама любім. Дужа любім.

Пагранічнік падышоў да хаты, вакол якой на ўсіх дрэвах віднеліся шпакоўніцы, і пастукаў у дзверы. У вакно высунулася доўгая сівая барада і адразу-ж знікла.

— Пачакайце адну хвілінку. Я зараз. Зараз,—пачуўся голас. Неўзабаве дзверы адчыніў нізенькі дзед. Ён трымаў у руцэ вя-

лікі партрэт і запытальна, магчыма нават падазрона, глядзеў на нечаканага наведвальніка з чырвонай зоркай на зялёнай фуражцы.

— Я да вас, таварыш настаўнік,—сказаў пагранічнік,—з вялікай просьбай.

— З просьбай?—замітусіўся ўзрадаваны дзед.—Праходзьце, калі ласка, ганаровы госць. Праходзьце, таварыш чырвонаармеец. Вось сюды ў гэты пакой.

Калі ўвайшлі ў пакой, пагранічнік зацікаўлена азірнуўся вакол. На сценах віселі калекцыі жукоў і матылёў. У клетках пад столлю скакалі, пераклікаючыся адна з адной, птушкі. На стале ляжалі аркушы паперы з наклеенымі на іх кветкамі. Па падлозе марудна рухалася чарапаха, недаверліва абыходзячы непарушнага вожыка. А на падваконніку стаяў шкляны слоік, у якім звівалася вялікая чорная гадзюка.

— Вы да мяне, дарагі, з вялікай просьбай,—заўважыў, усміхаючыся, дзед,—і я да вас таксама з вялікай просьбай. Вось вам табурэтка, вось малаток, вось цвікі і прымацуйце мне, калі ласка, вось гэты партрэт вось у гэтым прасценку. Ніяк я не дастану. Росту бракуе. Хэ-хэ!

Пагранічнік акуратна прымацаваў партрэт і злез з табурэткі. Настаўнік моўчкі зводаль сачыў і нарэшце расчулена сказаў:

— Владзімір Ільіч Ленін. Геній чалавецтва. Яшчэ ў пятым годзе мы паводле яго практычных задач змагаліся на барыкадах Прэсні. На катарзе яго творы ўзбройвалі нас для далейшай барацьбы.

Дзед падышоў да стала, адсунуў у бок гербары і сеў насупраць пагранічніка:

— Слухаю вас, дарагі. Вельмі рад дапамагчы ў чым-небудзь.

— Дапамажэце, калі ласка,—збянтэжыўся чырвонаармеец.— Канфуз у мяне маленькі нядаўна здарыўся з птушкамі. Хачу цяпер з імі падрабязна пазнаёміцца. Ды не толькі з птушкамі— пагранічнік зірнуў на аркушы паперы.—Зацікавіла мяне прырода. Пачаў я збіраць і расліны. Насушыў іх шмат, але часам не ведаю, як тая ці іншая з іх называецца. Хлопцы нават смяюцца. Кажуць—Жураўлёў на цэлую пуню сена насушыў. Ці няма ў вас, Іван Пятровіч, якіх кніжак аб птушках, аб раслінах і аб прыродзе наогул. Я вам іх неўзабаве з вялікай падзякай у цэласці вярну.

— Ёсць такія кніжкі,—адказаў настаўнік,—і я ахвотна вам іх дам, але калі хочаце добра ведаць прыроду, дык самае галоўнае гэта яе практычнае вывучэнне. Гэта вось што—і ён абвёў рукой вакол.

— Ссссcс...—нечакана адгукнулася гадзюка, устрывожаная рухам рукі.

— Я вам,—прадаўжаў дзед,—прапаную наступную рэч. Пэўна ў вас, дарагі, шмат хто хоча вывучаць прыроду. Дык вось вы пагаварыце з сваімі таварышамі і заўтра ўвечары прыходзьце проста да мяне на кватэру. Прыходзьце, як да лепшага сябра.

Мы пачнем вывучэнне прыроды з салаўя. Яны пачынаюць спяваць. Пойдзем куды-небудзь на бераг рэчкі і адначасова пазнаёмімся з усімі вячэрнімі птушкамі. Мяне і самога цікавіць гэта экскурсія, тым больш, што я пішу кнігу пра начное жыццё жывёл. Вось яшчэ акрамя салаўя і другі герой маёй кнігі. Учора толькі злавіў яго.

Настаўнік паставіў на стол шкляны слоік. Змяя злавалася. Прыпадымаючы плоскую трохкутнюю галаву, яна сіпела, раскрываючы вялікі рот і высоўваючы доўгі язык. У яе маленькіх жоўтых вачах з чорнымі зрэнкамі свяцілася невыказная нянавісць.

— Вы ведаеце, таварыш Жураўлёў,—запытаўся дзед,—як трэба лавіць жывых гадзюк? А вельмі проста, дарагі. Расшчапіце пасярэдзіне да паловы сухі кій, падыйдзіце удзень на цыпках да змяі, калі яна грэецца на сонцы, але так, каб на яе не ўпаў ваш цень і хуценька заціснице яе шыю ў расшчэп, а потым таксама хуценька апускайце дабычу ў загадзя падрыхтаваны слоік. Цікавая між іншым звяруга. У залежнасці ад абставін, да якіх яна добра прыстасоўваецца, у яе спіна шэрая або бурая, або чорная. І што яшчэ цікава — гадзюка выходзіць на паляванне ўвечары, як раз тады калі пачынае спяваць салавей.

— Іван Пятровіч! Іван Пятровіч!—закрычаў з вуліцы белабрысы хлапец, стукаючы ў вакно.—Чакаем вас на ўрок. І чарапаху чакаем.

— Хэ-хэ-хэ! І чарапаху чакаюць,—засмяяўся дзед.—Любяць мяне дзеткі. Любяць шэльмы. Ну, выбачайце мяне, дарагі. Як вас велічаюць?

— Ігнат Дзянісавіч,—адказаў Жураўлёў, якому яшчэ вельмі хацелася, каб настаўнік пазнаёміў яго з матылямі і жукамі.

— Выбачайце, дарагі Ігнат Дзянісавіч. Спяшаюся. Дзеткі чакаюць. Спачатку ў школу забягу, потым трэба праведаць у бальніцы аднаго хворага. Дык, значыцца, заўтра ўвечары абавязкова прыходзьце. Я вельмі рад, гэта для мяне, былога прэсненскага дружынніка і нерчынскага паліткатаржаніна, справа гонару вучыць чырвонаармейцаў, а тым больш пагранічнікаў.

— Вялікая вам, Іван Пятровіч, падзяка,—радасна гаварыў развітваючыся чырвонаармеец.—Абавязкова прыдзем.

Жураўлёў хутка пайшоў да кардону і, выйшаўшы на плошчу, нечакана ўбачыў, што насустрач яму таксама хутка ідзе начальнік заставы. Калі яны параўняліся, начальнік яго спыніў:

— Таварыш Жураўлёў, перадайце памочніку начальніка заставы, што мяне тэрмінова выклікалі з райкома ў бальніцу да хворага, які захацеў мяне бачыць.

І выцягнуўшы рукі па швах шыняля, гледзячы проста ў вочы начальніка, пагранічнік чотка паўтарыў:

— Загадана перадаць памочніку начальніка заставы, што начальнік заставы тэрмінова выклікан з райкома ў больніцу да хворага, які захацеў яго бачыць,—і потым па звычайнаму звярнуўся:— Сяргей Нікалаевіч, я толькі заходзіў з вашага дазволу да настаўніка прыродазнаўства. Ён стары рэвалюцыянер і справу сваю

настаўніцкую відаць добра ведае. Дазвольце нам заўтра ўвечары, тым, хто прыродай цікавіцца, схадзіць да яго?

— Ладна, Жураўлёў,—адказаў начальнік.—Толькі я сам спярша ўвечары зайду з ім пазнаёміцца,—і, усміхнуўшыся, дадаў:— А табе ўсё цёзкі спакою не даюць?

Пагранічнік зноў закрочыў да кардона і ў думках у яго варушылася.—Зразумела, што з птушкамі тады канфуз атрымаўся, але Ігнат Жураўлёў неўзабаве з імі падрабязна пазнаёміцца.

А камандзір ужо ўваходзіў у больніцу. Сястра правяла яго ў палату, у якой ляжаў толькі адзін хворы.

— Я ведаў, таварыш начальнік, што вы абавязкова прыдзеце,— сказаў хворы. Бінты спавівалі ўсю яго галаву апрача роту і вачэй. Нага ляжала ў гіпсавым лубку.

— Даражэнькая, пакіньце нас на хвіліну адных? У мяне сакрэтная справа да начальніка,—звярнуўся хворы да сястры, і калі яна выйшла, прадаўжаў:

— Паміраць я, таварыш начальнік, не збіраюся. Цяпер-жа толькі жыць і жыць, а тым больш мне калгасніку Мірону Пракапчуку, які ўсё сваё жыццё змалку на розных паразітаў парабкаваў. Няхай ворагі нашы паздыхаюць. Але мая справа магчыма патрабуе хуткасці. Таму я не стаў чакаць, пакуль мяне выпішуць адсюль, каб пазнаёміць вас з ёй. Можа нават гэта мне проста здалося, а ўсё-ж патрэбна праверка. Тыдзень таму назад прывёз я са станцыі ў Студзянец настаўніка. Спачатку ён мне нагадваў мучным мехам сцебанутага. За матылямі ганяецца, кветкі збірае, з птушкамі размаўляе, а потым, калі даведаўся, што гэта настаўнік па прыродзе, дык зразумеў сваю памылку. Проста чалавек любіць сваю справу. У дарозе настаўнік яшчэ расказваў мне пра свае пакуты на царскай катарзе. Я таксама яму расказваў. Спачатку пра наш Студзянец, пра наша жыццё, каб давесці, што не дарэмна ён пакутваў, потым пра пана Пшыглоўскага і мне здалося, магчыма я памыліўся, але мне здалося, што гэта...

Пракапчук зірнуў на дзверы і, скрывіўшы ад болю рот, нечакана прыўзняўся на ложку. Камандзір, зразумеўшы жаданне, хутка схіліўся вухам да самых вуснаў хворага, які зноў лёгшы, пачаў нешта перадаваць яму шопатам.

— Барадаўка, ці дзве гэта яшчэ не доказ,—сказаў нарэшце камандзір, калі калгаснік скончыў,—але ўсё-ж вы добра зрабілі, таварыш Пракапчук, што мяне выклікалі. Часам чалавеку спачатку што-небудзь здаецца, а потым гэтае здаецца аказваецца праўдай.

У дзверы ціхутка пастукалі і ў палату ўвайшла сястра.

— Да вас сёння ўсё госці,—сказала яна Пракапчуку.—Прыйшоў ваш сын разам са сваім настаўнікам. Увайсці ім цяпер можна?

— Ён самы...—шапнуў хворы камандзіру, а ў голас сказаў.— Правядзіце іх, сястра, калі ласка, сюды.

У палату ўвайшлі—белабрысы хлопец, які прыціскаў да грудзей чарапаху, і настаўнік прыродазнаўства з вялікім букетам кветак у руках.

— Мы не перашкодзілі?—запытаўся настаўнік запытальна па-

зіраючы на камандзіра і хворага, які адразу зірнуў на лоб дзеда. Там дзе раней Пракапчук угледзіў бародаўкі, ён убачыў толькі невялікі, ледзь прыкметны шрам.

— Знаёмцеся, таварыш настаўнік,—сказаў хворы,—гэта той начальнік заставы, пра якога я вам у дарозе гаварыў.

— Іван Пятровіч Іваноўскі, выкладчык прыродазнаўства. Вельмі рад магчымасці з вамі пазнаёміцца,—адрэкамендаваўся, ветліва ўсміхаючыся, дзед.

— Чумакоў,—адказаў камандзір, паціскаючы руку настаўніка, чамусьці халодную і мокрую.

— Тата, паглядзі, жывая,—працягваў тымчасам хлопец да бацькі чарапаху.—На чорных дошках яна намалёваная, а тут жывая. Я цяпер усім у школе расказваю, што гэта ты прывёз Івана Пятровіча. І хлопцы мне зайздросцяць. А ўчора мы з Іванам Пятровічам у гаю вожыка злавілі! Ага? Ты папраўляйся, татка. Мне цябе дужа шкада,—і нечакана хлапец, які толькі што смяяўся, наўзрыд заплакаў, разглядзеўшы нарэшце бацькаву галаву і нагу.

— Ну, ціха, сынку. Ціха,—супакойваў яго хворы.—Неўзабаве я прыду дамоў. Івана Пятровіча тады мы да сябе запросім у госці. І нага мая неўзабаве папravіцца. Яшчэ на тваім вяселлі патанцую.

— Івана Пятровіча, тата, мы пачастуем нашым калгасным мёдам. Праўда?

— Любяць мяне дзеткі,—заўважыў настаўнік і працягнуў хвораму букет.—Папраўляйцеся, таварыш. Гэтыя кветкі вам дзеці назбіралі, калі я ім расказаў пра той няшчасны выпадак з намі. А ўсё маё дурацкае сэрца. Праклятая катарга.

— Значны час давялося пакутваць на ёй?—запытаўся Чумакоў.

— Дванаццаць год без трох месяцаў,—адказаў дзед.—Увесь перыяд між двумя рэвалюцыямі. Як арыштавалі сяменаўцы ў снежні 1905 года на Прэсні, дык вызваліла з Нерчынскай турмы толькі лютаўская рэвалюцыя.

— Вы, Іван Пятровіч, відаць, адзін з буйных кіраўнікоў у баях на Прэсні?—зацікавіўся камандзір.—Вось мой бацька, напрыклад, ткач Трохгорнай Мануфактуры Нікалай Чумакоў трапіў на катаргу як памочнік начальніка дружыны Івана Крылова, але дамоў ён прыйшоў у 1913 годзе пасля амністыі з прычыны трохстагоддзя дому Раманавых. Між іншым сам я васьмігадовым хлапчуком таксама ўдзельнічаў у прэсненскіх баях—будаваў барыкады, хадзіў у разведку, падносіў патроны.

— Вы таксама ўдзельнічалі ў баях на Прэсні? І бацька ваш удзельнічаў?—абрадаваўся дзед.—Крылова Івана я добра ведаў. Рослы такі, барадаты слесар. А вось вашага бацьку нешта не помню, а тымчасам павінен ведаць, бо спярша я, малодшы табельшчык меблевай фабрыкі Шмідта, змагаўся з царызмам, як памочнік начальніка дружыны Міхаіла Пятрова, а потым разам з Седым змагаўся як член рэвалюцыйнага штаба Прэсні. Не помню, не помню нешта такога Нікалая Чумакова. Хаця ў мяне за апошнія

гады вельмі аслабла памяць. Прыгадваючы мінулае, пачынаю часам блытаць даты, людзей і нават формы той ці іншай рэчы. Артэрыясклероз дае сябе ведаць.

— Тады пэўна мой бацька вас помніць—сказаў камандзір.— Сёння я збіраюся пісаць яму ліст і перакажу прывітанне ад вас.

— Калі ласка,—усміхаўся дзед.—Толькі наўрад ці ваш бацька мяне ведае, бо я з дружыны фабрыкі Шмідта, а фабрыка гэта яшчэ ў пятым годзе згарэла ад знарадаў сямёнаўцаў. Помніце можа? Жах тады панаваў на вуліцах Прэсні. Дамы гарацы, а мы—апошнія дружыннікі. Кідаючы ў ворагаў апошнія падобныя да піўных бутэлек македонкі, змагаліся як ільвы, на апошняй барыкадзе да апошняй кроплі крыві.

Начальнік заставы Сяргей Чумакоў добра помніў апошнюю барыкаду. Дружыннікі тады змагаліся пакуль не выйшлі ў іх македонкі круглыя, велічынёй з кулак гранаты, футбольныя мячы рабочай моладзі тых часоў. Калі выйшлі македонкі, дружыннікі змагаліся, пакуль не агалілі вакол сябе брук. Яны кінулі барыкаду толькі тады, калі яе ўсю ахапіла полымем. І апошнім пакінуў яе нізкарослы, заўсёды акуратны, нават у той дзень чыста выбрыты ткач Іван Крылоў.

— Я спяшаюся,—нечакана сказаў Чумакоў, падымаючыся з крэсла—зайду да вас днямі, Іван Пятровіч, я-ж таксама аматар прыроды. І хлапцам сваім дазволю заўтра ўвечары прыйсці да вас. Яны ў мяне вельмі цікаўны народ. Між іншым, я вам параю добры сродак ад артэрыясклярoза. Дзесяць кропляў едзістай мікстуры на шклянку малака. А вы папраўляйцеся, таварыш Пракапчук.—Зноў пойдзем разам на рэчку шчупакоў лавіць.

— А хоць і сёння, таварыш Чумакоў. Я ўжо амаль што здаровы,—адказаў хворы.—Мне ўсё гэта здаецца здалося.

## IV

На змярканні, калі пачынае спяваць салавей і выходзіць на паляванне гадзюка, пагранічнікі заўважылі парушальніка. Выяўлены, ён упарта адстрэльваўся, пакуль не намацала яго ў кустах чырвонаармейская куля. У адной кішэні заб₍тага байцы знайшлі савецкі пашпарт і кінжал, у другой—партыйны білет і стрыхнін.

Яшчэ ў той час, калі шпіён пераплываў раку, некалькі пагранічнікаў уваходзілі ў хату настаўніка Іваноўскага. Дзед па звычайнаму ветліва сустрэў чырвонаармейцаў:

— Праходзьце, калі ласка, таварышы. Праходзьце, мае сябры. Праўда, мне вельмі нездаровіцца, але старая гвардыя памірае, а не здаецца. Вось па кім мы, былыя паліткатаржане, раўняемся—і настаўнік паказваў на партрэт ў прасценку.—Потым я ніколі яшчэ не сустракаў такіх дапытлівых і акуратных вучняў. Ігнат Дзянісавіч, напрыклад, сам неўзабаве зможа выкладаць прыродазнаўства. Хэ хэ! Усё-ж чаму вас толькі заўсёды пяць. Хіба вас толькі пяць на заставе? Мой пакойчык зможа змясціць і дваццаць пяць дарагіх гасцей. Чым больш тым лепш.

І ў гэты момант з боку граніцы пачуўся стрэл. За ім другі. Потым трэці.

— А-а-а-а!—закрычаў увесь збялелы Іваноўскі, схапіўшыся за сэрца.—Гэта дзе страляюць? Чаму страляюць? Га?

— Вядома, Іван Пятровіч, граніца—адказаў, здзіўлены хваляваннем настаўніка Жураўлеў.—Можа хлопцы гадзюку злавілі. І нам трэба ісці. Мы з вашага дазволу зойдзем заўтра.

— Пачакайце? Пачакайце, даражэнькія?—замітусіўся ўсхваляваны дзед.—Зноў страляць пачнеце? Вы-ж спалохаеце салаўёў? Яны назаўсёды пакінуць наш Студзянец. А потым, як-жа заняткі? Дзе ваша акуратнасць? У мяне сёння вечар вольны, а заўтра ўвечары я займаюся з дзеткамі.

— Тады, Іван Пятровіч, мы зойдзем як-небудзь днямі—заўважылі чырвонаармейцы і накіраваліся да дзвярэй, якія аказаліся зачыненымі.

— Дзе-ж гэта ключ? Куды я толькі яго сунуў? Пракляты артэрыясклярозъ,—хваляваўся Іваноўскі, поркаючыся ў кішэнях.

Жураўлёў падыйшоў да вакна, хутка адчыніў яго і выскачыў на двор. За ім выскачылі на вуліцу іншыя чырвонаармейцы і пабеглі да граніцы.

— Пачакайце, маленькія! Адну хвіліну пачакайце! Мне вам трэба нешта сказаць!—крычаў ім услед настаўнік, але пагранічнікі не спыніліся.

Гэты выпадак да дробязей прыгадаўся Жураўлёву на другі дзень увечары, калі ён знаходзіўся ў сакрэце. Да настаўніка, які дапамог яму бліжэй пазнаёміцца з прыродай, пагранічнік адчуваў вялікую падзяку, але разам з тым паводзіны гэтага чалавека прымушалі яго задумацца.

Чаму Іван Пятровіч, былы дружыннік гэтак палохаецца далёкіх стрэлаў? Потым, чаму ён затрымліваў пагранічнікаў, калі яны рынуліся бегчы да граніцы. Што яму даражэй—салаўі ці краіна. Хіба ён, стары рэволюцьянер, не ведае, што не краіна для салаўёў, а яны для яе? Нарэшце чаму ён наогул так любіць смакаваць свае пакуты на катарзе альбо сваю барацьбу на барыкадах, нагадваючы пры гэтым проста хвалько, калі не хлуса? Трэба абавязкова пагаварыць з начальствам—рашае Жураўлёў.

Учора затрымалі шпіёна, таму пагранічнік яшчэ пільней звычайнага прыглядаецца да ракі і прыслухоўваецца да кожнага гуку. Недзе на ўзлессі завуркатаў вялікароты казадой і змоўк. Пачало змяркацца. Паступова над галавой запальваліся адна за адной зоры.

— Сем гадзін,—думае Жураўлёў, аглядаючы неба.—Вялікая Мядзведзіца прабягае праз граніцу.

І начальнік заставы ў гэты час чытаў і перачытваў маленькі ліст. Толькі ўвечары, трапіўшы на сваю кватэру, камандзір убачыў на стале канверт з паштовымі штампамі самага вялікага і другога магчыма самага маленькага горада краіны. І разварачваючы ліст, ён з любоўю ўявіў сабе сівога ткача, які, прышоўшы з фабрыкі,

прысеў, па дзядоўску кракнуўшы, за стол, адзеў акуляры, спярша абцёршы іх насавой хустачкай і потым пачаў старанна адна за адной выводзіць літары:

*Дарагі Сяргейка!*

*Атрымаўшы твой ліст, я адразу-ж пайшоў да Івана Крылова і Міхаіла Пятрова (яны табе кланяюцца), каб даведацца наконт вашага студзянецкага настаўніка Івана Пятровіча Іваноўскага. Яны пра такога толькі ад мяне даведаліся і такі разам з імі ніколі на Прэсні не змагаўся. Тады я ўсё-ж пайшоў да Седога. Яны таксама гавораць, што ў рэволюцыйным штабе Іван Іваноўскі ніколі не працаваў. Потым Іваноўскі хлусіць, што ён, як дружыннік трапіў на катаргу ў снежні 1905 года, бо суд над дружыннікамі адбыўся толькі праз год і сярод 23 асуджаных на катаргу таварышоў няма ніякага Іваноўскага. Нарэшце на Трохгорцы ёсць рабочыя фабрыкі Шмідта. Яны добра ведаюць усіх сваіх былых табельшчыкаў, але пра Іваноўскага нічога не чулі.*

*— Мне цябе, Сяргей, не вучыць. Калі гэта вораг, дык цісні яго так, як мы ціскалі іх разам з табой яшчэ ў пятым.*

*Ахоўвай граніцу, як сваё вока. Мы на цябе ўсе моцна спадзяемся. І Седы, і Крылоў, і Пятроў, і я і ўся Трохгорка.*

*Твой бацька* ***Нікалай Чумакоў.***

Камандзір паклаў ліст ў кішэню і, выйшаўшы з кватэры, пайшоў уздоўж граніцы да ракі. Ён вырашыў спачатку праверыць сакрэты, а потым пайсці проста да настаўніка. Калі ішоў па крывой звілістай сцежцы да дарогі, яму прыгадалася маленства.

Сям'я Чумаковых займала завешаны паркалёвым полагам кут у адным з сутарэнняў Прэсні. Са столі сутарэння капала, дзіркі ў сценах затыкаліся анучамі, падлога мясцамі правалілася.

Магчыма таму любіў сёння Сяргей Чумакоў і зоры, і кветкі, і птушак.

Каб купіць дзешавей на капейку пару селядцоў, матка абыходзіла ўсе крамы ўскраіны. Па святах елі рэдзьку з алеем. У будні са стала не сыходзіла мурцоўка—хлебныя скарынкі з вадой. А скарынкі гэтыя куплялі ў жабракоў.

Побач з сутарэннямі гудзела Прохарская Трохгорная Мануфактура. У яе прадзільным і ткацкім аддзяленнях рабочыя затыхаліся ад бавaўнянага пылу і глухлі ад шуму станкоў, у адбельным і фарбоўным яны пакутвалі ад шкодных выпарэнняў і заўсёднай вільготнасці, у друкарным атручваліся анілінам.

І нарэшце худыя, глухія, зялёныя ткачы выйшлі на барыкады, каб скінуць назаўсёды прыгнёт.

Хіба не гонар для Сяргея Чумакова ахоўваць на граніцы іх заваёвы.

— Стой! Хто ідзе?—ў паўголаса крыкнуў нехта з боку.

— Гэта вы, таварыш начальнік?—запытаўся Жураўлёў.—Я хацеў сёння з вамі пагаварыць аб настаўніку прыродазнаўства. Даўно прыглядаюся да яго. Падазроны ён здаецца чалавек. Здзіўляе мяне часам.

— А іменна чым?—зацікавіўся камандзір.

І Жураўлёў расказаў яшчэ пра выпадак са стрэлам, пра сталыя размовы аб пакутах на катарзе і аб барацьбе на барыкадах.

— Я зараз зайду да яго—сказаў камандзір.—А тут часам нічога падазронага не заўважыў? Ціха цяпер, але перад навальніцай таксама ціха?

— Клю-клю-клю-клю-клю,—нечакана пачулася з недалёкага куста бэзу трэль раскацістая і на секунду змоўкла.

— Гэта ён пачынае співаць—шапнуў пагранічнік камандзіру і абодвы заўважылі адзін у аднаго ў вачах захапленне.—Зараз зацюлікае і тады рассыпецца срэбранымі бубенчыкамі.

Цю-літ, цю-літ, цю-літ.
Ці-фі, ці-фі, чо-чо—чочочочочочочовіт!

— ляцелі з бэзу над ракой гукі адзін за другога больш пяшчотныя і яснейшыя.

— Цяпер, ён, таварыш начальнік,—шаптаў пагранічнік,—на два калены павысіць і потым, як запілікае, запілікае, нібы на скрыпцы.

— Завадкае, Жураўлёў, спачатку завадкае на два калены,—адказаў камандзір,—а потым ужо запілікае.

Фі-тчуррр, фі-тчуррр, вад-вад-вад-вад-цii!
Пі-пі-пі, клю-клю-клю.

Здавалася і зоры, і зямля і рака слухалі студзянецкага салаўя таксама зачаравана, як два узброеных чалавекі з чырвонымі зоркамі на фуражках.

— Нашы валагодскія пяюць горш,—заўважыў Жураўлёў.—Няма такой урачыстасці. Склад не такі чысты. І калены зліваюць разам.

Цю-літ, цю-літ, цю-літ, пуль-пуль пуль.
Юу-літ, юу-літ, пію, пію, пію.

Ужо над ракой спявалі дзесяткі салаёў. Іх спевы не блыталіся. Кожны пявец ведаў свае месца ў агульнай сімфоніі.

І раптам Чумакоў і Жураўлёў здзіўлена зірнулі адзін аднаму ў вочы. На тым беразе рaкі хлусіў загранічны салавей. Ён блытаў калены і хрыпеў.

Псі-псі-псі-кхлю-кхлю-кхлю.

— Сапраўды псіх,—заўважыў Жураўлеў.—Ці ён п'яны, ці на ангіну захварэў? А можа ён у вальдшнэпа вучыўся спяваць?

І раптам на гэтым беразе зусім недалёка ад чырвона-зялёнага слупа таксама блытаючы калены, захрыпеў другі салавей.

Псі-псі-цхю-літ-цхю-літ, цхю-літ-цхю-літ-цхю-літ!

— Пойдзем, таварыш Жураўлеў,—загадаў начальнік заставы.— Паглядзім на п'янага салаўя бліжэй. Дашлі патрон.

Яны ціха, на цыпках падыйшлі да куста, дзе безупынку спяваў ахрыплы салавей. Прыглядаючыся, яны ўбачылі тое, што прымусіла Жураўлёва ляснуць затворам вінтоўкі. Камандзір паклаў палец на вусны і строга зірнуў на пагранічніка.

Пад кустом сядзеў настаўнік прыродазнаўства. Прыкладваючы далоні да вушэй, дзед спачатку прыслухоўваўся да пяяння заграічнага салаўя. Потым, падносячы да вуснаў нейкую свістульку, ён пачынаў адказваць.

— Што, падманьваеце салаўёў?

— А-а-а-а-а!—ускрыкнуў дзед, зірнуўшы назад, але адразу ж на яго твары з'явілася нешта крыху падобнае да ўсмешкі.—Гэта вы, таварыш Чумакоў? І Дзяніс Ігнатавіч тут? Даруйце, Ігнат Дзянісавіч? Добры вечар. Так. Падманьваю. Падманьваю. Хэ-хэ-хэ! Дзеткам захацеў злавіць. Яны мяне дужа любяць. Вялікі гонар для мяне былога палітнатар...

— Пойдзем, грамадзянін Пшыглоўскі,—сказаў начальнік заставы, узяўшы дзеда за рукаў.—Хопіць з нас студзянецкіх салаўёў, а польскіх нам не трэба.

І адразу-ж начальнік ускрыкнуў. Яго руку апякло, нібы полымем. Дзед рынуўся да ракі.

— Стой!!—крыкнуў Жураўлёў і ўскінуў вінтоўку да пляча.

— Хутчэй! Хутчэй, пане Пшыглоўскі! Хутчэй!—падбадзёрваў нехта з таго боку ракі.

— Страляй у ногі!—загадаў камандзір.

Гучны стрэл пакаціўся над ракой. На некалькі, толькі на некалькі хвілін замоўклі ўсе салаўі. Не дарэмна насіў Жураўлёў на грудзях значок варашылаўскага стралка. У двух кроках ад вады дзед ускрыкнуў і паваліўся на бок, але нават ранены, ён поўз, звіваючыся, да ракі.

— Як я вас, галганы, ненавіджу!—хрыпеў шпіён, калі Жураўлёў выхапіў у яго з рук фінскі нож. Ён стараўся схапіць зубамі пагранічнікаў, якія панеслі яго да кардону. Начальнік заставы ішоў трымаючы ў наспех перавязанай руцэ гліняную свістульку. Звычайная дзіцячая цацка, якая каштуе на кірмашах не больш за поўрубель. Калі напоўніць свістульку вадой і потым свістаць у яе падобна салаўю, дык толькі добры аматар прыроды пачуе хлусню.

## V

Вобыск у кватэры злоўленага ўвечары шпіёна цягнуўся ўсю ноч і нічога падазронага пагранічнікі не знаходзілі. Яны пералісталі па старонках усе кнігі і сшыткі, агледзелі ўсе закуткі падполля і падстрэшша, але ўсё дарэмна. Ужо дзеці пабеглі ў школу, калі Чумакоў падыйшоў да вакна. Яго, здавалася, зацікавіла гадзюка. Стараючыся ўкусіць, яна цягнулася атрутнымі зубамі да забінтаванай рукі і сустракаючы шкло раззлавана сіпела. А камандзір

старанна разглядаў не столькі змяю, колькі зямлю пад ёй і нарэшце загадаў:

— Таварыш Жураўлёў, вазьмі той вялікі шкляны слоік і перакулі ў ім змяю разам з зямлёй.

Калі Жураўлёў хутка перамясціў гадзюку, пагранічнікі нечакана ўбачылі зверху на зямлі паперку. Раней чым змяя паспела вылезці наверх зямлі, паперка апынулася ў руках камандзіра. Пільна агледзеўшы яе, ён запытаўся:

— Ты не помніш, таварыш Жураўлёў? Здаецца загранічны „салавей“ тры разы пікнуў і чатыры разы клюкнуў?

— Так. Тры разы пікнуў і чатыры разы клюкнуў,—адказаў пагранічнік.—А Пшыглоўскі яму ў адказ два разы пікнуў потым пяць раз цюлікнуў.

— Цяпер усё зразумела,—усміхаўся камандзір, схіліўшыся над паперкай з алоўкам у руцэ.—Тут цэлая салаўіная азбука Марзэ. Нават птушыную мову ўжо скарысталі. Той загранічны запытваўся:

— Дзе цяпер Доўгі?

а Пшыглоўскі яму адказаў:

— Доўгага учора забілі. Пакуль што не пераходзьце.

І месца ж выбраў, дзе схаваць шыфр. Сапраўды гад ахоўваў гада. Ну, больш тут няма чаго рабіць. Пойдзем на заставу.

Неўзабаве пагранічнікі ішлі да кардону. Толькі Жураўлёў значна ад іх адстаў. Калі ён выйшаў з хаты, яго спыніла маленькая курносая дзяўчынка з піонерскім гальштукам. Пагранічнік адразу пазнаў старую знаёмую.

— Вы яго арыштавалі?—запыталася Зося.

— А што?

— Ён... ён... ён...—хвалявалася дзяўчынка.—Ён вораг. Ён заўчора нам расказваў розныя агіднасці.

Дзяўчынка хвалявалася. Кончык яе носа, падобнага да гузіка, пачырванеў. Дзве касічкі падскоквалі. У голасе прарываліся вісклівыя ноты. Жураўлёў не заўважыў тут нічога смешнага. Гэта абураўся маленькі грамадзянін, якога паспрабаваў як грамадзяніна зняважыць вораг.

— Цяпер, Зося, навуковы год канчаецца,—сказаў пагрнічнік— а ў восені прыедзе новы настаўнік прыродазнаўства. Мы байцы заставы напішам спецыяльны ліст наркому асветы, каб вам прыслалі найлепшага настаўніка. А пакуль ён прыедзе дык давайце на канікулах вучыцца разам. Днямі я зайду ў школу і мы пойдзем слухаць птушак, збіраць расліны, лавіць матылёў. Калі што не зразумееце, дык Ігнат Жураўлёў — гэта я—вам растлумачыць. А на лета ўвосень я еду вучыцца на настаўніка прыродазнаўства і калі скончу вучобу, тады яшчэ лепш вам растлумачу. І нават якнебудзь раскажу, як пагранічнікі нашай заставы злавілі жывую гадзюку. А цяпер зойдзем на хвіліну ў тую хату, дзе тая гадзюка жыла.

Калі яны ўвайшлі, пагранічнік акуратна зняў з прасценку партрэт і працягнуў піонерцы:

— Я гэты партрэт прымацаваў, мне яго і знімаць. На табе, таварыш Зося.

Абрадаваная дзяўчынка пабегла з партрэтам да хаты.

Праз невялікі час пасля размовы Жураўлёва з Зосяй, начальнік заставы дапытваў Пшыглоўскага. Злоўлены на месцы злачынства, выкрыты сведкамі і рэчамі шпіён затыхаючыся гаварыў:

— Калі-б ведалі, як я вас палка ненавіджу. Я ўжо не гавару пра тое, што мне прагна хочацца зрабіць з вамі ці з вашымі дзяцьмі, якія ва ўсім падобны на сваіх бацькоў. Але мне хочацца фасгенам пачаставаць вашых салаўёў, хлорам абясцвеціць вашых матылёў, іпрытам апырскнуць вашы кветкі. Каб ваша праклятая краіна нагадвала Сахару. Не, нават не Сахару. Каб яна нагадвала паверхню месяца.

— І гэта вы, грамадзянін Пшыглоўскі, аднойчы ўжо прабавалі здзейсніць?—запытаўся камандзір.

— Так. Спрабаваў,—пацвердзіў шпіён.—Калі наша армія пакідала маю асабовую спадчынную маемасць Студзянец, мы яго знішчылі дашчэнту.

Усё сваё жыццё з маленства я жыў у Варшаве, але я вас так узненавідзеў, што пасля вайны пераехаў у свой маёнтак за ракой. Адчуваючы вялікую радасць, я сачыў у бінокаль з вокан свайго дому за знішчаным Студзянцом. І неўзабаве мая радасць паступова знікла, калі я ўбачыў, як на вуліцах пачалі будавацца хаты яшчэ лепшыя за спаленыя, як пачалі засаджвацца гаі і сады замест высечаных. А калі я ўбачыў, што ў новых садах зацвілі маладыя яблыні, а на вуліцах новага горада забегалі нарадзіўшыяся ў ім вясёлыя дзеці, я больш не вытрымаў.

— І прапанавалі свае паслугі дыфензіве?

— Так. Я паслядоўны—адказаў шпіён.—Я ведаў праз газеты і праз бінокаль, якая ў вас вялікая цяга да асветы. Я бачыў, што не толькі дзеці, але і дарослыя спяшаюцца пасля працы кудысьці з кніжкамі і сшыткамі ў руках. Таму я вырашыў працаваць у вас, як настаўнік.

— Слухайце, грамадзянін Пшыглоўскі,—спыніў шпіёна камандзір.—Залетась нехта з таго боку ракі забіў нашага пагранічніка. Змешаная камісія дагэтуль не знайшла забойцу. Забілі пагранічніка неяк дзіўна... Ён тады без вінтоўкі сядзеў на беразе і чытаў Пушкіна. Гэтае забойства не супадае з вашым рашэннем?

— Цалкам супадае. Гэта я забіў яго. Салдат з кніжкай яшчэ страшней за салдата з вінтоўкай. На сабе самім я цяпер канчаткова ў гэтым пераканаўся. А тады я раззлаваўся яшчэ таксама таму, што мне, які нарадзіўся панаваць, а не працаваць, прыходзіцца вывучаць розных казюлек, каб трапіць да вас настаўнікам прыродазнаўства. Я ведаў, што вы практыкі і таму галоўную ўвагу звярнуў на практычнае вывучэнне прыроды. Адначасова я вывучаў гісторыю вашай краіны і вашай партыі, да дробязей пазнаёміўся з барацьбой на вуліцах Прэсні і пакутамі ў турмах Нерчынска.

— Адным словам, грамадзянін Пшыглоўскі, вы, трапіўшы да нас, добра ведалі вуліцы Прэсні і турмы Нерчынска, але не ведалі тых людзей, якія на Прэсні змагаліся і ў Нерчынску

пакутвалі. А гэта між іншым вельмі скромныя людзі, якія ніколі не выхваляюцца сваім рэвалюцыйным мінулым. У іх няма нічога агульнага з вядомым панам Заглобай.

— Так,—згадзіўся шпіён,—я дрэнна ведаў вашых людзей, але я не дрэнны артыст. Перайшоўшы граніцу з падробленымі дакументамі і атрымаўшы прызначэнне, я паехаў у Студзянец, каб вучыць вашых дзяцей любіць салаўёў і адначасова з дапамогай салаўінай мовы перакідваць праз раку вашых ворагаў. Па дарозе мяне ледзь-ледзь не выкрыў фурман і я спрабаваў яго забіць, але няўдала. Мне прышлося спачатку спалохаць каня, потым штурхануць фурмана пад колы і тады нажом выразаць у сябе на лобе барадаўкі. Прыехаўшы ў Студзянец я адразу пачаў карыстацца пашанай з боку дзяцей і дарослых. Калі-б не здарэнне з салаўём, дык я і сёння-б працаваў. Хіба я не артыст?

— Вы, грамадзянін Пшыглоўскі,—скончыў камандзір, устаючы з крэсла,—дрэнны артыст. Добры артыст у нашай краіне, гэта толькі той, які арганічна звязан з народам, а вас выкрылі чырвонаармеец Ігнат Жураўлёў, ткач Нікалай Чумакоў, калгаснік Мірон Пракапчук і піонерка Зося. За грымам старога рэвалюцыянера і дабраканастаўніка яны разгледзілі твар свайго заядлага ворага.

Калі шпіёна павялі з заставы, ён паказаў канвойным на капліцу за ракой.

— Вось там пахаваны мае продкі. Датуль толькі пяцьсот крокаў.

— Датуль, гад, пяцьсот год,—нечакана пачулася з боку. Зірнуўшы шпіён убачыў чалавека на кастылях, з вялікім шрамам на твары і пазнаў фурмана.

— Э-эх, таварышы,—гаварыў Пракапчук канвойным.—Калі-б вы мне дазволілі-б пачаставаць пана за сябе, за сына, за ўсіх нас адной калгаснай куляй. У-у-у-у, людскі скуралуп!!!

У гэты вечар камандзір Сяргей Чумакоў пісаў бацьку вялікі ліст, які скончыў запрашэннем:

— Прыязджайце на нашу заставу слухаць, як спяваюць студзянецкія салаўі. Мы запрашаем і цябе, і Крылова, і Пятрова, і былых дружыннікаў і ўсю Трохгорку. Дзядзька Пракапчук разам з сынам наловяць шчупакоў і пачастуюць калгасным мёдам. Найлепшы баец заставы Жураўлёў разам з нашым шэфам піонеркай Зосяй пазнаёмяць вас з цудоўнымі студзянецкімі салаўямі, але хлуслівых польскіх салаўёў вы не пачуеце. Не пачуеце таму, што савецкія пагранічнікі ведаюць усё. Яны ведаюць, дзе і калі выпаўзаюць на паляванне польскія гадзюкі і яны ведаюць, як спяваюць непараўнальныя майстры сваёй справы—студзянецкія салаўі.

Віцебск.

30/IX-37 г.—10/X-37 г.

*В. Вольскі, А. Кучар*

# БЕЛАРУСКАЯ СОВЕЦКАЯ ЛІТАРАТУРА ЗА XX ГОД

(*Нарыс*)

## I

Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная рэволюцыя вызваліла шматмільённыя працоўныя масы царскай Расіі, у тым ліку і беларускі народ, ад соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, ад капіталістычнай эксплаатацыі і перажыткаў феадалізма.

Цяжкі гістарычны шлях, поўны неймаверных пакут, бязвыходнай галечы і прыцясненняў прайшоў беларускі народ. Шмат крывавых і змрочных старонак упісана ў яго тысячагадовую гісторыю. Ужо ў пачатку свайго гістарычнага жыцця давялося яму перажыць увесь цяжар варожых навал і заваёў. Якіх толькі прыгнятальнікаў не бачыла беларуская зямля! Чый драпежны погляд не прыцягвалі яе залатыя, ураджайныя нівы, яе пладаносныя сады, непраходныя лясы і шматводныя рэкі? Якія варожыя полчышчы не праходзілі па яе маўклівых далінах?

Незлічоныя набегі татарскіх орд спусташалі беларускія землі. Нямецкія псы-рыцары, крыжаносцы і мечаносцы неаднаразова ўрываліся ў межы Беларусі, агнём і мячом спрабуючы навязаць яе народу каталіцкую веру і свае рабскія, прыгонніцкія парадкі. На працягу многіх стагоддзяў прыгняталі беларускі народ польскія князі і магнаты.

На зялёных палёх беларускай зямлі разгортваліся драматычныя эпізоды сусветнай гісторыі. Чужаземныя войскі вялі тут свае працяглыя, крывепралітныя войны. Адсюль не раз паварачвала назад разбойніцкая конніца ардынскіх ханаў. Убіраліся ні з чым закутыя ў жалеза важкія рыцары. Тут чынілі свае крывавыя расправы над народам войскі польскіх паноў і літоўскіх князёў. Шведскія рэйтары і грэнадзёры Напалеона, нямецкія імперыялісты і белапольскія легіёны Пілсудскага—усе яны пабылі тут. Усіх іх змёў з беларускіх прастораў вецер гісторыі. Усіх іх скінуў з сваіх плеч беларускі народ, змагаючыся з шматлікімі ворагамі ў брацкім і шчыльным саюзе з сваімі украінскімі і рускімі братамі.

Ператвораная ў падняволеную, бяспраўную калонію царскай Расіі, Беларусь адчула на сабе ўвесь цяжар буржуазна-памешчыцкага ладу. Беларускі народ стагнаў пад ударамі царскага бізуна, пакутаваў у катаржных турмах, на сібірскіх рудніках, працаваў без

меры, не разгінаючы спіны, для ўзбагачэння сваіх адвечных прыгнятальнікаў—памешчыкаў і капіталістаў, жандармаў і кулакоў, папоў і ксяндзоў. Паступова выміраў ён ад вечнага недаядання, ад хвароб, ад цемры і бескультур'я.

Да 60 проц. велізарных зямельных прастораў Беларусі належала буйным землеўласнікам-магнатам, панам і царкве. Польскім князям Радзівілам, адвечным прыгнятальнікам беларускага народа, належала ў адной толькі Менскай губерні каля 240 тыс. дзесяцін зямлі. Граф Тышкевіч быў уласнікам 240 тыс. дзесяцін. Граф Чапскі меў 35,467 дзесяцін. Нямецкая княгіня Гогенлоэ валодала ў былым Слуцкім, Мазырскім і Бабруйскім паветах—712,737 дзесяцінамі зямлі!

Беларусь была краінай з неабсяжнымі ўладаннямі радавітых паноў-магнатаў, з вялікім зямельным голадам у жабрацкай і разбуранай вёсцы. У велізарных панскіх маёнтках, на чужой зямлі, багата палітай потам і слязамі народа, ад зары да зары працаваў беларускі селянін. Гора і галеча праследвалі яго ад нараджэння і да самай магілы.

Буйныя памешчыцкія гаспадаркі капіталізаваліся, у іх скарыстоўваліся сельска-гаспадарчыя машыны, у іх працавала каля 200 тысяч парабкоў, а ў вёсцы з адсталымі, амаль першабытнымі формамі землекарыстання, на дробных і найдрабнейшых сялянскіх надзелах расло і множылася гора, галеча і разбурэнне.

Дарэвалюцыйная Беларусь была адной з найбольш глухіх заходніх ускраін царскай Расіі. Яе дробная, саматужна-рамесніцкага тыпу прамысловасць была слаба развіта. Колькасць гарадскога фабрычна-заводскага пролетарыята была нязначная. Гэта была эканамічна адсталая краіна з складанымі і неўрэгуляванымі ўзаемаадносінамі паміж асобнымі прапластоўкамі свайго шматнацыянальнага насельніцтва.

У закінутых, дэградыруючых мястэчках затыхаліся ад эканамічнага застою і нацыянальнага бяспраўя шматлікія працоўныя масы яўрэйскага народа, сціснутыя такім ганебным перажыткам сярэднявечча, як славутая „рыса аседласці". Чорная здань пагрома, чорнасотніцкага цкавання і паліцэйскага самаўладства неадступна стаяла над яўрэйскім мястэчкам.

Зямельны голад у вёсцы, жабрачае, напоўгалоднае існаванне ў гарадах, прымушалі значную частку працоўнага насельніцтва Беларусі шукаць зямлі і шчасця ў аддаленых мясцовасцях Расіі, эміграваць за мяжу, галоўным чынам у Амерыку. За апошнія 20 год перад рэволюцыяй выехала ў Амерыку 800 тысяч чалавек. На працягу таго-ж часу перасялілася ў Сібір на „вольныя" землі 642 тысячы беларускіх сялян.

Царскі ўрад намагаўся гвалтам трымаць у цемры і невуцтве працоўныя масы Беларусі. Ён сістэматычна, жорстка праследваў найменшыя праяўленні нацыянальнай самасвядомасці ў беларускім народзе, найменшае імкненне яго да культуры. „Царызм наўмысля культываваў на ўскраінах патрыярхальна-феадальны прыгнёт для таго, каб трымаць масы ў рабстве і невуцтве... Царызм сцясняў, а часам проста закрываў мясцовую школу, тэатр, асветныя ўстановы для таго,

каб трымаць масы ў цемры. Царызм знішчаў усякую ініцыятыву лепшых людзей мясцовага насельніцтва. Нарэшце, царызм забіваў усякую актыўнасць народных мас ускраін". (І. Сталін. „Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне". Партвыдат, 1935 г., стар. 61).

Вынікам такой палітыкі царызма была масавая непісьменнасць сярод беларускага народа. На кожныя 100 чалавек цёмнага, бяспраўнага беларускага насельніцтва прыпадала звыш 70 непісьменных. Гэта было непасрэдна перад рэвалюцыяй, а паводле перапісу 1891 года ў сельскіх мясцовасцях Беларусі на адну тысячу душ насельніцтва налічвалася ўсяго толькі 142 пісьменных. Колькасць ніжэйшых і сярэдніх школ была нікчэмная. Вышэйшая школа амаль зусім адсутнічала. Ва ўсёй краіне не было ніводнай хоць-бы ніжэйшай школы з выкладаннем на беларускай мове. Родная мова пераважнай большасці насельніцтва Беларусі жорстка праследвалася. На працягу доўгага часу ўпарта забаранялася выданне кніг на беларускай мове, выпуск беларускіх газет, пастаноўка беларускіх спектакляў. За 80 год, з 1835 па 1916 год, было выдана ўсяго 244 кнігі на беларускай мове, пры тым частка з іх на поўлегальных умовах. Самае слова „Беларусь" у афіцыйных дакументах і друку старанна пазбягалася.

Не дзіўна, што ў такіх умовах, ва ўмовах вялікадзяржаўнай палітыкі царскага рэжыму, накіраванай на жорсткую прымусовую русіфікацыю нацыянальных ускраін культура беларускага народа і, у прыватнасці, яго літаратура не магла развівацца нармальна.

Прыгнечаны рускім самадзяржаўем і сваімі памешчыкамі і князямі, а таксама польскімі панамі народ, пазбаўлены элементарных правоў на культуру, не мог выявіць у літаратуры ўсе свае невычарпальныя здольнасці і таленты. Затое гэтыя таленты праяўляліся з асаблівай сілай у вуснай народнай творчасці. Фальклор, паводле выразу А. М. Горкага, стварыў „найбольш глыбокія і яркія, мастацка-дасканалыя тыпы герояў". У народнай творчасці беларусаў не мала цудоўных песень, легенд і казак, у якіх выказаны гнеўны пратэст прыгоннага селяніна супроць сацыяльнай несправядлівасці, супроць жорсткага прыгнечання з боку памешчыкаў.

Мастацкі ўзровень і майстэрства некаторых песень і казак робяць надзвычайнае ўражанне. У адной песні гаворыцца:

Як малою ў калысачцы ляжала,
Гора за мной ў галавах стаяла;
Як я мала каля лаўкі хадзіла,
Гора мяне за ручанькі вадзіла;
Я ад гора на сіня мора,
Гора за мной у чаўночку плывець.
Я ад гора ў грыбы пайшла,
Гора за мной кашолку нясець.
Я ад гора ў магілу пайшла,
Гора за мной з лапатай ідзець...

Якая надзвычайная лагічная цэльнасць! Пякельна-няўмольная сіла лёсу ціснe на прыгнечанага чалавека і ад яе няма куды ўцячы—такая думка гэтай песні. І ўсёткі, правільна адзначыў Аляксей Максімавіч, што фальклору чужды песімізм, што людзі, якія стваралі фаль-

клор і жылі ў найцяжэйшых умовах непасільнай працы, моцна верылі ў будучыню.

Бытавыя, сямейныя, жніўныя, абрадавыя беларускія народныя песні захапляюць сваёй меладычнасцю, задушэўнасцю, яркасцю вобразаў, смеласцю параўнанняў. (Напр. песні „А ў лузе салавей каліну кляваў“, „Гусанькі“, „Купаленька“, „Ляцеў голуб цераз мора“ і г. д.).

Асаблівае месца ў беларускай народнай творчасці займаюць польскія паны. Колькі гнеўных песень, суровых і бязлітасных накіравана супроць іх! У стогн пакуты, што гучыць у гэтых песнях уплятаецца ўсезнішчальны народны гнеў. У жніўнай песні прыгонныя жанчыны спяваюць:

Бадай пану ў двары страшна,
Як нам сонца ў полі зашла.
Сонца зашла, 'шчэ мы жнема,
Пры месяцы снапы нясема,
Пры зорах у копы кладзема,
Апоўначы дадому ідзема.
На світанні вячэрайма,
А ў дзень белы ізноў ідзема.
Бадай пана не хавалі,
Каб сабакі разарвалі.
Пахавалі пры даліне,
Каб па пану ваўкі вылі.
Бадай пана громы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі.

Жорстка прыгняталі беларускія памешчыкі сваіх сялян, але яшчэ больш жорсткімі былі польскія паны. Недарма ў народнай прыказцы сказана: „Чорт душу выме, а пан скуру здыме“. Народная песня і казка высока цэніць змагароў супроць паноў-прыгоннікаў. Так у казцы „Пану навука“ паказваецца мужны селянін, які дзякуючы сваёй кемлівасці і розуму тройчы правучыў пана, збіўшы яго да поўсмерці. Народная песня і казка часта б'е паноў сілай сатыры і гумару. Колькі мудрасці ў такіх творах, якія моцныя пачуцці, якая цудоўная мова, якая трапнасць у характарыстыках, якая дасціпнасць у вызначэннях! Закончаная па сюжэту і кампазіцыі казка „Мужык і пан“ ілюструе і тое досыць цікавае палажэнне, што сяляне, якія жылі пад неймаверным прыгнётам, добра ўсведамлялі сваю інтэлектуальную перавагу над польскімі панамі.

Характэрна, што барацьба супроць паноў і магнатаў у беларускім фальклоры нязменна звязваецца з барацьбой супроць таго-ж ворага і рускага і ўкраінскага народа. Барацьба аднаго з гэтых народаў знаходзіць водгук у фальклоры другога народа. Так, напрыклад, беларуская песня „Бандароўна“ з вялікім сумам аплаквае ўкраінскую дзяўчыну, закатаваную польскімі панамі. У гэтых песнях, казках і легендах адлюстроўваліся думкі і пачуцці мільёнаў беларускіх працоўных. У іх аплакваў беларускі народ сваю жорсткую нядолю, у іх ён заклікаў да барацьбы супроць паноў-прыгнятальнікаў у іх апяваў ён сваю ўпэўненасць у светлую будучыню. Гэта—невычарпальная крыніца, што цячэ з самых глыбінь народнай творчасці,—поўная моцных і маляўнічых вобразаў, яркіх

параўнанняў, трапных і дасціпных абагульненняў. Дарэвалюцыйны беларускі фальклор з'яўляецца найбагацейшай скарбніцай думак, надзей, імкненняў і спадзяванняў народных, сапраўднае ажыццяўленне якіх беларускі народ знайшоў толькі ў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Толькі перамога Вялікага Кастрычніка, падрыхтаванага і праведзенага на Беларусі пад непасрэдным кіраўніцтвам авангарда рабочага класа—партыі большэвікоў, толькі пролетарская дыктатура, толькі паслядоўнае ажыццяўленне нацыянальнай палітыкі Леніна-Сталіна мастварылі найвялікшыя магчымасці і прадумовы для сапраўднага магутнага і ўсебаковага росквіту беларускай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

„Кастрычніцкая рэволюцыя адным ударам разарвала старыя адносіны паміж народамі, падарвала старую нацыянальную варожасць, расчысціла глебу для супрацоўніцтва народаў і заваявала рускаму пролетарыяту давер'е яго іншанацыянальных братоў не толькі ў Расіі, але і ў Еўропе і ў Азіі. Наўрад ці патрэбна даказваць, што без такога давер'я рускі пролетарыят не здолеў-бы перамагчы Калчака і Дзенікіна, Юдзеніча і Врангеля. З другога боку, няма сумнення ў тым, што прыгнечаныя нацыянальнасці не здолелі-б дамагчыся свайго вызвалення без устанаўлення ў цэнтры Расіі дыктатуры пролетарыята". (З рэзалюцыі XII з'езда ВКП(б).

Народы, якім давялося ў свой час перажыць столькі пакут і прыгнёту, аб'ядналіся пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі ў адну сяброўскую, магутную, змацаваную адзінствам волі, мэты і сталінскага кіраўніцтва вялікую сям'ю савецкіх народаў. Яны стварылі першы ў гісторыі магутны і несакрушальны аплот міжнароднага братэрства, які натхняе ўсіх лепшых людзей сусвету ў іх барацьбе з фашысцкім шавіністычным ізуверствам і расавым змракабессем.

Пры братэрскай дапамозе і падтрыманні з боку ўсіх народаў Вялікага Саюза, неадлучнай арганічнай часткай якога з'яўляецца БССР, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, беларускі народ разбіў ланцугі панскай няволі і, гераічна змагаючыся ў радах доблеснай Чырвонай Арміі і шматлікіх партызанскіх атрадаў, прагнаў з сваёй вызваленай зямлі драпежныя банды акупантаў.

У выніку Кастрычніцкай рэволюцыі беларускае сялянства атрымала звыш 4 млн. гект. памешчыцкіх, манастырскіх і кулацкіх зямель.

З цёмнай, адсталай калоніі царскай Расіі, Беларусь ператварылася ў перадавую, ордэнаносную, соцыялістычную рэспубліку, у краіну электрастанцый, фабрык і заводаў, у краіну з пераважаючымі формамі перадавога соцыялістычнага земляробства. На палях Беларусі працуе 8 тыс. трактароў. Беларусь ператварылася ў краіну з шматлікімі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі і навуковымі ўстановамі, з шырока развітай сеткай сярэдніх школ на мовах усіх нацыянальнасцей БССР, з багатай літаратурай, тэатрамі, з уласнай кінематаграфіяй, з высока развітым выяўленчым мастацтвам. Яна ператварылася ў краіну пераможнага соцыялізма.

Даволі параўнаць мізэрны лік у 240 кніг, выданых за 80 год пры царызме з 13.000 кніг, тыраж якіх складае 87 мільёнаў экземп-

ляраў, выданых у БССР за 18 год совецкай улады, каб зразумець гіганцкі рост культуры Совецкай Беларусі.

Гэтыя вялікія дасягненні былі заваяваны беларускім народам у цяжкой і гераічнай барацьбе. Яны зрабіліся магчымымі толькі дзякуючы паслядоўнаму правядзенню генеральнай лініі партыі, у барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, з правымі і нацыяналістамі—агентурай зарубежнага фашызма.

Толькі Кастрычніцкая рэволюцыя дала магчымасць беларускаму народу стварыць упершыню ў гісторыі сваю ўласную дзяржаўнасць. Гэта дзяржаўнасць, увасобленая ў Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспубліцы, роўнай сярод роўных у бліскучым сузор'і брацкіх рэспублік Совецкага Саюза, створана пры дапамозе вялікага рускага народа, пры штодзённым па-бацькоўску-клапатлівым кіраўніцтве з боку правадыра народаў таварыша Сталіна.

Асновай беларускай дзяржаўнасці з'яўляецца непарушны саюз і брацкая дружба народаў, што насяляюць неабсяжныя прасторы шматнацыянальнай социялістычнай радзімы. Гэта дружба належыць да ліку найдаражэйшых заваёў социялізма.

„Дружба паміж народамі СССР,—сказаў таварыш Сталін,—вялікая і сур'ёзная заваёва. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць вольныя і непераможныя. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе“.

Дружба народаў СССР непарыўная.

Гэта дружба моцна знітавана брацкай крывёю, пралітай рускімі, украінскімі, беларускімі, грузінскімі масамі і ўсімі працоўнымі ўсіх нацый Совецкага Саюза ў сумеснай барацьбе супроць царызма, у грамадзянскай вайне, у баях з інтэрвентамі.

Гэтая дружба знітавана агульнай палымнеючай нянавісцю да праклятага мінулага, агульным творчым парывам у будаўніцтве социялізма, агульнай гарачай любоўю да сваёй шчаслівай радзімы і агульнай бязмернай адданасцю ідэям вызвалення чалавецтва.

Пад знакам вялікай дружбы народаў расце і мацнее з кожным днём беларуская совецкая літаратура.

## II

Пісьмовая літаратура беларускага народа, як і беларускі фальклор, развівалася ва ўзаемадзеянні з братнімі рускай і украінскай літаратурамі. Апрача старажытнай беларускай літаратуры XV, XVI і XVII стагоддзяў мы знаходзім выдатныя творы свецкай літаратуры ў XIX стагоддзі. К пачатку гэтага стагоддзя адносяцца паэмы невядомых аўтараў „Энеіда навыварат“ і „Тарас на Парнасе“. „Энеіда навыварат“ стваралася пад уплывам рускай „Энеиды вывороченной наизнанку“ Осіпава і украінскай „Энеіды“ Катлярэўскага, а „Тарас на Парнасе“ з'яўляецца вельмі ўдалай пародыяй на ложна-класічную літаратуру і яе пісьменнікаў. Аўтар гэтай паэмы быў у курсе літаратурнай барацьбы, што адбывалася ў гэты час, і ўпамінае пра яе ў сваёй паэме, становячыся на бок Пушкіна і Гогаля супроць Булгарына.

У пачатку XIX стагоддзя на літаратурнай арэне ў Беларусі

з'яўляецца пісьменнік Дунін-Марцынкевіч. Ім напісаны паэмы „Гапон“, „Шчароўскія дажынкі“, опера „Сялянка“, у аснову якой пакладзены сюжэт, які быў запазычаны аўтарам з аповесці Пушкіна „Барышня—крестьянка“, а таксама п'есы „Пінская шляхта“ і „Залёты“. Дунін-Марцынкевіч па сваіх палітычных поглядах быў пісьменнікам-прыгоннікам і многія свае творы падпарадкаваў задачы ўмацавання прыгоннага ладу. Хаця паэмы Дуніна-Марцынкевіча далёка не вызначаюцца фармальнай дасканаласцю, ён не мала зрабіў для развіцця беларускай літаратуры, для ўзбагачэння яе мовы, для пашырэння яе вобразаў.

Значную цікавасць становяць сабою яго п'есы „Пінская шляхта“ і „Залёты“, напісаныя пад уплывам Мальераўскага „Мешчаніна ў дваранстве“, і востра высмейваючыя дробную шляхту, яе прагавітасць, імкненне да багацця, да грошай.

Куды большае значэнне ў гісторыі беларускай літаратуры мелі пісьменнікі Францішак Багушэвіч і Цётка (Элаіза Пашкевіч). Францішак Багушэвіч выпусціў зборнік вершаў „Дудка беларуская“ і „Смык беларускі“. У яго творах, у адрозненне ад вершаў Марцынкевіча, адчуваецца паэтычны пафас, страсць. На вершы Багушэвіча зрабіў уплыў вялікі рускі паэт Лермантаў. „Хмаркі“ Багушэвіча пераклікаюцца з вядомым аналагічным вершам Лермантава. Багушэвіч востра нападае на паноў і памешчыкаў, на царскіх чыноўнікаў і самадзяржаўе. Цётка пайшла яшчэ далей за Багушэвіча. У зборніку „Хрэст на свабоду“, што выйшаў у 1905 годзе, яна заяўляе, „што, цара павесіць трэба“, а ў апавяданні „Прысяга над крывавымі разорамі“ даходзіць да выразнага разумення, што толькі саюз пецярбургскага рабочага, памешчыцкага батрака і салдата дасць беларускаму селяніну зямлю.

Захапленне нацыяналістычнымі ідэямі з боку Багушэвіча, а таксама ўплыў на Цётку буржуазна-нацыяналістычнай Беларускай Сацыялістычнай грамады, членам якой яна была, не далі магчымасці гэтым пісьменнікам стаць на паслядоўна-дэмакратычны шлях у сваёй творчасці.

Велізарнае значэнне ў гісторыі беларускай літаратуры мае творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія выйшлі на паэтычную арэну ў 1905 годзе.

Янка Купала і Якуб Колас выступілі ў літаратуры, як прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычных мас сялянства. Яны былі ўзняты на хвалях буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905 года і высунулі ў сваёй творчасці тыя патрабаванні, якія высоўвала рэвалюцыйнае сялянства.

Яны патрабавалі зямлі і волі для прыгнечаных сялянскіх мас. Беларусь у гэтыя гады была прыгнечана не толькі сацыяльна, але і нацыянальна. І натуральна, што на першым этапе сваёй творчасці, і Янка Купала і Якуб Колас побач з сацыяльнымі патрабаваннямі высоўваюць патрабаванні нацыянальнай самастойнасці для беларусаў, права развіцця, літаратуры, культуры, школ, народнай мовы. Бацькаўшчына займае ў іх творчасці вялікае месца. Гэта і зразумела. Ленін у 1916 годзе яшчэ пісаў:

„У заходніх краінах нацыянальны рух—даўняе мінулае. „Бацькаўшчына

каўшчына“ ў Англіі, Францыі, Германіі і т. д. ужо праспявала сваю песню, адыграла сваю гістарычную ролю, г. ё. прагрэсіўнага, узнімаючага да новага эканамічнага і палітычнага жыцця новыя масы людзей, тут нацыянальны рух даць не можа. Тут на гістарычнай чарзе дня стаіць не пераход ад феадалізма або ад патрыярхальнай дзікасці да нацыянальнага прагрэса, да культурнай і палітычна вольнай бацькаўшчыны, а пераход ад зжыўшай сябе капіталістычна-пераспелай „бацькаўшчыны“ да соцыялізма.

На ўсходзе Еўропы справа стаіць інакш. Для украінцаў і беларусаў, напрыклад, толькі чалавек, які ў марах жыве на Марсе, мог-бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што абуджэнне мас да валодання роднай мовай і яго літаратурай (а гэта неабходная ўмова і спадарожнік поўнага развіцця капіталізма, поўнага пранікнення абмену да апошняй сялянскай сям'і)— тут *яшчэ* адбываецца. „Бацькаўшчына“ тут *яшчэ* не праспявала ўсёй сваёй гістарычнай песні. „Абарона бацькаўшчыны“ яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супроць прыгнятаючых нацый, супроць сярэднявечча, тады як англічане, французы, немцы, італьянцы ілгуць цяпер, гаворачы пра абарону сваёй бацькаўшчыны ў данай вайне, бо *не* родную мову, *не* свабоду свайго нацыянальнага развіцця абараняюць яны на справе, а свае рабаўласніцкія правы, свае калоніі, „сферы уплыву“ свайго фінансавага капітала ў чужых краінах і інш. (Ленін, том XIX, старонкі 204—205).

І Янка Купала і Якуб Колас у гады 1905—1908 заклікаюць беларускае сялянства паўстаць супроць цара і памешчыка, якія смакталі кроў з сялянскіх жыл.

Купала і Колас пішуць у гэтыя гады вершы-пракламацыі, разлічаныя на аратарскі голас і напісаныя ў аратарска-заклікальным тоне:

Хай кроў пальецца дзень, другі
Варожым трупам на падсціл.
Хай ў няволі ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл,—

заклікаў Янка Купала.

І яму ўторыў Якуб Колас:

Я—мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!“

Тэматычна і Янка Купала і Якуб Колас у гэтыя гады непарыўна звязаны з вёскай. Пераважнымі тэмамі іх вершаў з'яўляюцца голад вясною, цяжар налогаў, сялянская цемра, доля батрачкі, катаржная работа плытагонаў, град, што пусціў па свеце селяніна і інш.

Апрача палітычнай лірыкі, у гады 1910—13 і Янка Купала і Якуб Колас ствараюць і больш шырокія палотны. Купала піша паэму „Курган“, „Бандароўна“, а Колас, пасаджаны ў 1908 годзе за рэвалюцыйную дзейнасць у Менскую турму, працуе над вялікім эпічным палатном—паэмай „Новая зямля“. Сіла паэтычнага таленту

Янкі Купалы праявілася з першых жа его вершаў. Вялікая страснасць, заклікальнасць, імкнёнасць, гатоўнасць загінуць або перамагчы тыранію царызма—характэрна для яго. Усё гэта адпаведным чынам сказалася на рытмічным баку верша. Пісьменнік сучаснік Купалы Багдановіч вельмі ўдала ўлавіў асаблівасць рытма Купалаўскай лірыкі. Вось, што ён піша:

„Гэтая перамена зместу адбілася і на форме вершаў Купалы, асабліва на іх важнейшым, усё ажыўляючым нерве—моцна забіўшым рытме. Буйны, шпаркі, ён падмывае, захоплівае чытача, гіпнатызуе яго, не дае апамятавацца, затрымацца і нясе яго ўсё далей і далей. Бадай што ва ўсіх леташніх вершах Купалы б'ецца ён з вялікай сілай і гуртуе вакол сябе ўсё іншае ў іх. Каб здаволіць яго разгон, канцы строк аж звіняць, з'яўляюцца рыфмы і пасярэдзіне вершу, нават словы да яго падбіраюцца зычныя, моцныя; а калі ў мове сталецціямі гнуўшагася беларускага народу не хватае іх, дык Купала ўжывае новыя, выкаваныя ім самім: ні ў жаднага нашага паэта няма такога багатага слявара, як у Купалы".

Янка Купала ў гады 1913—1916 піша паэмы „Курган" і, „Бандароўна"—лепшыя з яго дарэволюцыйных паэм. „Курган"—паэма пра князя, які хацеў за грошы купіць народнага гусляра. Але гусляр пайшоў на смерць, а не схлусіў у сваіх песнях. Вобраз стогадовага гусляра, сівога, мужнага напісан Купалам у яркіх, рамантычных фарбах.

Купала бліскуча скарыстаў народную легенду пра „Бандароўну". На тэму гэтай легенды ён напісаў паэму, накіраваную супроць польскіх паноў. Ён разгарнуў матыў абурэння, які маецца ў народнай песні, да паказу ў паэме паўстання украінскага народа супроць палякаў:

Весць аб смерці Бандароўны
Скрозь прайшла, як мора;
Зашумела Украіна—
Гора панам, гора,
Бандарэнка сходы кліча,
Усім аб крыўдзе кажа;
Войска сільнае збірае,
Роўна сіле ўражай.

Такім чынам, падводзячы вынікі сказанаму пра рэволюцыйнадэмакратычную спадчыну Янкі Купалы, трэба адзначыць наступнае:

Купала стварае творы палітычнай лірыкі—вершы аратарскага, трыбунскага голасу, вялікай эмацыянальнай сілы і простага, чыста народнага складу („Што ты спіш", „Там", „Перад вісельняй", „Воля" і інш.).

Побач з гэтым мы сустракаем у паэта бытавыя замалёўкі цяжкога жыцця селяніна, якія завяршаюцца лірычнай або рытарычнай канцоўкай.

У другі перыяд творчасці, галоўным чынам у гады 1915—18, мы бачым у Купалы яшчэ большую фармальную дасканаласць верша, але пад уплывам сімвалістаў паэт усё больш і больш замыкаецца ў свае асабістыя тужлівыя мары. Надзвычайныя філа-

софскія вершы і вершы пра прыроду гэтага перыяда. („Адцвітанне“, „У начным царстве“, „Дзве таполі“, „Плача восень“, „Снег“, „Званар“, „Зачараваная кветка“), многія з якіх перакладзены на рускую мову В. Брусавым і Эд. Багрыцкім.

Лірыка Якуба Коласа па сваіх мастацкіх якасцях адрозніваецца ад лірыкі Купалы. Яна больш мяккая, часцей у ёй трапляюцца сентыментальныя ноткі. Колас больш чым Купала аддае месца пейзажу, рэчы і з‘явы ў яго прыраўноўваюцца да прыроды. Найбольш моцна Колас праявіў сябе не ў лірыцы, вядома, а ў эпасе, у яго надзвычайнай паэме „Новая зямля“.

Паэма „Новая зямля“ з‘яўляецца адной з яркіх старонак, вяршыняй рэалізма ў дарэволюцыйнай беларускай літаратуры. Яна ёсць плод вялікага жыццёвага вопыта, накопленага пісьменнікам на працягу дзесяцігоддзяў жыцця і сувязі з масамі беларускага працоўнага сялянства. Перад чытачом праходзіць цэлая эпапея сялянскага жыцця ва ўсіх найдрабнейшых дэталях і праявах.

У чым жа моц гэтага твора? „Новая зямля“ не вызначаецца ні навізной тэхнікі, ні арыгінальнасцю рыфм, ні многастайнасцю рытма. Наадварот, яна напісана пераважна кананічным чатырохстопным ямбам і сіла яе зусім не ў фармальных вартасцях. Сіла паэмы Коласа ў глыбока-рэалістычным адлюстраванні лёсу беларускага сялянства, якое паўперызавалася. Вобраз уласніка Міхала, які марыць усё сваё жыццё аб сваім кавалку зямлі, ненавідзіць панскую няволю больш за ўсё на свеце, які памірае з дарэмнымі надзеямі на „сваю зямлю“, „свой родны кут“—вобраз глыбока-праўдзівы і ён выражае тыповыя рысы селяніна ўласніка. Сам Якуб Колас спачувае ідэалам і імкненням Міхала.

Але характэрна, што рэалізм паэмы разбівае нашчэнт усе ўласніцкія ілюзіі, якія былі ўласцівы і герою паэмы Міхалу і часткова самому аўтару. Рэалізм агаляе ўсю нежыццёвасць і ўтапічнасць мар уласніка-селяніна пра шчасце на сваім кавалку зямлі. Міхал гіне і яго пагібель, якая дае паэме трагічную развязку, з‘яўляецца пагібеллю ілюзіі дробнага таваравытворцы ў капіталістычных умовах.

Твор Коласа насычаны багаццямі беларускай народнай мовы, адценены гумарам, напоўнены народнымі песнямі, прыказкамі. (У гэтым сэнсе найбольш характэрным з‘яўляецца раздзел „Падгляд пчол“, у якім апісваецца святочны дзень у сялянскай сям‘і).

Уся паэма, напісаная ў шырокім эпічным стылі, у простых, а часам і наіўных танох, крыху перагружаная бытавымі дэталямі,— становіць сабой, аднак, узор скарыстання фальклора ў мастацкім творы. У самым значным раздзеле паэмы, раздзеле аб смерці Міхала, асаблівую манументальнасць і глыбіню думкі надае амаль цалкам, нязмененай устаўленая надзвычайная народная песня „У полі, полі, пры дарожачцы“.

Такі асноўны сэнс аднаго з выдатных твораў Якуба Коласа паэмы „Новая зямля“.

Адрозную ад „Новай зямлі“ з‘яву становіць сабой другі буйны твор Коласа „Сымон музыка“. Паэма „Сымон музыка“ вылучаецца сярод іншых твораў Якуба Коласа і living рознастайным рытмам і багаццем рыфмы і народнай песеннасцю. У аснове сюжэта ляжыць гіс-

торыя вандравання і перажыванняў адаронага сялянскага хлопчыка,—таленга, які вырас з народных нізоў, але лёс якога ў капіталістычных умовах—галеча, брадзяжніцтва разам з жабракамі, служба пану і панскай чэлядзі. Такі Сымон, галоўны герой паэмы. Паэма дае асобныя праўдзівыя карціны эксплаатацыі памешчыкамі духоўных сіл народа, іх імкненне задушыць у зародку тыя невычарпальныя крыніцы народных талентаў, пра якія пісаў Ленін. Колас не толькі праўдзіва паказвае ўзаемаадносіны Сымона з ненавіснай яму шляхтай, ён нават прадугадвае, што будзе адплата за злачынствы, зробленыя вяльможным панствам супроць народа. Але гэта адплата ў яго з'яўляецца ў вобразе нейкай богападобнай містычнай сілы. І ў гэтым якраз выяўляецца найбольш слабы бок паэмы.

Справа ў тым, што ў ёй дзівотліва пераплятаюцца карціны рэалістычныя з сімвалізмам, які мяжуе часам з містыкай. Рэалістычна-простыя малюнкі шуканняў і пакут Сымона Якуб Колас абвалаквае сімвалістычным туманам. Так, Сымон у апошніх раздзелах паэмы ператвараецца ў „нацыяналістычнага прарока“, які будзіць ад кашмарнага і цяжкога сну дзяўчыну Ганну, у вобразе якой сімвалізуецца Беларусь. Іменна філасофскі план паэмы, у які, дарэчы, уваходзіць і наданне Сымону анімістычнага светапогляду—найбольш слабое месца твора. Натуральна, што сілу Коласа як мастака мы адчуваем толькі ў тых малюнках, у якіх рэалізм праяўляецца не гледзячы на нацыяналізм, якім абвалаквае падзеі аўтар. Чытач, які добра адчувае вобразы, што найбольш рэзка агаляюць соцыяльныя процілегласці (Сымон у сябе на вёсцы, у шляхцянскім маёнтку і г. д.), абыякава праходзіць міма карцін, у якіх Сымон Музыка надзелены „боскай“ сілай, слухае размову траў, таямнічы звон струны над магілай і г. д.

Такім чынам мы бачым, што побач з выдатнай рэалістычнай эпапеяй „Новая зямля“ Якуб Колас стварае твор, у якім усё слабей і слабей адчуваецца пульс жывой рэчаіснасці і ў якім нацыяналістычная сімволіка прыходзіць на змену глыбока рэалістычным малюнкам сялянскага жыцця, так праўдзіва паказанага ў творах Коласа.

Шмат зрабіў для развіцця беларускай літаратуры Якуб Колас і ў галіне прозы. Яго бытавыя апавяданні такія, як „Соцкі падвёў“, „Стараста“, „Бунт“, „Злавіў“ „Старыя падрызнікі“, „Чорт“, „Тоўстае палена“ у гумарыстычных танох даюць малюнак жыцця дарэволюцыйнай беларускай вёскі і звычак яе кіраўнікоў: старшыні, старасты, папа і г. д.

Прастата, адсутнасць фармалістычнага штукарства—характэрна для творчасці Коласа і ў паэзіі і ў прозе.

Вершы яго пявучыя, рытмічна многастайныя, простыя, небеспрадметныя, а заўсёды пабудаваны на жывым малюнку, сюжэце. Хараство беларускай прыроды ён адчувае незвычайна глыбока і апеў яе ў радасных песнях. Асабліва блізкі і знаёмы яму каларыт старога Палесся.

Мастацкая проза Коласа дае вялікую колькасць выразных і рэалістычнымі фарбамі намаляваных чалавечых характараў. Мова яго багатая і народная, яна па майстэрску адценена гумарам.

Першым з рускіх пісьменнікаў, які заўважыў Купалу і Коласа

быў А. М. Горкі. Яшчэ ў 1911 годзе ён пісаў пра беларускую літаратуру:

„Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў, самага забітага народа ў Расіі... Дазволю сабе падаць песню, выданую нядаўна „Нашай Нівай“. Словы напісаныя беларускім паэтам Янкам Купалам:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
—Сваю крыўду.
А чаго-ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.“

У гэтым вершы, які Горкі назваў „красамоўнай і суровай песняй“ нацыянальна-вызваленчыя патрабаванні Янкі Купалы выказаны з вялікай сілай. У вершы, якому Аляксей Максімавіч прарочыў зрабіцца гімнам нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа, паказаны забітасць і прыніжанасць шматмільённага народа.

У пісьме да Кацюбінскага Горкі зноў варочаецца да цудоўнага твора Янкі Купалы. Ён піша, што яго „гэта рэч усхвалявала. Пахмура... Памятаеце вялікарускую песню „Мы не сами то идем, нас нужда ведет, нужда горькая“. Гэта эпіграф,—піша далей А. М. Горкі,—да нашай гісторыі, гісторыі пасіўных людзей. Гэта крык старадаўняй крыві, атручанай фаталізмам.

Іменна пад гэта няшчасце Л. Н. *) і падводзіў філасофскую аснову, ад яго выходзячы, яму падпарадкавацца клікаў“.

Адзначаючы выдатныя якасці двух тады маладых беларускіх паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Горкі падкрэсліваў, што яны: „проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым-бы хоць крыху гэтых якасцей. Вось добра было-б, госпадзі!“

Гэта высокая ацэнка творчасці Купалы і Коласа паказвае прадбачлівасць вялікага пролетарскага пісьменніка, які ўжо тады разгадаў сілу двух выдатных майстроў беларускай літаратуры.

Нельга не адзначыць, што на творчасць Купалы і Коласа моцны ўплыў зрабілі вялікі паэт А. С. Пушкін, у асаблівасці-ж Некрасаў і Шэўчэнко. Іменна, наследуючы Некрасаву і Шэўчэнко, складалі свае раннія горкія песні нашыя народныя паэты.

У 1908 годзе ў літаратуры выступае Максім Багдановіч—паэт, які не мала зрабіў для фармальнай дасканаласці роднай літаратуры. Багдановіч даў рад добрых перакладаў на беларускую мову з рускай, украінскай, іспанскай, французскай, нямецкай і фінскай паэзіі. Ён перакладаў Пушкіна, Шэўчэнко, Гейнэ, Верлена і Верхарна.

Максім Багдановіч напісаў рад высока-мастацкіх вершаў („Межы“,

*) Л. Н. Талстой.

„Ёсць на свеце такія бадзягі“, „Страцім-лебедзь“, „Вераніка“, „Не кувай ты, шэрая зязюля“, „Ціхі вечар“).

Бура, завіруха, адкрытая магіла, цікавы гістарычны факт, вычытаны з кнігі, філасофская думка, скульптурна-выразныя вобразы народнага эпаса—вось аб'екты паэзіі М. Багдановіча.

Максім Багдановіч з'яўляецца адным з культурнейшых беларускіх пісьменнікаў дарэвалюцыйнай эпохі. У яго творчасці асабліва адчуваюцца плённыя ўплывы на нашу літаратуру з боку рускай літаратуры, на якой выхаваўся Багдановіч.

Але, сімвалістычная школа, а таксама моцны ўплыў нацыяналістаў з „Нашай нівы“ не давалі выйсці паэзіі Багдановіча ў свет вялікіх тэм і ідэй.

Услед за Максімам Багдановічам у 1910 годзе пачынае друкавацць свае імпрэсіі Змітрок Бядуля. Ён адразу звярнуў на сябе ўвагу, як арыгінальны талент. На фоне натуралістычнага засілля ў тагочаснай беларускай прозе Бядуля імкнуўся ў сваіх імпрэсіях філасофскі асэнсавацць з'явы жыцця. Пазней яго раннія імпрэсіі выйшлі ў зборніку „Абразкі“. Побач з празаічнымі творамі Бядуля працуе і ў галіне верша, галоўным чынам сімвалістычнага. У вершах яго пераважалі эпічна-суровыя малюнкі прыроды, часта ў іх з вялікім майстэрствам скарыстоўваліся вобразы народнай міфалогіі. Рытмічныя ходы амаль заўседы былі незвычайнымі, рабіўся ўпор на нутраную сугучнасць верша, на навізну рыфмы, асананса.

Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца пазнейшыя рэалістычныя апавяданні Бядулі, якія ўвайшлі ў зборнік „На зачарованых гонях“. Трэба вылучыць навелы: „Пяць лыжак заціркі“, Малыя дрывасекі“, „Вялікодныя яйкі“, „Чараўнік“, „Ашчаслівіла“, „Сорам“, „Панас на небе“. Бядуля ў сваіх навелах раскрывае (вельмі часта і пры дапамозе гумару) трагічныя бакі дарэвалюцыйнай, убогай, забітай беларускай вёскі. Ва ўсіх гэтых творах пісьменніка вобраз селяніна-бедняка, якога ненавідзіць вясковае начальства, які даведзены налогамі, беззямеллем да галечы, бедняка, над якім здзекваецца кулацтва—паказаны з вялікай сілай і праз гумар, якім надзяляе яго аўтар, выяўляецца глыбокі трагізм. Вось перад намі стаіць хударлявая сагнутая постаць бедняка Ігналя, збітага кулаком Марцінам да поўсмерці за ўкрадзены для галоднай скаціны мяшок сена. Ігналя стаіць абкружаны тупой абыякавасцю кулакоў, якія рыхтуюцца да самасуду. Ён перажывае жах пабояў, ён перажывае страшны шлях ад хаты Марціна да сябе дамоў з мяшком сена, падараваным на беднасць „дабрадзейным“ Марцінам. Гэта апавяданне выклікае наймацнейшую нянавісць да кулацтва. Такім чынам лепшыя рэволюцыйна-дэмакратычныя староны творчасці Змітрака Бядулі заключаны ў яго навелах, у яго мастацкай прозе.

Пролетарская культура, як вядома, не вырастае на пустым месцы, яна крытычна засвойвае ўсю найбагацейшую культуру, створаную чалавецтвам.

Такім-жа чынам і беларуская савецкая літаратура скарыстоўвала, побач з найбагацейшай шматвяковай культурай брацкага нам рускага народа даволі вялікую літаратурную рэволюцыйна-дэмакратычную спадчыну такіх майстроў, як Купала і Колас і інш.

III

Беларускія нацыяналісты, ідэолагі контррэвалюцыйнай буржуазіі, заўсёды былі заклятымі ворагамі народа. На ўсіх этапах барацьбы беларускіх працоўных мас за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, яны нязменна выступалі, як подлыя здраднікі радзімы, як прадажныя найміты міжнароднага імперыялізма.

Яшчэ ў перыяд 1905 года беларускія буржуазныя нацыяналісты і іх прадстаўнікі ў літаратуры, якія групаваліся вакол так званай Беларускай Сацыялістычнай Грамады, паказалі перад працоўнымі масамі свой подлы і здрадніцкі твар. Выступаючы супроць рэвалюцыйнага вырашэння аграрнага пытання і падтрымліваючы ў перыяд рэакцыі сталыпінскую хутарызацыю, яны ўсімі сіламі імкнуліся затрымаць рэвалюцыйны ўздым беларускіх мас, спрабуючы адцягнуць іх увагу ліберальнай балбатнёй аб абароне нібы „агульнанацыянальных“ інтарэсаў усяго беларускага народа. На справе яны здраджвалі яго кроўным інтарэсам на карысць царскага самадзяржаўя.

Пасля паражэння рэвалюцыі 1905 года яны стварылі свой уласны легальны орган друку, газету „Наша ніва“, якая адлюстроўвала інтарэсы беларускага кулацтва і буржуазіі. Праз гэту газету, якая прапаведвала нацыянальнае „адраджэнне“ Беларусі, „бяскласавасць“ беларускай нацыі, рэакцыйную ідэалізацыю мінулага, нацыяналісты спрабавалі ўздзейнічаць на творчасць такіх пісьменнікаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Максім Багдановіч і інш. у патрэбным ім кірунку.

Трэба сказаць, што, трапіўшы яшчэ ў 1907—1910 годзе ў акружэнне буржуазных нацыяналістаў, якія групаваліся вакол газеты „Наша ніва“, Купала, Колас і Бядуля пасля часта ў далейшым здавалі свае рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі і станавіліся на пункт гледжання нацыяналістаў. А к 1917 году нацыяналісты так аблыталі гэтых пісьменнікаў, што яны ў дні рашаючых баёў беларускага народа за сваю свабоду пайшлі не з народам, а з нацыяналістамі.

Купала, Колас і Бядуля не зразумелі значэння Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Не зразумелі яны і таго, што толькі пралетарская рэвалюцыя прынесла беларускаму народу сапраўдную свабоду, бо толькі яна ўпершыню за ўвесь час яго гістарычнага існавання, пасля многіх стагоддзяў прыгнечання і гвалту, дала гэтаму народу дзяржаўнасць.

Незразумеўшы гэтага, не разабраўшыся ў навакольных падзеях, яны не толькі асталіся абыякавымі да гераічных намаганняў беларускага народа адстаяць сваю незалежнасць, свае рэвалюцыйныя заваяванні ад нямецкіх і белапольскіх акупантаў, але нават у рашаючыя моманты гэтай барацьбы праявілі ў сваёй літаратурнай і грамадскай дзейнасці варожыя адносіны да савецкай улады і да партыі большэвікоў.

К Кастрычніку 1917 года беларускія буржуазныя нацыяналісты пераходзяць да актыўнай барацьбы супроць савецкай улады. Бела-

руская Соцыялістычная Грамада ператвараецца ў адкрытую контррэвалюцыйную банду здраднікаў народа, якія прадавалі яго дзе толькі можна было.

Шуміха вакол нацыянальнай „незалежнасці“, „абароны інтарэсаў нацыі“ была для іх толькі маскіроўкай, адным з тактычных прыёмаў барацьбы супроць рэвалюцыі.

У пошуках „гаспадара“ гэтыя здраднікі спрабавалі зноў падняволіць беларускі народ, пазбавіць яго правоў, заваяваных рэвалюцыяй. Вітаючы нямецкіх акупантаў, яны ў той-жа час па чарзе спрабавалі прадаць сваю радзіму капіталістам Францыі, Англіі, Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі.

Характэрна, што пасля лютаўскай рэвалюцыі, у перыяд Часовага Ўраду, беларускія контррэвалюцыйныя нацыяналісты і не думалі ставіць пытання аб аддзяленні Беларусі ад буржуазнай Расіі. У сваіх дэкларацыях беларускія нацыяналістычныя арганізацыі цалкам і безагаворачна падтрымлівалі Часовы Ўрад, не прад'яўляючы яму абсалютна ніякіх патрабаванняў. Яны неаднаразова і катэгарычна выказваліся за самае рашучае і энергічнае працягванне імперыялістычнай вайны, наўпярок інтарэсам і жаданням беларускага народа і не гледзячы на тое, што найбольш крывавыя падзеі сусветнай бойні разгортваліся непасрэдна на тэрыторыі Беларусі, падрываючы асновы яе народнай гаспадаркі, разараючы яе насельніцтва, падвяргаючы яго пакутам і жахам варожых акупацый і бежанства. Пра „незалежнасць“, пра „аддзяленне“ тады не было і гаворкі. Наадварот, у адной з пастаноў Беларускага Нацыянальнага Камітэта, у якім былі прадстаўлены ўсе буржуазна-нацыяналістычныя арганізацыі, зусім недвухсэнсоўна гаварылася пра тое, што Нацыянальны Камітэт будзе праводзіць сваю работу ў „цесным кантакце з Часовым ўрадам“. Такім чынам, пакуль у Расіі ўлада знаходзілася ў руках буржуазіі, беларускія нацыяналісты лічылі, што Беларусь павінна быць звязана з Расіяй. Толькі перад тварам пераможнай Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі да ўлады прыйшоў рабочы клас у саюзе з працоўным сялянствам, контррэвалюцыйныя здраднікі ўзнялі крык аб неабходнасці поўнага аддзялення Беларусі ад рэвалюцыйнай, савецкай Расіі, у якасці незалежнай буржуазнай рэспублікі.

Не спадзяючыся на ўласныя сілы, беларускія контррэвалюцыйныя нацыяналісты спехам шукаюць сабе іншаземных капіталістычных гаспадароў. Яны гатовы прадаць сваю радзіму і свой народ каму заўгодна і за што заўгодна, абы захаваць на Беларусі ўладу памешчыкаў, кулакоў і капіталістаў. Заклікаючы яшчэ нядаўна беларускі народ да ахвяр у імя вайны з „нямецкім мілітарызмам“, для „агульнай карысці Расіі“, нацыяналісты пачынаюць цяпер поўзаць перад акупантамі. Яны ўслаўляюць „культуртрэгерскую місію“ нямецкіх войск, поўзаюць на каленях перад салдацкім ботам Вільгельма. Варта было толькі рабочым і сялянам узняцца супроць улады памешчыкаў і капіталістаў, як „крывавы“, „рэакцыйны“ Вільгельм адразу ператвараецца для нацыяналістаў у жаданага „ратавальніка“.

У сваёй славутай вернападданніцкай тэлеграме на імя герман-

скага імператара, а таксама ў спецыяльным звароце да нямецкага ўрада, яны прасілі пасля Брэсцкага міру не выводзіць нямецкіх войск з Беларусі, аргументуючы свае просьбы „інтарэсамі германскай палітыкі на ўсходзе“ і сваім бяссіллем не дапусціць распаўсюджанне „рэволюцыйнай анархіі“.

Подлыя здраднікі радзімы ўсімі сіламі намагалісяператварыць Беларусь у калонію нямецкага імперыялізма. Між іншым, гэта не перашкаджала ім, употай ад нямецкіх улад, звярнуцца з аналагічнай просьбай адначасова і да „яго апостальскай вялікасці, імператара аўстра-венгерскай імперыі“, запэўняючы аўстрыйскі ўрад у тым, што нібы Беларусь заўсёды глядзела і глядзіць на Аўстрыю, як на вялікую славянскую імперыю, у якой „жыццё славян выяўляецца ў найбольш падыходзячай для іх форме...“

Прыслужваючы Германіі і яе саюзніцы Аўстрыі, але не будучы ўпэўненымі ў тым, як скончыцца вайна і жадаючы перастрахавацць сябе на выпадак магчымых непрыемнасцей, беларускія нацыяналісты ўступаюць у той-жа час у сакрэтныя перагаворы з Францыяй. Яны звяртаюцца да французскага камандвання ў Одэсе з просьбай прысланць у Беларусь „хоць бы ў невялікай колькасці французскія войскі“ і абяцаюць за аказаную дапамогу даць Францыі ў неабмежаванай колькасці салдат-беларусоў для барацьбы супроць... немцаў. Ад імя неіснуючай фактычна беларускай рэспублікі яны спрабуюць таксама ўстанавіць „сяброўскія“ і „саюзніцкія“ адносіны не толькі з петлюраўскай Украінай, з Літвой, Латвіяй і Фінляндыяй, але нават і з паўднёва-рускай белагвардзейшчынай у асобе не менш фіктыўнага ўраду „усевялікага войска Данскога“.

Прадаючы сваю радзіму капіталістам Францыі і Польшчы, контррэволюцыйныя нацыяналісты спрабавалі цішком ад іх знайсці сабе больш выгоднага гаспадара ў асобе Англіі і Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі. У адным з сакрэтных дакументаў Беларускай Рады сказана: „Беларусь не павінна аставацца ў сферы французскага ўплыву і павінна перайсці ў сферу ўплыву англійскага і амерыканскага“. Для іх не існавала ні Беларусі, ні беларускага народа. Быў толькі аб‘ект для выгоднага продажу, для подлых, здрадніцкіх здзелак за кошт кроўных інтарэсаў беларускіх працоўных мас.

„Беларусь—лес, пянька, скіпідар, запалкі, шкло, скуры, лён, масла, гусі, сена, бульба, спірт і цукар. Беларусь праглыне ў неабмежаванай колькасці машыны, сукны, маторы, электрычныя правады, лямпы, прыборы, інструменты, медыкаменты“,—пісалі здраднікі з Рады статс-сакратару па замежных справах Злучаных Штатаў, імкнучыся спакусіць амерыканскіх капіталістаў перспектывамі выгоднага для іх эканамічнага падняволення радзімы.

Трэба адзначыць, што ўсё гэта рабілася ўжо пасля таго, як Беларусь была абвешчана незалежнай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікай.

Калі Пілсудскі, выконваючы дырэктывы Антанты, павёў у 1919 годзе свае легіёны супроць беларускіх рабочых і сялян і захапіў сталіцу Беларусі Менск, ганебныя гандляры радзімай паспяшаліся наладзіць яму ўрачыстую сустрэчу. У асобе контррэволю-

цыйнага паэта і публіцыста „Нашай Нівы", які вітаў у Менску Пілсудскага ад імя „беларускай грамадскасці", беларускія буржуазныя нацыяналісты адкрыта засведчылі сваю адданасць інтарэсам польскага фашызма, агентурай якога яны з'яўляюцца і ў цяперашні час.

Прадажныя нацыяналістычныя газеткі „Звон", „Беларускае жыццё", якія выходзілі ў часе польскай акупацыі, выяўлялі лакейскую адданасць акупантам. З нумару ў нумар імкнуліся яны ашукаць працоўныя масы, апраўдваючы рабаўнічую акупацыю, расхвальваючы панскую Польшчу. Вакол гэтых газет, якія выдаваліся на сродкі дэфензівы, згрупавалася ўся зграя контррэволюцыйных нацыяналістаў, польскія шпіёны друкавалі тут свае шавіністычныя вершы.

На захопленай палякамі тэрыторыі штыхамі легіянераў былі гвалтоўна знішчаны ўсе заваёвы Кастрычніцкай рэволюцыі. Беларускі народ быў зноў падняволены польскімі панамі. Памешчыкі вярнуліся ў свае маёнткі, фабрыканты атрымалі свае фабрыкі.

Акупаваныя гарады былі на-палову разбураны і спалены. У вёсках лютавалі карныя атрады. Арганізоўваліся пагромы, распальвалася міжнацыянальная варожасць. А беларускія нацыяналістычныя пісакі ў сваіх подлых, прадажных газетках з скуры лезлі вон, імкнучыся абяліць і апраўдаць акупантаў, прыкрываючы рабункі і здзекі, спрабуючы даказаць „карысць" белапольскай акупацыі для „усіх братоў-беларусоў".

Нацыяналістычным здраднікам не ўдалося ашукаць беларускіх працоўных. Намаганні літаратурных лакеяў дэфензівы аказаліся дарэмнымі. На гвалты польскіх легіёнаў, на зварот паноў, на аднаўленне панскага прыгнёту, беларускі народ адказаў паўстаннямі. Спробы штучнага распальвання нацыянальнай варожасці выклікалі толькі яшчэ больш дружнае брацкае яднанне працоўных усіх нацыянальнасцей Беларусі ў барацьбе супроць белапольскіх акупантаў.

Гераічная Чырвоная Армія пры актыўным падтрыманні паўстаўшага беларускага народа ачысціла захопленыя тэрыторыі ад белапольскіх легіёнаў. Вызвалены Менск зноў робіцца сталіцай Совецкай Беларусі. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі беларускі народ аднаўляе сваю гаспадарку, зруйнаваную імперыялістычнай вайной і варожымі акупацыямі.

Контррэволюцыйныя нацыяналісты і тут не пакладаюць зброі. Большасць з іх, канчаткова скампраметаваная ў вачах беларускага народа сваёй сувяззю з панскай Польшчай, сваёй здрадніцкай дзейнасцю на карысць акупантаў, эвакуявалася разам з польскімі вайскамі, якія адступалі пад націскам Чырвонай Арміі і партызанскіх атрадаў. У цесным саюзе з крывавым белагвардзейскім бандытам Булак-Балаховічам спрабуе гэта група беларускіх нацыянал-фашыстаў арганізаваць пасля Рыжскага міру, па заданню польскага фашызма, новую інтэрвенцыю супроць Совецкай Беларусі, падрыхтоўваючы ўзброеныя кулацкія выступленні ў прымежных раёнах, перакідваючы на совецкую тэрыторыю банды дыверсантаў.

Другая частка нацыяналістаў, уступае ў мэтах маскіроўкі ў створаную па заданню дэфензівы так званую „Беларускую Комуністычную арганізацыю“, каб, астаўшыся на вызваленай тэрыторыі, прабрацца ў комуністычную партыю Беларусі і праводзіць у яе радах сваю шкодніцкую, дыверсанцкую работу.

Палітыка партыі і Совецкай улады, накіраваная на ліквідацыю эканамічнай і культурнай адсталасці беларускага народа, дала скора пасля таго, як былі выгнаны белапалякі, свае вынікі. Совецкая Беларусь уступае ў перыяд сапраўднага росквіту. Шырока разгортваецца культурнае будаўніцтва. Арганізуецца ўпершыню ў гісторыі Беларускі Дзяржаўны Тэатр. Ствараецца Дзяржаўнае Выдавецтва. У велізарнай колькасці друкуюцца кнігі на беларускай мове. Беларуская мова робіцца моваю дзяржаўнай. Умовы, створаныя на Беларусі соцыялістычнай рэволюцыяй, спрыяюць вылучэнню новых дзесяткаў і соцень талентаў з глыбінь народных мас. Пачынаецца інтэнсіўнае развіццё совецкай мастацкай літаратуры. Вырастаюць новыя кадры беларускіх пісьменнікаў. Маладыя паэты, дзеці рабочых і сялян апяваюць у сваіх творах, прасякнутых рэволюцыйным пафасам, гераічную барацьбу працоўных мас Беларусі супроць самадзяржаўя, супроць памешчыкаў і капіталістаў, супроць нямецкіх і польскіх акупантаў.

Перамога рэволюцыі ўдыхнула ў беларускую літаратуру новае жыццё, адкрыла перад ёю новыя перспектывы, пашырыла яе гарызонты, дала ёй новы кірунак. У песнях маладых беларускіх паэтаў загучэлі новыя мелодыі. Замест ранейшых традыцыйна-сумных, поўных тугі і роспачы матываў, з'яўляюцца новыя песні, поўныя ўпэўненасці і жыццесцвярджальнай сілы. У гэтых песнях гучыць смелы заклік да барацьбы з ворагамі народа, да будаўніцтва новага соцыялістычнага жыцця. Асаблівага развіцця дасягае ў тыя часы рэволюцыйная лірыка, прасякнутая гневам і нянавісцю да ворагаў беларускага народа—белапольскіх акупантаў.

У 1922 годзе ўпершыню пачынае друкавацца малады сатырык Кандрат Крапіва. У 1923 годзе выступае са сваімі вершамі паэт Паўлюк Трус. У 1924 годзе пачынае сваю творчую дзейнасць Кузьма Чорны. У 1926 годзе ўпершыню з'яўляюцца ў друку творы празаіка М. Лынькова і паэта П. Глебкі. Крыху пазней з'яўляецца ў літаратуры паэт П. Броўка, празаік Р. Мурашка і шмат іншых.

Маладыя кадры беларускай совецкай літаратуры растуць ва ўмовах напружанай барацьбы з падрыўной шкодніцкай дзейнасцю нацыяналістаў. Разбітыя ў адкрытых баях, выкрытыя перад працоўнымі масамі, ворагі беларускага народа змянілі сваю тактыку. Упэўніўшыся ў бескарыснасці далейшай узброенай барацьбы, яны робяць усе намаганні, каб прабрацца ў Совецкую Беларусь. У сваіх дэкларацыях яны заяўляюць аб адмаўленні ад барацьбы супроць совецкай улады, прызнаюць памылковасць сваіх дзеянняў, абяцаюць сумленна працаваць на карысць народа. Пры дапамозе сваёй агентуры ў радах комуністычнай партыі Беларусі яны прабіраюцца паступова ва ўсе галіны культуры і эканомікі БССР, разгортваючы падпольную, падрыўную дзейнасць на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва. Заклятыя ворагі народа

спрабуюць падарваць БССР знутры. Шляхам штучнага насаджвання кулацка-хутарской гаспадаркі яны імкнуцца накіраваць эканоміку БССР па шляху капіталістычнага развіцця. У галіне ідэалогіі, у навуцы, у літаратуры, мастацтве яны прапагандуюць тэорыю „бяскласавасці“ беларускай нацыі. Яны робяць стаўку на супроцьстаўленне беларускага народа ўсім астатнім брацкім народам СССР і у першую чаргу, вялікаму рускаму народу, падрыхтоўваючы ідэалагічную глебу для гвалтоўнага адрыву Беларусі пры дапамозе фашысцкай інтэрвенцыі ад Савецкага Саюза. Яны ідэалізуюць „старасветчыну“. Цяжкія часы далёкага гістарычнага мінулага, калі беларускі народ цягнуў ярмо прыгонніцтва пад уладаю польскіх і літоўскіх князёў, яны абвяшчалі „залатым векам“ беларускай гісторыі, супрацьставіўшы феадальную дзяржаўнасць Княства Літоўскага савецкай дзяржаўнасці БССР. У аддалёным і цяжкім мінулым беларускага народа шукалі яны гістарычных „абгрунтаванняў“ для ператварэння вольнай Савецкай Беларусі ў калонію польскага і германскага фашызма. Развіццё беларускай савецкай літаратуры, тэатра, выяўленчага мастацтва яны спрабавалі арыентаваць на буржуазную культуру капіталістычнага Захаду і ў першую чаргу, на культуру фашысцкай Германіі і Польшчы.

Імкнучыся скарыстаць беларускую савецкую літаратуру ў інтарэсах міжнароднага фашызма, буржуазныя нацыяналісты, шпіёны і правакатары замежных разведак спрабавалі штучна затрымаць яе рост і развіццё. Прапагандуючы рэакцыйныя ідэі „агульнанацыянальнай“ самабытнасці, абвяшчаючы культ „нацыянальнай душы“ абстрактнага, надкласавага беларуса, ворагі народа цалкам змыкаліся з расісцкімі „тэорыямі“ нямецкага фашызма. Пад выглядам „нацыянальнага рамантызма“, уласцівага нібыта славутай „душы беларуса“, яны спрабавалі прышчапіць беларускай савецкай літаратуры ярка выражаныя тэндэнцыі ўпадніцкага буржуазнаэстэцкага фармалізма, нацыянальнай экзотыкі і стылізатарства.

У мэтах большай канспірацыі і маскіроўкі нацыяналістычныя дыверсанты ў літаратуры стваралі знешнюю бачнасць „прынцыповых“ творчых рознагалоссяў у сваім асяроддзі. Яны стварылі некалькі асобных літаратурных арганізацый, праводзячы ў іх аднолькава падрыўную контррэвалюцыйную работу. Гэта была тактычная расстаноўка сіл, размеркаванне роляў, якое давала магчымасць нацыяналістычным шкоднікам ахапіць сваім разлагаючым уплывам розныя групы літаратараў.

Па ініцыятыве ідэолагаў беларускага нацыянал фашызма, было створана ў 1923 годзе літаратурнае аб'яднанне „Маладняк“, у мэтах папярэдняй контррэвалюцыйнай апрацоўкі літаратурнай моладзі. На чале гэтай арганізацыі быў пастаўлен былы супрацоўнік контррэвалюцыйнага „Звона“, польскі шпіён.

Узначальваючы „Маладняк“, ён сістэматычна праводзіў нацыяналістычную апрацоўку маладых літаратараў, вярбуючы сярод іх новыя кадры для контррэвалюцыйнай работы.

У мэтах далейшага пашырэння сферы сваей дзейнасці ў літаратуры, нацыяналісты ствараюць у 1927 г. новую літаратурную арганізацыю—„Узвышша“. Ва „Узвышша“ была вылучана група пісь-

меннікаў, якія прайшлі першапачатковую шавіністычную апрацоўку ў „Маладняку". У процілегласць „Маладняку", які праводзіў нацыяналістычную лінію больш або менш замаскавана, прыкрываючыся „камсамольскай" шыльдай, „Узвышша" ў сваіх дэкларацыях заяўляла пра тое, што яно будзе праводзіць сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам нацыянал-фашысцкай агентуры, якая прабралася ў рады кампартыі. На старонках „Узвышша" друкаваліся адкрыта контррэвалюцыйныя творы. Сваімі хлуслівымі лозунгамі барацьбы за „сапраўднае мастацтва", за „мастацтва, якое пабачаць вякі і народы", контррэвалюцыйныя кіраўнікі „Узвышша", непасрэдна звязаныя з падпольнай нацыяналістычнай арганізацыяй, ашуканчым шляхам прыцягвалі ў свае рады асобных здольных, але палітычна недастаткова ўстойлівых, падвержаных нацыяналістычным хістанням пісьменнікаў. Так, апрача, З. Бядулі ім удалося ўцягнуць у сваё аб'яднанне К. Крапіву, К. Чорнага, П. Глебку.

У мэтах адпаведнай апрацоўкі пісьменнікаў старэйшага пакалення контррэвалюцыйнымі нацыяналістамі было створана ў 1928 годзе літаратурнае аб'яднанне „Полымя". Сюды-ж увайшлі, пакончыўшы з сваімі функцыямі ў „Маладняку", яго ранейшыя арганізатары і кіраўнікі, разам з Александровічам.

Дэзарыентуючы, як і „Узвышша" сваімі дэкларацыямі асобных сумленных савецкіх пісьменнікаў, якія паддаліся на вонкавую „саліднасць" аб'яднання, нацыяналісты з „Полымя", прыкрываючыся літаратурнымі імёнамі Купалы і Коласа, якія ўвайшлі ў аб'яднанне, і, скарыстоўваючы іх нацыяналістычныя заблуджэнні праводзілі тут такую-ж падрыўную здрадніцкую работу, як і нацыяналісты ва „Узвышшы", у „Маладняку" і ў „Літаратурна мастацкай камуне". Усе гэтыя літаратурныя арганізацыі з'яўляліся ў аднолькавай ступені больш або менш замаскаванымі ячэйкамі нацыяналістычнай контррэвалюцыі.

Звонку „Маладняк" і „Узвышша" здаваліся арганізацыямі рэзка супроцьлеглага характару і кірунку. Па сутнасці-ж, фактычнымі, хоць і не афіцыйнымі кіраўнікамі, як „Маладняка", так і „Узвышша" і ў далейшым „Полымя" на ўсім працягу іх існавання асталіся, не глядзячы на ўяўнае вонкавае адрозненне ў творчых прынцыпах і кірунку гэтых арганізацый, адны і тыя-ж асобы—агенты польскага фашызма.

Імкнучыся прыбраць к рукам кіраўніцтва савецкай літаратурай, фашысцкі шпіён даваў непасрэдныя заказы асобным пісьменнікам. Так з'явілася, напрыклад, сатырычная паэма А. Александровіча „Цені на сонцы", у якой адна група нацыянал-фашыстаў зводзіла разлікі з другой групай, менш дзейнай і рашучай у сваёй падрыўной рабоце.

Па ўсіх астатніх пытаннях барацьбы з социялістычнымі ўплывамі ў беларускай літаратуры і мастацтве, усе групоўкі нацыяналістаў выступалі нязменна адным фронтам.

Пад уплывам нацыяналістаў прадстаўнікі старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў—Янка Купала і Якуб Колас у „Полымі", Змітрок Бядуля ва „Узвышшы", працягвалі жыць сваімі нацыяналістычнымі ілюзіямі і на гэтым этапе барацьбы беларускага народа.

Усё яшчэ не разумеючы гістарычнага значэння падзей, якія разгортваліся навокал, яны працягвалі марыць пра нацыяналістычную самастойнасць Беларусі, не заўважаючы вялікіх поспехаў, у гаспадарчым і культурным аднаўленні краіны, дасягнутых пры савецкай уладзе. Яны ўсе яшчэ заставаліся ў палоне ідэалогіі „адраджанізма" і займалі хісткія пазіцыі, зрэдку толькі ствараючы творы, сугучныя савецкай рэчаіснасці. Нацыяналістычныя блуканні Купалы, Коласа і Бядулі працягваюцца на працягу ўсяго аднаўленчага перыяду. Спыняюцца яны канчаткова толькі пасля выкрыцця і разгрому контррэвалюцыйных арганізацый беларускіх буржуазных нацыяналістаў.

К канцу аднаўленчага перыяду ў 1927-28 г. робяцца больш частымі адкрытыя выпады нацыяналістаў у друку. Адным з пастаянных рупараў для адкрытых контррэвалюцыйных вылазак з'яўлялася газета „Савецкая Беларусь". Праз гэту газету прапагандавалася насаджванне кулацкіх хутароў. На старонках гэтай газеты было ў 1927 г. апублікавана контррэвалюцыйнае пісьмо за подпісамі былых міністраў буржуазнай нацыяналістычнай рады, а таксама Александровіча, з наглымі шавіністычнымі выпадамі супроць партыйнага друку і савецкай крытыкі. Палажэнні, высунутыя ў гэтым пісьме, былі падрабязна разгорнуты пасля, таксама на старонках „Савецкай Беларусі", ў радзе асобных артыкулаў, напісаных аўтарамі пісьма ў абарону буржуазных нацыяналістаў, якія выбралі арэнай сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасці беларускі савецкі тэатр.

Сустрэўшы рашучы адпор з боку савецкай грамадскасці, нацыяналісты часова змаўкаюць, каб зноў арганізавана выступіць у 1928 г. Повадам для чарговай контррэвалюцыйнай вылазкі паслужыла пастаноўка п'есы „Бронепоезд" В. Іванова на сцэне 1-га беларускага дзяржаўнага тэатра. Гэта пастаноўка выклікае жорсткую дыскусію. Нацыяналісты выступаюць на старонках „Савецкай Беларусі" з выключнымі па сваёй нахабнасці артыкуламі, у якіх пратэстуюць супроць пастаноўкі на беларускай сцэне перакладной п'есы.

Здзекваючыся над творамі рускай савецкай драматургіі, яны патрабуюць пастаноўкі на беларускай сцэне выключна твораў нацыяналістычнай драматургіі, або, у крайнім выпадку, перакладных п'ес заходне-еўрапейскага рэпертуара. Адначасова тыя-ж патрабаванні „арыентацыі на захад" высунуты былі і перад беларускай кінематаграфіяй на старонках усё той-жа „Савецкай Беларусі".

Тэатральная дыскусія 1928 г. была адной з шматлікіх спроб адкрытага выступлення нацыяналістаў па пытаннях развіцця беларускай савецкай літаратуры і мастацтва. Гэта была спроба затрымаць далейшы рост сацыялістычных элементаў беларускай культуры, спроба адкрытай мабілізацыі сіл нацыяналістычнай контррэвалюцыі ў літаратуры.

Варожыя выступленні, якія выклікалі тэатральную дыскусію, супалі з агульнай актывізацыяй нацыянал-фашысцкіх элементаў у БССР.

Амаль у той-жа час у „Совецкай Беларусі“ друкуецца другое контррэволюцыйнае, дэманстрацыйнае пісьмо Александровіча, і інш., якое выклікала ўсеагульнае абурэнне і рашучы адпор з боку партыі і совецкай грамадскасці. У той-жа газеце з'яўляецца рад нарысаў, у якіх закляты вораг беларускага народа асмельваўся супроцьставіць капіталістычную Германію Совецкаму Саюзу.

Усе гэтыя наглыя вылазкі буржуазных нацыяналістаў сустракалі рашучы адпор з боку совецкай грамадскасці, з боку ўсіх сумленных совецкіх пісьменнікаў.

У 1929-30 г. была выкрыта і разгромлена контррэволюцыйная арганізацыя беларускіх нацыяналістаў. Совецкая грамадскасць вяла пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі паслядоўную барацьбу з нацыяналістамі ў літаратуры. Контррэволюцыйныя нацыяналістычныя ячэйкі ў „Полымі“, „Узвышшы“ і іншых арганізацыях былі разгромлены ідэйна і арганізацыйна.

У гэтай барацьбе выраслі і загартаваліся асноўныя кадры беларускай совецкай літаратуры. У працэсе гэтай барацьбы вызваляліся ад нацыяналістычнага дурману і прадстаўнікі тых беларускіх пісьменнікаў, якія займалі спачатку хісткія пазіцыі.

Янка Купала і Якуб Колас, а таксама пісьменнікі, што знаходзіліся пад уздзеяннем варожага літаратурнага аб'яднання „Узвышша“,—Бядуля, Чорны, Крапіва, Глебка, у працэсе абвастраючайся барацьбы з нацыянал-фашыстамі і пад уплывам выдатных гаспадарчых і культурных поспехаў Совецкай Беларусі, пачынаюць настойліва і паслядоўна перамагаць свае нацыяналістычныя заблуджэнні. Яны актыўна ўключаюцца ў барацьбу супроць ворагаў народа, буржуазных нацыяналістаў. Значныя прынцыповыя змены адбываюцца ў творчасці гэтых пісьменнікаў. Тэмы совецкай рэчаіснасці—барацьба супроць кулака на вёсцы, індустрыялізацыя краіны, рост калектывізацыі ў сельскай гаспадарцы, фармаванне новага чалавека становяцца ў іх творчасці пераважаючымі.

Янка Купала піша вершы „Сыходзіш вёска з яснай явы“ і „Дыктатура працы“, Якуб Колас дае цыкл вершаў „Калгаснае“. Чорны выступае з аповесцю „Вясна“, у якой выкрывае подлую эксплаататарскую сутнасць кулацтва. Бядуля піша рад апавяданняў пра калектывізацыю.

Маладыя совецкія пісьменнікі— М. Лынькоў, які незадоўга перад гэтым даў чытачу аповесць „Апошні зверыядавец“, на тэму пра класавую пільнасць, і рад апавяданняў з эпохі грамадзянскай вайны, П. Броўка, які напісаў рад рэволюцыйных вершаў пра Чырвоную Армію і пра соцыялістычнае будаўніцтва, Р. Мурашка і інш., разам з пісьменнікамі, якія перамаглі свае нацыяналістычныя хістанні, уключаюцца ў актыўную барацьбу, якую вядзе партыя і совецкая грамадскасць супроць контррэволюцыйных нацыяналістаў. Яны дапамагаюць выкрываць нацыяналістаў, як ворагаў беларускага народа, зрываючы маскі з іх твораў і варожых „тэорый“.

Гэта была барацьба за стварэнне сапраўднай совецкай літаратуры. У гэтай барацьбе нацыяналісты былі разбіты, але вораг не быў знішчаны да канца.

Ад больш ці менш адкрытай прапаганды сваіх поглядаў вораг. вымушаны былі перайсці да старанна замаскаваных форм барацьбы. Пасля разгрому нацыяналістычнай контррэволюцыі ў 1929—30 г. яе агентура ў літаратуры пайшла ў падполле. Праз некаторы час, атрымаўшы падмацаванне з-за мяжы, у асобе цэлага раду здраднікаў і правакатараў, якія праніклі ў БССР з Заходняй Беларусі пад выглядам палітэмігрантаў, контррэволюцыйныя нацыяналісты зноў шырока разгарнулі сваю гнусную падрыўную работу, накіраваную да адрыву Беларусі ад Савецкага Саюза. Заварушыліся і прытаіўшыяся да часу нацыяналісты ў літаратуры, працягваючы сваю шкодніцкую дзейнасць у радах БелАПП і ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў, скарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах палітычную слепату і бяспечнасць кіраўніцтва, групаўшчыну і заціск самакрытыкі, якія панавалі ў літаратурных арганізацыях.

Беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменнікаў, якая адыграла на пэўным этапе безумоўна дадатную ролю ў аб'яднанні маладых кадраў літаратараў у змаганні з нацыяналістамі, пазней, з прычын дзейнасці ворагаў народа, трацкістаў і замаскаваных двурушнікаў нацыяналістаў, якія пралезлі ў кіраўніцтва гэтай арганізацыі, на працягу некалькіх год дэзарыентавала савецкіх пісьменнікаў. Яна культывавала лявацкае вульгарызатарства, заціск самакрытыкі і беспрынцыповае наклейванне ярлыкоў, арганізуючы цкаванне лепшых савецкіх пісьменнікаў БССР, і ствараючы гэтым спрыяючую глебу для падрыўной дзейнасці нацыяналістаў. Вульгарныя трацкісцкія соцыолагі, адмаўлялі культурную спадчыну, спрабавалі прымусіць беларускіх пісьменнікаў адмовіцца ад удумлівай работы над стварэннем вялікіх мастацка-поўнацэнных рэалістычных твораў, навязваючы ім скараспелыя, безжыццёвыя, пазбаўленыя рэальнага зместу, схемы.

Агенты фашызма, шпіёны і дыверсанты, нацыяналісты і трацкісты, блакіруючыся ў сваёй падрыўной барацьбе супроць савецкай улады, шырока скарысталі абстаноўку, створаную ў літаратуры белаппаўскім кіраўніцтвам.

У ліквідацыі таго становішча, якое стварылася на літаратурным фронце БССР, мела велізарнае значэнне гістарычная пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. пра роспуск РАПП і перабудову літаратурных арганізацый. Распусціўшы раздробненыя пісьменніцкія арганізацыі і стварыўшы агульны для ўсіх літаратараў саюз савецкіх пісьменнікаў, гэта пастанова выклікала кансалідацыю лепшых сіл беларускай савецкай літаратуры вакол лініі партыі, вакол прынцыпаў соцыялістычнага рэалізма, вакол барацьбы за высокую ідэйна-мастацкую якасць літаратурных твораў. Гэта рашэнне аб'яднала вакол комуністычнай партыі ўсіх пісьменнікаў, якія стаяць на платформе савецкай улады і прымаюць удзел у будаўніцтве соцыялізма.

Аграмадную ролю ў аб'яднанні савецкіх пісьменнікаў БССР вакол комуністычнай партыі, у паспяховым перамаганні нацыяналістычных хістанняў, уласцівых некаторым з іх у ранейшы час, адыграў і Першы Усесаюзны З'езд савецкіх пісьменнікаў у жніўні

1934 г., які адбываўся пад непасрэдным кіраўніцтвам Аляксея Максімавіча Горкага. З'езд завяршыў працэс аб'яднання ўсіх літаратур Савецкага Саюза ў адзіную, магутную, шматмоўную усесаюзную літаратуру. На гэтым з'ездзе беларуская савецкая літаратура была ўпершыню прадстаўлена, як адзіная арганізаваная сіла, якая служыць інтарэсам сацыялістычнага будаўніцтва.

Творчаму ўздыму беларускай савецкай літаратуры і ачыстцы яе ад нацыяналістычных, варожых уплываў не мала спрыяў і разгром органамі савецкай улады банды нацыяналістычных дыверсантаў, шпіёнаў і шкоднікаў.

У жорсткай барацьбе з ворагамі народа, з контррэвалюцыйнымі буржуазнымі нацыяналістамі, з трацкістамі і бухарынцамі ўзмацнілася і вырасла беларуская савецкая літаратура.

У працэсе гэтай барацьбы яна вышла пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі на шырокія прасторы сапраўднага майстэрства.

Нароўні з асваеннем лепшых прагрэсіўна-дэмакратычных элементаў у творчасці дарэвалюцыйных беларускіх пісьменнікаў—у першую чаргу народных паэтаў БССР Янкі Купалы і Якуба Коласа, беларуская савецкая літаратура карыстаецца ў сваім творчым росце лепшымі ўзорамі сусветнай і, асабліва, рускай літаратурнай класікі. На творах найвялікшых прадстаўнікоў рускай культуры—Пушкіна, Гогаля, Талстога, Горкага і Маякоўскага—вучыліся і вучацца пісьменнікі Савецкай Беларусі. Невычарпальнай крыніцай вучобы з'яўляецца для іх і вусная творчасць беларускага народа.

Беларускі савецкі фальклор, багаты песнямі і казкамі пра Леніна і Сталіна, Варашылава і Будзённага, пра непераможную Чырвоную Армію, пра радасць новага жыцця і пра барацьбу з ворагамі, дае савецкім пісьменнікам прыклад глыбокага асэнсавання тэмы.

У песнях „Дарожанька", „Сталін родны бацька наш", у казках „Асілкі", „Чалавек—сонца", з вялікай шчырасцю і лірычнай цяплынёй малююцца вобразы незгінаных асілкаў, Леніна і Сталіна, якія далі народу шчасце.

Смелымі і моцнымі фарбамі малюе народная казка вобраз таварыша Сталіна ў дзень смерці вялікага настаўніка і правадыра працоўных Леніна:

„Тады узышоў чалавек ясна-заранька,—вяліканаў спутнік, ваявода ў даўгім шынялі на высокую веранду грабніцы, і шырокай кісцю залатымі літарамі напісаў на ёй вялікае слова: „Ленін!"

Вусная народная творчасць, як дарэвалюцыйная, так і савецкая, што расце на нашых вачах, з'яўляецца для беларускай савецкай літаратуры найбагацейшай і невычарпальнай крыніцай для вучобы і творчага асваення.

Літаратура Савецкай Беларусі расце ў шчыльнай і непарыўнай дружбе з усімі брацкімі нацыянальнымі літаратурамі Савецкага Саюза. Яна робіцца актыўнай і магутнай сілай беларускага народа ў яго барацьбе за соцыялізм.

## IV

Такім чынам мы бачым, што беларуская совецкая літаратура прайшла за дваццаць год совецкай улады вялікі і складаны шлях барацьбы і развіцця. З многімі ворагамі з лагера нацыяналістаў-контррэволюцыянераў давялося ёй змагацца.

Многія раздутыя нацыянал-фашыстамі аўтарытэты давялося ёй апракінуць. Хто-ніхто з літаратараў не вытрымаў пробы 20 гадовай гісторыі і аказаўся за бартом совецкай літаратуры. Другія якасна не змаглі задаволіць хутка растучыя патрабаванні нашага шматмільённага народа і таксама аказаліся па-за літаратурай.

Аглядваючы цяпер увесь 20 гадовы шлях развіцця нашай літаратуры, мы можам сказаць і кажам адно:

Складаная барацьба, адсяканне і выкідванне непатрэбнага, гнілога, не толькі не аслабіла, але наадварот узмацніла нашу літаратуру і да XX гадавіны Вялікай Пролетарскай рэволюцыі яна прыходзіць магутнай і адзінай у сваім большэвіцкім комуністычным мэтаімкненні.

Многія з пісьменнікаў, якія складаюць цяпер цвет і гордасць нашай літаратуры, памыляліся ў свой час, хісталіся паміж нацыяналізмам і комунізмам і пайшлі за комунізмам, за совецкаю ўладаю і тым самым выратавалі сваю творчасць ад выраджэння, ад пагібелі.

У гэтым сэнсе вялікае значэнне для развіцця нашай літаратуры мела планамернае, штодзённае кіраўніцтва ёю з боку комуністычнай партыі.

Совецкія пісьменнікі адчулі велізарную ўвагу да іх творчасці з боку партыі, ураду і асабіста геніяльнага правадыра таварыша Сталіна. Таварыш Сталін, працягваючы вялікія традыцыі класікаў марксізма Маркса—Энгельса—Леніна аддае выключную ўвагу развіццю мастацкай літаратуры. Ён высока ацаніў совецкага пісьменніка, назваўшы яго „інжынерам чалавечых душ“. Таварыш Сталін сфармуляваў творчы метад совецкай літаратуры, як метад соцыялістычнага рэалізма. Таварыш Сталін, падобна Леніну, быў у вялікай гарачай дружбе з вялікім пролетарскім пісьменнікам Алексеем Максімавічам Горкім.

Сіла сучаснай беларускай совецкай літаратуры, таксама як і ўсей літаратуры Совецкага Саюза, у яе бязмежнай адданасці вялікай справе Леніна—Сталіна, у беззаветнай вернасці прынцыпам пролетарскага інтэрнацыяналізма, у глыбокай народнасці твораў, прастаце і глыбіні мастацкіх абагульненняў.

Гэта, у сваю чаргу, ёсць вынік таго, што пераважная большасць нашых пісьменнікаў з'яўляюцца плоць ад плоці, косць ад касці, дзецьмі працоўнага народа.

Яны самі ў мінулым жылі ў беднасці, у нястачы, зведалі жахі царскага самаўладства і нямецкага і белапольскага панавання. Некаторыя з іх змагаліся ў радах Чырвонай арміі супроць ворагаў совецкай улады. Сёння яны бачаць раней прыгнечаны беларускі народ адроджаным і радасным.

Сын беднага арандатара Янка Купала і сын лясніка Якуб Колас з дзяцінства бачылі прыгнёт, голад і холад, крыўды. Яны ве-

далі свой народ заціснутым і замучаным царом памешчыкамі і капіталістамі, польскімі панамі. Кожны іх верш расцэньваўся царскімі апрычнікамі, як падпольная праклямацыя. Ні школ, ні тэатраў, ні кніг на роднай мове не было. І вось яны дажылі да радасных дзён, калі пры савецкай уладзе Беларусь упершыню за ўсё сваё гістарычнае існаванне атрымала сваю дзяржаўнасць Дзесяткі тысяч школ на роднай мове, тэатры, універсітэты, мільённыя тыражы кніг— вось рэзультат здзейснення нацыянальнай палітыкі Леніна—Сталіна.

І Янка Купала, і Якуб Колас пры савецкай уладзе па-сапраўднаму адчулі сваю блізасць да народа, да яго дум і чаканняў і іменна гэта дапамагло ім стварыць рад выключных мастацкіх твораў.

Сын вясковага яўрэйскага балагола Самуіл Плаўнік (З. Бядуля) зведаў то-ж самае, што Купала і Колас. Да гэтага трэба яшчэ дадаць праклятую „рысу аседласці", і жах яўрэйскіх пагромаў. Дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі, Змітрок Бядуля, які перамог у далейшым свае нацыяналістычныя хістанні, стаў у рады лепшых майстроў беларускага мастацкага слова, што аддаюць свой талент народу, працуючы на карысць соцыялізма.

А паглядзіце на нашых пісьменнікаў, што выраслі пасля Кастрычніцкай рэволюцыі. Хто яны, дзе яны загартоўваліся, раслі, вучыліся?

Сын чыгуначнага рабочага Міхась Лынькоў і выхадзец з сялянства Кандрат Крапіва і Р. Мурашка гартаваліся ў радах Чырвонай арміі, у баявых абставінах.

Пятрусь Броўка, Эдуард Самуйлёнак, П. Глебка свядомае сваё жыццё пачалі ў грамадскай рабоце, у вёсцы пры савецкай уладзе. Аркадзь Куляшоў, Агняцвет пачалі з піонерскага атрада і прышлі ў літаратуру праз комсамол.

Кузьму Чорнага выхоўвала савецкая прэса.

Гэты шлях характэрны бадай для ўсіх сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Пяройдзем да характарыстыкі творчых поспехаў беларускай савецкай літаратуры ў галіне паэзіі белетрыстыкі і драматургіі ў паасобку.

Якімі творамі характарызуюцца поспехі беларускай савецкай літаратуры?

У галіне паэзіі мы маем значны твор „Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну", пераказанае вершам групай паэтаў, „12 песень пра Чырвоную армію", а таксама надзвычайную лірыку Янкі Купалы, вершы Якуба Коласа, паэму П. Броўкі „1914", вершы „Праз горы і стэп", „Палессе", паэму П. Глебкі „Мужнасць", А. Куляшова „Васіль Баранаў", Э. Агняцвет „Дзержынскі".

У мастацкай прозе: раман Я. Коласа „Дрыгва", З. Бядулі „Салавей", апавяданні М. Лынькова, раман К. Чорнага „Бацькаўшчына" і „Трэцяе пакаленне", апавяданне і аповесць „Тэорыя Каленбрун" Э. Самуйлёнка, раман „Сын" Р. Мурашкі і „Большэвікі граніцы" І. Шапавалава, апавяданні Ю. Віцьбіча.

У драматургіі: „Партызаны" К. Крапівы, і „Кацярына Жарнасек" М. Клімковіча, а таксама п'есы нашых празаікаў, напісаныя па ўпамянутых вышэй раманах, якія аднак стаяць у мастацкіх адносінах вышэй за гэтыя раманы—Я. Коласа „У пушчах Палесся" (па

раману „Дрыгва"), З. Бядулі „Салавей", К. Чорнага „Бацькаўшчына" і Э. Самуйлінка „Сержант Дроб" (па аповесці „Тэорыя Каленбрун").

У галіне дзіцячай літаратуры значную з'яву становіць сабой аповесць „Пра храбрага ваяку Мішку" і „Міколка-паравоз" М. Лынькова.

Паэт Пятрусь Броўка зрабіў вельмі ўдалую спробу стварэння лібрэта для першай беларускай оперы.

У чым прычына поспехаў беларускай совецкай паэзіі за апошнія некалькі год? Прычыны гэтыя, як нам здаецца, хаваюцца ў тым, што лепшыя прадстаўнікі нашай паэзіі побач з вучобай у майстроў класічнай паэзіі ў першую чаргу ў Пушкіна, а таксама ў „лепшага таленавіцейшага паэта нашай совецкай эпохі" В. Маякоўскага бліжэй падышлі да вывучэння і асваення найбагацейшай песеннай спадчыны вуснай народнай паэзіі. Іменна народная творчасць—уліла новыя рытмы, вобразы, параўнанні ў нашу лірыку. Дзякуючы скарыстанню беларускай народнай песні—вершы нашых паэтаў набылі рад новых, раней нябачаных магчымасцей. Глыбокая песеннасць, многастайнасць рытмічных ходаў, народныя параўнанні, прастата і лаканічнасць мовы—усё гэта не без карысці было ўзята паэтамі ў народнай творчасці.

Ярчэй за ўсё гэта сказалася ў лірыцы Янкі Купалы. Але калі мы возьмем такі твор як „Пісьмо беларускага народа таварышу Сталіну", то і тут найбольш моцныя строфы напісаны ў духу народнай паэзіі. „Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну" ёсць вынік работы групы паэтаў. Гэты твор меў спецыфічныя задачы. Ён павінен быў у вершах расказаць тое, пра што гаворыць беларускі народ: пра яго шчаслівае заможнае жыццё, пра яго надзвычайных людзей—стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, пра магутную Чырвоную армію, пра пільную ахову межаў, пра незлічоныя прыродныя багацці Совецкай Беларусі, пра хараство яе пейзажаў. Нарэшце, пісьмо павінна было з асаблівай сілай і хваляваннем выказаць бязмежную любоў беларускага народа да свайго правадыра настаўніка і бацькі—да таварыша Сталіна.

Аўтары пісьма, у ліку якіх мы бачым такіх майстроў, як Купала і Колас, справіліся з гэтай складанай задачай. Яны перадалі ў паэтычнай форме думы і настроі беларускага народа.

Аўтары пісьма знайшлі патрэбны рытм, патрэбны тэмп расказа, таму пералічэнне норм стаханаўскай выпрацоўкі, рыфмаваны пераказ працы лепшых людзей Беларусі ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, жывёлагадоўлі гучыць як паэзія.

Асабліва паэтычна-поўнакроўнымі з'яўляюцца строфы, у якіх расказваецца пра заможнае жыццё нашага народа, пра багацці нашай краіны:

Разліліся ляны ў полі возерам сінім
Ячменямі красуюць, шумяць балаты
Каласамі густымі наўсцяж па краіне
Узрастаюць пшаніцы, аўсы і жыты.

Спеюць поўныя соку купчастыя грэчкі,
Па садах палымнее вішнёвы пажар.
Як далёка яны—дні тугі і галечы,
Пра якія спяваў не адзін наш гусляр.

І ў апошнім ліку, поспехам „Пісьма“ аўтары яго абавязаны народнай паэзіі. Калі трэба было выказаць бязмежную любоў беларускага народа да вялікага Сталіна—нашы паэты звярнуліся да народнай творчасці, там яны знайшлі гэтыя простыя і мужныя, задушэўныя словы, якімі канчаецца „Пісьмо“:

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк паўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц - дарагі правадыр!
Праз тры рэвалюцыі, бітвы, паўстанні
Ты вёў разам з Ленінам нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна—дарагі правадыр.
Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

„Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну“—гэта вялікі поспех беларускай савецкай паэзіі. Яно з'яўляецца адным з найлюбімейшых паэтычных твораў народных мас Беларусі.

Некалькі ў іншым плане быў напісаны другі буйны паэтычны твор „12 песень аб нашай непераможнай Чырвонай арміі, пра яе творцу і натхніцеля вялікага Сталіна, яе палкаводца Клімента Варашылава“.

Сюды ўвайшлі даволі вядомыя песні нашых выдатных паэтаў, а таксама рад новых рэчаў. У гэтым творы паэты, што раней працавалі над „Пісьмом вялікаму Сталіну“, яшчэ бліжэй сталі да народнай паэзіі і гэта акрэсліла каларыт і характар амаль усіх песень. У іх народны песенны лад, народныя параўнанні, простая, нештучная мова. Амаль ва ўсіх песнях, і ў прыватнасці, у лепшых з іх, „Белапольскія уланы“, „За ракою, за Луганкай“—пераважаюць народныя таны, народныя фарбы:

Заспявала калыханку,
Як збіраўся рад у рад
За ракою, за Луганкай,
Варашылаўскі атрад.

Выцiралі ўпотай слёзы
Непаслушныя жанкі.
Камандзір—луганскі слёсар
Аглядаў браневікі.

Беларускія загоны,
Не забудуцца яны,
Як ад конніцы чырвонай
Беглі польскія паны.

Фальклорная прастата і пераканаўчасць знайшлі адлюстраванне ў вершы Купалы „Як прыехаў сын у госці“, уключаным у гэты твор. Якім велічным, простым, чалавечным паўстае перад намі наш бясстрашны маршал Варашылаў у гэтым вершы. Зразумела, што

толькі выходзячы з народный паэзіі, Купала здолеў накідаць такімі смелымі і яркімі фарбамі вобраз правадыра Чырвонай арміі:

Конь пад ім, прост вярнігора.
А як скача, як гарцуе!
Ён вачыма лічыць зоры,
Ён вушамі вайну чуе.

Вайну чуе, броў не хмура,
Толькі бліскаюць падкоўкі,
Бо яздок на ім, што бура.
З віхрам пойдзе ў перагонкі!

У міжбур'е з ім жыць міла,
Лёгка-ж будзе і ў паходзе.
Во, які наш Варашылаў,
Во які, наш палкаводзец!

„12 песень пра Чырвоную армію" малююць барацьбу беларускага народа супроць нямецкіх і белапольскіх акупантаў, паказваюць зверствы белапалякаў, адвагу нашых байцоў, барацьбу супроць паноў пад кіраўніцтвам Варашылава, Орджанікідзе і Будзённага. У песнях расказваецца пра мужнасць нашых пагранічнікаў, пра яднанне народа з Чырвонай арміяй.

Поспех „12 песень" ёсць пацвярджэнне правільнасці імкнення нашых лепшых паэтаў скарыстоўваць найбагацейшую скарбніцу беларускай народнай паэзіі. Гэтаму вучыць нашу паэтычную моладзь і старэйшы наш паэт, выдатны майстар верша, народны паэт рэспублікі Янка Купала.

Творчасць Янкі Купалы грунтуецца на народнай паэзіі. Да рэвалюцыі яна, як мы бачылі, апявала нядолю беларускага народа, выражала яго гнеў і нянавісць супроць тыраніі царызма і паноў. У дні соцыялістычнага будаўніцтва Купала, пакончыўшы з сваімі хістаннямі і нацыяналістычнымі ілюзіямі, рэзка паварачвае ў бок соцыялізма і назаўсёды звязвае свой лёс з лёсам сваёй радзімы. Купала пачынае ўважліва і дапытліва прыглядацца да новага жыцця, да новых людзей, да савецкай моладзі і стварае рад надзвычайных вершаў і песень пра савецкую рэчаіснасць. Тут трэба назваць лепшыя вершы Купалы савецкага перыяда, якія зрабілі яго імя папулярнейшым у нашым народзе. Гэта „Дзве сястры", „Арлянятам", „Сыходзіш вёска з яснай явы", „Дыктатура працы", „Праважала маці сына", „Сыны", „Як прыехаў сын у госці", „Хлопчык і лётчык", „Лён", „Госці", паэма „Над ракою Арэсай" і вялікі верш „Табе, правадыр".

Сіла і абаяльнасць лірыкі Янкі Купалы ў яе вялікай шчырасці, праўдзівасці, у тым, што Купала выказвае ў ёй не толькі свае пачуцці, але пачуцці народа, у тым, што ён чутка падслухаў і трапна выказаў настроі патрыётаў сваёй радзімы. Вершы Купалы натхнёны пачуццямі, якімі жыве народ. Купала выражае яго радасць і гора, яго ўздым і гатоўнасць абараняць радзіму. Сіла паслярэвалюцыйнай лірыкі Янкі Купалы ў глыбокай прастаце яго твораў, у народнасці мовы, у песеннасці.

Прастата Янкі Купалы, якая здаецца многім фармалістычным шчалкапёрам прымітыўнай, на самай справе ёсць складаная црастата, прастата, што ідзе ад вялікай паэтычнай культуры, ад глыбокага разумення прыроды вобраза народнай паэзіі, якую нельга ўявіць без гранічнай яснасці, канкрэтнасці і ў той-жа час гіпербалічнасці ледзь-ледзь адцененай наіўнымі фарбамі. Народная паэзія моцна захоўвае традыцыі, любіць сталыя вобразы-тропы, мае свае рытмічныя законы. Іменна таму тварыць у духу народнай паэзіі можа той, хто не толькі разумее яе характар, але і валодае дастатковай культурай для адштурхоўвання ад яе, хто адчувае сваю эпоху так глыбока, што можа асэнсаваць яе па-народнаму. Усё гэта ёсць у Янкі Купалы і таму яго паэзія блізка і зразумела народу.

Бліскучае скарыстанне фальклора ў Янкі Купалы мы знаходзім у такіх вершах як „Праважала матка сына“, „Сыны“, „Як прыехаў сын у госці“.

У вершы „Сыны“, як у народным эпасе, кліча бацька сыноў да сябе і пытаецца „кім яны быць хочуць“, „з чым у свет выйдуць“. І вось адзін з іх жадае „землі трактарам варочаць“, другі плавіць чыгун, трэці вадзіць караблі, чацверты лётаць на самалёце, пяты быць чырвонаармейцам і нарэшце шосты—паэтам. Перад усімі імі ў совецкай краіне адкрыты арлінnetwork гарызонты і самі яны арляняты.

З асаблівай пранікліваснцю і любоўю піша Янка Купала пра совецкую моладзь. Яшчэ ў вершы 1923 г. „Арлянятам“, Купала апеў маладое пакаленне нашай рэволюцыі ў агнявых страсных строфах.

Гэй, узвейце сваім крыллем
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай...

У маланках пяруновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыктуйце новых
Нечуваныя ясноты.

У радзе другіх вершаў Купала апявае непераможнасць нашай Чырвонай арміі, заможнае калгаснае жыццё, новую совецкую жанчыну. У вершы „Праважала матка сына“—маці праводзіць сына ў Чырвоную армію і дае яму наказ добра і аддана служыць свайму народу. Заможнае калгаснае жыццё паказана ў вершах „госці“ і „Лён“.

З вялікіх твораў Купалы совецкага перыяда трэба спыніцца на паэме „Над ракою Арэсай“ і вершы „Табе правадыр“. Паэма „Над ракою Арэсай“ напісана на матэрыяле комуны і соўгаса імя „10-годдзя БССР“. Янка Купала паказвае, як непраходныя палескія балоты асушваюцца мужнай воляй большэвікоў. У паэме ён паказвае цяжкую, але гераічную работу комунараў, разгортвае малюнак іх жыцця, радасці, гора. Па народнаму моцна напісаны

ім эпізод смерці комунара Барысенкі. Паэма „Над ракою Арэсай"— лірычная паэма. Яна гаворыць ад імя аўтара і пра пачуцці аўтара, адносна бачанага ім у калгасах і комунах БССР. Але Купала дае ў паэме і элементы эпаса. Ён робіць замалёўкі людзей, добра аперуе дыялагам, малюе прыгожы палескі пейзаж.

У вершы „Табе, правадыр" Янка Купала нібы падагульняючы свой 50-гадовы жыццёвы шлях, звяртаецца да вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна з удзячнасцю за радаснае і светлае жыццё, за гаспадарчае і культурнае аднаўленне данае беларускаму народу нацыянальнай палітыкай Леніна—Сталіна. Значэнне Янкі Купалы, як паэта, не толькі для беларускай совецкай літаратуры, але і для ўсёй літаратуры Совецкага Саюза, вялікае. Ён працягвае цудоўныя традыцыі Некрасава і Шэўчэнкі, яго народныя вершы і песні любоўна паўтараюцца і спяваюцца ва ўсіх рэспубліках Совецкага Саюза.

Якуб Колас у паслярэволюцыйныя гады побач з работай над вялікімі празаічнымі і драматургічнымі творамі не пакідае і вершаў. Апрача таго, што пасля рэволюцыі ім былі скончаны вялікія творы „Новая зямля" і „Сымон музыка", пачатыя яшчэ ў 1911—12 гг. ён часта змяшчае ў перыядычным друку сваю лірыку.

Важным для творчасці Коласа быў цыкл вершаў „Калгаснае", напісаны ў 1929 г., у якім народны паэт упершыню паказаў сваё імкненне перабудаваць сваю ліру на новы лад, у якім ён спрабаваў асэнсаваць класавую барацьбу, што адбывалася на вёсцы. У гэтых вершах Колас выкрывае ўласніцтва, заклікаючы змяніць выцвілыя старыя словы: мой, мая, маё—на наш і наша.

„Мая зямля", „мой поплаў", „паша"
„Мой луг", „мой конь", „мае каровы"
Злінялыя, старыя словы:
Пара, пара даць сэнс ім новы
Змяніць іх час на „наш" і „наша".

Найбольш моцна пасля рэволюцыі Колас як паэт праявіў сябе ў вершах авеяных глыбокім лірызмам, думай. Такія задушэўныя вершы з цыкла „Восенскае", якія з вялікай лірычнай цяплынёю гавораць пра радзіму, пра калгаснае будаўніцтва. Такія вершы „Правадыру народа" і „Нашай Канстытуцыі", якія выражаюць любоў і захапленне мудрасцю правадыра—геніяльнага Сталіна.

Выдатныя—прыродаапісальныя вершы Якуба Коласа. У іх ён з вялікім веданнем і моцным пачуццём стварае надзвычайныя па цэльнасці карціны беларускага пейзажа. Да ХХ-годдзя Кастрычніка, Колас скончыў вялікую паэму „На шляхах волі", над якой працаваў больш 10 год. У паэме паказана лютаўская і кастрычніцкая рэволюцыі, паказан рост селяніна, салдата імперыялістычнай вайны, уцягнутага ў кругазварот рэволюцыйных падзей.

Нямала гнеўных вершаў напісаў Якуб Колас супроць адвечных ворагаў беларускага народа польскіх паноў. Колькі ў гэтых вершах знішчальнай сатыры, гнеўнай іроніі, сарказма. Як трапна Якуб Колас высмейвае шляхецкую „ганарлівасць", іх пустую ваяцкую напышлівасць. І тут ён карыстаецца вобразамі, фразеалогіяй, характарам мовы народа. Бо адвечная нянавісць да польскіх паноў і шляхты,

што жыве ў беларускім народзе, нарадзіла не адну яркую прыказку, песню, казку, якія высмейваюць белапалякаў.

Скарыстоўваючы народную творчасць у сваёй барацьбе супроць польскіх паноў, Колас рабіў свае творы яшчэ больш завостранымі і палітычна актуальнымі.

Сваё асаблівае месца ў паэзіі займае К. Крапіва, які працаваў галоўным чынам у сатыры. Сатыра Крапівы едкая і моцная таксама грунтуецца на народнай творчасці. Крапіва ведае народную мову, прыказкі, параўнанні. Гэта і вызначае характар яго сатырычных вершаў і баек.

У яго смешна па-народнаму. Падыходзячы да аб'екта свайго бічавання, насмешкі, кпінаў Крапіва ставіць пытанне: а ў народзе, які-небудзь дасціпны селянін, калгаснік, як бы ён высмяяў аб'ект маёй сатыры? А народная творчасць, як ставілася да падобных людзей? Адсюль нараджаецца асноўнае ў сатырычным творы Крапівы—ён знаходзіць як высмейваць. І высмейвае, бічуе—грубавата, але па-народнаму моцна. Іменна гэтымі якасцямі сваёй паэзіі Крапіва заслужыў сабе папулярнасць у народных масах.

З яго сатыр трэба адзначыць „Куваду"—якая бязлітасна і вельмі трапна высмейвае выцікаў і малавераў, „Дзед і баба", накіраваную супроць бюракратаў, „Махальнік Іваноў", выкрываючую падхалімаў, „Конскую элегію", „Так жыла між імі згода" і інш. А таксама байкі „Пажар", „Аслу раз выдалі мандат", „Асёл і сонца", „Жаба ў каляіне". За апошнія гады Крапіва не варочаецца да сатыры, а працуе галоўным чынам у галіне прозы і драматургіі.

Уваходзячы ў варожае аб'яднанне „Узвышша", Крапіва ў радзе сваіх ранейшых сатыр па нацыяналістычнаму ацэньваў рэчаіснасць, ідэалізуючы ўласніцкія настроі сялянства.

Сярод нямногіх нашых паэтаў, якія працуюць над стварэннем чалавечага партрэта ў паэзіі, мы сустракаем імя Пятруся Броўкі. У гэтым сэнсе значнай падзеяй для нашай паэзіі з'явілася яго паэма „1914".

Паэма „1914" мае вельмі нескладаны сюжэт: „Сымон Перагуд „сумны ваяка" ідзе на фронт ваяваць за „бацюшку-цара". Далей паказваюцца „подвігі" унцера Перагуда ў баю і нарэшце яго зварот на радзіму.

Паэма „1914" мае вельмі нескладаны сюжэт, але Пятрусь Броўка ў гэты нескладаны сюжэт уклаў столькі гарачага пачуцця, вострай назіральнасці, арыгінальнасці ў абмалёўцы персанажаў, што твор гэты па праву можа быць аднесены да лепшых эпічных рэчаў у беларускай совецкай паэзіі.

У паэме Пятрусь Броўка стрымана апавядае нам пра жахі імперыялістычнай вайны і ўсюды яго апавяданне падкрэслівае іронія.

Самай лёгкай і трафарэтнай справай пры паказе імперыялістычнай вайны было награмаздзіць жахі—адзін страшней за другі. І тады, напэўне, чытач сказаў бы: „ён мяне страшыць, а мне не страшна". Пятрусь Броўка не пайшоў па такому шляху. Наадварот, ён вельмі стрымана апавядае нам аб жахах імперыялістычнай вайны і ўсюды яго апавяданне адценяе іронія.

Броўка і не ставіў сабе за мэту даць натуралістычнае апісанне герояў. Пры характарыстыцы псіхалагічнага і маральнага аблічча героя, ён імкнецца выразіць яго праз адзін яркі жэст, учынак. Найбольш удалыя ў гэтым сэнсе партрэтныя замалёўкі папоў, паліцыі, вясковага кулацтва. Прычым, гэтыя замалёўкі—шарж, гратэск. Аднак, іменна шарж, гратэск робяць рысы, схопленыя паэтам, рысамі класава-характэрнымі.

Гратэск пры паказе людзей у паэта нярэдка даходзіць да крайнасці, але не стварае ўражанне фальшывасці, неперакануўчасці. Гратэск, напрыклад, дапамагае Броўку зрабіць такое незвычайнае пераўвасабленне бога ў паэме „1914“: у першым выпадку „бог сядзіць у першай ложы тэатра вайны“, у другім выпадку бабыклічуць бога, а ён, сыты панок, „ходзіць па штабах у генеральскім мундзіры“. Гэта здзеклівае пераўвасабленне апраўдана ўсім кантэкстам паэмы.

Да лепшых вершаў П. Броўкі належаць такія, як „Заможнасць“, „Зямля“, „Палессе“. Не малыя поспехі робіць П. Броўка і ў іранічным вершы („Мышасты“, „Двайня“), праўда, вершы дастаткова ўжо асвоеным савецкімі паэтамі. Рад добрых твораў напісаў П. Броўка і ў аратарскім плане. Ён стварыў яркі паэтычны твор „Праз горы і стэп“.

Паэма „Праз горы і стэп“ напісана на гістарычным матэрыяле барацьбы кавалерыйскай дывізіі на Паўночным Каўказе супроць белых банд. У гэтай паэме шмат сапраўднага пафаса, шчырага і глыбокага. Яна напісана ўсхвалявана. Паэт у 1932 г. жыва і горача перажывае падзеі, што адбыліся ў 1919. Нябачным галоўным героем твору, вуснамі якога гаворыць аўтар,—з‘яўляецца ўдзельнік паходаў гэтай дывізіі. Мова яго яркая.

Можна дамаляваць у выбражэнні партрэт гэтага змагара, адданага рэвалюцыі да апошняй кроплі крыві, які прайшоў праз баі, тыфы. Гэта баец старай партызанскай закалкі. Асноўная ўласцівасць паэмы „Праз горы і стэп“ заключаецца ў яе пафасе, у гарачым дыханні. Іменна, дзякуючы ўсепаглынальнай патэтыцы, Пятрусь Броўка часамі не заўважае як урываюцца ў яго паэму і абстрактныя неперакануўчыя строфы.

У паэме „Праз горы і стэп“ паэт скарыстоўвае надзвычайныя традыцыі Уладзіміра Маякоўскага ў паэтычнай лірыцы. Тон твору, яго размоўная інтанацыя, пэўная вобразная гіпербалічнасць—усё гэта ад магутнага голасу В. Маякоўскага. Паэма „Праз горы і стэп“ з‘яўляецца адным з значных твораў Пятруся Броўкі і ўсёй беларускай савецкай паэзіі.

Якраз адваротнае трэба сказаць пра паэму „Менск“, а таксама вершы „Гэта йшла рэвалюцыя“, „Разбілі мы вякоў прымус“, „Савецкая Беларусь“ і інш.

Паэма „Менск“ на першы погляд таксама павінна быць аднесена да аратарскай паэзіі.

Паэма „Менск“ пратэндуе ў песенна-публіцыстычнай форме даць кантрасны малюнак дарэвалюцыйнага Менска і новага Менска—сталіцы Савецкай Беларусі. У чым няўдаласць паэмы?

Па-першае, у метадзе падыходу да рэчаіснасці. Шляхам кантрасту паэт можа даць толькі канстатуючы твор: Менск быў такі, а зрабіўся вось які.

Кантраст ведае толькі процілегласці, ён апускае прамежныя і пераходныя звенні ў працэсе—і не адказвае на пытанне, якім чынам Менск стаў іменна такім, якім ён з'яўляецца цяпер. Паэма „Менск“ Пятруся Броўкі—паэма апісальная, у ёй адсутнічае тое гарачае дыханне, палымнеючае пачуццё, характэрнае для іншых твораў паэта.

Пасля паэмы „Менск“ Пятрусь Броўка ўзрадаваў чытача сапраўды надзвычайным вершам „Палессе“. У ім ён з вялікай сілай паказаў багацце гэтага адноўленага краю, багацце яго лясоў, тлустасць яго стада.

„Дазорцы—качары“, якія „гукаюць караваны сем'яў на зары“, старажытныя дубы, „ваўчанё, якое губляе матчын след“—усё гэта цудоўна перадае каларыт мясцовасці. Канчаецца верш наступнымі радкамі:

Спіць маё багатае Палессе
Толькі пагранічнікі не спяць!

За апошнія два-тры гады Пятрусь Броўка даў рад новых твораў. Ім напісана лібрэта для беларускай оперы „Міхась Падгорны“. У лібрэта, пабудаваным на простым, традыцыйным сюжэце шырока скарыстаны народныя песні, гульні, танцы. Опера будзе пастаўлена беларускім тэатрам оперы і балета.

Да XX гадавіны Кастрычніка П. Броўка скончыў паэму „Кацярына“ пра рост з ранейшай беларускай батрачкі знатнай калгасніцы. Паэма паказвае прыём таварышом Сталіным у Крэмлі дэлегацыі калгаснікаў, у якой удзельнічае Кацярына.

У адносінах да творчасці Пятруся Броўкі можна зрабіць наступны вывад: Пятрусь Броўка паказаў сябе як паэт найбольш поўна і глыбока ў такіх творах, як „1914“, „Праз горы і стэп“, „Заможнасць“, „Зямля“ і „Палессе“. Развіццё гэтай лініі яго паэзіі будзе садзейнічаць далейшаму творчаму росту Пятруся Броўкі.

Пятро Глебка ўваходзіў у свой час у літаратурнае аб'яднанне „Узвышша“ і адчуў на сабе ўплыў буржуазных нацыяналістаў з гэтага аб'яднання. У той час ён пісаў абстрактныя вершы пра „маці-Беларусь“, ідэалізаваў людзей, выкрытых пазней як ворагаў народа, ухіляўся ад палітычна-актуальных тэм. Пералом у творчасці Глебкі адбыўся ў 1930 г. Паэт рэзка парваў з нацыяналістамі і ўключыў сваю творчасць у арсенал барацьбы з класавымі ворагамі. Ён піша паэмы „Трывожны сігнал“, „Арка над акіянам“, „Арлянка“. У паэме „Трывожны сігнал“ Глебка ставіць праблему стыхійнасці ў грамадзянскай вайне. Ён зусім правільна акцэнтуе на тым, што большэвіцкая воля і розум здольны перамагчы ўсякае праяўленне стыхійнасці сярод незагартаванай сялянскай масы. Час, апісаны ў паэме, трывожны. Чырвоныя адступаюць. Адзіны шлях іх адступлення ляжыць праз чыгуначны мост, які паводле чутак мініраваны. Але чэкіст-камісар становіцца на месца машыніста і ў напружанай і жудаснай цішыні праводзіць поезд праз мост.

Паэма „Трывожны сігнал“ хвалюючы, яркі твор. Менш удалай аказалася поўфантастычная паэма „Арка над акіянам“. Усё ў гэтай паэме даволі наіўна. І метады шкодніцтва класавых ворагаў, і поўфантастыка-поўтрызненне інжынера аб сваёй будучай арцы. Нельга таксама лічыць цалкам удалай паэму „Арлянка“. Тут у цэнтры ўвагі аўтара тое-ж пытанне, што і ў „Трывожным сігнале“—праблема стыхійнага і арганізаванага пачатку ў дні грамадзянскай вайны. Класавыя ворагі, польскія шпіёны—якія прабраліся ў нашу армію, выклікаюць нездавальненне сярод чырвонаармейцаў і стыхійнае абурэнне хітра накіроўваюць на надзвычайнага комуніста, бясстрашнага байца „Арлянку“. Ствараецца вельмі напружаны і хвалюючы сюжэтны вузел, які вырашаецца ў станоўчым сэнсе.

Слабасць паэмы ў тым, што героі яе з'яўляюцца вобразамі—схемамі. Хто кольвек з іх марыць пра ахвярнасць у імя ідэалаў рэволюцыі. Яны гавораць доўгія тырады, але мала дзейнічаюць. На паверку аказваецца, што і сюжэтны канфлікт у „Арлянцы“ завязаны крыху штучна.

У Глебкі, як у паэта, амаль ва ўсіх яго творах і больш удалых і менш удалых мы знаходзім адну каштоўную, сапраўды паэтычную якасць—верш яго просты, суровы, мужны. Гэта прастата, суровасць, мужнасць верша стварае моцнае драматычнае напружанне ў сюжэтных творах паэта. І ў „Трывожным сігнале“ і ў „Кары“ і ў вершы „Пра вясну і рэволюцыю“ мы адчуваем гэты суровы стрымліваючы верш рытм, простую і мужную мову. Іменна гэта акрэсліла поспех паэмы П. Глебкі „Мужнасць“. Гэта паэма пра смерць Ільіча, пра клятву таварыша Сталіна над трунοй Леніна. Пасля паэмы Маякоўскага „Ленін“, пра смерць Ільіча пісаць было не лёгка. Але Глебку ўдалося ў суровых і простых фарбах намаляваць завірушныя халодныя дні студзеня 1924 года, натоўпы людзей каля Калоннай залі Дома Саюзаў, асірацелы народ, што імкнуўся ў апошні раз пабачыць Ільіча.

Не менш адказным для паэта было пераказванне цудоўнай прамовы таварыша Сталіна над трунοй Ільіча. Вядома, П. Глебку не ўдалося аднавіць усю патрасаючую сілу клятвы таварыша Сталіна. Але ён імкнуўся, не скажаючы пераказаць у вершах асноўны сэнс клятвы таварыша Сталіна.

Паэма „Мужнасць“ безумоўная удача паэта. Глебка паказаў сябе ў ёй добрым палітычным лірыкам, таленавітым паэтам.

Да XX гадавіны Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі Пятро Глебка напісаў паэму пра Кастрычніцкі пераварот, а таксама лібрэто для оперы на тэму грамадзянскай вайны, скарыстаўшы для яе часткова сюжэт „Арлянкі“. За апошнія гады Глебка шмат працаваў над лірычным вершам і даў рад вясёлых жыццерадасных, часам адцененых лёгкай іроніяй вершаў. З іх можна адзначыць „Вясёлыя песні“ і інш.

Аркадзь Куляшоў адзін з самых маладых і здольных нашых паэтаў. Адсутнасць вялікага жыццёвага вопыта аставалася пакуль што адзінай перашкодай на шляху яго творчага росту.

У вершах маладога паэта з першых яго крокаў моцна адчуваўся Эдуард Багрыцкі. Ад Багрыцкага ў творчасці Куляшова з'явілася

паэтызацыя прыроды, лясоў, рэк, рыб. У коле гэтых вобразаў Куляшоў знаходзіцца і па сёнешні дзень.

Апрача гэтых, чыста літаратурнага паходжання вобразаў, у творчасці Куляшова мы часта адчуваем сапраўднае і глыбока непасрэднае ўспрыманне прыроды, разуменне яе і ўменне паказаць ў надзвычай канкрэтных мастацкіх вобразах.

За сем год работы ў галіне паэзіі Куляшоў напісаў паэмы „Крыўда", „Гарбун", „Людзі прагнуць" і „Васіль Баранаў", а таксама два зборнікі вершаў.

Найбольш каштоўнымі з гэтых твораў трэба лічыць паэму „Гарбун" і „Васіль Баранаў". Паэму „Крыўда" Куляшоў напісаў яшчэ ў 1930 годзе. У ёй паказваецца лёс дзесяці знявечаных на імперыялістычнай вайне. Яны ідуць адпомсціць „усім генералам" вайны за свае нявечтвы. У моцных фарбах напісаны іх начлег у лясах, іх сум па зямлі. Але Куляшоў вельмі наіўна ўяўляе сабе імперыялістычную вайну, і выстаўляе гэтых інвалідаў у ролі помнікаў за „крыўды вайны".

Яшчэ больш надуманай і нежыццёвай аказалася паэма „Людзі прагнуць", напісаная пад уплывам „Коннікаў" Яноўскага. Яна па сутнасці і становіць сабой вершаваны пераказ навел Яноўскага. Нажаль у вершаванай форме яны аказаліся менш моцнымі. Дадайце да ўсяго гэтага заблытаную кампазіцыю і тады лёгка зразумець няўдачу Куляшова ў паэме „Людзі прагнуць". Зусім іншае трэба сказаць пра творы Куляшова „Гарбун" і „Васіль Баранаў". „Гарбун"—паэма аб комуне, арганізаванай у 1918 г. Яе стварыў былы чырвонаармеец, які чуў выступленні Леніна ў Петраградзе, Антон Шандабыла.

Найбольш моцнай рэччу ў творчасці Куляшова трэба прызнаць паэму „Васіль Баранаў". У распараджэнні аўтара быў надзвычай скупы матэрыял аб скромным жыцці і гераічнай смерці вернага сына нашай радзімы Васіля Баранава. Васіль Баранаў, як вядома, памёр у палоне ў япона-манчжур, не сказаўшы ні слова, не выказаўшы свяшчэнных тайн нашай радзімы. Куляшову прадстаяла зрабіць надзвычай многае. Дарысаваць у выабражэнні дзяцінства Васіля, яго юнацтва, далёкі ўральскі калгас, думкі маладога калгасніка. Не ведаем ці адпавядае вобраз, нарысаваны Куляшовым вобразу самога Баранава, але ад мастацкай праўды паэт не адышоў. Ён паказаў Васіля простым, задумёным хлапцом, які любіць паляванне, ловіць рыбу. Васіль кахае дзяўчыну, ён марыць пра шчасце свайго калгаса. Такі-ж просты, прасталінейны, шчыры ён і на заставе. Ёсць яшчэ адзін вельмі важны момант у паказе Баранава Куляшовым. Пасля катавання ў квантунскім штабе, Баранава напоўразздетага адпушчаюць. Хаця, можа гэта толькі мірсціцца Баранаву. Але не гэта важна. З якім радасным адчуваннем ён кідаецца туды, дзе радзіма. Ён падае знясілены ў снег, а насустрач яму праз сцюжы і тысячы кіламетраў ідзе чалавек у простым салдацкім шынялі. Ён накрывае шынялём Баранава і нясе да савецкіх рубяжоў. Гэта Сталін.

Нельга без шчырага хвалявання чытаць паэму Куляшова, якая ўзмацняе пачуццё савецкага патрыятызма, узмацняе любоў да

совецкай радзімы. Паэма „Васіль Баранаў“ — значная творчая перамога маладога паэта.

Яркім паэтычным дараваннем з'яўляецца заўчасна памёршы ў 1929 годзе Паўлюк Трус.

Паўлюк Трус прынёс у маладую беларускую рэволюцыйную паэзію народную непасрэднасць, свежасць вобразаў, задушэўнасць. Ён быў паэтам пераважна сялянскай тэмы. Раннія яго вершы прысвечаны юным арлянятам-комсамольцам, якія ідуць у партызанскія атрады ваяваць за сваю радзіму. Ён складае задушэўную песню пра комсамольца Якіма, бясстрашнага барацьбіта, расстралянага белапалякамі. Паўлюк Трус выдаў зборнікі: „Вершы“ і „Ветры буйныя“, а таксама напісаў паэмы „Дзесяты падмурак“, „Чырвоныя ружы“, „Сірата Алеся“.

Паўлюк Трус у свой час не ў меру захапляўся запазычваннем і гэта пакінула след на радзе яго вершаў, якія не маюць самастойнага значэння. Некаторы адмоўны ўплыў аказала на яго і творчасць Есеніна, пад уплывам якога П. Трус напісаў цыкл упадніцкіх вершаў.

Плённа вучачыся ў вялікага украінскага паэта Тараса Шэўчэнка П. Трус нярэдка вучобу падмяняў успрыйманнем знешняга боку верша.

Толькі ў апошнія гады свайго жыцця, у 1927-29 гг. Паўлюк Трус пачынае ўпарта працаваць над вершам і гэта дало свае становўныя вынікі. Ён напісаў хвалюючыя паэмы „Дзесяты падмурак“, „Чырвоныя ружы“ і „Сірата Алеся“. У паэме „Сірата Алеся“ паказваецца батрачка, забітая вясковая дзяўчына, якая толькі пры совецкай уладзе пачала актыўную дзейнасць, якая едзе ў горад вучыцца. Паэма „Чырвоныя ружы“ прысвечана героям-барацьбітам супроць белапалякаў, а ў „Дзесятым падмурку“, напісаным незадоўга да смерці, Паўлюк Трус з вялікай радасцю і натхненнем вітае заўтрашні індустрыяльны дзень Совецкай Беларусі. Паэт усклікваў:

Край, о край, калі-ж ты станеш
Краем фабрык дымных і машын.

У 1926 годзе пачаў сваю паэтычную дзейнасць М. Хведаровіч. Творчы шлях гэтага паэта быў вельмі блытаным. Кідаючыся ад адной паэтычнай школы да другой, ад аднаго паэтычнага кірунку да другога, ён доўга не мог знайсці сябе як пісьменнік. У яго вершах шмат няправільнага, непаслядоўнага. Неахайна працуе Хведаровіч над мовою сваіх твораў, над страфой. Толькі ў некаторых сваіх вершах пра Грузію, і асабліва ў апошніх вершах „Сталін“ і „Варашылаўскія паходы“, Хведаровіч больш ярка паказвае свой творчы твар.

Нарэшце, трэба сказаць пра нашу паэтычную моладзь, якая хутка расце.

Маладая паэтэса Агняцвет напісала вялікую паэму пра Дзержынскага. Часткова і ў гэтай паэме Агняцвет знаходзіцца ў палоне старых элементарных параўнанняў і вызначэнняў. Гэта асабліва адчуваецца ў паказе дарэволюцыйнай дзейнасці Дзер-

жынскага. Аднак, у паэме маюцца і глыбока хвалюючыя строфы. Добра, з сапраўдным паэтычным пафасам паказана работа Дзержынскага ў Чэка і апошняя яго прамова. Боль за вялікага і бясстрашнага рыцара рэвалюцыі ахоплівае чытача, калі аўтар паказвае страшны дзень 20 ліпеня, дзень, у які перастала біцца мужнае і вялікае сэрца Фелікса.

Трэба ўпамянуць тут паэта Алеся Зарыцкага, які выдаў у 1933 годзе кнігу „Эпічныя фрагменты“, у якой быў змешчаны рад таленавітых вершаў пра рабочую моладзь, пра яе ўзаемаадносіны, пра дружбу, пра любоў; Алеся Жаўрука, які выдаў у 1936 годзе кнігу „Ручаіны“ і напісаў у 1937 годзе даравітую паэму пра Іспанію; Андрэя Ушакова, які напісаў рад добрых вершаў пра граніцу і Чырвоную Армію.

П. Панчанка, А. Бурдзель, Алесь Бачыла, М. Калачынскі— выраслі як паэты ў апошні час. Цікавым паэтам абяцае быць П. Панчанка, які ўдумліва і сур'ёзна працуе над сваімі вершамі.

Для завяршэння нашага агляду сучаснай беларускай савецкай паэзіі трэба сказаць некалькі слоў пра А. Александровіча.

Андрэй Александровіч на працягу доўгіх год з'яўляўся замаскаваным двурушнікам у літаратуры. Дэклараваў ён адно, а пісаў зусім іншае. Так, з вонкавага боку паэмай „Цені на сонцы“ ён дэклараваў барацьбу з нацыянал-фашыстамі, а сапраўды напісаў гэты твор па даручэнню нацыянал-фашыстаў для іх-жа мэт. З вонкавага боку ў вершы „Векапомныя паходы“ ён кляўся ў любві да савецкай улады, а ў акрасціху подла здзекваўся над Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Вось чаму яго мінулая дзейнасць выклікала зусім натуральнае недавер'е ў пісьменніцкай грамадскасці і чытачоў.

Адзінае, што можна было-б адзначыць з станоўчага боку ў дзейнасці Александровіча ў наступныя гады гэта яго ўдзел у вершаваным пераказе „Пісьма беларускага народа“, удзел у стварэнні „Дванаццаці песень“ пра Чырвоную Армію і стварэнне рада вершаў.

Нельга ў гэтым нарысе не адзначыць вялікую работу беларускіх савецкіх паэтаў па перакладу на беларускую мову геніяльных твораў А. С. Пушкіна.

Янка Купала пераклаў „Меднага конніка“, Я. Колас „Палтаву“, А. Куляшоў „Цыганы“, П. Глебка „Барыса Гадунова“, М. Хведаровіч „Каўказскага нявольніка“, „Бахчысарайскі фантан“ і „Казку пра цара Салтана“, А. Александровіч раздзелы з „Руслана і Людмілы“.

Лепшымі перакладамі, якія найбольш поўна перадаюць сэнс паэтычных твораў Пушкіна, трэба прызнаць пераклады Купалы і Куляшова. Апрача Пушкіна на беларускую мову перакладаліся і перакладаюцца творы іншых класічных і савецкіх пісьменнікаў. У сваю чаргу, рускія паэты і пісьменнікі шмат робяць для папулярызацыі на рускай мове лепшых твораў беларускай савецкай літаратуры. Даволі адзначыць, што Купалу яшчэ ў 1911 годзе перакладаў Горкі, у 1916 годзе Брусаў, а пазней Багрыцкі, Светлоў і інш.

Перад беларускай савецкай паэзіяй на ўвесь рост стаіць задача далейшага пашырэння палітычнай паэзіі, вывучэння найвялікшай

скарбніцы беларускай народнай паэзіі, каб яшчэ бліжэй стаць да яе багатых крыніц, а таксама—пашырэння эпічных жанраў.

Скарыстанне народнай творчасці значна дапаможа нашым паэтам у складанай і надзвычай патрэбнай справе стварэння масавай рэвалюцыйнай песні.

Эпас-жа, вялікія палотны з акрэсленымі чалавечымі характарамі, з багатым і рознастайным тыпажом, насычаныя дзеяннем, умацаваныя сюжэтам будуць спрыяць выхаду ўсёй совецкай паэзіі на новыя шляхі.

Нашы паэты мала займаюцца гісторыяй. Вялікія справы, гераічныя эпізоды барацьбы, незгінаныя героі і правадыры праходзяць па-за іхнай увагай.

Часта замест гэтага яны знаходзяць патрэбным друкаваць вершы „наогул", абстрактныя, непераканаўчыя, якія маюць у сваім змесце абрывак адной якой-небудзь элементарнай думкі.

Калі паэты звернуць больш сур'ёзную ўвагу на змястоўнасць іх творчасці, дык у адпаведнасці з гэтым зменіцца характар усёй нашай паэзіі. І лірыка будзе мець зусім іншы характар. Лірычны верш павінен быць змястоўным, а не беспрадметным, як гэта ў нас часта бывае. Гэта азначае, што ў аснове лірыкі павінны ляжаць зусім канкрэтныя моцныя пачуцці, страсці, якія маюць пэўную накіраванасць. Павышэнне змястоўнасці ўзніме нашу паэзію на вышэйшую ступень майстэрства, у глыбокім па зместу творы нельга будзе фокусніčаць, беспрадметна дзвынкаць рыфмай.

Іменна да канкрэтнай рэчаіснасці павінны накіраваць свае погляды паэты. Ад нашай паэзіі часта пахне літаратуршчынай. Рэчаіснасць, якую паказвае такі паэт, вычытана ім з кніг або ўзята на пракат у свайго друга паэта, што пісаў пра яе таксама па існуючай літаратурнай традыцыі. Не ведаючы жыцця, паэты часам вымушаны выяўляць мізэрны запас перажыванняў з прычыны выпадкова-бачаных рэчаў. Вось чаму так многа вершаў пра вершы з'яўляюцца ў нас.

Гістарычнае мінулае народа, яго выдатныя героі і правадыры, яго барацьба супроць чужаземнай навалы, вялікі вызваленчы рух, Кастрычнік, новае жыццё народа, героі стаханаўскай працы, барацьба з ворагамі, мары і пачуцці совецкай інтэлігенцыі, узаемаадносіны моладзі, каханне і дружба, правадыры Совецкага Саюза Ленін і Сталін, якія пераможна правялі нашы народы праз тры рэвалюцыі—вось тэмы, якія будучы ўзяты ў іх канкрэтнасці, будуць спрыяць поспехам і эпічных і лірычных твораў нашай паэзіі.

## V

Паслякастрычніцкая беларуская мастацкая проза, у адрозненне ад паэзіі, не мела багатай рэволюцыйна-дэмакратычнай спадчыны на роднай мове. У якасці ўзораў совецкія беларускія паэты мелі вершы і паэмы Купалы, Коласа. Дарэволюцыйная проза Коласа і Бядулі была невялікая і абмяжоўвалася апавяданнем і навелай. У нас не было буйнай аповесці, рамана. Апрача таго, у дарэволюцыйнай беларускай прозе было засілле бытавога натуралістыч-

нага апавядання. Шырока быў у ходзе вясковы анекдот, адсутнічалі творы пра горад, пра інтэлігенцыю. Тыпаж твораў быў аднастайны. Гэта ставіла рад дадатковых цяжкасцей, высоўвала новыя задачы перад маладымі белетрыстамі. Па-першае трэба было перамагчы натуралістычныя традыцыі, выжыць бытавы анекдот і пашырыць кола тэм, вобразаў і праблем маладой беларускай совецкай прозы. І тут нашым пісьменнікам неацанімую паслугу аказала вучоба ў вялікіх майстроў мастацкай прозы: Талстога, Гогаля, Горкага, Стэндаля, Бальзака.

Пачалася жорсткая барацьба супроць буржуазных нацыяналістаў, якія імкнуліся затрымаць нашу прозу на ўзроўні бытавога анекдота, сентыментальна-слязлівага аплаквання долі селяніна. Нацыяналісты, працягваючы свае бясконцыя апісанні філасафічнай „мудрасці" старых беларускіх дзядоў, пачалі шукаць выйсця ў моднай для іх мяшчанскай, пошлай і бульварнай рамантыцы. Пачалася вакханалія з трагічна няўхільным любоўным трыкутнікам.

Сумленныя-ж, найбольш культурныя совецкія белетрысты працавалі над пашырэннем тэматычных рамак нашай прозы, над увядзеннем новых вобразаў, над разнастайнасцю яе жанраў і стыля. І ў выніку ў нас з'явіліся творы пра рабочы клас, пра гістарычнае мінулае, пра герояў грамадзянскай вайны, пра большэвікоў, пра комсамольцаў. Наша проза ставіць цяпер разнастайныя і складаныя праблемы, якія хвалююць народ.

У барацьбе супроць нацыяналістаў за стварэнне новай совецкай беларускай мастацкай прозы адно з першых месц належала нашым старэйшым майстрам Коласу і Бядулі.

Якуб Колас, як мы ўжо казалі вышэй, яшчэ ў дарэволюцыйныя часы побач з паэзіяй уславіў сябе надзвычай вострымі апавяданнямі з жыцця старой вёскі, вясковай інтэлігенцыі і чыноўнікаў. Пасля рэволюцыі ён піша рад яркіх навел, поўных гумару, едкай іроніі ў адносінах да прадстаўнікоў старога свету. Але галоўныя свае сілы пісьменнік накіроўвае на стварэнне вялікіх аповесцей і раманаў. Колас напісаў аповесці „У палескай глушы", „У глыбі Палесся", „На прасторах жыцця", „Адшчапенец", „Дрыгва".

Не будзем падрабязна спыняцца на першых двух творах, характэрных занадта расцягнутай апавядальнасцю, невыразнай кампазіцыяй і адсутнасцю сюжэта. Яны не толькі ідэалізуюць нацыяналістычную беларускую інтэлігенцыю, але і з мастацкага боку не з'яўляюцца важнымі ў творчым развіцці Коласа. Значна большае значэнне для нас маюць аповесці „На прасторах жыцця", „Адшчапенец" і „Дрыгва".

Аповесць „На прасторах жыцця" была надрукавана ў 1926 годзе і з'яўлялася паказчыкам рашучага імкнення народнага паэта парваць з буржазнымі нацыяналістамі. Замест абмежаванага свету нацыяналістычных ідэй, у які імкнуліся ўцягнуць паэта буржуазныя нацыяналісты, ён шукае шляхоў для сваёй творчасці ў шырокіх прасторах грамадскай дзейнасці. Ён дапытліва ўглядаецца ў работу моладзі, комсамола і знаходзіць дастаткова моцныя фарбы для паказу гэтай дзейнасці. Аповесць „На прасторах жыцця" прысвечана лёсу вясковага хлопчыка Сцяпана. Ён прагне працаваць,

рабіць, шукае выйсця ў свет творчасці. Сцяпан пакідае сваіх бацькоў і ідзе вучыцца ў горад. І праз некалькі год Сцяпан варочаецца ў вёску ўзмужалым, дзейным юнаком. Ён робіцца арганізатарам сіл моладзі для асушвання адвечных балот, што скавалі яго родную вёску. Сцяпан з'яўляецца новым вобразам совецкага чалавека, які ўладарна ўвайшоў у творчасць Якуба Коласа.

Добрае веданне быта вёскі, псіхалогіі селяніна мы знаходзім і ў паэзіі і ў прозе пісьменніка. Праца і адпачынак селяніна, вясна і лета, зіма і восень, бура-непагода і велічны спакой беларускай прыроды,—усё гэта надзвычай ярка малюе народны паэт. Гэтыя якасці выявіліся ў яго аповесці „Адшчапенец", напісанай у 1931 годзе. Аповесць гэта цікавая па замыслу.

Характэрна, што сюжэт аповесці ў розныя часы прыцягнуў да сябе, зусім незалежна адзін ад другога, увагу трох пісьменнікаў: Коласа, Панферава і Твардоўскага.

Гісторыя „Адшчапенца", чалавека, які шукае некалгаснай вёскі, паказана Коласам праўдзіва. Пракоп, які пакідае з болем у душы родную вёску, ідзе ў белы свет, як у капейку, шукаць некалгаснай зямлі, але ўсюды яго сустракаюць калгасы. Тады яго думкі накіроўваюцца на тое, каб даведацца, як жыве народ у калгасах, ці сыт ён, ці апрануты, ці добра даглядаецца гаспадарка? Але яму сорамна з'явіцца ў калгас і сказаць, што ён не вера ў калгаснае будаўніцтва, няхай яму пакажуць і раскажуць праўду. Ды і пабайваецца ён. Не будуць, бадай, гаварыць з аднаасобнікам. І ён зманіў, выдаўшы сябе за калгаснага дэлегата. Пракоп трапіў у моцны і даўно існуючы калгас. Тое, што ён убачыў, здзівіла яго бязмерна. Ён вярнуўся дахаты, да жонкі, дарослых дзяцей, якія не спадзяваліся на яго зварот. Пракоп стаў дзейным будаўніком калгаса.

Вялікі поспех выпаў на долю другой аповесці Якуба Коласа „Дрыгва". „Дрыгва"—аповесць пра гераічныя бойкі беларускага народа супроць белапалякаў у 1920 годзе. Герой аповесці, семідзесяцігадовы Васіль Талаш, арганізатар партызанскага атрада, які вёў упартую барацьбу супроць польскіх акупантаў. Васіль Талаш вышаў з народных нізоў. Непасрэднай прычынай, якая прымусіла яго зрабіцца партызанам, з'явілася тое, што белапольскія ўланы забралі ў яго апошні стог сена. Пасля асабісты лёс Талаша ўсё больш і больш пераплятаецца з партызанскай справай. Яго сын апынуўся ў руках польскай дэфензівы. Пачынаецца змаганне Талаша з белапалякамі не на жыццё, а на смерць. Яго атрад звязваецца з чырвонаармейскай часцю, прадстаўнікі партыі большэвікоў пачынаюць накіроўваць стыхійнага бунтара Талаша на арганізаваную і мэтазгодную барацьбу.

Аповесць выдатная тым, што ў Палессі, паданні пра цемру і прыдушанасць, галечу і бяспраўе якога жылі з веку ў век, Колас зоркім вокам мастака здолеў убачыць новых людзей, моцных воляй і духам, барацьбітоў, якія рабілі гераічныя справы. Сам жа аўтар у сваёй дарэвалюцыйнай творчасці паказваў палешукоў, як пасіўныя і няшчасныя істоты. І раптам гэтыя „сузіральнікі прыроды"

і „філасофствуючыя палескія дзяды“ так выпрасталі свае магутныя, але раней сагнутыя спіны, што польскія паны доўга папомняць іх.

Аповесць Якуба Коласа напісана няроўна. Часам сапраўды гераічныя подвігі ў апісанні аўтара маюць характар ухарства, крыху бледна паказан комуніст Нявідны, недастаткова пераканаўчыя некаторыя подвігі самога Талаша, але ў цэлым гэта кніга, якая зрабілася любімым творам беларускіх калгаснікаў, паказала, што Якуб Колас жыве інтарэсамі беларускага народа і адгукаецца на яго запатрабаванні.

Змітрок Бядуля пасля Кастрычніцкай рэволюцыі паступова пакідае вершы і пераходзіць выключна да мастацкай прозы. Ужо ў першыя гады рэволюцыі ён даў рад майстэрскіх апавяданняў на тэму грамадзянскай вайны. Апавяданні З. Бядулі лаканічныя, кароткія, дзеянне ў іх надзвычай насычана, сюжэт яркі. Іцяпер пісьменнік варочаецца да тэмы дарэволюцыйнай беларускай вёскі. З-пад яго пяра з'яўляюцца такія апавяданні, як „Дванаццацігоднікі“, „Бондар“. У іх Бядуля паказвае гонар мужыка перад панамі. Так селянін Лявон адпомсціў за ўсё сяло арандатараў сагнаных панам з зямлі, якой яны карысталіся спакон веку. Лявон падпаліў новапабудаваны маёнтак пана і сам заявіў яму пра гэта. У апавяданні „Бондар“ выдатны майстар спадзяецца, што памешчыца ацэніць яго надзвычайную работу. Але яна нават не зірнула на гэтую работу, а праз пакаёўку паслала плату бондару. Чалавек гэты з нянавісцю адкінуў грошы, затаіўшы злосць на паноў на ўсё жыццё.

Яшчэ больш вострыя палажэнні займаюць З. Бядулю ў апавяданнях „Панскі дух“ і „На балоце“. У апавяданні „Панскі дух“ гаворка ідзе пра вёску, якая не пажадала захаваць памешчыцкі маёнтак для школы, толькі таму, што ў гэтым маёнтку жыве „панскі дух“. Маёнтак з усім яго багаццем быў спалены.

Не толькі ў гэтым апавяданні, але і ва многіх іншых таго-ж перыяда, Бядуля бачыць пакуль толькі руйнуючы бок рэволюцыі, не заўважаючы яе творчай работы. Гэта з'явілася вынікам уплыву на пісьменніка буржуазных нацыяналістаў. Але ў Бядулі мы сустракаем у гэты перыяд і рад каштоўных рэчаў. Праўдзіва паданы эпізод з часоў барацьбы беларускіх сялян супроць белапалякаў у апавяданні „На балоце“. На балоце людзі трывожныя і неспакойныя. Тут хаваюцца сем'і—старыя маткі, дзеці партызан. Белапалякі, адступаючы, шаленствуюць на вёсцы. Шуміць лес. Бядуля па-майстэрску малюе суровы пейзаж, непраходныя беларускія лясы і балоты і нарэшце развязка: прыходзяць партызаны і расстрэльваюць у лесе панскага прыхвастня, здрадніка Бавельчыка.

Літаратурная творчасць З. Бядулі мнагастойная і колькасна вялікая. Няма магчымасці тут хоць бы коротка спыніцца на ўсіх яго творах. Таму звернемся да галоўнейшых з іх.

У 1927 годзе Змітрок Бядуля напісаў раман „Салавей“, а на працягу 1928-31 гг. вялікі двухтомны раман „Язэп Крушынскі“. „Салавей“—адна з нешматлікіх спроб у беларускай літаратуры ўваскрасіць эпоху прыгонніцтва, аднавіць змрочны малюнак прыгнечання працоўнага сялянства. Змітрок Бядуля выбраў для сваёй

аповесці каларытную постаць прыгоннага актора Сымона Салаўя. Салавей добра перадае галасы звяроў і птушак. Пан хоча паказаць яго ў тэатры, як дзіва, але душа ў Салаўя змучана здзекамі і катаваннямі, якія тварыліся панамі над сялянствам. Ён паўстае помсціць за сваё аплёванае панам каханне, ён „не хоча быць панскім салаўем". І паўстаўшы, ён помсціць за ўсё прыгнечанае сялянства. Як у народнай казцы, ён тройчы перахітрыў пана. Нарэшце, разам з чорнабародым Язэпам, ён узнімае на паўстанне ўсё сялянства. Гарыць панская сядзіба, паўстаўшы народ помсціць за свае шматвяковыя пакуты.

Раман „Салавей" з'яўляецца вострай зброяй у нашай барацьбе супроць польскіх паноў. Вельмі трапна, з гумарам і едкай сатырай выкрывае іх Змітрок Бядуля. Асабліва падкрэслівае ён жорсткія, утончана-іезуіцкія метады здзекаў польскіх паноў і ксяндзоў над працоўным беларускім народам.

Раман „Салавей" з'яўляецца значным творам беларускай савецкай літаратуры.

Менш удалым аказаўся вялікі двухтомны раман Бядулі „Язэп Крушынскі". Раман меў сваёй мэтай паказаць подлую дзейнасць кулацтва на вёсцы. Бядулі ўдалося яшчэ да перыяда масавай калектывізацыі ўлавіць асноўнае ў дзейнасці кулацтва: тактыку ціхай сапы. Крушынскі не шаржыраваны, не плакатны кулак. Ён здолеў так уцерціся ў давер'е да некаторых работнікаў, што яны яго, пярвейшага кантрабандыста, ненасытнага звера, лічаць прыкладным актывістам, „культурным гаспадаром". Газета друкуе пра яго артыкулы, партрэты яго. Тым часам, „культурны гаспадар" звязвае ўсю сваю дзейнасць з контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыяй, арганізуе вакол сябе кулацтва, атручвае скаціну ў комуне, робіць замах на жыццё комунараў, сам пры гэтым вонкава астаючыся „у баку". Бядулі ўдалося паказаць кварныя метады дзейнасці кулака, але ён не здолеў пры гэтым паказаць у вёсцы сілу, якая супроцьстаіць Крушынскаму. Асабліва гэта адчуваецца ў першай кнізе рамана, напісанай яшчэ ў 1928 годзе. Другая-ж кніга—у стылевых адносінах рэзка адрозніваецца ад першай. Захацеўшы паказаць дзейнасць нацыянал-фашыстаў у Савецкай Беларусі, аўтар аднак палітычна не досыць глыбока асэнсаваў тэму. Ён не заўсёды паказвае нацыянал-фашыстаў ва ўсёй іх звярынай сутнасці, не агаляе іх ролю шпіёнаў і дыверсантаў польскага фашызма.

Усё-ж кніга Змітрака Бядулі з'яўляецца адной з сур'ёзных спроб паказу звярынай сутнасці кулака, вобраза ворага ў беларускай савецкай літаратуры.

Пасля рамана „Язэп Крушынскі" Бядуля апублікаваў аўтабіяграфічную кнігу „Набліжэнне" пра набліжэнне фронта да беларускіх зямель у імперыялістычную вайну 1914-18 гг. Гэта аповесць пра пакуты яўрэйскага інтэлігента, пра праклятую рысу аседласці для яўрэяў, пра жах казацкіх пагромаў, пра здзекі нямецкіх акупантаў над яўрэйскім і беларускім народамі.

Падобна да Змітрака Бядулі другі выдатны беларускі празаік Кузьма Чорны імкнуўся ў сваёй аповесці „Лявон Бушмар" нама-

ляваць вобраз беларускага кулака. Чорны стварыў вобраз змрочнага і адзінокага чалавека, звера, бязлітасна абараняючага свой хутар ад наступлення совецкай улады. Вобраз атрымаўся моцны і цэльны, але аўтар не здолеў супроцьставіць яму моцных совецкіх людзей і перспектыва аказалася скажонай, а кулак Лявон Бушмар апынуўся ў ролі ахвяры сваіх фізіялагічных страсцей.

Палітычная ацэнка сутнасці кулака ў аповесці „Лявон Бушмар“ невыпадкова аказалася няправільнай. Кузьма Чорны належаў у гэты час да варожага літаратурнага аб'яднання „Узвышша“. Уплыў гэтага аб'яднання акрэсліў ідэйную сутнасць раду яго твораў. Да такіх твораў трэба аднесці і другі буйны раман Чорнага „Зямля“. „Зямля“ паказвае беларускую вёску перыяда НЭП. Аўтар смела і ў моцных фарбах паказвае вобразы беларускіх сялян. Жыццё сялянства ў радасці і ў горы, у працы і ў адпачынку, на вяселлі і ў пахаванні праходзіць перад чытачом.

Праўдзіва і моцна напісана ў рамане карціна смерці беднай сялянскай жанчыны, маці Юркі. Аднак, усе падзеі, што адбываюцца на вёсцы, аўтар паказвае з уласцівым яму суіральным гамсунаўскім сумам, бяссільна спыняючыся перад ацэнкай падзей. Чорны бачыць класавую няроўнасць на вёсцы, але класавую барацьбу на вёсцы ён абыходзіць. Паказаная Чорным вёска не кіпіць, не бурліць у класавых бітвах. Наадварот, яе жыццё павольнае, аднастайнае. Усё гэта адбілася на мастацкім характары твора, бессюжэтным і пазбаўленым вострых канфліктаў і сутычак паміж героямі.

У „Зямлі“ ярчэй за ўсё праявіліся ўплывы на аўтара ўстановак буржуазных нацыяналістаў. Пасля разгрому ў 1930 годзе контррэволюцыйных нацыянал фашыстаў і ўсведамлення пісьменнікам сваіх памылак, ён пачынае па-новаму паказваць вёску, выкрываючы эксплаататарскую сутнасць кулацтва. Яркім прыкладам гэтаму можа служыць аповесць „Вясна“. У аповесці з вялікай і шчырай усхваляванасцю паказан лёс парабка Кастуся і яго маткі. Смерць маткі Кастуся ад цяжкой і непасільнай работы на кулака ўскрывае тое, што раней абыходзіў у сваёй творчасці Чорны, соцыяльную прыроду кулака, яго звярыныя ўхваткі, яго імкненне высмактаць усе сокі з батрака.

Услед за „Вясной“ з'явіўся вялікі раман К. Чорнага „Бацькаўшчына“. Раман ставіць праблему „Бацькаўшчыны“ ў капіталістычных умовах і пры совецкай уладзе. Бацька Леапольда Гушкі быў сілезскім ткачом і за ўдзел у паўстанні ткачоў выгнаны з радзімы і ўцёк у Расію. Леапольд Гушка з адной страшнай „радзімы“ трапіў у другую, няменш страшную, у царскую Расію—турму народаў. Ён служыць батраком у памешчыка, але ідэя ўласнасці—кавалачак сваёй зямлі, дом,—не дае яму спакою. Ён дамагаецца для гэтага рускага падданства. Падданства гэта ён атрымаў тады, калі пачалася імперыялістычная вайна і сыну яго давялося ісці ўжо як рускаму падданаму на фронт, у акопы. Тут кульмінацыйны пункт трагедыі Гушкі. Далей і ён, і ў асаблівасці яго сын—большэвік Адась Гушка знаходзяць шляхі для барацьбы за сваю радзіму. Гэту радзіму яны здабываюць у рэволюцыйнай падпольнай рабоце, у радах партызан, што змагаюцца супроць белапалякаў.

Яны знаходзяць яе ў Совецкім Саюзе. Кніга заканчваецца малюнкам, у якім былы батрак Леапольд Гушка, а цяпер лепшы калгаснік адкрывае адно з пасяджэнняў Усебеларускага З'езда Советаў.

Кніга „Бацькаўшчына" напісана добрай мовай. Характары Леапольда і Адася Гушкі, а таксама і Неміры вельмі ярка акрэслены. Мова герояў індывідуалізавана і яна настолькі характарыстычная, што аўтару няма чаго абмалёўваць партрэты герояў. Рытм мовы характарызуе душэўны і вонкавы воблік чалавека. Чорны, як пісьменнік, шмат зрабіў для ўзбагачэння беларускай літаратурнай мовы. Скарыстоўваючы багацейшыя запасы беларускай народнай мовы, пісьменнік імкнецца браць з яе найбольш важкія, ярка характарызуючыя падзеі словы.

Чорны мае нахіл да вобразаў філасофствуючых сузіральнікаў. Тэма яго творчасці адна: праклятае мінулае, якое маральна губіць людзей, нявечыць іх душы, аплёўвае іх лепшыя і найчысцейшыя пачуцці. Да гэтай тэмы ён варочаецца і ў сваім рамане „Трэцяе пакаленне". Невыразныя абрысы новага трэцяга пакалення людзей рэволюцыі, паказаных у рамане, з'яўляюцца на погляд аўтара рысамі новага чалавека, які выхоўваецца ў совецкіх умовах, і які не ведае сілы ўласнасці, грошай, пачуцця кар'ерызму.

У рамане вельмі цёпла і задушэўна намаляван вобраз краўца, вясковага саматужніка-старога, які паступіў на будаўніцтва і толькі тут упершыню па-сапраўднаму адчуў сваю чалавечую годнасць.

Раман „Трэцяе пакаленне" не мае стылёвага адзінства. Жыццё Міхася Тварыцкага, яго псіхалагічныя перажыванні, таксама, як перажыванні Зосі, не вяжуцца з амаль авантурнымі пошукамі ўкрадзеных з раённага банка грошай.

Апрача таго, вобразы комуністаў даны эпізадычна, бледна і схематычна. Хаця, няма нават і схемы. Яны толькі названы па імю, у астатнім іх не існуе.

Перад Кузьмою Чорным, як і перад многімі нашымі пісьменнікамі, на ўвесь рост стаіць задача пашырэння кола тэм і вобразаў сваёй творчасці, глыбокага асэнсавання працэсаў вылучэння на вялікую дзяржаўную работу новых людзей з народных мас і мастацкага паказу гэтых людзей.

Не менш востра гэта задача стаіць і перад адным з найбольш здольных нашых празаікау Міхасём Лыньковым. І ў яго мы не знаходзім адлюстравання палітычнага і інтэлектуальнага росту радавых комуністаў, рабочых, калгаснікаў, людзей з совецкага народа, якія сталі за гады совецкай улады героямі радзімы, інжынерамі, тэхнікамі, дырэктарамі заводаў, прафесарамі. Не паказаў Лынькоў і такіх людзей, якія выраслі да ўзроўню вялікай дзяржаўнай работы.

Лінія творчага развіцця Міхася Лынькова няроўная. Пачаў ён з апавяданняў з жыцця чыгуначнікаў, жыцця найбольш блізкага яму. Апавяданні Лынькова рамантызавалі, паэтызавалі рэчаіснасць, прыкрашвалі яе. Найбольш ярка гэта выявілася ў „Чыгунных песнях". Але побач з чыгуначнай тэмай важнае месца ў творчасці Лынькова займае грамадзянская вайна. Замест раман-

тычных абстракцый, якія ён ствараў у „Чыгунных песнях“, тут сама рэальнасць гучыць, як рамантыка, як казка.

На тэме грамадзянскай вайны М. Лынькоў стварыў адно з самых лепшых сваіх апавяданняў „Над Бугам“. У ім паказваецца ціхі, летні вечар адпачынку чырвонаармейскай часці перад наступленнем на Буг. У цэнтры ўвагі аўтара два процілеглыя псіхалагічныя тыпы байцоў. Адзін з іх жыве сваёй вясковай гаспадаркай, марамі пра поле, пра жыта, пра лес. Другі чалавек, які загубіў сваю маладосць у люмпенпралетарскім асяроддзі. На чытача робіць надзвычайнае ўражанне вялікая прывязанасць адзін да аднаго гэтых процілеглых людзей. Аўтар знаходзіць яркія фарбы для апраўдання іх дружбы. Гэта дружба змацоўваецца крывёю. Уначы было наступленне на Буг, а раніцой іх абодвых знайшлі мёртвымі. Апавяданне М. Лынькова кароткае, фарбы ў ім надзвычай згушчаны, развязка нечаканая. Да такога тыпа апавяданняў належыць і рад рэчаў з кнігі „На вялікай хвалі“.

Творчасць М. Лынькова далёка не абмяжоўваецца навеламі. Аўтар спрабаваў свае сілы і ў жанры аповесці, а таксама ў жанры вялікага бытавога рамана. З невялікіх аповесцей назавем „Андрэй Лятун“, „Апошні зверыядавец“ і „Гой“, з раманаў—„На чырвоных лядах“.

„Андрэй Лятун“ зноў уваскрашае праблему рамантычнага і штодзённага. Стары машыніст Андрэй пакутваў ад таго, што не мог ужо як бывала імчацца на кур'ерскіх паяздах, так „каб вецер звінеў у вушах“. Ён быў нездаволен сваім таварным паравозам. Але аказалася, што Андрэй, які з такім запалам марыў пра гераізм, зрабіў геройскую справу на сваім старым таварным паравозе. Ён вырваў поезд з рук белых і быў узнагароджаны ордэнам. Аповесць напісана ў характэрным для Лынькова прыўзнята-гераічным плане. У творах Лынькова мы адчуваем апавядальніка-навеліста. Ён выбірае яркія палажэнні, нечаканыя дэталі і героям яго амаль заўсёды нададзена нейкая ім адным уласцівая страсць. Пісьменнік тонка адчувае гумар, тыпаж яго твораў markdownразнабаковы і амаль заўсёды ў творах Лынькова гаворка ідзе пра факты, якія выходзяць з рамак звычайных.

Хаця гэта мае дачыненне не да ўсіх яго рэчаў. Аповесць „Апошні зверыядавец“, напісаная яшчэ ў 1928 годзе, па сваёй тэме актуальная і на сёнешні дзень. Яна трактуе тэму пільнасці, імкнецца выкрыць класавых ворагаў, якія прысвоілі сабе партбілеты ашуканчым шляхам, якія прабраліся ў партыю і шкодзяць будаўніцтву соцыялізма. Лынькоў правільна бачыць сувязь паміж гэтымі дыверсантамі і іх замежнымі гаспадарамі. Аднак, у гэтай аповесці ў Лынькова ў стылі пераважае сантыменталізм. Замест акцэнтавання на шкодніцка-дыверсійнай дзейнасці ворага, што ашуканчым шляхам прабраўся ў партыю, Лынькоў занадта доўга апісвае старую, як свет, гісторыю няшчаснага кахання нейкай чулівай Валі. Усё гэта пераплецена з сантыментальнымі казкамі пра „залатыя ключы“ кахання і г. д.

Яшчэ больш няўдалай аказалася аповесць „Гой“, напісаная ў тым жа плане сантыменталізма.

У 1934 годзе з'явіўся раман Лынькова „На чырвоных лядах". Раман задуманы, як гістарычнае палатно пра беларускую вёску XX стагоддзя. Аўтарам быў сабраны вялікі бытавы матэрыял. Ён паказаў сябе добрым знаўцам беларускай вёскі. У кнізе паказан рознастайнейшы і цікавейшы тыпаж. Аўтар востра адчувае трагічныя бакі вясковага жыцця. Ён трапна фіксуе гумар, ведае бытавую сялянскую мову ва ўсім яе багацці, адчувае народную фразу, яе іронію, яе гумарыстычныя адцэнні.

Аднак усё гэта ў руках М. Лынькова не склала цэльнага і закончанага твора. Таленавітасць аўтара выяўляецца ў асобных сцэнах, у дасканала выпісаных вобразах, у вострых фразах, у яркіх супроцьстаўленнях. У цэлым жа твор занадта натуралістычны, у ім адсутнічае цэльны сюжэт.

Таленавіта напісаныя сцэны, яркія чалавечыя характары патанулі ў быту, у залішнім награмаджэнні падрабязнасцей вясковага жыцця. Там-сям гэта пераплятаецца з сантыментальна-прымітыўнымі філасафічнымі разважаннямі.

Пасля кнігі „На чырвоных лядах" М. Лынькоў апублікаваў тры аповесці для дзяцей „Янка парашутыст", „Міколка-паравоз" і „Пра храбрага ваяку Мішку". Першая кніга паказвае бясстрашнага хлопчыка, які дапамагае свайму бацьку ў яго рэвалюцыйнай барацьбе, другая малюе медзвядзёнка Мішку—любімца чырвонаармейцаў. Проста і цёпла адцяняючы апавяданне гумарам, напісаў Лынькоў пра каварныя і хітрыя ўчынкі Мішкі і яго таварыша Казла ў дні наступлення чырвоных на Варшаву.

Абедзве аповесці ўваскрашаюць лепшыя рысы ранняй творчасці Лынькова—займальнасць, яркасць апавядання, жывасць дыялага і навізну сюжэтных палажэнняў.

У апошні час М. Лынькоў працуе над раманам „Сенька Сокал", прысвечаным кастрычніцкім дням на Беларусі і стварэнню беларускай савецкай дзяржаўнасці. Герой рамана—салдат імперыялістычнай вайны, які выходзіць на шлях актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці.

Кандрата Крапіву ў рамане „Мядзведзічы" напаткаў той жа лёс, што і М. Лынькова ў „На чырвоных лядах". Першая кніга рамана „Мядзведзічы" аказалася кнігай бытавой. У ёй яркі тыпаж, каларытная народная мова, праўдзівыя замалёўкі беларускай вёскі, характэрныя эпізоды класавых сутычак і боек на вёсцы не падпарадкаваны адзінай ідэі, адзінаму сюжэтнаму і кампазіцыйнаму стрыжню. Кніга аказалася рыхлай, быт самадаўлеючым, малюнкі дрэнна звязанымі адзін з другім.

А між тым, Крапіва ставіў у гэтай кнізе рад важных ідэйных і мастацкіх задач. Вядома, што буржуазныя нацыяналісты ўсякім чынам імкнуліся паказаць беларускую дарэвалюцыйную і паслярэвалюцыйную вёску, як класава аднародную, не падпарадкаваную законам класавай барацьбы. Асабліва хітра і замаскавана прапагандавалі нацыяналісты адсутнасць класавай барацьбы на вёсцы ў паказе перыяда НЭП. Яны ідэалізавалі прышчэпаўскую кулацкую хутарызацыю, высоўваючы ў якасці свайго лозунга нівеліроўку вёскі—ураўнаванне багатых і бедных. Гэта контррэвалюцыйная

бухарынская тэорыя была зыходным пунктам для беларускіх нацыянал-фашыстаў.

І вось Крапіва бярэ адзін з складанейшых перыядаў развіцця беларускай вёскі—аднаўленчы перыяд і імкнецца выкрыць контррэвалюцыйныя тэорыі беларускіх нацыяналістаў аб бяскласавасці вёскі. Ён паказаў подлую дзейнасць беларускіх кулакоў і бандытаў, пачынаючы з першых дзён грамадзянскай вайны. Яны тэрарызуюць насельніцтва, яны змагаюцца супроць усяго новага на вёсцы, яны робяць замахі на вясковых актывістаў. Крапіва адлюстраваў нянавісць бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства да сталыпінскіх хутароў, якія насаджваў нацыяналістычны контррэвалюцыянер Прышчэпаў. Крапіва паказвае, што вясковая беднята, актывісты, комсамольцы на чале з комуністамі, у глыбіні душы адчуваюць пагубнасць для сялянства хутарской палітыкі Прышчэпавых і арыентуюць сялян не на хутары, а на сельгасарцель, на комуну, на калектыўныя формы гаспадаркі.

У кнізе „Мядзведзічы“ аўтар даў нам у новым асвятленні вельмі важны этап у развіцці беларускага сялянства, тым самым зрабіў палітычна-патрэбную справу. Упершыню выступаючы з вялікім эпічным палатном, Крапіва аднак не зусім выразна ўсвядоміў цяжкасці, звязаныя з кампазіцыяй і з сюжэтам, з адборам найбольш яркага і тыповага, а таму дапусціў рад мастацкіх правалаў у сваім творы.

Тым больш нельга даравацць гэта Крапіве, які з'яўляецца аўтарам добрых навел, выданых у 1928 годзе, у зборніку „Людзі-суседзі“. Такія навелы, як „Вайна“, „Пальчык“, „Людзі-суседзі“, „Здаў „аказамінт“, „Споведзь“ паказваюць у асобе Крапівы добрага майстра навелы. Вастрыня сюжэтнага разгортвання, нечаканая развязка, надзвычайная канкрэтнасць падзеі, пакладзенай у аснову навелы—вось характэрныя асаблівасці Крапівы-навеліста.

У сваіх навелах з уласцівай яму бязлітаснасцю бічуе Крапіва цемру, п'янства, рэлігію, кар'ерызм, дробны чыноўніцкі быт.

Асаблівае месца ў беларускай літаратуры займае тэма пільнасці ў адносінах да германскага і польскага фашызма, якія перакідваюць сваіх шпіёнаў і дыверсантаў на совецкую тэрыторыю. Ды гэта і зразумела. Прыгранічнае становішча Беларусі н стойліва дыктуе нашым пісьменнікам такія тэмы. На жаль яны далёка недастаткова адлюстраваны ў нашай літаратуры, хаця асобныя спробы і да таго-ж вельмі паспяховыя ёсць.

У 1933 годзе з'явілася першая кніга маладога пісьменніка Эдуарда Самуйленка „Тэорыя Каленбрун“. У ёй аўтар імкнуўся выкрыць шпіёнскую тактыку фашысцкай Польшчы. Эдуарду Самуйленку ўдалося намаляваць рад яркіх характараў фашысцкіх заправіл. Вось маёр Каленбрун. Гэта хітры і каварны вораг. Яго выпрабаваны метад—правакацыя. Ён задумвае шырокі план перакідвання на совецкую тэрыторыю шпіёнаў пад выглядам членаў компартыі Польшчы і Заходняй Беларусі. І гэта яму часткова ўдаецца. Але Каленбрун не прыняў пад увагу комуністаў у польскай арміі, комуністаў на кожнай фабрыцы і заводзе. І яго правакацыя права-

лілася. Кніга Эдуарда Самуйленка—хвалюючая кніга. У ёй вельмі добра напісана сцэна мітынга беспрацоўных у змроку асенняга парка ў Вільно. Надзвычайныя пейзажы: змрочныя, цяжкія, напоўненыя злавесным шумам асенніх дрэваў. Цёпла ў кнізе паказана развітанне двух большэвікоў Марціна Крамарчыка і Чэста перад рашучым выступленнем компартыі супроць правакацыі фашыстаў.

Вядома, Эдуарду Самуйленку не ўдалося ў сваёй аповесці разгарнуць ва ўсім аб'ёме малюнак подлых правакацый, шпіёнскіх дыверсій, якія польскія фашысты замышляюць супроць Совецкага Саюза. Аднак ён, пры дапамозе аднаго эпізода, завастрыў нашу пільнасць на барацьбу з фашысцкімі шпіёнамі і тым самым яго кніга адыграла сваю станоўчую ролю.

Амаль адначасова з „Тэорыяй Каленбрун" Самуйленак піша рад апавяданняў пра совецкую рэчаіснасць. З іх асабліва трэба вылучыць апавяданні „Паляўнічае шчасце" і „Пункт апоры". „Паляўнічае шчасце" паказвае паляўнічага, калгасн ка Лаўрэна. Усё сваё жыццё ен марыў аб удачы паляўнічага—аб выдры. Але вось ён патрапіў на яе след. Ён нават нару яе зачыніў. Адна ноч—і шчасце яго вырашана. Але тут наўпярок гэтаму „шчасцю" становіцца калгасны брыгадзір з ільном. Не хапае людзей, трэба трапаць лён уначы. На гэта мабілізуецца ўвесь калгас. І вось, перамагаючы нутраны боль, Лаўрэн прыходзіць да ракі, адкрывае нару і кажа: „Ну што-ж, жыві брат выдра!"—і ідзе трапаць лён. Аказалася, што ў ільну, як для ўсяго калгаса, так і асабіста для Лаўрэна было куды большае шчасце, чым у выдры. Апрача таго, выдру і забіваць нельга было—не час палявання. Апавяданне напісана задушэўна, цёпла. Лірычнымі фарбамі намаляваў пісьменнік вобраз Лаўрэна. Самуйленак паказаў добрае веданне прыроды, звера, яго звычак. Пісьменнік востра адчувае рамантыку паляўнічай справы.

Для Самуйленка характэрна складанасць фабулы, насычанасць твораў дзеяннем, дынамічнасцю. Ён пазбягае так званых апісальных мясцін у творы, якія нічога не тлумачаць, але затрымліваюць дзеянне.

Усё гэта характэрна і для яго апавядання з эпохі грамадзянскай вайны „Пункт апоры".

За апошні час Самуйленак надрукаваў рад новых апавяданняў—„Дачка эскадрона", „Асноўная ідэя", „Урачыстая меса".

Звяртае на сябе ўвагу першая апублікаваная частка рамана „Пагібель воўка" пра лёс двух беларускіх вясковых рабочых, пра аднаўленне ў адным з іх воўчай уласніцкай псіхалогіі і аб смерці яе.

Цяпер пісьменнік заканчвае раман „Будучыня" аб Грузіі часоў меншавіцкага панавання, аб лёсе адной мінгрэльскай сям'і.

Калі Эдуарда Самуйленка ў кнізе „Тэорыя Каленбрун" цікавіць той бок мяжы, падрыхтоўка польскіх фашыстаў да вайны, фабрыкацыя шпіёнскіх правакацый і дыверсій супроць СССР, то малады рускі пісьменнік, лётчык Іван Шапавалаў даў нам таленавітую кнігу „Большэвікі граніцы" пра несакрушальную магутнасць нашай совецкай заходняй граніцы, аб якую разаб'юць свае галовы нямецкія

і польскія фашысты. Іван Шапавалаў добра ведае жыццё совецкіх рубяжоў, псіхалогію байцоў. Ён малюе вобразы простых, мужных і скромных пагранічнікаў Памагаева і Малышава, якія рызыкуюць сваім жыццём, але затрымліваюць дыверсантаў. Малышаў у зімовую сцюжу скідвае валенкі і бяжыць па снезе за шпіёнам, таму што ведае свой абавязак перад радзімай. „Нельга каб уцёк!“

Кніга Івана Шапавалава—кніга аб пільнасці. На мяжы пільнасць павінна быць удзесяцяронай. Пагранічнік павінен быць пільным у дачыненні да хітрага і каварнага кулака Мацукевіча і асабліва да Ціта, які разыгрывае ролю бедняка-актывіста. Пагранічнік павінен быць таксама пільным у дачыненні да свайго таварыша па ложку. З якой шчырай горыччу баец Памагаеў гаворыць, калі яму ўдалося затрымаць пры спробе перайсці мяжу ворага Пінько.

— „І я з табой больш за поўгода побач на ложку спаў!“—

І. Шапавалаў разгортвае бытавыя малюнкі жыцця байцоў і камандзіраў у складанейшых абставінах класавай барацьбы. Першая кніга маладога пісьменніка не пазбаўлена таксама і сур‘ёзных заган. У ёй занадта мала фантазіі, часамі заядае аўтара натура, маюцца моманты наўмыснай прыгожасці. Часам Шапавалаў, не ўмеючы знайсці выразлівую мову, растлумачвае зусім зразумелае. Ёсць разрывы ў апісанні, таропкасць, няма цэльнага сюжэта, не ўсе вобразы яркія, асабліва вобразы камандзіраў—аднак нельга зменшваць асноўнай вартасці кнігі Шапавалава, якая з‘яўляецца першай у беларускай літаратуры кнігай пра заходнюю мяжу, пра большэвіцкую пільнасць.

Аўтар добра ведае характары радавых байцоў мяжы і паказаў гэтых байцоў маляўніча, задушэўна. Ён адчувае каларыт прымежнага Палесся, яго магутны замшэлы лес і балота, якое прабіваецца скрозь снег бурымі плямамі. А галоўнае ў аўтара ў паказе невялікага ўчастка мяжы адной заставы ёсць адчуванне магутнасці ўсёй нашай граніцы, магутнасці радзімы: „Шум ветру, не парушаў гэтага вялічнага спакою. Флаг на даху кардона вісеў нерухома, асветлены апошнімі промнямі негрэючага сонца“.

Кніга І. Шапавалава „Большэвікі граніцы“ знайшла свайго шматлікага чытача сярод пагранічнікаў. Яны яе цэняць за праўдзівасць, прастату, за добрае веданне аўтарам умоў жыцця на совецкіх рубяжах.

На фоне вельмі нязначнай увагі беларускіх пісьменнікаў да гістарычнай тэмы, нельга не адзначыць пісьменніка Р. Мурашку. Р. Мурашка на працягу некалькіх год працаваў над вялікім раманам пра эпоху 1905 года на Беларусі „Сын“. Гэты раман, напісаны яшчэ ў 1929 годзе, вытрымаў некалькі выданняў і карыстаецца заслужанай увагай у чытача.

У цэнтры рамана рост палітычнай свядомасці батрака, які трапіў у горад, у невялікую поўсаматужную майстэрню ў якасці рабочага. У горадзе ён праходзіць школу класавай барацьбы. Яго ўцягваюць у рэволюцыйны рух, ён пачынае арыентавацца ў партыйных кірунках і далучаецца да большэвікоў. Аўтар накідвае ў сваім рамане шырокую карціну рэволюцыйных выступленняў па ўсёй Беларусі. Праўдзіва і ярка паказвае разгром сялянамі памешчыц-

кай сядзібы, ён аднаўляе малюнак славутага курлаўскага растрэла ў Менску. Пісьменнік бязлітасна выкрывае здрадніцкую ролю ў рэвалюцыі 1905 года эсераў, бундаўцаў, меншавікоў, а таксама буржуазных нацыяналістаў з Беларускай Соцыялістычнай Грамады. Сваёй мэты ён дасягае ўсімі мастацкімі сродкамі, да шаржа ўключна.

Да заган рамана трэба аднесці некаторую залішне сантыментальную слязлівасць і меладраматычнасць асобных раздзелаў, а таксама прыхільнасць аўтара да ўсялякіх фатальных супадanняў.

У цэлым кніга Р. Мурашкі „Сын“ праўдзівая, каштоўная кніга.

Тэматычна своеасаблівы пісьменнік Юрка Віцьбіч. Малады белетрыст, які быў у свой час пад значным уплывам нацыяналістаў з „Узвышша“, ён здолеў перамагчы варожы ўплыў і напісаць рад каштоўных мастацкіх твораў. У першай кнізе Віцьбіча „Смерць Ірмы Лаймінг“ апрача бясспрэчнай адаронасці пісьменніка крытыка зусім справядліва знаходзіла надрыў, прэкланенні аўтара перад шляхецка-містычнымі рэліквіямі касцёлаў, няўменне выкрыць ворага.

Віцьбіч прыслухаўся да голаса крытыкі і здолеў перабудаваць сваю творчасць. Тэмы Віцьбіча рознастайныя. Беларускія плытагоны, рускія рабочыя, латвійскія батракі, парыжскія студэнты, партызаны, якія праганяюць палякаў з тэрыторыі сваёй радзімы—вось вобразы яго твораў. Такія апавяданні, як „Грыміць Перакагрыж“, „Янэк Гай“, „Эжэн Дэлякруа“ з'яўляюцца бясспрэчным дасягненнем пісьменніка. Віцьбіч пісьменнік не малой эрудыцыі, вострай назіральнасці, яркай і надзвычай сціслай фразы. Цяпер пісьменнік закончыў гісторыю віцебскай трыкатажнай фабрыкі імя Кагановіча, над якой працаваў каля двух год.

Трэба адзначыць работу пісьменнікаў М. Паслядовіча і Хв. Шынклера. М. Паслядовіч напісаў цікавую аповесць пра француза Марселя, які трапіў у часе імперыялістычнай вайны ў батракі да беларускага кулака і на працягу дванаццаці год бязлітасна эксплатаваўся ім, а таксама рад апавяданняў аб савецкай моладзі.

Хв. Шынлер на працягу дзесяці год распрацоўвае тэматыку чыгуначнага транспарта.

За апошнія гады вырас рад маладых і пачынаючых празаікаў. З іх у першую чаргу трэба адзначыць даравітага Усевалада Краўчанку, а таксама Леановіча, Кандрацеию, Грамовіча. Усе яны пішуць пераважна пра калгасную вёску, пра барацьбу з класавым ворагам у калгасах, пра пільнасць на мяжы.

Задача вывучэння канкрэтнай рэчаіснасці і асоб, што твораць гэтую рэчаіснасць, не менш, а яшчэ больш востра, чым перад паэтамі, стаіць перад нашай мастацкай прозай. Пры ўсіх бясспрэчных поспехах беларускай совецкай паэзіі і прозы нам здаецца, што іменна адсутнасць глыбокага вывучэння канкрэтнай абстаноўкі гістарычнага мінулага нашага народа, а таксама гераічных спраў яго цяперашняга—не дало магчымасці беларускім совецкім пісьменнікам стварыць такія творы, якія падобна да шолахаўскіх ра-

манаў, зрабіліся-б народналюбімымі творамі ўсіх працоўных Совецкага Саюза.

Перад беларускай совецкай прозай стаяць складаныя задачы далейшай барацьбы за канчатковае выкараненне натуралістычнага прымітыва, барацьбы супроць пасіўна-сузіральнай прозы, супроць нарысных схем, за пашырэнне кола тэм і вобразаў твораў, у прыватнасці за кошт паказа рабочага класа, Чырвонай Арміі, нашай інтэлігенцыі. Заходняя мяжа дае беларускім пісьменнікам невычарпальны матэрыял для паказу нашай абароннай магутнасці, для таго, каб паглядзець у недалёкае будучае, у якім будуць разгромлены нямецкія і польскія фашысты, калі яны адважацца напасці на нашу радзіму.

Асабліва востра павінны змагацца беларускія пісьменнікі супроць тэндэнцый схематызацыі і абяднення прыгожай, яркай і маляўнічай беларускай мовы.

Мова народа, народная творчасць—вывучэнне і скарыстанне яе будзе садзейнічаць узбагачэнню літаратурнай мовы нашых пісьменнікаў.

## VI

У дарэвалюцыйныя часы беларускі народ не меў свайго ўласнага прафесіянальнага тэатра на роднай мове.

У 1852 годзе ў Менску ў прыватнай тэатральнай залі для параўнаўча вузкага кола глядачоў у аматарскім выкананні была ўпершыню пастаўлена „Сялянка“, камічная опера Дуніна-Марцынкевіча. Гэта быў першы спектакль на беларускай мове. Аднак у развіцці беларускага тэатра гэтая падзея не пакінула, відаць, больш ці менш значных слядоў. Устанавіць наследвальнасць між гэтым спектаклем і далейшымі аматарскімі тэатральнымі спробамі ў Беларусі не прадстаўляецца магчымым, бо пастаноўку „Сялянка“ аддзяляе ад наступных вядомых нам спектакляў на беларускай мове адрэзак часу, не менш як у 60 гадоў. Акрамя „Сялянкі“ Дунінным-Марцынкевічам былі напісаны п‘есы „Залёты“ і „Пінская шляхта“.

У пачатку XX ст. узнікаюць на Беларусі драматычныя гурткі аматараў, якія ставілі ў поўлегальных умовах спектаклі на беларускай мове. У колах дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, галоўным чынам сярод настаўнікаў і студэнцтва, арганізуюцца так-званыя „беларускія вечарыны“. Гэта былі этнаграфічныя, бытавыя спектаклі-канцэрты з выкананнем народных песень і скокаў, ігрой на народных інструментах і дэкламацыяй беларускіх вершаў. Для такіх спектакляў піша Янка Купала свае народныя вадэвілі „Паўлінка“ і „Прымакі“, якія з поспехам ідуць на сцэне і ў сучасны момант, а таксама драму „Раскіданае гняздо“. У апошнім творы, які не пазбаўлены элементаў сімвалізма, адлюстроўваецца пратэст паэта супроць паўперызацыі беларускага сялянства, супроць разбурэння радзімы.

У 1910 годзе ўзнікае і існуе да 1914 г. напоўаматарская трупа Ігната Буйніцкага, якая выступае з этнаграфічнымі спектаклямі і канцэртамі ў гарадах і мястэчках Беларусі.

Гэта была адзіная ў дарэвалюцыйнай Беларусі, больш менш сталая, тэатральная трупа, якая іграла на беларускай мове і ўзнікла па

прыкладу украінскіх вандроўных тэатраў Крапіўніцкага і Старыцкага. У час сваіх вандраванняў трупа Буйніцкага выступала ў Пецербурзе, Варшаве, Менску, Вільне, Полацку, Слуцку і іншых гарадах. Звычайным рэпертуарам для гэтай трупы, таксама як і для ўсіх беларускіх драматычных гурткоў таго часу, служылі п'есы „Залёты“ і „Пінская шляхта“ Дуніна-Марцынкевіча, „Паўлінка“, „Раскіданае гняздо“ і „Прымакі“ Купалы, „Модны шляхцюк“ Каганца, а таксама перакладныя ўкраінскія камедыі—асабліва „Пашыліся ў дурні“ і „Па рэвізіі“ Крапіўніцкага, крыху прыстасаваныя да беларускіх умоў.

Такім чынам, да Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускае сцэнічнае мастацтва не выходзіла з першапачатковых форм, а беларуская дарэвалюцыйная драматургія была прадстаўлена нязначнай колькасцю п'ес, якія ў большасці сваёй не падымаліся вышэй узроўня бытавой, натуралістычнай камедыі з жыцця сялян і дробнай шляхты.

Толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі і вызвалення Беларусі ад белапольскай акупацыі пачынаецца, у сувязі з стварэннем беларускіх дзяржаўных тэатраў, рост беларускай драматургіі.

У пачатку свайго існавання беларускі совецкі тэатр знаходзіўся пад моцным уплывам з боку буржуазных нацыяналістаў. На беларускай тэатральнай сцэне ставіліся пераважна творы, напісаныя па іх заказу і рэцэптуры. Для ўсіх гэтых п'ес былі характэрны традыцыі бытавога натуралізма і этнаграфічнай экзотыкі з аднаго боку, фармалістычнай стылізацыі, містыкі, сімвалізма і рэакцыйнай нацыяналістычнай рамантыкі з другога. Пераважнае становішча ў беларускай драматургіі займалі тады аўтары—нацыяналісты, выкрытыя пасля як ворагі народа і агенты зарубежнага фашызма.

Да ліку драматычных твораў, якія адлюстроўвалі на беларускай сцэне ўплывы нацыяналістаў, трэба аднесці такія псеўдагістарычныя п'есы, як „Вір“ драматурга Рамановіча (1926 г.) У гэтай п'есе ідэалізаваўся феадальны быт пры двары літоўскага князя XIII стагоддзя. На фоне гэтага быта, пададзенага ў рэакцыйна-рамантычным асвятленні, дзейнічалі шляхетныя беларускія князі, якія нястомна прапаведвалі погляды сучасных нацыяналістаў.

Адным з характэрных прыкладаў мацнейшага ўплыву нацыяналістаў на драматургію можа служыць п'еса Янкі Купалы „Тутэйшыя“, напісаная аўтарам у 1922 г. У гэтай п'есе прапагандаваўся буржуазна-нацыяналістычны лозунг „Беларусь для беларусоў“. У ёй ідэалізаваліся ў асобе настаўніка Янкі Здольніка і яго нявесты Аленкі, у якасці станоўчых герояў, беларускія шавіністы. Для гэтага твору характэрна было механічнае і неаднаразовае супроцьстаўленне вёскі гораду ў адмоўным для апошняга плане.

П'еса „Тутэйшыя“ з'явілася велізарным зрывам для беларускай драматургіі і для творчасці Янкі Купалы.

Разгром нацыяналістаў на фоне агульных поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва выклікаў, побач з перабудовай тэатра, рост і ўзмацненне драматургіі.

Лепшая частка творчых кадраў у галіне драматургіі, якія знаходзіліся пад уплывам варожых элементаў, вызвалілася пад кіраўніц-

твам комуністычнай партыі і пры дапамозе савецкай грамадскасці ад гэтых уплываў. Яны пераглядаюць свае адносіны да савецкай рэчаіснасці, да гістарычнага мінулага беларускага народа.

Не малое значэнне ў перабудове беларускага тэатра і драматургіі адыгралі лепшыя творы рускага савецкага рэпертуара, супроць пастаноўкі якіх на беларускай сцэне на працягу доўгага часу змагаліся буржуазныя нацыяналісты.

Е. Рамановіч, аўтар „Віра“, выступае ў 1929 г. з п'есай „Мост“, якая сведчыла аб пераломе ў свядомасці аўтара, аб яго імкненні да перабудовы. У гэтай п'есе, напісанай пад уплывам шахцінскага працэса, аўтар спрабуе вырашыць пытанне аб ролі і значэнні старой тэхнічнай інтэлігенцыі ў соцыялістычным будаўніцтве.

Падзеі ў п'есе разгортваюцца вакол пабудовы бетоннага моста. У цэнтры падзей вобраз старога інжынера, які звязаны сваяцтвам і ранейшымі блізкімі адносінамі з бела-эмігранцкімі коламі. Аўтара цікавяць псіхалагічныя перажыванні інжынера, якія прыводзяць яго да адзіна правільнага рашэння, але выклікаюць яго смерць ад рукі белых тэрарыстаў-дыверсантаў.

У сучасны момант падобныя пытанні даўно ўжо вырашаны для ўсіх сумленных спецыялістаў. Тэмы, аналагічныя „Мосту“, неаднаразова выкарыстаны і ў літаратуры і ў тэатры, і ў кінематаграфіі, але ў той час, калі гэтая п'еса пісалася і ўпершыню ставілася на сцэне, тэма яе была ў дастатковай ступені і новай і актуальнай.

Праблеме перавыхавання старых кадраў тэхнічнай інтэлігенцыі была прысвечана і п'еса Міровіча „Лён“ (1932 г.), напісаная на матэрыяле соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. П'еса гэта сведчыла аб пэўным пераломе ў творчых імкненнях старога драматурга, але была з мастацкага боку слабой і не ўтрымалася на сцэне.

У 1934 г. Міровіч выступіў з п'есай „У вясновую ноч“, напісанай для самадзейнай калгаснай сцэны. Змест гэтай п'есы звязаны з барацьбой за непарушнасць грамадскай соцыялістычнай уласнасці ў калгасе, з выкрыццём групы кулакоў-шкоднікаў. П'еса не пазбаўлена цэлага рада істотных недахопаў, якія ідуць па лініі трафарэтнай абрысоўкі кулака, заштампаваных прыёмаў развязкі і г. д. Вялікім недахопам п'есы з'яўляецца мова дзейных асоб, багатая такімі натуралістычнымі асаблівасцямі лексікі, якія безумоўна не трэба культываваць у драматычным творы.

Росту беларускай савецкай драматургіі асабліва садзейнічала гістарычная пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. Гэта пастанова ўнесла канчатковую яснасць у некаторыя спрэчныя пытанні далейшага развіцця беларускай драматургіі, у першую чаргу ў пытанні творчага метада, высунуўшы на першы план у якасці асноўнай задачы неабходнасць барацьбы за высокую мастацкую якасць драматургічнага твора.

Справа ў тым, што ў творчасці маладых беларускіх драматургаў, якія выраслі ў перыяд разгрому нацыяналістаў, культываваліся пад уплывам БелАПП пагардлівыя адносіны да філасофскай глыбіні твора, да паглыбленай, псіхалагічна-абгрунтаванай і ўсебаковай ха-

рактарыстыкі вобраза, да пытання авалодання сапраўдным майстэрствам. Замест жывых і поўнакроўных вобразаў, высоўваліся на першы план мёртвыя схемы, абстрактныя абагульненні, адцягненыя соцыяльныя катэгорыі. Мастацкая пераканаўчасць дадатных вобразаў падмянялася агалёнай плакатнасцю, механічным выкрыкваннем лозунгаў. Адмоўныя вобразы падаваліся амаль выключна ў карыкатурным, шаржыраваным плане. Усе гэтыя моманты былі асабліва характэрны для твораў І. Гурскага, напісаных па рэцэптуры літфронтаўскай кухні. Першая з п'ес І. Гурскага „Качагары", пастаўленая на беларускай совецкай сцэне ў 1931 годзе, адыграла ў той час, у перыяд абвостранай і напружанай барацьбы з нацыяналістамі, станоўчую ролю, не гледзячы на свае вельмі істотныя недахопы. Гэта была першая п'еса, накіраваная сваім астрыём непасрэдна супроць ворагаў народа. Прадстаўнікі беларускага буржуазнага нацыяналізма, былі выведзены аўтарам у рэзка карыкатурным, шаржыраваным плане. У злобадзённай накіраванасці заключаўся дадатны бок п'есы.

Побач з гэтым п'еса багата і вялікай колькасцю вельмі сур'ёзных промахаў. Аўтару не ўдаўся ні адзін станоўчы вобраз. Ворагам народа, абрысаваным у карыкатурным плане, Гурскі не здолеў супроцьпаставіць ні аднаго станоўчага героя. Вобразы комуністаў у асобе Осмалоўскага, Сіліна і інш. надзвычай бледныя і бездапаможныя. Яны пазбаўлены жыццёвай пераканаўчасці. Рабочы калектыў пératвораны ў абязлічаны хор аўтаматаў. Злобныя рэплікі нацыяналістаў не заўсёды застаюцца абясшкоджанымі. Асобныя моманты, дзякуючы надзвычайна спрошчанай трактоўцы, скажаюць рэчаіснасць. Гурскі не здолеў сканцэнтраваць увагу на асноўным, на вядучым, не здолеў ухапіцца за галоўнае звяно, свядома адкінуць усё лішняе, другараднае, непатрэбнае. Мова п'есы шэрая, бледная і аднастайная. Для сваіх герояў аўтар не знаходзіць яркіх пераканальных слоў, нават у моманты найбольшага драматычнага напружання. Трэба адзначыць, што гэтыя недахопы ўласцівы ў той ці іншай ступені амаль усім п'есам Гурскага.

Буйнейшым зрывам у творчасці гэтага драматурга з'яўляецца п'еса „Новы горад". У гэтай п'есе, якая скажае совецкую рэчаіснасць, ідэалізуюцца крымінальныя элементы. Большая частка п'есы прысвечана эпізодам абсалютна не мыслімай забастоўкі на совецкім прадпрыемстве, якая з'яўляецца плодам дасужай фантазіі аўтара. Тэкст гэтай п'есы поўны антысовецкай лаянкай, грубымі астротамі і блатным жаргонам. Станоўчыя вобразы бальшэвікоў, кіраўнікоў будаўніцтва, дадзены ў скажоным асвятленні.

У апошняй п'есе Гурскага, у камедыі „Сваты", аўтар упершыню робіць спробу вызваліцца ад літфронтаўскіх уплываў, перамагчы ўласцівы яму схематызм.

Нязменная ўвага, якую аказвае партыя драматургіі, як найбольш складанаму і дзейснаму віду літаратурнай творчасці (успомнім вядомыя словы таварыша Сталіна, што „драматургія гэта тое звяно, ухапіўшыся за якое, мы зможам выцягнуць увесь ланцуг літаратуры") рашуча пакончылі з недаацэнкай драматургіі, якая існавала

ў колах кіраўнікоў літаратуры. Для гэтых колаў былі ўласцівы „тэорыі“ і развaжанні аб тым, што нібыта драматургія з‘яўляецца не самастойным спецыфічным відам мастацкай літаратуры, а якімсьці поўфабрыкатам для далейшай апрацоўкі ў тэатры.

Скончана было і з той цэхавай замкнутасцю і абмежаванасцю, якая існавала ў асяроддзі драматургаў БССР. Росту беларускай совецкай драматургіі садзейнічала і прыцягненне ў рады драматургаў прадстаўнікоў іншых літаратурных жанраў, у тым ліку такіх выдатных майстроў мастацкага слова ў галіне прозы, паэзіі і сатыры, як Якуб Колас, Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва, якія з поспехам працуюць у галіне драматургіі і стварылі за гэты час, шэраг выдатных сцэнічных твораў.

У 1932 годзе з‘явілася на сцэне Беларускага Дзяржаўнага Тэатра п‘еса Кузьмы Чорнага „Бацькаўшчына“, перапрацаваная аўтарам з свайго аднайменнага рамана.

Пабудавана яна на вялікім, складаным і адказным матэрыяле. Гэта першае ў беларускай драматургіі палатно эпічнага характару. Сцэнічныя падзеі гэтай п‘есы ахопліваюць вялікі адрэзак часу. Яны адлюстроўваюць складанейшыя працэсы гістарычнага развіцця Беларусі—пачынаючы ад першых крокаў барацьбы з самаўладствам у беларускай вёсцы напярэдадні імперыялістычнай вайны і Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Цэлая галерэя па-мастацку поўнакроўных і індывідуалізаваных вобразаў праходзіць перад гледачом,—маляўнічых, з паглыблена акрэсленымі характарамі, з матываванымі ўчынкамі, з літаратурна багатай, гучнай, моцнай і поўнацэннай мовай, індывідуальна абмалёванай для кожнага вобраза.

Не гледзячы на недастатковую знадворную дынаміку „Бацькаўшчыны“, выкліканую агульнай апавядальнасцю ўсяго твору,—гэтая п‘еса каштоўна сваёй унутранай напружанасцю, глыбокай паслядоўнасцю ўнутранага псіхалагічнага развіцця асобных вобразаў. П‘есе Кузьмы Чорнага ўласціва якраз тое, чаго ў значнай ступені не хапае большасці нашых п‘ес. У гэтым сэнсе „Бацькаўшчына“ вылучаецца сваім прынцыповым узроўнем, сілай мастацкіх абагульненняў і багаццем слоўнага матэрыяла. Праўда, не ўвесь матэрыял ахоплены аўтарам з аднолькавай глыбінёй і сілай. Больш усяго ўдаліся Чорнаму вобразы і карціны старой беларускай вёскі, старога мястэчка. Яны сведчаць аб тым, што Кузьма Чорны ў дасканаласці, глыбока ведае гэты матэрыял, што ён добра адчувае і разумее яго. Адсюль мастацкая насычанасць і пераканальнасць такіх вобразаў, як Леапольд Гушка.

Вобраз Леапольда Гушкі—моцны, хвалюючы і пераканальны. Гэта асноўная, стрыжнёвая фігура п‘есы. Праз увесь твор праходзіць цяжкі, пакутлівы, супярэчлівы шлях псіхалагічнага ператварэння батрака Гушкі ў свядомага рэволюцыйнага байца.

Найбольш значнае пасля Гушкі месца займае вобраз Эвеля Цывіна—вобраз большэвіка-рэволюцыянера. Гэта не схема, не чалавек—лозунг, не формула, а сапраўдны, жывы, чалавечны і праўдзівы вобраз комуніста-падпольшчыка. За яго спакоем, вы-

трымкай, за ўраўнаважанай мяккасцю паводзін і размоў, за яго ўдумлівымі і заўсёды трапнымі рэплікамі, адчуваецца ўнутраная сіла волі, цвёрдасць і ўстойлівасць пераконанага рэвалюцыянера.

У паказе маладых рэвалюцыянераў аўтар праяўляе некаторую неўпэўненасць і нерашучасць. У гэтых вобразах, асабліва ў вобразе сына Гушкі, маладога рабочага-большэвіка Адася, няма той жыццёвасці і праўдзівасці, з якой драматург малюе вобразы Леапольда і Эвеля. Вобразы маладых рабочых больш павярхоўныя, абязлічаныя. Адась Гушка паданы аўтарам у якасці закончанага рэвалюцыянера з першага яго з'яўлення ў п'есе і пакінуты такім да канца без росту, без руху наперад, без развіцця.

Гэтыя акалічнасці сведчаць аб найбольш слабых баках творчасці Кузьмы Чорнага. На іх аўтару неабходна звярнуць увагу, але яны не могуць знізіць ідэёва-мастацкую каштоўнасць яго эпічнага твору, які значна ўзбагаціў беларускую савецкую драматургію.

Беларуская савецкая драматургія пачынае ставіць і вырашаць у мастацкіх вобразах складанейшыя праблемы сацыялістычнага выхавання мас—праблемы новае сацыялістычнае маралі. Яна пачынае крытычна пераглядаць старыя, этычныя нормы, па-новаму і смела падыходзіць да трактоўкі такіх адцягнутых разуменняў, як „дружба“, „абавязак“, „гонар“ і да т. п.

Да ліку такіх праблемных твораў належыць п'еса Крапівы „Канец дружбы“, якая пастаўлена на сцэне Беларускага Дзяржаўнага Тэатра ў 1934 годзе.

Вялікае значэнне ў сучаснай беларускай савецкай драматургіі набывае тэматыка абароннага характару. І гэта зусім зразумела, улічваючы пагранічнае становішча беларускай рэспублікі. „Наша краіна рыхтуецца да абароны і, зразумела, адна з важнейшых задач савецкага пісьменніка заключаецца ў тым, каб стварыць новыя, высока-мастацкія творы, якія падрыхтоўваюць працоўных да абароны, стварыць новыя творы, якія ўзмацнілі-б цвёрдасць байцоў, што ідуць у бой“,—пісаў Якуб Колас. Словы старога майстра беларускай мастацкай літаратуры не разыходзяцца са справай. Вырашэнню іменна гэтай задачы прысвечаны два апошнія драматургічныя творы Якуба Коласа. Сваю п'есу „Вайна вайне“ аўтар прысвяціў мастацкаму адлюстраванню аднаго з важнейшых этапаў у недалёкім мінулым беларускага народа. Рэалістычныя карціны беларускай вёскі ў момант абвяшчэння мабілізацыі 1913 года, эпізоды імперыялістычнай вайны, работа большэвікоў у арміі, растучае абурэнне салдацкіх мас, і нарэшце, рэвалюцыйны выбух, братанне з нямецкімі салдатамі і перарастанне вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую,—вось асноўныя, выключна адказныя па свайму гістарычнаму значэнню, моманты, пакладзеныя Коласам у аснову свайго твора. Вобразы гэтай п'есы—дзед Мікіта і яго сын Міхась, шахцёр Думака, бабыль Дзяменя і многія іншыя досыць даходлівыя і рэалістычныя. Праз гэтыя вобразы ўспрымае глядач гістарычнае значэнне падзей, якія разгортваюцца перад ім. Іменна праз іх імкнецца аўтар паказаць тую, увасобленую ў партыі большэвікоў, сілу, якая рухала масы на рэвалю-

цыйную барацьбу супроць прыгнятальнікаў, якая прывяла іх да перамогі. Найбольш ўдаліся ў п'есе масавыя сцэны ў вёсцы. П'еса садзейнічае засваенню класавай сутнасці імперыялістычнай вайны 1914—1917 гг., з'яўляючыся выхаваўчым матэрыялам для нашай моладзі.

На яшчэ больш блізкім сучаснасці матэрыяле пабудавана другая п'еса Якуба Коласа „У пушчах Палесся", напісаная аўтарам да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. У аснову гэтага твору пакладзены змест шырока вядомай і папулярнай сярод чытацкай масы аповесці таго-ж аўтара „Дрыгва". Вобразы суровай гераічнай барацьбы беларускага народа супроць белапольскай акупацыі, вобразы народнага партызанскага руху, які ўзначальваўся камуністычнай партыяй, устаюць са старонак гэтай п'есы.

Вобраз героя п'есы, старога партызана Талаша, яркі і самабытны. Карэнні гэтага вобраза ідуць далёка, у глыбіню вякоў. Векавая мудрасць беларускага народа адчуваецца ў кожным яго слове і пастунку. Гэтая мудрасць, якая ідзе з самых гушчаў, з самых глыбінных нетраў беларускіх народных мас, спалучаецца ў дзеда Талаша з здравым сэнсам рэвалюцыйнага барацьбіта, партызанскага камандзіра, які змагаецца пад кіраўніцтвам бальшэвікоў супроць польскіх паноў—акупантаў. Вобраз старога дзеда партызана, створаны Коласам з вялікай любоўю і цяплынёю, хвалюе сваёю глыбокай і чалавечнай праўдзівасцю. У п'есе добра паказана непарыўная сувязь беларускага народа з Чырвонай Арміяй. У эпізодзе адыходу чырвонаармейскага батальёна з вёскі асабліва моцна адчуваецца гэтая кроўная знітаванасць, арганічная блізасць чырвонаармейцаў да мясцовага насельніцтва, да працоўных мас глухога і драмучага, амаль легендарнага, казачнага Палесся. У гэтым сіла твора.

Абедзве п'есы і „Вайна вайне" і „У пушчах Палесся", напісаны каларытнай мовай. Гэта—народная мова, багата насычаная прымаўкамі і жартамі. У ёй адчуваюцца іншы раз дабрадушныя народныя хітрыкі. Яна поўна гумара і іроніі, нечаканых і трапных слоўцаў. Лексічныя асаблівасці персанажаў індывідуалізаваны. У тэксце абодвых п'ес шырока выкарыстоўваецца аўтарам беларускі фальклор.

П'есы Якуба Коласа, не гледзячы на пэўныя недахопы, да якіх трэба ў першую чаргу аднесці меладраматычную афарбоўку асобных эпізодаў, схематычнасць і, у сувязі з гэтым, недастатковую пераканальнасць вобразаў Алеся і Марыны („Вайна вайне"), наіўнасць у абмалёўцы некаторых сітуацый і характараў (асабліва гэта трэба аднесці да ўчынкаў і паводзін ворагаў), з'яўляюцца бясспрэчным дасягненнем беларускай савецкай драматургіі і садзейнічаюць яе далейшаму росту. Гэта датычыцца асабліва п'есы „У пушчах Палесся", якая ўпершыню стварыла ў беларускай драматургіі вобраз народнага героя эпохі грамадзянскай вайны.

З п'есай Коласа „У пушчах Палесся" пераклікаецца тэматычна і п'еса „Партызаны" К. Крапівы, напісаная аўтарам да XX гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У п'есе Крапівы, як і ў п'есе Коласа адлюстроўваецца гераічная барацьба супроць польскіх акупантаў у 1920 годзе. Адсюль і рад падобных палажэнняў. Асобныя вобразы гэтых п'ес нібы пераклікаюцца паміж сабою.

У п'есе „Партызаны" Крапіве асабліва ўдаўся дыялаг паміж Рыгорам і Кацярынай у VI карціне III акта. Дачка войта ўгаварвае бедняка Рыгора выказаць свайго друга, партызана Данілу. За галаву Данілы польскія ўлады прызначылі буйную суму грашовага ўзнагароджання. Кацярына абяцае Рыгору выйсці за яго замуж, калі ён здолее выкарыстаць зручную сітуацыю і разбагацее, выдаўшы Данілу, які даверыўся яму. Сумненні і хістанні ў душы Рыгора, барацьба паміж спакусай лёгкага ўзбагачэння і пачуццём абавязка, сяброўскай прывязанасці ў адносінах да Данілы адлюстраваны ў гэтай п'есе па мастацку моцна. Рыгор не паддаецца на ўгаворы Кацярыны, ён адмаўляецца ад яе, ён не выдае партызана. Гэтая сцэна з'яўляецца адным з лепшых момантаў у п'есе. Яна добрая іменна таму, што ў ёй Крапіва праяўляе сябе не як празаік, які пераносіць у драматургію апавядальныя асаблівасці свайго жанра, а як драматург па пераважнасці.

Да недахопаў твору трэба аднесці меладраматычны характар канцоўкі першага акта. У п'есе адчуваецца дыспрапорцыя паміж памерамі асобных частак яе.

Да апошняга часу ў беларускай савецкай драматургіі амаль зусім адсутнічалі п'есы з гістарычнай тэматыкай. Гэты прабел паступова ліквідуецца.

П'есы „Салавей" Змітрака Бядулі, „Кацярына Жарнасек" М. Клімковіча з'яўляюцца першымі савецкімі драматычнымі творамі, якія паказваюць далёкае мінулае беларускага народа.

У п'есе „Салавей", пераробленай Бядуляй з свайго аднайменнага гістарычнага рамана, паказваецца адзін з эпізодаў сялянскага паўстання ў пачатку XIX века. На фоне жыцця і быта прыгонных актораў у памешчыцкім тэатры аўтар раскрывае перад гледачом жорсткую сістэму прыгнечання беларускіх сялян польскімі панамі. Ён паказвае цяжкую долю маладых сялянскіх дзяўчат, воляю панасамадура ператвораных у акторак прыгоннага тэатра, перайменаваных у Тэрпсіхоры і Мельпомены, гвалтоўна адарваных ад роднага асяроддзя, навучаных класічнаму балету і прымушаных лепшыя гады свайго жыцця праводзіць у панскай няволі. На фоне злых дзівацтваў пана-мецэната, на фоне бязлітаснага падняволення сялян, нарастае стыхійнае паўстанне. Разгромам панскай сядзібы народ помсціць за свае пакуты. Аўтарам створаны гераічны вобраз Салаўя, смелага сына беларускага народа, самабытнага вясковага таленга, арганізатара і кіраўніка паўстаўшых сялян. П'еса мае шмат каларытных персанажаў. Асобныя моманты поўны драматычнага напружання. Моцнае ўражанне пакідае сцэна ў лесе, калі ксёндз-іезуіт, дарадца і давераная асоба пана Вашамірскага, спрабуе ашукаць сялян.

Адкрываючы перад намі малавядомыя старонкі цяжкога мінулага беларускага народа, паказваючы пакуты сялян пад прыгнётам польскіх паноў, іх барацьбу супроць сваіх прыгнятальнікаў,

уваскрашаючы вобразы перадавых, смелых і таленавітых прадстаўнікоў народных мас, Змітрок Бядуля ў асобе свайго „Салаўя“ стварыў бясспрэчна значны драматургічны твор.

Яшчэ больш далёкае мінулае паўстае перад намі ў драме М. Клімковіча „Кацярына Жарнасек“. Гэта не толькі першы драматычны твор аўтара, але і першая вершаваная гістарычная п'еса ў беларускай совецкай драматургіі. Змест п'есы звязаны з гістарычнымі падзеямі сярэдзіны XVI стагоддзя. У гэты час, напярэдадні заключэння Люблінскай уніі, якая аддала беларускі народ пад уладу панскай Польшчы, адбываецца канчатковае заняволенне беларускіх сялян панамі. Лепшыя землі адрэзваюцца ад сялян і перадаюцца ва ўласнасць паноў. Сяляне пазбаўляюцца асабістай свабоды, пазбаўляюцца права перахода ад аднаго пана да другога. Яны робяцца падняволенымі рабамі. Іх спрабуюць гвалтоўна апалячыць Велізарная нянавісць да польскіх паноў і ксяндзоў палае ў народных масах. Хвалі сялянскіх паўстанняў коцяцца па Беларусі. Гэты перыяд суправаджаецца таксама стыхійным уцяканнем непакорных на Украіну да казакаў. Усе гэтыя гістарычныя падзеі знаходзяць сабе адлюстраванне ў п'есе М. Клімковіча. Яны ствараюць гістарычны фон, на якім разгортваецца сюжэт твора—каханне сялянскай дзяўчыны Кацярыны да вольнага каваля, а потым казака, Рыгора. У асобе князя Івана Капусты аўтар ускрывае здрадніцтва мясцовых беларускіх магнатаў, якія ахвотна зблiжаюцца з Польшчаю і хутка засвойваюць польскія прыгонныя парадкі і польскую сістэму падняволення сялян. У супроцьлегласць сваім князям народ імкнецца да Масквы і бачыць у асобе украінскіх казакоў сваіх збавіцеляў.

— Цяжэй за ўсё, дзе польскі пан,—заяўляюць беларускія сяляне вуснамі дзеда Ахрэма. Пераканаўча выкрывае аўтар і ксяндзоў, якія наваднілі ў той час Беларусь, спрабуючы ў цесным саюзе з панамі-памешчыкамі навязаць беларускаму народу каталіцкую веру.

Драматычнымі эпізодамі барацьбы народных мас супроць сваіх ворагаў—польскіх захватчыкаў, сцэнамі братэрскага яднання беларускіх сялян з украінскімі казакамі п'еса нібы пераклікаецца з сучаснасцю. Цяпер, калі небяспека вайны пагражае краіне соцыялізма, гістарычныя падзеі барацьбы беларускага народа супроць польскіх паноў у далёкім мінулым, адлюстраваныя ў мастацкіх вобразах, набываюць новы, глыбока актуальны сэнс і значэнне. П'еса багата насычана беларускім фальклорам.

„Кацярына Жарнасек“ з'яўляецца творам літаратурным, разлічаным хутчэй на чытача, чым на сцэну. Сцэнічная апрацоўка твору патрабуе ад аўтара перамагчы перагружанасць п'есы гістарычнымі дэталямі, адступленнямі ад асноўнай сюжэтнай лініі, а таксама унікнуць расцягнутасці асобных карцін і больш дасканала адшліфаваць не ўсюды роўны верш. Мова п'есы таксама патрабуе значнай апрацоўкі.

Мы бачым, што за апошнія гады ідэйна-мастацкі ўзровень беларускай совецкай драматургіі значна ўзрос. Барацьба за ўладанне новымі тэмамі, за перабудову свайго светапогляду была для

беларускай драматургіі дастаткова цяжкай і супярэчлівай, але яна прывяла да безумоўна значных вынікаў. Пашыраецца творчы дыяпазон драматурга. Паглыбляецца ідэйна-філасофскі змест тэм і сюжэтаў. Маладая беларуская совецкая драматургія робіцца драматургіяй з соцыялістычнай накіраванасцю, але яна не стала яшчэ драматургіяй вялікага майстэрства. На гэтым шляху нашай драматургіі трэба будзе яшчэ перамагчы не мала перашкод. Правільная ідэйная накірованасць большасці нашых драматургічных твораў не можа нам закрыць вочы на шэраг істотных недахопаў. Для нашых драматургаў характэрна слабае знаёмства з архітэктонікай драмы, з законамі сцэнічнасці. Многія п'есы сведчаць аб пэўнай бездапаможнасці аўтароў у пытаннях кампазіцыі свайго твора. Часта даводзіцца сустракацца з няўменнем правільна арганізаваць тэматычны матэрыял вакол вузлавых момантаў, з няўменнем паслядоўна развіваць сюжэтную лінію дзеі, з няўменнем карыстацца інтрыгай.

Амаль усе нашы аўтары імкнуцца ахапіць у адным творы як можна больш адказнейшых праблем, складанейшых і сур'ёзнейшых пытанняў рэчаіснасці, спрабуюць адлюстраваць сапраўднасць ва ўсіх яе праявах і дэталях. Баяцца, каб не ўпусціць чаго-небудзь з поля зроку. Адсюль лішняя раскіданасць, расплыўчатасць, мазаічнасць і неарганізаванасць твору. Адсюль кампазіцыйная складанасць і грамоздкасць значнай часткі нашых п'ес. Пазбаўлены магчымасці вырашыць у межах адной п'есы ўсе пастаўленыя ім праблемы, аўтар такога твору часта бывае прымушаны абмяжоўвацца толькі паверхоўнымі накідамі, спрошчанай схемай. Гэта прыводзіць іншы раз да варожага па сутнасці скажэння рэчаіснасці. Асабліва характэрнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца п'есы І. Гурскага.

Нашы аўтары не навучыліся яшчэ як след канцэнтраваць увагу на асноўным, на галоўным, на рашаючым, на правільнай арганізацыі матэрыялу вакол пэўнай ідэйна-філасофскай праблемы, свядома адкідаючы ўсё лішняе, непатрэбнае, немаючае не пасрэдных адносін да развіцця дзеі. Яны не засвоілі яшчэ сабе вядомага выказвання Чэхава аб тым, што калі ў першым акце на сцяне вісіць стрэльба, дык у апошнім акце яна павінна абавязкова выстрэліць. Нашаму драматургу неабходна навучыцца кампанаваць свой матэрыял вакол пэўных рашаючых момантаў такім чынам, каб даць уяўленне аб цэлым па адной яго дэталі, па адной з частак гэтага цэлага, каб у гэтай дэталі адлюстраваць усё цэлае так, як у кроплі вады адлюстроўваецца сонца. Неабходна навучыцца паказваць сапраўднасць, ускрываючы яе сутнасць на любым абмежаваным кавалку яе, у любым кутку, не паказваючы абавязкова ўсяго фасада. Неабходна адмовіцца ад велізарных, расцягнутых драматургічных пабудоў, дрэнна прыстасаваных для сцэны, грамоздкіх і бясформенных, якія спрабуюць па прыкладу сярэдневяковых містэрый ахапіць, выражаючыся фігуральна, амаль усю гісторыю свету ад Адама і да нашых дзён. Кожнаму з нашых драматургаў не пашкодзіць часцей успамінаць словы Астроўскага аб тым, што „Самая цяжкая справа для драматургічных пісьменнікаў—гэта пабудаваць п'есу, а няўмела зробленны сцэнарыум шкодзіць поспеху і губіць вартасць п'есы".

Як безумоўнае дасягненне нашых драматургаў за апошнія часы

трэба адзначыць шырокае выкарыстанне ў п'есах фальклора. Праўда, фальклорныя матэрыялы не заўсёды арганічна ўплецены ў тэкст твору. Іншы раз адны і тыя-ж фальклорныя матэрыялы адначасова скарыстоўваюцца ў некалькіх творах. Гэта сведчыць аб недастатковай рабоце аўтароў над вывучэннем беларускага фальклора, над папулярызацыяй у сваіх п'есах яго лепшых, малавядомых яшчэ ўзораў.

Перад беларускай совецкай драматургіяй ва ўсю шырыню стаіць задача ўладання сапраўднымі вяршынямі майстэрства. У нас ёсць усе падставы думаць, што яна з гэтымі задачамі справіцца. Для гэтага патрэбна арганічнае пранікненне драматурга ў рэчаіснасць, ўладанне перадавымі ідэямі свайго часу, свайго народу.

Драматург павінен жыць інтарэсамі народа. Павінен умець увасабляць іх у высока-мастацкіх, моцных і яркіх сцэнічных вобразах, а гэта немагчыма без дасканалага ведання законаў сцэны, без авалодання спецыфікай тэатральнага мастацтва.

## VII

Значна вырасла за гэты час беларуская совецкая дзіцячая літаратура. Трэба адзначыць, што гэтую літаратуру ствараюць не толькі пісьменнікі, якія пішуць выключна для дзяцей. Беларуская совецкая дзіцячая літаратура паспяхова расце і развіваецца пры актыўным удзеле буйнейшых прадстаўнікоў паэзіі і прозы БССР.

Сістэматычна працуе ў галіне дзіцячай літаратуры пісьменнік Янка Маўр.

Для яго творчасці характэрны прыгодніцкія, фантастычныя сюжэты. Маўрам напісаны аповесці „У краіне райскай птушкі", „Сын вады", „Амок", „Палескія Рабінзоны" „Таварыства ваяўнічых тэхнікаў" і шмат іншых.

У сваёй творчасці Маўр ідзе ад традыцый класікаў прыгодніцкага рамана. Яго творам уласціва дынамічнасць дзеі, вастрыня сітуацыі. Ён імкнецца ўскрыць перад чытачом эксплаататарскую, варварскую сутнасць капіталістычнай каланізацыі. Ён пашырае навуковыя гарызонты чытача, яго веды ў галіне геаграфіі, батанікі, заалогіі. Ён дае папулярнае тлумачэнне цікавых прыродных з'яў. Слабым месцам у творчасці Маўра з'яўляецца ператварэнне прыгодніцкіх момантаў у самамэту, што мы нярэдка заўважаем у яго творчасці.

Аднак, гэтыя недахопы не засланяюць асноўнага ў творах Я. Маўра, тое, што гэтыя творы спрыяюць развіццю ў дзяцей творчай фантазіі, знаходлівасці, зацікаўленасці да далёкіх краін.

Таксама выключна для дзяцей піша А. Якімовіч. З апошніх яго твораў заслугоўваюць увагі аповесць „Незвычайны мядзведзь", казка „Каваль-вернідуб", апавяданне „Залаты зуб", „Казка пра смелага вожыка".

Аповесць „Незвычайны мядзведзь" створана на матэрыяле совецкай рэчаіснасці. У простай форме апавядае аўтар пра калгаснага хлопчыка—героя, які здолеў выкрыць шкодніцкія махінацыі кулакоў.

Арыгінальнасць сюжэта, напружанасць падзей, драматычнасць асобных эпізодаў—з'яўляецца адрозніваючай асаблівасцю твораў Якімовіча. Яго аповесць вучыць дзяцей ненавідзець ворага. Апошняе датычыцца таксама і апавядання „Залаты зуб“ пра жыццё працоўных дзяцей у фашысцкай Германіі.

У сваіх казках Якімовіч выкарыстоўвае вусную народную творчасць.

Выдатнае месца ў літаратуры для дзяцей займаюць творы народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Зм. Бядулі, М. Лынькова і інш.

Шмат працуе ў галіне дзіцячай літаратуры Якуб Колас. Ім напісан рад вершаў, казак і апавяданняў, пераважна для малодшага ўзросту, у тым ліку паэмы „Прыгоды Міхася“ і „Савось-распуснік“, прасякнутыя непасрэднасцю, цяплынёй. Яго творы аднаўляюць у літаратуры для дзяцей лепшыя ўзоры вуснай народнай творчасці. Сярод дзяцей карыстаюцца папулярнасцю і прыродаапісальныя вершы Коласа („Вясна“, „Лета“, „Зіма“ і інш.).

Заслужанай вядомасцю сярод дзяцей карыстаюцца такія творы Янкі Купалы, як „Хлопчык і лётчык“, „Алеся“, яго вершы пра Варашылава. Дзякуючы сваей прастаце, яснасці думкі і канкрэтнасці зместу гэтыя творы блізкія і зразумелыя нашым дзецям. Для дзіцячай літаратуры яны з'яўляюцца бліскучым узорам народнай песеннай лірыкі, якая вельмі добра ўспрымаецца дзецьмі.

Янка Купала і Якуб Колас узбагацілі беларускую дзіцячую літаратуру высокай паэтычнай культурай, багаццем і разнастайнасцю жанраў.

Рад каштоўных дзіцячых казак напісаў Зм. Бядуля.

Празаік М. Лынькоў напісаў для дзяцей тры аповесці, пра якія мы ўжо ўпаміналі вышэй. Гэтыя аповесці, і асабліва „Міколка-паравоз“, напісаны ў рамантычным плане. У аповесці „Пра храбрага ваяку Мішку“ і „Янка парашутыст“ пераважаюць моманты юмарыстычнага характару. Творы для дзяцей М. Лынькова адпавядаюць густам і патрабаванням юнага чытача. Героям яго твораў уласціва смеласць, знаходлівасць, кемлівасць.

## VIII

У сваім нарысе мы спрабавалі намаляваць карціну развіцця і росту беларускай савецкай літаратуры на ўсіх этапах яе 20-гадовай гісторыі. Мы пастараліся ахарактарызаваць творчасць асобных пісьменнікаў і іх творы, а таксама даць ацэнку той рэвалюцыйна-дэмакратычнай спадчыне, якая была створана да рэвалюцыі лепшымі майстрамі нашай літаратуры. Перад намі разгарнуліся эпізоды складанейшай класавай барацьбы, ва ўмовах якой расла і загартоўвалася беларуская савецкая літаратура.

У гэтай барацьбе былі разгромлены нацыянал-фашысты, злейшыя ворагі беларускага народа. Гэты разгром прывёў да яшчэ больш бурнага росквіту нашай літаратуры.

Якія задачы стаяць зараз перад пісьменнікамі Беларусі?

Задачы, якія стаяць перад беларускай совецкай паэзіяй, прозай і драматургіяй на 21 годзе Вялікай Соцыялістычнай Кастрычніцкай рэволюцыі, складаныя і многастайныя.

Беларуская совецкая літаратура не змагла яшчэ падняць такія вялікія тэмы нашай рэволюцыйнай эпохі, як гістарычная роля Леніна і Сталіна ў Кастрычніку 1917 года. Роля вялікіх правадыроў чалавецтва ў справе выкоўкі рэволюцыйнай свядомасці мас, у падрыхтоўцы Кастрычніка і, нарэшце, у стварэнні радаснага і заможнага жыцця для нашых народаў яшчэ не адлюстравана ў высока-мастацкіх творах.

Беларускія совецкія пісьменнікі павінны адлюстраваць вялікую гістарычную ролю Леніна і Сталіна ў стварэнні Беларускай Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі, у дзяржаўным самавызначэнні беларускага народа.

У Беларусі паспяхова працавалі верныя вучні Сталіна—Л. М. Кагановіч, М. В. Фрунзе, Н. І. Ежоў,—кіруючы большэвіцкімі арганізацыямі, узмацняючы эканамічную і культурную магутнасць краіны, ствараючы і вырошчваючы комуністычную партыю Беларусі.

Славутая Чырвоная Армія, на чале з Варашылавым, Орджанікідзе і Будзённым, змагалася на нашай зямлі супроць польскіх захватчыкаў, адстойваючы Совецкую Беларусь, дапамагаючы беларускаму народу вызваліць сваю зямлю ад варожых акупацый. Гераічныя эпізоды гэтай барацьбы таксама павінны быць адлюстраваны ў беларускай паэзіі, прозе і драматургіі.

Беларусь з'яўлялася ў мінулым арэнай вялікіх сутычак народаў. Тут праходзілі полчышчы шведаў і Напалеона. Тут адбываліся крывавыя, трагічныя падзеі сусветнай імперыялістычнай бойні. Частка беларускага народа, ратуючыся ад мяча і пажара, узнялася з сваіх наседжаных месц і рушыла ў бежанства. Польскія паны неаднойчы замахваліся на жыццё і самастойнасць нашай краіны, спрабуючы гвалтоўна заняволіць яе працавіты і мірны народ.

Вялікая задача стаіць перад нашымі пісьменнікамі,—паказаць у сваіх творах шматпакутнае мінулае беларускага народа, паказаць яго самаадданую барацьбу за сваю свабоду, паказаць, як не раз гнаў ён польскіх паноў у цесным і непарыўным саюзе з брацкімі рускім і украінскім народамі.

Беларуская совецкая літаратура павінна паўней адлюстраваць жыццё свайго народа і ў цяперашні час. Яна павінна паказаць тыя велізарныя зрухі і змены, якія адбыліся ў краіне за 20 год. Нашы пісьменнікі павінны паказаць рост яе прамысловасці, яе сельскай гаспадаркі, яе культуры і абароннай магутнасці.

Пытанні абароны краіны з'яўляюцца асабліва важнай і адказнай тэмай для беларускіх совецкіх пісьменнікаў. Совецкая Беларусь—фарпост вялікага Совецкага Саюза на рубяжы з капіталістычным светам, на граніцы з фашысцкай Германіяй і белапанскай Польшчай. Заклятыя ворагі працоўных, крывавыя мракабесы падрыхтоўваюць новую вайну. Рыхтуючыся да нападу на Совецкі Саюз, яны пасылаюць на нашу тэрыторыю сваіх подлых агентаў, празрэнных трацкістаў, бухарынцаў, нацыянал-фашыстаў—шпіёнаў, дыверсантаў і правакатараў.

Нашы пісьменнікі павінны даць творы, якія выкрывалі-б трацкісцкіх, бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх шпіёнаў, наймітаў польскай, нямецкай і японскай ахранак. Нашай літаратуры неабходна стварыць такія творы, у якіх адлюстроўвалася-б несакрушальная магутнасць савецкай радзімы, такія творы, якія спрыялі-б далейшаму падвышэнню яе боездольнасці, мабілізавалі-б увагу працоўных на ўзмацненне рэвалюцыйнай пільнасці.

З усімі гэтымі найскладанымі і найадказнейшымі задачамі беларуская савецкая літаратура справіцца толькі пры ўмовах штодзённага падвышэння свайго ідэйнага і агульна-культурнага ўзроўня, толькі пры ўмове упартай, сістэматычнай работы пісьменнікаў над аўладаннем вышынямі літаратурнага майстэрства, толькі пры ўмовах далейшай ачысткі сваіх радоў ад усіх чужых і варожых элементаў.

Выконваючы гэтыя задачы, кіруючыся празорлівымі ўказаннямі мудрага Сталіна, беларуская савецкая літаратура будзе няўхільна ісці наперад па вызначанаму таварышам Сталіным шляху—шляху соцыялістычнага рэалізма.

# ХРОНІКА

На прадвыбарчых сходах, прысвечаных выбарам у Вярхоўны Совет Саюза ССР ад выбарчых акругоў высунуты наступныя кандыдатуры совецкіх пісьменнікаў: *Міхаіл Александровіч Шолахаў*— Новачаркаская выбарчая акруга (Растоўская вобласць), *Алексей Нікалаевіч Талстой* — Стара-Руская выбарчая акруга (Ленінградская вобласць), *Сулейман Стальскі* — Дэрбенская выбарчая акруга, *Александр Еўдакімавіч Карнейчук* — Звенігародская выбарчая акруга, *Владзімір Пятровіч Стаўскі* — Грозненская гарадская выбарчая акруга. *Шалва Нікалаевіч Дадіані* Тбіліская сельская выбарчая акруга.

## СОВЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ БЕЛАРУСІ Ў ГОМЕЛІ

3-га лістапада ў Гомель прыехала брыгада пісьменнікаў БССР у складзе: тт. *П. Глебкі, М. Хведаровіча, Э. Агняцвет і Камянецкага.* У клубе дрэваапрацовачнага камбіната адбыўся вечар, прысвечаны XX гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі і выбарам у Вярхоўны Совет Саюза ССР, на якім з дакладам аб беларускай літаратуры за XX год, выступіў пісьменнік т. Глебка.

Рабочыя дрэваапрацовачнага камбіната вельмі цёпла сустрэлі пісьменнікаў і з вялікай увагай праслухалі даклад.

Пасля даклада пісьменнікі чыталі свае творы.

Вечар паказаў вялікую зацікаўленасць рабочых да нашай совецкай літаратуры.

## БРЫГАДА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ У ЛЕПЕЛІ

18-га лістапада ў Лепель прыехала брыгада совецкіх пісьменнікаў у складзе тт. Шапавалава, Броўкі, і Э. Самуйлёнка.

На агульна-гарадскім сходзе Лепеля прысвечаным XX гадавіне вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі і выбарам у Вярхоўны Совет Саюза ССР з вялікім дакладам аб беларускай совецкай літаратуры за XX год выступіў т. Шапавалаў. Пісьменнікі тт. Броўка і Самуйлёнак прачыталі свае творы. Шматлюдная аўдыторыя з вялікай увагай праслухала выступленне пісьменнікаў. Пісьменнікі таксама выступалі ў калгаснікаў і настаўнікаў Лепельшчыны.

## ВЫШЛІ З ДРУКУ НАСТУПНЫЯ КНІГІ:

▲ *„Ленін і Сталін у народнай творчасці"*, зборнік народнай творчасці, складзены фальклорнай камісіяй БАН.

▲ *„Сталін у беларускай паэзіі"*, зборнік вершаў і паэм прысвечаных вялікаму правадыру народаў таварышу Сталіну.

▲ *Якуб Колас*—„Дрыгва" аповесць,

▲ *Янка Купала*—„Беларусь ордэнаносная", зборнік вершаў.

▲ *Эдуард Самуйлёнак*—„Дачка эскадрона", зборнік апавяданняў.

▲ *Пятрусь Броўка*—„Вясна радзімы", зборнік вершаў і паэм.

▲ *Іван Шапавалаў*—„Большэвікі граніц" аповесць „Время близится", зборнік вершаў.

## ПАМЁР НАРОДНЫ ПАЭТ АРМЕНІІ І ГРУЗІІ АКОП АКОПЯН.

Памёр народны паэт Арменіі і Грузіі палкі большэвік — прапагандыст, нястомны трыбун рэволюцыі.

Сын саматужніка рабочага Акоп быў выключаны са школы за напісанне і распаўсюджванне пракламацый, з прычыны закрыцця міністрам народнай асветы Дзелянавым армянскіх царкоўнаприходскіх школ (1885 г.). З гэтага часу Акапян стаў на шлях рэволюцыянера прапагандыста. Ён працаваў у якасці падпольшчыка большэвіка ў царскай Расіі. У гады грамадзянскай вайны працаваў у тылу ворага, а пасля Кастрычніцкай рэволюцыі цалкам прысвяціў сваё жыццё любімай і блізкай прапагандысцкай рабоце—літаратурнай дзейнасці.

Акоп Акапян—член ВКП(б) з 1904 года. У гады рэакцыі ён быў членам Закаўказ-

скага партыйнага камітэта і ўваходзіў у рэдкалегію партыйнага органа „Барацьба". У 1911 годзе ён па партыйных справах ездзіў за граніцу, дзе сустракаўся з Карлам Лібкнехтам і іншымі партыйнымі таварышамі. У 1914 годзе Акоп Акапян удзельнічаў у партыйнай нарадзе ў Фінляндыі. Акапян быў палкім песняром пролетарыята, яго верным сынам, яго верным агітатарам і прапагандыстам.

Акапяна называлі армянскім Верхарнам. Ён быў песняром горада, заводаў, фабрык і працы.

Адышоў ад нас асновапаложнік пролетарскай паэзіі Арменіі і старэйшы пролетарскі паэт Совецкага Саюза.

*Праўленне ССП СССР*

## НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЯ ШОТА РУСТАВЕЛІ

Рашэннем сакратарыята Саюза совецкіх пісьменьнікаў СССР канчаткова ўстаноўлены тэрмін скліканяя пашыранага пленума праўлення, прысвечанага Шота Руставелі. Ён адбудзецца ў Тбілісі 24 снежня.

Адказная і ганаровая задача падрыхтоўкі юбілея кладзецца на юбілейную руставелеўскую камісію ССП СССР, секцыю паэтаў і ўсю пісьменніцкую грамадскасць. Вышэйшыя партыйныя і совецкія арганізацыі Грузіі на чале з тав. Берыем праяўляюць выключную ўвагу да падрыхтоўкі юбілея Шота Руставелі.

Услед за выданнем рускага пераклада „Вепхіс ткаосані", зробленага К. Бальмантам, выходзяць з друку новыя совецкія пераклады паэмы. Пераклад Георгія Цагарэлі, зроблены вельмі добра і ўмела, ужо надрукаваны ў нумары 1—9 часопіса „Красная новь" і выпушчаны Дзяржлітвыдатам асобным выданнем, якое добра ілюстравана грузінскім мастаком Тамарай Абакелія. Цікавы пераклад, выкананы нябошчыкам Пантэлеймонам Петрэнка і закончаны Барысам Брыкам, пад рэдакцыяй К. Чычынадзе выходзіць у двух выданнях—у выданні Акадэміі навук СССР, з ілюстрацыямі Серго Кабуладзе і ў выданні Дзяржлітвыдата з ілюстрацыямі мастака ордэнаносца Ладо Гудзіашвілі. Дзетгіз выпускае скарочаны тэкст паэмы Руставелі, перакладзены і апрацаваны Нікалаем Забалоцкім. Пераклады П. Петрэнка і Н. Забалоцкага ўжо абгаварваліся ў Саюзе пісьменнікаў. У бліжэйшы час будзе разгледжаны і абмяркованы пераклад Г. Цагарэлі.

На Украіне выходзіць у свет поўны пераклад „Віцязь у тыгравай скуры" добра выкананы Міколам Бажаном. Адначасова паэмы Руставелі поўнаюцю ці ў выбраных урыўках перакладаюцца ў радзе брацкіх рэспублік. Над перакладамі ўрыўкаў з паэмы Руставелі працуюць зараз: Антакольскі, Галодны. Суркоў, Уткін, Дзяржавін, Броўка, Хведаровіч, Глебка, Александровіч і іншыя паэты. Хутка магутны паэтычны голас Шота Руставелі загучыць ва ўсім вялікім Совецкім Саюзе.

Большасць часопісаў і газет рыхтуюцца шырока адзначыць юбілей Руставелі. У юбілейныя дні ў Тбілісі адбудзецца ўрачыстае адчыненне помніка вялікаму грузінскаму паэту. На ўрачыстасцях будуць прадстаўлены ўсе брацкія саюзныя рэспублікі. У Маскве мяркуецца разам з Акадэміяй Навук наладзіць урачыстае паседжанне, прысвечанае памяці Руставелі. Да руставелеўскіх урачыстасцей у Тбілісі адкрываецца выстаўка, якая потым будзе пераведзена ў Маскву. Акадэмія навук СССР і ССП прынцыпова дамовіліся аб наладжанні аналагічнай юбілейнай выстаўкі ў Маскве, ці Ленінградзе.

ІЗОГІЗ выдае вялікі партрэт Руставелі, работы вядомага грузінскага мастака Іраклія Тоідзе. Акрамя таго ён выпускае альбом ілюстрацый да „Віцязя ў тыгравай скуры", зроблены тым-жа мастаком.

У адзнаку юбілея прэзідыум ССП СССР вырашыў вызначыць пры літуніверсытэце стыпендыі імя Руставелі. Юбілейная камісія ССП узняла пытанне перад НКА аб зацвярджэнні руставелеўскіх стыпендый у шэрагу іншых ВНУ СССР і аб вывучэнні паэм Руставелі ва ўсіх школах.

■ *Выстаўку, прысвечаную Шота Руставелі і яго эпосе* арганізуе ў Тбілісі дом народных мастацтваў. У залах Дома будуць сабраны ўсе пераклады паэмы Шота Руставелі на мовы народаў СССР, партрэты вялікага паэта, напісаныя ў XVI—XX стагоддзях, і фотаздымкі помнікаў архітэктуры эпохі Руставелі, касцюмаў і інш.

■ *Зборнік аб Шота Руставелі* выходзіць у тбіліскім выдавецтве „Федэрацыя". У зборнік уключаны выбраныя вершы і проза аб Руставелі, пачынаючы з XVI ст. да нашых дзён, у прыватнасці вершы Теймураза I і паэтаў Арчыла, Важа Пшавела, Ільі Чаўчавадзе і іншых.

■ *Манаграфічны нарыс* аб жыцці і творчасці вялікага грузінскага пісьменніка Шота Руставелі выпускае Дзяржлітвыдат.

■ *„Віцязь у тыгравай скуры"*—паэма Шота Руставелі выходзіць у выдавецтве тбіліскага універсітэта. Гэтае выданне будзе дасканалым аднаўленнем першага друкаванага тэксту паэмы, які апубл кавалі царом Вахтангам у 1712 годзе. Спецыяльны шрыфт для гэтага выдання заказаны ў словалітні. Памер кнігі—30 друкаваных аркушаў.

■ *Паэму Шота Руставелі* „Віцязь у тыгравай скуры" выдае Арменвыдат. Гэта першы пераклад паэмы на армянскую мову.

■ *Біяграфію Шота Руставелі* выпусціла Жургазаб'яднанне ў бібліятэцы „Жизнь замечательных людей".

■ *„Афарызмы Руставелі"* рыхтуе да 750-годдзя з дня нараджэння Шота Руставелі Акадэмія навук СССР. У кнігу ўключаны ўсе выказванні, якія змяшчаюцца ў бессмяротнай паэме „Віцязь у тыгравай скуры". Выданне мастацкі аформлена.

■ *Абхазія рыхтуецца да юбілея геніяльнага грузінскага паэта.* Асобныя часткі паэмы Руставелі выходзяць асобным выданнем на абхазскай мове ў перакладах народнага паэта Абхазіі Д. Гулія і С. Чанба.

■ *Інсцэніроўка вялікай паэмы Шота Руставелі* арганізавана рэжысерам Ак. Почава ў тэатры імя Руставелі.

■ *Сесія інстытута мовы,* гісторыі і матэрыяльнай культуры імя акадэміка Н. Я. Мара адбудзецца ў Тбілісі ў дні святкавання 750-годдзя з дня нараджэння Шота Руставелі.

На сесіі будуць зроблены даклады: „Сацыяльна-палітычныя ўмовы Грузіі ў эпоху Руставелі", „Сацыяльныя асновы ідэі паэмы Шота Руставелі", „Паданне аб Нестан Дарэджан у фальклоры Сярэдняй Азіі" і іншых.

■ *Выстаўка, прысвечаная Шота Руставелі,* адкрываецца ў юбілейныя дні ў Акадэміі мастацтваў Грузіі. На выстаўцы будуць дэманстравацца карціны і скульптуры, прысвечаныя вялікаму грузінскаму паэту.

■ *Да юбілейных дзён Тбіліскі дзяржаўны універсітэт* выпускае спецыяльны том „Працы Інстытута імя Руставелі", у якім сабраны багаты матэрыял народнай творчасці аб вялікім грузінскім паэце. Гэтыя матэрыялы сабраны спецыяльнай навуковай экспедыцыяй фальклорнай секцыі інстытута імя Шота Руставелі.

## ВЫСТАЎКА ПАМЯЦІ А. П. ЧАПЫГІНА

Літаратурны кабінет філалагічнага факультэта ЛГУ адкрыў выстаўку памяці А. П. Чапыгіна.

Праўленне Ленсаюза пісьменнікаў прыняло пастанову аб увекавечанні памяці А. П. Чапыгіна. Акрамя выдання пасмертнага збора твораў і манаграфіі вырашана звярнуцца з хадайніцтвам у Ленінградскі Совет аб устанаўленні помніка на магіле пісьменніка ў Александра-Неўскай лаўры, і ўстанаўленні мемарыяльнай дошкі на д. № 19 па вул. Літаратараў, дзе жыў Аляксей Паўлавіч, і аб зацверджанні стыпендыі імя Чапыгіна ва універсітэце.

## ДРАМАТУРГІ ДА ВЫБАРАЎ

У Доме совецкага пісьменніка секцыя драматургаў ССП СССР наладзіла вялікі вечар, прысвечаны выбарам у Вярхоўны Совет.

Вечар адчыніўся ўступным словам тав. Всевалада Вішнеўскага.

Потым драматургі прачыталі свае новыя творы, прысвечаныя выбарам.

К. Трэнеў напісаў інтэрмедыю да сваёй п'есы „Любоў Яравая".

А. Глебаў, Л. Цыноўскі і Н. Петрашкевіч напісалі аднаактныя п'есы.

З чыткай вершаў і песень аб выбарах выступілі В. Лебедзеў-Кумач, Н. Адуеў, А. Арго, М. Гальперын, В. Гусеў, М. Пустынін, В. Салаўеў і Е. Яноўскі.

## ТРЫ МІЛЬЁНЫ РУКАПІСАЎ

Дзяржлітмузей адкрывае гэтымі днямі выстаўку матэрыялаў па гісторыі рускай літаратуры XVIII—XX стагоддзяў.

Музей мае тры мільёны рукапісаў, якія належаць пяру пісьменнікаў розных эпох.

Каталаг выстаўкі ўключае 110 рукапісаў А. С. Пушкіна і вялікі матэрыял, звязаны з імем вялікага паэта: „Болдзінскі архіў", „Справы опекі Пушкіна", „Дзённік Далгарукава" і г. д. Вялікую цікавасць мае „Справа аб устанаўленні нагляда за паводзінамі вядомага паэта тытулярнага советніка Пушкіна", якая адносіцца да 1833 года і „Паслужны спіс тытулярнага советніка ў званні камер'юнкера Александра Пушкіна"—1837 года. Большая частка дакументаў з гэтых спраў да сёнешняга дня не выкарыстана біёграфамі вялікага паэта.

Не меншую каштоўнасць маюць гаспадарчыя паперы Пушкіна, аб ніжагародскіх уладаннях і сяла Міхайлаўскага.

Значна меншы па аб'ёму выстаўлены музеем лермантаўскі збор. Але ён вельмі каштоўны па свайму зместу: аўтографы вершаў, дакументы аб дуэлі, малюнкі і нарэшце рукапіс паэмы „Демон".

Гогаль будзе прадстаўлены ва выстаўцы ўнікальным урыўкам (адзін ліст) з спаленай аўтарам другой часткі „Мёртвых душ“ і чарнавіком пісьма да Белінскага, якое парвана Гогалем на 48 частак. Пісьмо ўдалося вельмі добра рэстаўрыраваць, яго можна лёгка прачытаць.

Саракавыя гады паказаны ў дакумантах Тучковай-Огаравай і Саціна, якія даюць вялікі матэрыял аб Герцане, Огарэве і іх літаратурных спадарожніках.

Акрамя чыста літаратурных помнікаў будзе выстаўлены выключна багаты матэрыял па гісторыі грамадскага руху ў Расіі XIX ст.

Сярод матэрыялаў аб дзекабрыстых ёсць дакументы-унікумы.

Гэты раздзел выстаўкі адкрываецца арыгіналам пісьма унтэр-афіцэра І. Шэрвуда да Александра І аб асабістай аудыенцыі для даклада „аб сустрэўшыхся абставінах“. Пісьмо датавана 18 мая 1825 г. Гэта першы данос цару на дзекабрыстаў.

Тут-жа арыгінал пісьма графа Аракчэева да Александра І з паведамленнем аб прыездзе унтэр-афіцэра Шэрвуда для даноса аб змове ў арміі.

Раздзел канчаецца сапраўднымі запіскамі Нікалая І да каменданта Петрапаўлаўскай крэпасці А. Я. Сукіна аб мерах, якія неабходна прыняць у адносінах да кожнага дзекабрыста ў паасобку.

Пісьмо Нікалая да начальніка штаба Дзібіча—аб „тактыцы і мерах барацьбы з смут'янамі“—кажа аб тым, што ў царскім палацы яшчэ за два дні да выступлення дзекабрыстаў ведалі пра дзень і час паўстання.

Пачатак XX стагоддзя будзе прадстаўлены на выстаўцы цікавымі матэрыяламі аб сімвалістах і аб пісьменніках, якія групаваліся вакол зборнікаў „Знание“. У гэтых апошніх матэрыялах ярка адлюстраваліся рэалізм і палітычная накіраванасць пісьменнікаў групы „Знание“ і арганізуючая роля ў ёй Максіма Горкага.

## ПІСЬМЕННІКІ—ДА ВЯЛІКАЙ ГАДАВІНЫ

■ *Усевалад Іваноў* напісаў п'есу „Галубы міра“, прысвечаную барацьбе з японскай інтэрвенцыяй на Далёкім Усходзе ў перыяд 1920—1922 гадоў і ролі партыі ў гэтай барацьбе.

П'еса будзе пастаўлена ва Бладзівастоку Цэнтральным тэатрам Чырвонай Арміі.

■ *Леў Нікулін* скончыў работу над кнігай „Вось Масква“, якая паказвае кастрычніцкія дні 1917 года ў Маскве і твар соцыялістычнай сталіцы дваццаць год назад і ў наш час.

■ *Пётр Паўленка* канчае работу над першай часткай трылогіі „Шаміль“ з гісторыі народна-вызваленчага руху горцаў Дагестана, якія змагаліся супроць рускага самаўладства. У другой частцы трылогіі аўтар мяркуе даць гісторыю аднаго аула пасля паражэння Шаміля. У трэцяй—той-жа аул у нашы дні.

Гэта трылогія гісторыя жыцця адной сям'і ад дзеда да ўнукаў. Герой першай часткі трылогіі выступае ў трэцяй як 117-гадовы дзядуля, які прымаў удзел у грамадзянскай вайне.

Акрамя таго пісьменнікам скончаны сцэнарый з гісторыі паходаў тэўтонскіх (германскіх) рыцараў на Усход і разгроме іх рускімі войскамі на Чудскім возеры. Фільм будзе называцца „Гаспадзін Вялікі Ноўгарад“.

■ *Віктар Шклоўскі* напісаў гістарычную аповесць аб Мініне і Пажарскім, у якой дадзена гісторыя барацьбы рускага народа з польскімі інтэрвентамі 1611-12 гг. У аповесці—падпал Масквы германа-польскімі акупантамі і вызваленне Крэмля рускай народнай арміяй.

■ *Валерыя Герасімава* напісала аповесць „Хітрыя вочы“, тэмай якой з'яўляецца барацьба з перажыткамі капіталізма ў свядомасці людзей і з праявамі варожых уплываў на ідэалагічным фронце. Аповесць друкуецца ў альманаху „Год дваццаты“.

Адначасова аповесць перарабляецца аўтарам у п'есу для Тэатра рэволюцыі.



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

## Памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| 56 | 21 зверху | У частцы тыража вырваны першыя чатыры словы | (Ізноў ідзе ў цакой княгіні, варочаецца і зусім вморанаая садзіцца ў крэсла). |
| 187 | 9 знізу | праўд | праўду |
| 190 | 10 зверху | Так да тых часоў | Так ад тых часоў |
| 190 | 17 зверху | От гэта спрадвеку і да тых часоў | От гэта спрадвеку і ад тых часоў |
| 226 | 3 зверху | — На сама н | — На самай граніцы. |
| 233 | 21 зверху | — Пачакайце, маленькія! | — Пачакайце, міленькія! |
| 237 | 14 знізу | сказаў паграічнік | сказаў пагранічнік |
| 267 | 11 зверху | Ленінам | Леніным |

Зак. 1688.

Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 29/X—37 г. Падпісана да друку 14/XII—37 г. Аб'ём 19½ друкаваных аркушаў. Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера 62×94 1/16. Тыраж 3.500 экз. Зак. № 1688. Уп. Галоўлітбела № К—3077.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку.

